НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут гісторыі

# МАТЭРЫЯЛЫ ПА АРХЕАЛОГІІ БЕЛАРУСІ

# MATERIALS ON THE ARCHAEOLOGY OF BELARUS

Зборнік навуковых артыкулаў
Заснаваны ў 1957 годзе

**Выпуск 21**

## Вывучэнне археалагічных помнікаў на тэрыторыі Полацкай зямлі (да 1150-годдзя Полацка)

## The Study of archaeological sites on the territory of Polotsk Land (to the 1150th anniversary of Polotsk)


Мінск
«Беларуская навука»
2011

УДК 902/904(476.5)(082)

У выданні прадстаўлены асноўныя вынікі навуковых даследаванняў археалагічных помнікаў ў межах г. Полацка і тэрыторыі Полацкай зямлі. Помнікі вывучаліся навуковымі супрацоўнікамі і аспірантамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі і Інстытута эксперыментальнай батанікі НАН Беларусі, супрацоўнікамі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта і Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. У зборнік таксама увайшлі публікацыі аб старажытных паселішчах, могільніках і асобных катэгорыях знаходак з тэрыторыі Полацкай зямлі, якія раней не былі уведзены ў навуковы зваротак.



Н а в у к о в ы   р э д а к т а р,   у к л а д а л ь н і к

доктар гістарычных навук, прафесар В. М. Ляўко

Р э ц э н з е н т ы:

доктар гістарычных навук, прафесар І. А. Марзалюк,
кандыдат гістарычных навук, дацэнт А. М. Мядзведзеў

*Выданне падрыхтавана ў рамках выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 снежня 2007 г. № 647 «Аб зацвярджэнні Комплекснай праграмы развіцця г. Полацка на 2008–2012 гады», п. 23 «Арганізацыя працы пастаяннай археалагічнай экспедыцыі па вывучэнні Полацкай зямлі» (кіраўнік экспедыцыі – доктар гістарычных навук, прафесар В. М. Ляўко).*

На вокладцы змешчана выява знаходкі з Полацка
(даследчык Д. У. Дук)

**ISBN 978-985-08-1366-4**

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

У 2012 г. стольнаму гораду першага дзяржаўнага ўтварэння на тэрыторыі Беларусі – Полацку спаўняецца 1150 год. Полацк – адзін са старажытнейшых гарадоў Усходняй Еўропы, які побач з Ноўгарадам і Кіевам згаданы ў летапісах пад 862 г.

Полацкая зямля – дзяржава, у межы якой на працягу XI–XIII стст. уваходзіла насельніцтва паўночнага і часткі цэнтральнага рэгіёнаў тэрыторыі Беларусі. Да апошніх дзесяцігоддзяў X ст. у Полацку правілі князі, якіх можна яшчэ атаясаміць з князямі племяннной пары. Першым у летапісе пад 980 г. згаданы полацкі князь Рагвалод, які «прыйшоў з-за мора». У тым жа 980 г. гэты князь разам са сваёй сям'ёй быў забіты наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам, які паставіў сваёй мэтай заняць Кіеўскі стол і ўзначаліць тую імперыю, якую ўтварыла дынастыя Рурыкавічаў у складзе Кіеўскай і Наўгародскай земляў. Паколькі Полацкае княства знаходзілася паміж дадзенымі землямі, яно таксама мела важнае значэнне ў палітычных адносінах. Страціўшы свайго князя Рагвалода, Полацкае княства папала ў залежнасць ад Уладзіміра Святаславіча, а дачка Рагвалода Рагнеда была прымушана стаць адной з яго жонак. Але ўжо напрыканцы X ст. Рагнеда разам з сынам Ізяславам павярнулася на радзіму і з таго часу ў Полацку ўсталявалася адноўленая дынастыя князёў Рагвалодавічаў (па дзеду Ізяслава). Тое, што Ізяслаў быў не толькі ўнукам Рагвалода, але і сынам Уладзіміра Святаславіча (гэта значыць таксама Рурыкавічам), верагодна ляжыць у аснове многіх канфліктаў, якія вынікалі паміж полацкімі і паўднёварускімі князямі і адлюстраваны ў летапісах і іншых крыніцах.

Неаднаразова рабіліся захады з боку паўднёварускіх князёў падпарадкаваць Полацкую зямлю Кіеву, але гэтыя спробы аказваліся безвыніковымі. Толькі напрыканцы 1130-х гадоў на працягу двух гадоў дзеці кіеўскага князя былі намеснікамі ў Полацкай зямлі, калі з дапамогай полацкага баярства яму ўдалося адправіць непакорных «рагвалож ычаў» у Візантыю на перавыхаванне. А ўжо ў 1132 г. Полацк і Полацкая зямля зноў былі пад кіраўніцтвам Васілька Святаславіча (унука Усяслава Чарадзея). Далейшы лёс Полацкай зямлі быў такім жа, як і Кіеўскай дзяржавы. На змену ім сталі прыходзіць больш дробныя княствы – ўдзелы, якія выдзеліліся з гэтых палітычных структур. Некаторы прамежкавы час рабіліся спробы захаваць ядро дадзеных дзяржаў – «Кіеўскую Русь» і «Полацкую воласць», якія выступалі ў якасці калектыўных уладанняў нашчадкаў Рурыкавічаў і Рагвалодавічаў. Але барацьба за ўладу і пашырэнне асабістых уладанняў удзельных князёў выйшла на першы план і прывяла да канчатковага распаду некалі буйных тэрытарыяльна-палітычных утварэнняў Усходняй Еўропы.

У дадзеным зборніку прадстаўлены матэрыялы археалагічных даследаванняў на самым раннім паселішчы старажытнага Полацка – гарадзішчы племяннной пары, з якога пачалася гісторыя горада. Таксама не абдзелены ўвагай асобныя віды вытворчасці ў сярэдневяковым Полацку, некаторыя комплексы рэчаў, здабытыя ў апошнія гады пры археалагічных раскопках. Прыводзіцца грунтоўная характарыстыка матэрыялаў антрапалагічных даследаванняў насельніцтва старажытнага Полацка і Полацкай зямлі.

Некаторыя артыкулы прысвечаны вынікам даследавання ўдзельных цэнтраў Полацкай зямлі: Друцка, Лагожска, дзе адлюстраваны розныя аспекты іх гістарычна-тапаграфічнага развіцця, даецца характарыстыка матэрыяльнай і духоўнай культуры, адзначаны напрамак шляху «з варагаў ў грэкі» праз Віцебск. У 947 г. княгіня Вольга выкарыстала гэты шлях падчас вандроўкі на поўнач з мэтай абдзяржаўлення племянных тэрыторый.

Сярод вынікаў, атрыманых пры апрацоўцы археалагічных матэрыялаў, здабытых у раскопах, ёсць таксама і вынікі па распрацоўцы дэндрахраналагічнай шкалы старажытнага Віцебска і вызначэнні тэрміна спілоўкі дрэва, з якога выраблены выпадкова знойдзены ў р. Дрысе «расонскі ідал». Усе дадзеныя матэрыялы ўведзены ў навуковы зваротак упершыню, маюць вялікае навуковае значэнне і несумненна выклікаюць цікавасць навуковай супольнасці і тых, каму не абыякава старажытная гісторыя Беларусі.

*В. М. Ляўко,*
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар*

# АРТЫКУЛЫ

***Т. А. Джумантаева,*** *Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, наместнік дырэктара па навуковай рабоце, кандыдат культуралогіі (г. Полацк)*

## Музеефікацыя гісторыка-культурных помнікаў як частка працэсу адраджэння і захавання спадчыны

У сучаснай культуры музей з'яўляецца шматфункцыянальным сацыякультурным інстытутам, адным з асноўных кампанентаў сферы культурнай спадчыны. Пашырэнне межаў музейнай дзейнасці сведчыць аб тым, што яна набывае ўсё большае сацыякультурнае значэнне. Музей стаў месцам развіцця культурнай разнастайнасці, якая ў сваю чаргу стала характэрнай рысай сённяшняга жыцця, здольнай процістаяць глабальнай культуры і глабальнай ідэнтычнасці. Сёння праблема захавання гісторыка-культурнай спадчыны стала вельмі актуальнай. Адным з найбольш аптымальных спосабаў захавання і выкарыстання спадчыны з'яўляецца яе музеефікацыя. У рамках дзейнасці музеяў-запаведнікаў, якія арганізуюць розныя віды музеефікацыі помнікаў, адбываецца аб'яднанне функцыі захавання і выкарыстання спадчыны шляхам уключэння музеефікаванага асяроддзя ў сучасную культуру.

Для дадзенай работы важнае значэнне мае канцэптуальная трактоўка музея як сацыяльна-культурнага інстытута, які займае сваё спецыфічнае месца ў жыцці грамадства. Пры ўсёй разнастайнасці навейшых тэндэнцый развіцця музеяў галоўнымі застаюцца адносіны наведвальніка музея да гістарычных традыцый і культурнай спадчыны. Перад музеем стаіць дваякая мэта: захаванне культурнай спадчыны для будучых пакаленняў і адкрыццё культурнай спадчыны для сучаснікаў.

Навуковых даследаванняў аб удзеле музеяў горада ў працэсе захавання культурнай спадчыны і музеефікацыі помнікаў як у замежнай, так і ў айчыннай літаратуры няма. Тым не менш Полацк з'яўляецца значным гісторыка-культурным комплексам нашай краіны з сусветна вядомымі помнікамі і пэўнымі музейнымі традыцыямі ў справе музеефікацыі не толькі асобных гісторыка-культурных каштоўнасцей, але і тэрыторый. Менавіта таму ў якасці даследавання ўзята сетка музеяў, аб'яднаных у структуру Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Прадметам даследавання з'яўляюцца асаблівасці функцыянавання і развіцця інстытута музея і яго роля ў інтэрпрэтацыі, прэзентацыі і захаванні культурнай спадчыны на фоне культурнай прасторы гістарычнага горада.

Дадзеная тэма была цесна звязана з працэсам падрыхтоўкі навуковых матэрыялаў для намінацыі помнікаў Полацка (Сафійскага сабора і Спаса-Праабражэнскай царквы) на ўключэнне іх у Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. З гэтай нагоды прааналізаваны артыкулы Канвенцыі ЮНЕСКА па ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны [1]; юрыдычныя крыніцы, якія рэгулююць працэсы аховы і рэстаўрацыі помнікаў у Рэспубліцы Беларусь [2]; артыкулы Г. Кандрацьевай і І. І. Макавецкага аб захаванні помнікаў сусветнай спадчыны ў Беларусі і Расіі [3, 4]. Найбольш значнымі для навуковай работы па стварэнні канцэпцыі і стратэгіі захавання культурнай спадчыны Полацка сталі: «Дэкларацыя правоў культуры» Д. С. Ліхачова [5]; праца В. В. Глінніка аб гістарычных цэнтрах гарадоў Беларусі [6] і дадаткі да пастаноў урада Санкт-Пецярбурга аб захаванні культурнай спадчыны [7].

Канцэптуальнай мэтай Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка з'яўляецца музеефікацыя гістарычных раёнаў горада і яго цэнтра. У выніку музеефікацыі да адзінаццаці ўжо існуючых музеяў у хуткім часе будзе далучаны яшчэ адзін, які дапоўніць агульную экспазіцыю. Наперадзе – стварэнне музеяў, музеефікацыя помнікаў археалогіі і рэстаўрацыя помнікаў архітэктуры, якія разам з тымі тэрыторыямі, што да іх прылягаюць, будуць прыстасаваны пад музейныя экспазіцыі.

Музеефікацыя помнікаў – гэта спецыфічны напрамак музейнай дзейнасці. Яе сутнасць у пераўтварэнні нерухомых помнікаў гісторыі і культуры (і прыродных аб'ектаў) ў аб'екты музейнага паказу з мэтай актыўнага ўключэння ў сучасную культуру пры ўмовах максімальнага захавання, выяўлення іх гісторыка-культурнай, навуковай і эстэтычнай каштоўнасці.

На тэрыторыі нашай краіны музеефікацыя помнікаў пачалася ў 20-ыя гады XX ст. ва ўмовах нацыяналізацыі маёнткаў, кляштараў і храмаў. У той час музейнае выкарыстанне было найлепшым, а часцей – адзіна магчымым спосабам захавання культурнай спадчыны.

У 1920-х гадах пачаўся працэс закрыцця «ідэалагічна шкодных» помнікаў-музеяў і прыстасаванне іх пад народнагаспадарчыя патрэбы ці пад экспазіцыі, якія не мелі адносін да самога помніка. У 1930–40-ыя гады для большасці помнікаў архітэктуры музейнае выкарыстанне азначала размяшчэнне ў іх інтэр'ерах экспазіцый, якія ігнаравалі культурную каштоўнасць помніка ці супярэчылі ёй (атэістычныя экспазіцыі ў храмах).

Тэрмін «музеефікацыя помнікаў» [8, с. 390–393] з’явіўся ў савецкай музеялогіі ў 1950–60-х гадоў падчас арганізацыі першых на тэрыторыі СССР музеяў-запаведнікаў і буйнамаштабных работ па рэстаўрацыі культурнай спадчыны. У 1970–1980 гг. музеефікацыя пачала прадугледжваць не толькі даследаванне, кансервацыю, рэстаўрацыю, захаванне і інтэрпрэтацыю помніка, але ў выключных выпадках і навуковую рэканструкцыю страчаных частак.

Важнейшым дасягненнем сучаснай музеялогіі стала ўключэнне ў арбіту музеефікацыі культурна-гістарычнага і прыроднага асяроддзя, а таксама асобных элементаў ладу людскога жыцця і відаў дзейнасці.

На падставе назапашанага музеем-запаведнікам практычнага вопыту ідзе інтэнсіўны працэс распрацоўкі і тэарэтычнага абгрунтавання асноўных прынцыпаў музеефікацыі полацкіх помнікаў. Сярод іх вылучаецца патрабаванне адначасовага стварэння рэстаўрацыйнага праекта і праекта музейнага выкарыстання. Распрацоўваюцца методыкі пашырэння ахоўных зон запаведніка (мал. 1), вызначэння аптымальных рэжымаў эксплуатацыі помнікаў, прасторавай арганізацыі экспазіцый, форм экспазіцыйнага абсталявання для музеяў-помнікаў. Пры выкарыстанні помнікаў архітэктуры пад музейныя экспазіцыі прасочваецца імкненне звесці да мінімуму дысананс паміж архітэктурна-прасторавым асяроддзем і прыўнесенымі элементамі экспазіцыі (экспанатамі, абсталяваннем). Пры музеефікацыі ў якасці самастойнага аб’екта паказу вялікае значэнне надаецца навуковай рэканструкцыі цэласнага ансамбля архітэктуры, жывапісу, прадметаў мэблі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а ў выпадках значных страт у інтэр’ерах – раскрыццю мастацкага значэння помніка пры дапамозе музейных сродкаў – музыкі, асвятлення, тэхнікі.

У план музеефікацыі Полацка запаведнікам былі ўключаны асобныя помнікі як архітэктуры, так і археалогіі. Складаныя праблемы ўзнікаюць пры музеефікацыі помнікаў археалогіі. Музейнае выкарыстанне – гэта адзіная магчымасць уключэння іх у сучасную культуру. Археалагічны аб’ект, які не музеефікаваны адразу пасля раскопак, страчваецца.

Гэтыя помнікі запаведніка маюць высокі ўзровень інфармацыйнага патэнцыялу. Паняцце «інфармацыйны патэнцыял» музейнага прадмета (рухомага і нерухомага) уключае ў сябе як вядомую інфармацыю аб прадмеце, яго «інфармацыйнае поле», так і схаваную. Інфармацыйнае поле музейнага прадмета вядома даследчыку ў сцёртым, збяднелым выглядзе, але ў працэсе працы з помнікам яно можа быць нарошчана з улікам пошуку «прывязкі» да пэўнага гістарычнага працэсу, выяўлення знакавых функцый аб’екта, устанаўлення асаблівасцей, дэталяў, падрабязнасцей, звязаных з яго бытаваннем; гэта значыць атрымання «інфармацыйнай дакладнасці». Найбольш паспяхова гэты працэс ажыццяўляецца пры вывучэнні рэчаў у комплексе. Першапачаткова музей-запаведнік уяўляе сабой комплекс сувязяў, якія захаваліся (у той ці іншай ступені) паміж асобнымі помнікамі, што дае аптымальныя магчымасці як для выяўлення і нарошчвання інфармацыйнага поля кожнага прадмета, так і для ўзнаўлення цэльнага і дакладнага вобраза эпохі, культуры, асобы. Дакладны вобраз нараджаецца толькі ў тым выпадку, калі інтэрпрэтацыя пачынаецца ўжо на стадыі музеефікацыі і ўся тэрыторыя запаведніка атрымлівае асэнсаванне як складаная, але адзіная экспазіцыя. Гэта ўмова набывае асаблівую важнасць там, дзе значная частка помнікаў страчана і сувязі паміж імі разарваны. Узнаўленне гэтых сувязяў, адраджэнне музейнымі сродкамі вобразаў мінулых эпох і культур, нарошчванне інфармацыйных палёў становіцца важнейшай задачай музеефікацыі, а задача гэта тым больш складаная, чым больш багатыя і разнастайныя сувязі былі страчаны ў мінулым.

Такім чынам, галоўнай канцэптуальнай мэтай запаведніка з’яўляецца паслядоўная музеефікацыя гістарычных раёнаў і цэнтра Полацка на прынцыпах унікальнай гістарычнай тэрыторыі.

Аднак пад аховай дзяржавы знаходзіцца толькі частка тэрыторый, яшчэ меншы абшар ахоплівае ахоўная зона запаведніка, але, як лічаць спецыялісты, музеефікацыя полацкага гістарычнага цэнтра ў яго фактычных межах магчыма [6, с. 7–8]. Тым больш што неабходнасць музеефікацыі гістарычных аб’ектаў унікальнай тэрыторыі Полацка не выклікае сумнення.

Паказальнай з’явай працэсу музеефікацыі асобнага помніка стаў Сафійскі сабор. Для яго музеефікацыі быў праведзены цэлы комплекс мерапрыемстваў:

– рэстаўрацыя будынка пасля архітэктурна-археалагічных даследаванняў, якія праводзіў В. А. Булкін;

– кансервацыя і частковая рэстаўрацыя фрэсак канца XI ст., якую праводзіла брыгада Спецыяльных навукова-вытворчых майстэрань Міністэрства культуры БССР на чале з рэстаўратарам В. Лукашэвічам [9, с. 14];

– стварэнне канцэпцыі прыстасавання помніка, аўтарамі якой сталі П. А. Раппапорт і В. Р. Слюнчанка;

– стварэнне экспазіцыі Музея гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора ў двух залах, уключаючы падвал;

– стварэнне ўмоў для неабходнага тэмпературна-вільготнага рэжыму;

– стварэнне ўмоў для выкарыстання акустыкі будынка;

– усталяванне аргана і размяшчэнне канцэртнага абсталявання.

У музеі спалучаецца паказ фрагментаў муроўкі, што належыць да розных этапаў будаўніцтва сабо-




Мал. 1. Карта-схема ахоўных зон гістарычнай тэрыторыі Полацка

ра, пачынаючы з сярэдзіны XI ст., з агульнай прасторавай структурай інтэр'ераў помніка. У сукупнасці гэтыя фрагменты, археалагічныя знаходкі і дапаможны матэрыял (у выглядзе чарцяжоў, слайдаў і макетаў) уяўляюць сабой арганічную экспазіцыю ў прасторава-пластычнай структуры помніка. Такая экспазіцыя валодае пазнавальным патэнцыялам, не патрабуе ўвядзення складанага музейнага абсталявання і аб'ёмнай тлумачальнай эксплікацыі, а таксама не парушае архітэктурнага вобраза будынка (мал. 2, 3).

У ходзе работы над кожным з асобных аб'ектаў мы часта вымушаны пераглядаць першапачатковыя мэты і ідэі. Трактоўка музейнага значэння архітэктурнага помніка ў працэсе музеефікацыі павінна дапускаць «адкрытую» даследчую пазіцыю. З'яўленне новых гістарычных і навуковых фактаў можа быць крыніцай фарміравання новых музейных функцый архітэктурнага помніка. Значэнне музеефікацыі помнікаў архітэктуры павялічваецца неабходнасцю захаваць гістарычны архітэктурна-горадабудаўнічы асяродак ва ўмовах гарадоў, якія растуць і развіваюцца. Сёння мала забяспечыць фізічную захаванасць помніка, яго неабходна ўключыць у агульны кантэкст духоўнай і матэрыяльнай дзейнасці. Тым больш што існуючыя вопыт і практыка паказалі, што ў нашых умовах ні выяўленне, ні ўлік, ні ахова дзяржавы не могуць забяспечыць захаванне нерухомых і рухомых помнікаў як нацыянальнай спадчыны. Кропкавыя аб'екты можна захоўваць і выкарыстоўваць толькі ў пэўным асяроддзі.

Таму неабходна разглядаць магчымасць музеефікацыі ўсяго гістарычнага цэнтра Полацка як адзінага цэлага. Але практычна гэта магчыма толькі на грунце канцэпцыі унікальнай культурна-гістарычнай тэрыторыі.



Мал. 2. Муроўка заходняй сцяны, якая захавалася з XI ст. на вышыню 8 м. Макет Сафійскага сабора XI ст. Фрагмент экспазіцыі

У Беларусі існуе тып унікальнай гістарычнай тэрыторыі – гэта гісторыка-культурныя музеі-запаведнікі. Запаведнік уяўляе сабой прасторавы аб’ект, дзе ў традыцыйным прасторавым і сацыяльна-культурным асяроддзі знаходзяцца прыродныя і гісторыка-культурныя аб’екты выключнай каштоўнасці і вартасці. Гэта комплекс помнікаў і тэрыторый, звязаных этнічнымі, эканамічнымі, гістарычнымі і геаграфічнымі фактарамі [10, с. 14], акрамя таго, гэта тэрыторыя гістарычнага горада.

Паколькі беларускае заканадаўства не вызначае «гістарычны горад» як аб’ект захавання і не рэгламентуе дзейнасць па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны ў гэтым напрамку, неабходна звярнуцца да дакументаў аўтарытэтных міжнародных арганізацый. У адпаведнасці з «Рэкамендацыяй аб ахове і сучаснай ролі гістарычных абшараў» (ЮНЕСКА, Варшава–Найробі, 1976) і «Хартыяй захавання гістарычных гарадоў і гарадскіх абшараў» (ІКАМОС, Вашынгтон, 1987) [1] і з рознымі іншымі міжнароднымі дакументамі, пад «захаваннем гістарычных гарадоў» маюцца на ўвазе тыя крокі, што неабходна зрабіць дзеля аховы, захавання і рэстаўрацыі такіх гарадоў...; таксама як і для іх развіцця і гарманічнай адаптацыі да сучаснага жыцця. Паводле «Вашынгтонскай хартыі», захаванню падлягаюць не асобныя аб’екты – будынкі ды паркі, а характэрныя для канкрэтнага гарадскога абшару асяродкавыя якасці, якія вылучаюць гістарычны характар горада, што выяўляецца ў такіх элементах, як:

«а) устойлівая планіровачная структура горада, вызначаная вуліцамі і зямельнымі пляцамі;

б) суадносіны паміж будынкамі, азяленёнымі і адкрытымі прасторамі;



Мал. 3. Фрагменты фрэскавых роспісаў і старажытныя аконныя праёмы на ўсходняй сцяне, якая захавалася з XI ст. на вышыню 12 м

в) фармальны выгляд будынкаў (інтэр’ер і экстэр’ер), вызначаны праз маштаб, стыль, памер, канструкцыю, матэрыялы, колер і дэкор;

г) сувязь горада або гарадскога абшару са сваім прыродным і рукатворным навакольным атачэннем;

д) разнастайныя функцыі, якія горад або гарадскі абшар набылі з цягам часу» [11, с. 39–40].

«Вашынгтонская хартыя» сцвярджае, што любая пагроза гэтым якасцям будзе кампраметаваць аўтэнтычнасць гістарычнага горада або гарадскога абшару.

У Законе «Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь» ёсць артыкул 15, які прысвечаны «Музеям-запаведнікам», дзе канстатуецца, што «Комплексы і ансамблі нерухомых матэрыяльных гістарычна-культурных каштоўнасцей, якія маюць асаблівую навуковую, гістарычную, мемарыяльную, мастацкую і (або) эстэтычную вартасць, разам з тэрыторыяй, гістарычна і культурна звязанай з імі, па прадстаўленні Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь... могуць быць аб’яўлены Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь па яго даручэнні Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь музеямі-запаведнікамі» [12, 13]; што іх прававы статус вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і што ахова запаведнікаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» [2]. Нічога не сказана ў Законе аб унікальных гістарычных тэрыторыях, аб рэгламентаванні дзейнасці на тэрыторыі запаведніка і ўвогуле аб тым, што такое гісторыка-культурны запаведнік на самой справе.

Вядома, што унікальная гістарычная тэрыторыя – гэта цэласны прасторавы аб’ект, дзе ў традыцыйным прасторавым і сацыяльна-культурным асяроддзі знаходзяцца гісторыка-культурныя і прыродныя аб’екты выключнай каштоўнасці і вартасці. Адзінкамі унікальнай гістарычнай тэрыторыі з’яўляюцца комплексы помнікаў і тэрыторый, звязаных геаграфічнымі, этнічнымі, эканамічнымі, гістарычнымі фактарамі. Зразумела, што кропкавыя аб’екты немагчыма ні захаваць, ні выкарыстаць без асяроддзя. Таму цалкам слушнымі ўяўляюцца вызначэнні паняццяў «музей-запаведнік» і «тэрыторыя музея-запаведніка», якія дае вядомы музеязнаўца А. М. Калбаска: «Музей-запаведнік – гэта комплекс помнікаў прыроды, гісторыі, культуры разам з тэрыторыяй, на якой яны знаходзяцца, што ўяўляе унікальную гістарычную, навуковую і культурную каштоўнасць. Музеі-запаведнікі могуць быць: біясфернымі, прыроднымі, культурнымі, гісторыка-архітэктурнымі, гісторыка-археалагічнымі і інш. Тэрыторыя, якую займае музей-запаведнік, выключаецца з сельскагаспадарчага ці іншага гаспадарчага выкарыстання і перадаецца яму на правах карыстання ў парадку, прадугледжаным дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. На адведзенай для музея-запаведніка тэрыторыі забараняецца дзейнасць, якая супярэчыць яго функцыянальнаму прызначэнню і можа негатыўна ўплываць на стан захавання комплексу, а таксама іншая дзейнасць, не сумяшчальная з дзейнасцю музея як установы культуры.

На гэтай тэрыторыі адпаведна статуту музея-запаведніка могуць быць вылучаны зоны: *запаведная* – для захавання і аховы найбольш каштоўных гісторыка-культурных, прыродных ці іншых комплексаў; *экспазіцыйная* – для стацыянарнага экспанавання буйнамаштабных музейных прадметаў і выкарыстання ў культурна-пазнавальных мэтах; *навуковая* – для правядзення навукова-даследчай дзейнасці; *рэкрэацыйная* – для адпачынку і абслугоўвання наведвальнікаў музея; *гаспадарчая* – для размяшчэння дапаможных гаспадарчых аб’ектаў» [10, с. 16]. Несумненна, гэтыя паняцці павінны стаць юрыдычнымі нормамі, калі мы дбаем пра захаванне нацыянальнай спадчыны.

На старонках гэтай работы разглядаецца адзін з існуючых на тэрыторыі Беларусі тыпаў унікальнай гістарычнай тэрыторыі – гісторыка-культурны музей-запаведнік.

Як і звычайнаму музею, музею-запаведніку ўласцівы ўвесь набор традыцыйных музейных функцый: адбор, захаванне, вывучэнне і прэзентацыя. У адрозненне ад традыцыйнага музея ў сістэме каардынат запаведніка пашыраецца сэнс такіх музеялагічных паняццяў, як «музейны прадмет» і «прэзентацыя». Музейным прадметам тут можа быць помнік архітэктуры, рамяство, мова, свята, царква..., – усё, што бытуе і бытавала ў пэўным асяроддзі, што трэба ратаваць ці адрадзіць, захаваць і прэзентаваць – не проста прадэманстраваць знешні выгляд, а вярнуць ці ўключыць у плоскасць рэальнага існавання. Другім адрозненнем музея-запаведніка з’яўляецца абавязковая наяўнасць пэўнай тэрыторыі з людзьмі, якія хочуць у гэтым працэсе браць непасрэдны ўдзел.

З улікам усяго зробленага і назапашанага за гады існавання Полацкага запаведніка трэба ісці далей. Як вядома, у аснове рэальнай справы заўжды ляжыць мысленнае ўяўленне аб ёй – ідэя. Думаючы пра перспектывы развіцця запаведніка, мы прыходзім да неабходнасці скласці такое ўяўленне, знайсці ў ім адбітак сацыяльна-культурных працэсаў нашага часу. Позірк вузкага спецыяліста – архітэктара ці эколага, гісторыка ці эканаміста – ахоплівае адзін з бакоў і не дае ўяўлення пра цэлае. Таму ўзнікае неабходнасць сфармуляваць агульнае бачанне праблемы з пазіцыі кіравання гэтымі працэсамі (з аднаго боку, карціну будучага, вобраз, у якім заключаны сэнс справы; а з іншага – ідэальную мадэль развіцця).

На пачатку трэцяга тысячагоддзя нашай эры ўсё больш усведамляецца значнасць гістарычнай спад-

чыны. Полацку пашанцавала захаваць шэраг помнікаў у іх аўтэнтычным асяроддзі. У сувязі з гэтым у горада ёсць будучыня ў сэнсе адраджэння. На першым этапе гэтага працэсу магчыма адраджэнне Полацка ў яго новым гістарычным і культурным гучанні, у сэнсе прызнання яго імя тысячамі людзей. Не апошнюю ролю ў гэтай справе адыгрываў і паспяхова працягвае адыгрываць Полацкі запаведнік. Місія запаведніка вызначаецца ў аб'яднанні мэт на шляху захавання нацыянальнай культурнай спадчыны і інтэграцыі суседніх нацыянальных культур.

Каб дасягнуць пастаўленай мэты, трэба разумець, што развіцця аднаго запаведніка мала. Неабходна памятаць пра іншыя складнікі поспеху. Вядома, што, развіваючы толькі запаведнік, мы будзем сустракацца з праблемамі. Напрыклад, прадпрымальнік не заўсёды прыме да ўвагі ўмовы рэстаўратара і г. д. Розныя падыходы галіновых спецыялістаў будуць аб'ектыўна ствараць супярэчнасці. Таму галоўнымі складнікамі поспеху любой справы, а ў дадзеным выпадку – здзяйснення канцэпцыі развіцця горада і запаведніка, з'яўляюцца: культуралагічныя, эканамічныя і прававыя. Апошні мала паддаецца ўпраўленню, тым больш што сучаснае заканадаўства пакуль недасканалае, і таму трэба ў першую чаргу засяродзіць увагу на першых двух складніках.

Зыходзячы з практыкі, безумоўна, прыярытэтным трэба лічыць культурна-гістарычны аспект. Сувязнай тэмай, стрыжнем любой сённяшняй стратэгіі адраджэння Полацка з'яўляецца гісторыя унікальнай культурнай прасторы, таму неабходнасць яе далейшага даследавання, вывучэння, захавання і музеефікацыі не выклікае сумнення.

У сувязі з гэтым мы пазнаёміліся з дакументам «Пецярбургская стратэгія захавання культурнай спадчыны» [7], які стаў для нас арыенцірам у рабоце над праектам мадэлі *стратэгіі захавання культурнай спадчыны Полацка.* Дадзены праект вызначае асноўныя прыярытэты, крытэрыі і накірункі аховы культурнай спадчыны Полацка з улікам эпохі глабалізацыі, развіцця горада і інтэграцыі сучаснай архітэктуры ў гістарычную забудову; не парушаючы гістарычнага вобраза горада, прытрымліваючыся асноўнага прынцыпу – комплекснага захавання спадчыны на аснове збалансаваных і гарманічных адносін паміж патрабаваннямі грамадскасці, эканамічнай дзейнасці і аховы гістарычнага асяроддзя. Прыводзім вытрымкі з дакумента, распрацаванага намі і зацверджанага 20 чэрвеня 2008 г. Полацкім выканаўчым камітэтам. (Адрас поўнага тэксту на беларускай, рускай і англійскай мовах: http://polotsk.museum.by/node/126.)

**Культурная спадчына ў эпоху глабалізацыі.** Культурная спадчына ўяўляе сабой духоўны, культурны, эканамічны і сацыяльны капітал унікальнай каштоўнасці. Разам з прыроднымі багаццямі культурная спадчына з'яўляецца асновай для нацыянальнай самасвядомасці (самапавагі) і прызнання сусветнай грамадскасцю.

У эпоху глабалізацыі постіндустрыяльная цывілізацыя ўсвядоміла высокі патэнцыял культурнай спадчыны, неабходнасць яго захавання і эфектыўнага выкарыстання як адзін з важнейшых рэсурсаў сусветнай эканомікі. Любыя страты спадчыны непазбежна адбіваюцца на ўсіх абсягах жыцця сучаснага і будучых пакаленняў, прыводзяць да духоўнага збяднення, разрываў гістарычнай памяці, збяднення грамадства ў цэлым. Яны не могуць быць узноўлены ці кампенсаваны. Асновай развіцця цывілізацыі можа быць толькі прымнажэнне і захаванне культурных каштоўнасцей.

**Культурная спадчына Полацка. Каштоўнасць – у аўтэнтычнасці.** Выключная каштоўнасць Полацка заключаецца ў аўтэнтычнасці, універсальнасці і агульначалавечай значнасці яго культурнага набытку.

Старажытны Верхні замак Полацка ў канцы X – пачатку XI ст. стаў умацаваным княжацкім цэнтрам. У натуральным геаграфічным асяроддзі – пры злучэнні дзвюх рэк Палаты і Дзвіны, ён захаваўся ў нязменным выглядзе да нашага часу. Становішча дзядзінца на мысе каля зліцця рэк вызначыла трохвугольную ў агульных рысах канфігурацыю яго тэрыторыі яшчэ ў X–XIII стст., што нагадвала трохвугольную форму плана Канстанцінопаля, які амываецца з аднаго боку морам, з другога – вузкім залівам. Такі прынцып размяшчэння горада прыпадабняўся да ідэйных, функцыянальных і прасторавых сімвалаў, уласцівых сістэме формаўтварэння раннехрысціянскіх сталіц – Іерусаліма, Рыма, Канстанцінопаля.

Тут і быў пабудаваны Сафійскі сабор, што на многія стагоддзі вызначыла дадзеную тэрыторыю як адміністратыўны, духоўны і культурны цэнтр горада. Наяўнасць дадзенай тэрыторыі ў нязменным выглядзе захоўвае яго сацыяльна-прасторавую, сэнсавую і эмацыянальную нагрузку. У сувязі з гэтым асабліва каштоўным з'яўляецца комплекснасць аб'екта, які валодае не толькі знешнімі геаграфічнымі, архітэктурнымі і тапаграфічнымі прыкметамі X–XI стст., але і нясе ў сабе археалагічныя культурныя напластаванні ад моманту ўзнікнення да XVIII ст. Апошнія ўтрымліваюць *in situ* падмуркі храмаў і княжацкага церама XII–XIV стст., жыллё гараджан XI–XIII стст., абаронча збудаванняў, гарадской інфраструктуры.

У дадзены момант Сафійскі сабор уяўляе сабой складаны архітэктурны комплекс, у аснове якога ляжыць ацалелая частка візантыйскага кафедральнага сабора XI ст. Сабор таксама захоўвае значныя фрагменты рэнесанснай рэканструкцыі пачатку XVII ст. (заходняя бакавая капліца). Кампазіцыя

сучаснага сабора, якая канчаткова склалася ў сярэдзіне XVIII ст. у выніку перабудовы верхніх частак сцен і прыбудовы галоўнага фасада, без істотных змяненняў захавалася да нашага часу. Сабор уяўляе сабой трохнефавую базіліку з двухвежавым галоўным фасадам. Пасля пераарыентацыі ў пачатку XVII ст. алтарная частка візантыйскага сабора (XI ст.) уключана ў яго структуру ў якасці ўсходняй бакавой капліцы.

Сафійскі сабор стаў пачаткам фарміравання унікальнай полацкай школы архітэктуры, якая асабліва ярка адлюстравалася ў Спаса-Праабражэнскім храме.

У наш час Спасаўская царква ўяўляе сабой храм XII ст., які цалкам захаваўся, у XVII–XIX стст. дапоўнены надбудовамі. Зменена канструкцыя даху не парушыла візантыйскую аснову помніка, але дазволіла захаваць унікальны канструктыўны элемент дадзенага аб'екта – двухступеньчаты рад закамар («какошнікаў»), які дэкарыруе ступеньчаты пераход ад скляпенняў да падкупальнага барабана. Менавіта гэтая асаблівасць знешняга аблічча адлюстравана і на старажытнай фрэсцы, нядаўна раскрытай У. Ракіцкім у келлі прападобнай Ефрасінні на хорах царквы.

Унікальнасць Спасаўскай царквы шматгранная, і адным з найярчэйшых бакоў гэтага выдатнага помніка з'яўляюцца роспісы XII ст., якія захаваліся практычна ў поўным аб'ёме храма.

Полацк, як і іншыя еўрапейскія гарады феадальнай эпохі, меў тэндэнцыю рухацца ўздоўж восі, улічваючы асаблівасці рэльефу. Такой воссю для Полацка, як і для многіх гарадоў, была рака, у дадзеным выпадку – Дзвіна. Верхні замак стаў першым умацаваным цэнтрам на ўзбярэжжы Заходняй Дзвіны, услед за ім з'явіліся іншыя пасады. Цэнтральная частка горада, зададзеная міжрэччам Палаты і Дзвіны, доўгі час (па XIX ст. уключна) развівалася па веерна-радыяльнай прасторавай схеме, якая амаль цалкам захавалася да нашых дзён.

Вобраз горада ствараюць не толькі шэдэўры архітэктуры, але і цэласнае архітэктурна-прасторавае асяроддзе з высокай ступенню захаванасці і аўтэнтычнасці забудовы XVII–XX стст., заснаванай на сінтэзе агульнаеўрапейскіх культурных традыцый, планіровачных рашэнняў і тыпаў будынкаў.

Археалагічная спадчына – бясцэнны летапіс старажытнейшага горада краіны.

**Культурная спадчына як фактар устойлівага развіцця Полацка.** Без культурнай спадчыны немагчыма ўявіць сучаснае жыццё Полацка і перспектывы яго развіцця. Спадчына ў многіх адносінах фарміруе асаблівы менталітэт палачан, зацвярджае пераемнасць гуманістычных каштоўнасцей, падкрэслівае неафіцыйны статус культурнай сталіцы Беларусі, стварае сусветны прэстыж Полацка.

Для Полацка спадчына мае такое ж значэнне, як для другіх рэгіёнаў прыродныя рэсурсы, месцараджэнні нафты і алмазаў. Спадчына ўключана ў многія сацыяльныя працэсы і з'яўляецца крыніцай духоўнага ўзбагачэння. Мабілізацыя эканамічнага рэсурсу культурнай спадчыны – аснова гарадской рэгенерацыі. У канчатковым выніку менавіта высокія эстэтычныя якасці і ступень захаванасці гістарычнага асяроддзя забяспечваюць асаблівую інвестыцыйную прывабнасць Полацка і яго рэальную камерцыйную каштоўнасць, служаць залогам дабрабыту грамадзян. Гэта павінна выяўляцца не толькі ў хуткай эканамічнай аддачы і росце занятасці насельніцтва ў розных галінах дзейнасці, але і ў шырокім коле непрамых выгод, якія стануць здабыткам усёй гарадской грамады (даходы ад кіравання спадчынай, рэстаўрацыі, турызму і яго інфраструктуры).

**Дзяржаўная палітыка ў галіне захавання культурнай спадчыны.** Базавы прынцып – комплекснае захаванне спадчыны, згодна з якім гэтая дзейнасць эфектыўная толькі ў рамках палітыкі эканамічнага і сацыяльнага развіцця Полацка, у складзе праектаў перспектыўнага планавання і горадабудаўніцтва. Захаванне аб'ектаў культурнай спадчыны павінна стаць ключавым элементам стратэгіі гарадскога абнаўлення.

Прынцып комплекснага захавання ўключае ініцыіруючую і каардынуючую функцыі органаў дзяржаўнага кіравання ў развіцці партнёрскіх адносін з грамадскасцю і недзяржаўным сектарам. Варта стымуляваць міждысцыплінарны, міжведамасны падыход да захавання культурнай спадчыны, выкарыстоўваючы ўсе даступныя рэсурсы. Задача захавання культурнай спадчыны павінна вырашацца не толькі органамі аховы помнікаў, але таксама тымі структурамі, якія адказваюць за горадабудаўніцтва і архітэктуру, эканоміку і прамысловае развіццё, экалогію, транспарт, добраўпарадкаванне, маёмасны комплекс, жыллёва-камунальную гаспадарку, юрыдычныя службы і г. д.

**Розныя канцэпцыі захавання культурнай спадчыны.** Традыцыйная ахова помнікаў, заснаваная на мерах забароннага характару, у сучасных умовах, пры наяўнасці многіх гаспадарчых суб'ектаў, параджае канфліктныя сітуацыі ў ходзе сацыяльнага, культурнага і эканамічнага развіцця гарадской тэрыторыі. У гэтым выпадку ахова культурнай спадчыны адчужаецца ад мясцовай грамады, гараджане пазбаўляюцца матывацыі ўдзелу ў гэтай дзейнасці.

Іншая канцэпцыя, калі палітыка аховы культурнай спадчыны выгадная насельніцтву, прадугледжвае сітуацыю, калі некаторыя нязручнасці пражывання на асаблівай тэрыторыі, звязаныя з ахоўнымі абмежаваннямі, кампенсуюцца пэўнымі льготамі. Цэласнасць культурнага і прыроднага асяроддзя становіцца якасцю, якая можа забяспечыць развіццё гарадской грамады (праз даходы ад турызму, рэс-

таўрацыйна-ўзнаўленчыя работы, павышэнне сацыяльнага статусу і г. д.).

Новая стратэгія будуецца на аснове збалансаваных і гарманічных адносін паміж патрабаваннямі грамадскасці, эканамічнай дзейнасці і аховы гістарычнага асяроддзя. Яна павінна прывесці да прызнання агульнай адказнасці за захаванне спадчыны.

**Ахоўныя практыкі. Склад і прадметы аховы культурнай спадчыны.** На працягу доўгага часу ахоўваліся асобныя помнікі без уліку іх акружэння. Спецыфіка культурнай спадчыны Полацка дыктуе практыку спалучэння аб'екта і асяроддзя ў горадабудаўніцтве. Прадметы аховы культурнай спадчыны – гэта ключавыя элементы, параметры, характарыстыкі асяроддзя, якія з'яўляюцца носьбітамі гістарычнай, архітэктурнай, мастацкай каштоўнасці. Побач з асобнымі аб'ектамі культурнай спадчыны ахоўваюцца і галоўныя горадабудаўнічыя прынцыпы. Найвышэйшую каштоўнасць уяўляюць аб'ёмна-прасторавы планіровачны каркас, канфігурацыя цэнтральных водных прастораў, агульнагарадскі сілуэт, панарамы рэк, ансамблі плошчаў, перспектывы асноўных вуліц. Прадметам аховы з'яўляецца характар асяроддзя, які ўключае планіровачны модуль кварталаў і ўчасткаў, маштаб, высотнасць і чляненне забудовы. Горадабудаўнічая ахова прадугледжвае рэжым археалагічных даследаванняў для найбольш ранніх і каштоўных участкаў культурнага слою, пошукавыя і маніторынгавыя мерапрыемствы.

Зоны аховы – гэта тэрыторыі, дзе ўсталёўваецца рэжым горадабудаўнічай і гаспадарчай дзейнасці, што забяспечвае фізічную захаванасць аб'екта культурнай спадчыны і яго гістарычнага акружэння. Асаблівасць ахоўнага заніравання ў Полацку – зона аховы гістарычнага цэнтра, дзе павінна быць забаронена новае будаўніцтва (за выключэннем мер, накіраваных на рэгенерацыю гістарычнага асяроддзя і прыстасаванне аб'ектаў культурнай спадчыны для сучаснага выкарыстання); забаронена змяненне гістарычнай планіровачнай структуры вуліц і ліній кварталаў; абмежавана рэканструкцыя аб'ектаў, якія ўяўляюць гісторыка-культурную каштоўнасць.

У зоне рэгулявання забудовы павінны быць устаноўлены дыферэнцыраваныя рэжымы абмежаванняў, якія допускаюць рэканструкцыю без змяненняў планіровачнай структуры, асноўных асяроддзевых характарыстык, асобных аб'ектаў культурнай спадчыны, у тым ліку археалогіі, што забяспечыць захаванасць гістарычнай забудовы.

Зараз ў Полацку пад дзяржаўнай аховай знаходзіцца каля 100 аб'ектаў культурнай спадчыны.

**Пагрозы і рызыкі фізічнай страты гісторыка-культурнай спадчыны Полацка.** Пагрозы фізічнай страты (разбурэння) аб'ектаў спадчыны звязаны з працэсамі старэння, якія паскараюць:

– неспрыяльныя кліматычныя ўмовы, структурна-няўстойлівыя грунты паблізу ад басейнаў рэк;

– атмасферныя забруджванні;

– некантраляваная урбанізацыя і рух аўтатранспарту;

– недарэчнае новае будаўніцтва ў гістарычным асяроддзі;

– няправільны рэжым эксплуатацыі будынкаў;

– пажары, вандалізм і іншыя агрэсіўныя дзеянні.

Для захаванасці аб'ектаў культурнай спадчыны ўяўляе небяспеку таксама інтэнсіўны турызм, які прыводзіць да празмернай нагрузкі на аб'екты. Згубныя «татальныя» рэстаўрацыі, якія наносяць шкоду аўтэнтычнасці помніка.

Адсутнасць належнай абароны будынкаў ад умоў надвор'я, тэхнагеннай нагрузкі на грунты і канструкцыі, загазаванасць і кіслотныя дажджы ствараюць кумулятыўны эфект. Актывізуюцца працэсы карозіі металаў і карбанізацыі слаёў тынкоўкі, «дзікая» рыхлая паціна раз'ядае бронзавыя і медныя паверхні, абразіўнае ўздзеянне знішчае пазалоту, пераражаюцца камень і мармур, грунтавыя воды разбураюць падмуркі, біялагічныя пашкоджанні распаўсюджваюцца на драўляныя канструкцыі. З-за ўздзеяння экалагічных і антрапагенных фактараў сёння ўжо многія помнікі знаходзяцца ў актыўнай фазе разбурэння.

Метадаў вечнага захоўвання не існуе. Галоўная задача – прыпыніць працэсы натуральнага старэння і зношвання, мінімізаваць фактары іх паскарэння.

**Меры і метады супрацьдзеяння разбуральным з'явам.** Агульныя меры прыпынення працэсаў разбурэння:

– скарачэнне крыніц забруджвання і вібрацыі (аддаленне аўтатранспарту, абмежаванне парковак, забарона руху транспартных сродкаў паблізу ад асабліва каштоўных помнікаў);

– зніжэнне пагаршэння становішча гістарычных пабудоў шляхам правільнай эксплуатацыі і догляду канструкцый, аховы будынкаў ад кліматычных умоў, ліквідацыі дэфектаў, якія аслабляюць структуру, дапускаюць пранікненне і капілярны рух вод, перашкаджаюць дрэнажам;

– эфектыўнае выкарыстанне помнікаў павінна быць вартым іх значэння і не супярэчыць захаванасці;

– забарона на выкарыстанне непрыдатных і шкодных матэрыялаў у рэстаўрацыі, кансервацыі і рамонце;

– фізічная ахова;

– сістэматычныя супрацьпажарныя мерапрыемствы.

Для кожнага віду небяспекі і тыпу гістарычных збудаванняў належыць распрацаваць прафілактычныя меры з комплексам арганізацыйных, адміністратыўных і тэхнічных мерапрыемстваў па прадухіленні пагроз, зніжэнні страт, а таксама пастаянна праводзіць маніторынг становішча і прагноз развіцця.

**Рэстаўрацыя, кансервацыя, узнаўленне аб'ектаў культурнай спадчыны.** Рэстаўрацыя – мера вымушаная, надзвычайная, яна прадугледжвае глыбокае ўмяшанне ў сапраўдную тканіну помніка, цягне за сабой элементы ўзнаўлення і знішчае часцінку аўтэнтычнасці. Венецыянская хартыя, якая зацвердзіла міжнародныя прынцыпы рэстаўрацыі, аддае перавагу кансервацыі, а рэстаўрацыя праводзіцца ў выключных выпадках, калі іншыя спосабы захавання не вартыя.

Школа сапраўднай рэстаўрацыі з выкарыстаннем традыцыйных тэхналогій, руплівым даследаваннем фрагментаў арыгінальных фрагментаў помнікаў, іканаграфічных і архіўных матэрыялаў у дадзены момант у краіне адсутнічае. Сучасная рэстаўрацыйная практыка, на жаль, не заснавана на прынцыпе належнай археалагічнай рэстаўрацыі (гэта значыць руплівым, метадычным вывучэнні помніка ў арыгінале, падобным да вывучэння аб'екта археалогіі). У адпаведнасці з «Венецыянскай хартыяй» навуковая рэстаўрацыя заканчваецца тады, калі пачынаецца домысел.

Актуальная задача – стварэнне навукова-даследчага цэнтра (інстытута рэстаўрацыі) для распрацоўкі і ўкаранення сучасных рэстаўрацыйных прынцыпаў, нормаў і методык, новых тэхналогій, якія адпавядаюць спецыфіцы беларускай спадчыны, для ацэнкі якасці матэрыялаў і работ, для атэстацыі і падрыхтоўкі спецыялістаў. Мэтазгоднай з'яўляецца падрыхтоўка спецыялістаў па рэстаўрацыі і ахове спадчыны ў сістэме сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі на аснове дзяржаўных заказаў. Іншыя меры па забеспячэнні рэстаўрацыйнай дзейнасці:

– дакладная дыферэнцыяцыя, устанаўленне нормаў і расцэнак на ўсе віды рэстаўрацыйных работ;

– забеспячэнне і абарона аўтарскіх правоў праз выкарыстанне там, дзе гэта магчыма, знакаў якасці, сертыфікатаў майстэрства;

– прапаганда якасці рэстаўрацыйных работ з дапамогай выстаў, конкурсаў, майстэрняў рамеснікаў у турыстычных зонах;

– заахвочванне вучобы, прадастаўленне грантаў;

– стварэнне майстар-класаў, стымулюючых як высакакласных спецыялістаў, так і таленавітую моладзь, якая жадае авалодаць сакрэтамі майстэрства;

– шырокае інфармаванне грамадскасці праз сродкі масавай інфармацыі.

Гэта павінна павысіць вартасць прафесіі, каштоўнасць і сацыяльна-эканамічную значнасць рэстаўрацыі і рамяства, а адпаведна адкрыць новыя перспектывы працаўладкавання і асабістай рэалізацыі.

**Сучасная архітэктура ў кантэксце аховы культурнай спадчыны.** Полацк – горад, які развіваецца, таму ўзгадненне інтарэсаў аховы культурнай спадчыны з неабходнасцю развіцця і рэканструкцыі тэрыторый – адна з важнейшых задач.

Інтэграцыя сучаснай архітэктуры ў гістарычную забудову перыядычна ўзнікае ў тэорыі і практыцы ахоўнай справы. Новая архітэктура ў кантэксце гістарычнага асяроддзя – адна з важнейшых складаючых стратэгіі захавання культурнай спадчыны. Зоны рэгулявання забудовы вызначаюць магчымасці новага будаўніцтва на тэрыторыях незавершанага або дэградзіраванага горадабудаўнічага асяроддзя, разарваных вулічных франтоў, унутрыквартальных участках і на месцах страчаных будынкаў. Новае будаўніцтва павінна служыць рэстаўрацыі горадабудаўнічай тканіны, узнаўленню страчаных элементаў гарадскога ландшафту, планіровачнай структуры, маштаба, чляненняў, рытму, сілуэта, візуальных сувязяў, прасторавых адносін забудовы. Існуюць розныя прыёмы гарманічнага ўключэння сучаснай архітэктуры ў групы гістарычных пабудоў: ад поўнага «растварэння» новых архітэктурных аб'ёмаў, матэрыялаў і колераў у акаляючым асяроддзі да метадаў «кантрапункта», разнастайных стылізацый і ўзнаўленняў сродкамі новага будаўніцтва, новымі тэхналогіямі і матэрыяламі. У адрозненне ад узнаўлення, якое ставіць памылковы знак роўнасці паміж арыгіналам і навадзелам, рэгенерацыя і рэнавацыя як больш творчыя метады дыктуюць новай архітэктуры неабходнасць выяўлення ўнутранай заканамернасці гістарычнага асяроддзя, архітэктоніку мастацкіх вобразаў.

**Адкрытыя гарадскія прасторы.** Добраўпарадкаванне адкрытых прастораў, іх насычэнне музеефікаванымі археалагічнымі аб'ектамі і малымі архітэктурнымі формамі паляпшае якасць жыцця гараджан у цэлым.

Найбольш эфектыўны спосаб захавання і папулярызацыі гістарычнага асяроддзя ўяўляе сабой уцягненне адкрытых прастораў у сацыяльнае абарачэнне шляхам развіцця пешаходных зон і іх інфраструктуры. Стварэнню камфортнай абстаноўкі ў гістарычным цэнтры спрыяюць яго добраўпарадкаванне, азеляненне, асвятленне і ўстаноўка малых архітэктурных формаў, сумаштабных акаляючаму асяроддзю і адпаведных яго эстэтыцы.

**Прававыя нормы па захаванні аб'ектаў культурнай спадчыны.** Асновай захавання культурнай спадчыны з'яўляецца адпаведная нарматыўна-прававая база. Прававы каркас сферы аховы помнікаў фарміруюць:

– міжнародныя нарматыўныя акты: Еўрапейская канвенцыя па ахове археалагічнай спадчыны (Лондан, 06.05.1969, для СССР увайшла ў сілу 14.02.1991), Канвенцыя аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны (Парыж, 16.11.1972, для Беларусі ўвайшла ў сілу 12.10.1988), Канвенцыя аб ахове архітэктурнай спадчыны Еўропы (Гранада, 03.10.1985, для СССР увайшла ў сілу 01.03.1991);

– Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь» ад 09.01.2006 г. № 98-З;

– Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Палажэння аб ахове археалагічных аб’ектаў пры правядзенні земляных і будаўнічых работ» ад 22.05.2002 г. № 651;

– Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні генеральных планаў гарадоў Баранавіч, Наваполацка, Полацка» ад 08.12.2004 г. № 1557;

– Пастанова Савета Міністраў БССР «Аб Полацкім гісторыка-культурным запаведніку» ад 16.07.1990 г. № 158.

Прававая база патрабуе ўдасканалення і развіцця.

У мэтах захавання аб’ектаў культурнай спадчыны і развіцця прынятых прававых актаў, рэгулюючых прававыя адносіны ў сферы дзяржаўнай аховы спадчыны неабходна зрабіць наступнае.

1. Унесці прапановы і дапаўненні ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь» ад 09.01.2006 г. № 98-З:

– у мэтах стварэння больш эфектыўнай сістэмы кантролю і выпрацоўкі гарманічнага развіцця асяроддзя, акружаючага ахоўныя гісторыка-культурныя аб’екты, уключыць у заканадаўчыя і нарматыўныя акты шэраг паняццяў (унікальная гістарычная тэрыторыя, гістарычны горад, горад-музей, гістарычны ландшафт), якія не былі ўнесены як асобныя катэгорыі ў дзеючыя зараз ахоўныя дакументы; гэта значна дапаможа спецыялістам у рабоце па ахове цэласнай гарадской прасторы, што склалася гістарычна, і распрацоўцы рэгламенту горадабудаўнічай і гаспадарчай дзейнасці для суб’ектаў гаспадарання, накіраванай на стварэнне сістэмы мерапрыемстваў па забеспячэнні захаванасці ўстойлівых прасторавых утварэнняў;

– прадугледзець норму аб магчымасці выдзялення ўласніку аб’екта культурнай спадчыны бюджэтных субсідый на фінансаванне затрат па захаванні аб’екта ў выпадку, калі рэжым гаспадарчай дзейнасці гэтага аб’екта, устаноўлены ў мэтах яго захавання, не дазваляе забяспечыць рэнтабельнае выкарыстанне аб’екта;

– асабліва каштоўныя аб’екты культурнай спадчыны, уключаныя ў Спіс сусветнай спадчыны, гісторыка-культурныя запаведнікі, аб’екты археалагічнай спадчыны не павінны падлягаць адчужэнню з дзяржаўнай уласнасці;

– прадугледзець абавязковае страхаванне рызыкі страты і пашкоджання аб’ектаў культурнай спадчыны пры правядзенні рамонтна-будаўнічых работ, а таксама ў выпадку стыхійнага бедства з умовай, што страхавая выплата накіроўваецца на ўзнаўленне страчанага ці пашкоджанага аб’екта.

2. Распрацаваць і зацвердзіць на рэспубліканскім узроўні рэстаўрацыйныя нормы і правілы па падрыхтоўцы, узгадненні і зацвярджэнні праектнай і каштарыснай дакументацыі на выкананне работ па захаванні аб’ектаў культурнай спадчыны.

3. Распрацаваць Правілы землекарыстання і забудовы Полацка, якія ўключаюць у сябе карты горадабудаўнічага заніравання з указаннем межаў заніравання і рэгламентаў гранічных памераў і параметраў; устанавіць парадак аднясення земляў да катэгорыі земляў гісторыка-культурнага прызначэння рэгіянальнага значэння і ў сувязі з гэтым прадугледзець падатковыя льготы.

4. Уключыць палітыку актыўнага захавання культурнай спадчыны ў якасці састаўной часткі ўсіх аспектаў гарадскога планіравання.

5. Стварыць клімат спрыяння грамадскім і прыватным інвестыцыям у культурную спадчыну.

6. Комплексна падысці да вырашэння пытанняў навукова-тэхнічных і даследчых мерапрыемстваў, якія папярэднічаюць мерапрыемствам па ахове гістарычнага цэнтра (выяўленне і вызначэнне каштоўнасці, карэкціроўка Спіса, фарміраванне адзінай базы даных аб гісторыка-культурнай спадчыне і забеспячэнні сувязі з базамі даных па геалогіі, гідралогіі і экалогіі, пастаянны маніторынг усіх працэсаў разбурэння, вывучэнне спосабаў прыпынення і прычын працэсаў разбурэння, скарачэнне колькасці забруджвальнікаў).

**Культурны турызм.** Полацк валодае магутным патэнцыялам для развіцця турызму, які павінен стаць важнай галіной яго эканомікі. Турызм спрыяе папулярызацыі помнікаў гісторыі і культуры, умацоўвае аўтарытэт горада ў краіне і за мяжой, можа павысіць якасць жыцця гараджан. Мэтавае выдзяленне часткі турыстычных даходаў дае значныя рэсурсы для ўтрымання і захавання культурнай спадчыны.

Турызм забяспечвае шырокі доступ да культурнай спадчыны, але варта пазбягаць залішняй эксплуатацыі аб’ектаў турыстычных маршрутаў. Наведванне славутых мясцін не павінна перавышаць дапусцімыя нормы, устаноўленыя ў залежнасці ад іх асаблівасцей і ступені абароненасці.

Неабходная распрацоўка мадэлі культурнага турызму, якая адрозніваецца ад звычайных відаў масавага турызму, каб пазбегнуць лішняй нагрузкі на аб’екты культурнай спадчыны. Гэтая мадэль павінна быць накіравана на адраджэнне забытых традыцый і відаў мастацтваў, стварэнне новых цэнтраў турыстычнага інтарэсу, арганізацыю асаблівых відаў маршрутаў.

Асобая задача – забеспячэнне раўнамернага сезоннага размеркавання турыстычных патокаў і стварэнне камфортных умоў пражывання і перамяшчэння.

**Сацыяльнае і адукацыйнае значэнне культурнага турызму.** Адданасць культурнай спадчы-




Мал. 19. Жалезныя вырабы зброевай майстэрні: *1–15* – пласцінкі наборнага даспеха. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007

не маюць 5 чаранковых наканечнікаў стрэл (мал. 7: *5–9*). Выключэннем з'яўляецца фрагмент масіўнай трохграннай ў сячэнні стралы, якая знойдзена ў ранейшым за XII ст. пласце (мал. 7: *2*).

Зброя прадстаўлена двума свінцовымі кісцянямі (мал. 13: *1, 2*). Іх форма набліжана да куба са скошанымі гранямі. Памеры вырабаў: 2,2 см (шырыня) × 1,5 см (вышыня); 2,7 см (шырыня) × 2,3 см (вышыня). У першага вырабу адтуліна квадратнай формы памерам 0,9 × 0,9 см (шырокі бок) і 0,7 × 0,7 см (вузкі бок), да таго ж мае квадратную выемку з шырокага боку, у другога вырабу адтуліна круглай формы дыяметрам 0,9 см, з другога боку – ў форме няправільнага авала. Кісцяні вылучаюцца маленькімі памерамі, аналагаў ім не выяўлена. Знойдзены ў верхнім стратыграфічным гарызонце.




Мал. 20. Жалезная сякера. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007




У раскопе знойдзена тры металічныя карпусы навясных замкоў і ключы да іх. Большасць з іх належаць да тыпу А, Б і В паводле Б. А. Колчына [12, с. 162]. Знойдзена два ключы да нутраных замкоў. Гэтыя вырабы знаходзіліся ў пласце XI–XIII стст. Знойдзены таксама авальныя жалезныя крэсівы XII–XIII стст.: два кароткіх і адно доўгае разам з фрагментам калачападобнага крэсіва XI–XIII стст.

У пласце XI–XIII стст. знойдзены тры жалезных рыбалоўных кручка, жалезная дужка ад начыння, жалезная стамеска, шыла. Сабраны жалезныя скабяныя вырабы і дэталі дзвярнога набору, жалезныя дротавыя паўкалечкі невядомага прызначэння, жалезная спражка авальнай формы, жалезная шавецкая ігла, два размеркавальнікі. Прызначэнне асобных вырабаў і прылад працы высветліць не ўдалося.

Шкляныя вырабы прадстаўлены вялікай колькасцю фрагментаў бранзалетаў. Бранзалеты двух відаў: з гладкім стрыжнем і ілжэвітыя. Колеравая гама – зялёная, жоўтая, блакітная, чорная. Шкляныя пацеркі прадстаўлены жоўтым бісерам (мал. 22: *6*), цыліндрычнай пранізкай зялёнага колеру (мал. 22: *3*), зоннай пацеркай жоўтага колеру (мал. 22: *4*). У ніжняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту знойдзены бісер рублены (мал. 22: *19*), пранізкі (мал. 22: *14*), пацеркі-лімонкі (мал. 22: *9–11, 14–16*),

Мал. 21. Жалезны наканечнік кап’я. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007




Мал. 22. Вырабы з каменю (*1, 2, 12*) і са шкла (*3–11, 13–19*): *1–6, 8–18* – пацеркі; *7* – устаўка ў пярсцёнак; *12* – смальта; *19* – бісер. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007

фрагмент пацеркі з глазкавым арнаментам і іншыя пацеркі (мал. 17: *13, 15, 17, 18*). Пацеркі-лімонкі і залачоныя дзежкападобныя ўкладаюцца ў агульнапрызнаную схему датавання IX–X ст. і XI ст. адпаведна [24, с. 164]. У раскопе знойдзены таксама 2 кавал-кі смальты зялёнага колеру і 1 – жоўтага колеру (мал. 22: *5, 12*).

Да калекцыі пацерак належаць сердалікавыя шматгранная пацерка (мал. 22: *1*), якая знойдзена ў перамяшаным пласце ніжняй часткі сярэдняга стратыграфічнага гарызонту, і шасцігранная біпірамідальная сердалікавая пацерка, – у пласце XI–XIII стст. (мал. 22: *2*). Сердалікавыя біпірамідальныя пацеркі шырока вядомы ў курганных пахаваннях радзімічаў стадыі А, якая датуецца другой паловай X – пачаткам XI ст. [2, с. 68, рис. 9: *67*]. У Ноўгарадзе такія пацеркі датуюцца шырока – ў межах XII–XIII стст. [12, с. 170].

У пласце XI–XIII стст. сабрана вялікая калекцыя каменных асялкоў рознай формы і памераў, некаторыя зроблены з шыфернага сланца і маюць скразныя дзірачкі для падвешвання. Шыферныя




Мал. 23. Праселкі з каменю (шыферны сланец) з графіці і надпісамі (*1–3*).
Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007

праселкі тыповыя для XII–XIII стст., некаторыя з іх маюць графіці ў выглядзе прадрапаных ліній і літар (мал. 23: *1, 2*). Рарытэтнай знаходкай з'яўляецца праселка з шыфернага сланца з прадрапанымі літарамі «НАМГ» (мал. 23: *3*).

Касцяныя вырабы прадстаўлены арнаментаванымі і неарнаментаванымі дзяржаннямі нажэй XII–XIII стст. (мал. 8: *1, 2, 6*). Неарнаментаванае дзяржанне захавалася разам з жалезным тарцавым крапяжом (мал. 8: *6*). Касцяная шахматная фігура слана XIII ст. (мал. 24: *4*) мае аналогіі з вырабам, знойдзеным у Мінску [17, с. 38], памеры фігуркі: вышыня 2,2 см, аснова авальная 2,0 × 1,5 см. Знойдзена рогавая муфта (мал. 24: *2*), два фрагменты двухбаковых касцяных грабянёў, з іх адзін з накладнымі тронкамі (мал. 24: *3–5*), кавалак касцянога дзяржання (?) (мал. 8: *3*), фрагмент касцяной накладкі крыху выгнутай падоўжанай формы (мал. 8: *7*), дзве нарыхтоўкі з косці: першая – рогавай муфты, а другая – капавушкі (мал. 8: *4, 5*). Усе гэтыя касцяныя вырабы стратыграфічна датуюцца XII–XIII стст.

Напаўспарахнелае рогавае наверша кап'я (?) знойдзена ў пласце днепра-дзвінскай культуры (мал. 12: *1*) у комплексе з каменнай шліфаванай сякерай днепра-дзвінскай культуры (мал. 12: *1*). Да гэтай жа культуры, відаць, трэба аднесці кавалак каменнай сякеры ці молата з прасвідраванай адтулінай (мал. 12: *2*). Выраб зроблены з дробназярністага белага каменю. Гэты выраб быў знойдзены ў пласце XI–XIII стст., аднак яго больш позняе паходжанне не выклікае сумненняў.

З керамікі вылучаюцца кавалкі плінфы, якая прадстаўлена ў выглядзе моцна патрушчаных кавалкаў у колькасці звыш 500 адзінак. Большасць кавалкаў мае сляды рошчыны-цамянкі. Цэлых пласцін знойдзена не было. Па асобных фрагментах магчыма меркаваць пра таўшчыню плінфы: 2,5 см – 2 шт.; 2,8 – 1; 2,9 – 1; 3,0 – 3; 3,1 – 1; 3,2 – 1; 3,4 – 2; 3,5 – 6; 3,6 – 1; 3,9 – 1; 4 см – 1 шт. Улічваючы вялікую колькасць аплаўленых фрагментаў свінца, а таксама загорнутых у трубачку свінцовых пласцін, знойдзеных у раскопе кавалкаў смальты і фрагментаў царкоўнага начыння, можна меркаваць аб размяшчэнні непадалёк ад раскопу 1 мураванай царквы. Фармат плінфы (сярэдняя вышыня 3,5 см) тыповы для храмаў полацкай школы дойлідства XII ст. [21, с. 142–163].

Зроблена класіфікацыя ўсіх венцаў гаршкоў XI–XIII стст., зробленых на ручным ганчарным крузе. Для класіфікацыі адабраны венцы ў колькасці 1116 шт., па якіх можна меркаваць аб профілі верхняй часткі гаршка. Усе гаршкі падзелены на 9 тыпаў (табліца).




Мал. 24. Вырабы з косці: *1* – наверша кап'я (?); *2* – муфта; *3, 5* – фрагменты грабянёў; *4* – шахматная фігура (слон); *6* – нарыхтоўка. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007

Самым распаўсюджаным з'яўляецца тып А (агульная колькасць 611 венцаў), які падзяляецца на 4 варыянты. У гаршкоў гэтага тыпу складанае венца, край якога загнуты ўнутр у форме літары «S». Варыянт А 1 – гаршкі з арнаментаваным плечыкам і тулавам, як правіла, прамымі лініямі ці хвалістым арнаментам з нахілам у левы бок. Варыянт А 2 – гаршкі з арнаментаваным насечкамі ці ямкамі краем венца, тулава і плечыкі гаршкоў, як правіла, таксама арнаментаваны. Варыянт А 3 – кераміка без арнаментацыі. Паводле Г. В. Штыхава, аналагічная кераміка ў раскопе на Верхнім замку была знойдзена ў пластах XI – першай паловы XIII ст. [23, с. 82]. Сярод гэтай керамікі ёсць формы з раўчуком па краі венца (падтып А 4 полацкага гарадзішча). Такую кераміку Г. В. Штыхаў вызначае як спецыфічны полацкі тып.

Тып А бытаваў на полацкім гарадзішчы да канца XIII ст., максімум яго распаўсюджвання прыходзіцца на XIII ст. (верхняя частка сярэдняга стратыгра-

**Распаўсюджванне тыпаў ганчарнай керамікі з раскопу 1 па пластах**

| Выява керамікі | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пласт / тып керамікі | А 1 | А 2 | А 3 | А 4 | Б | В | Г | Д | Е 1 | Е 2 | Ж | З | К 1 | К 2 |
| 1 | – | – | – | – | – | – | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 2 | – | 2 | 13 | – | 1 | 7 | 2 | – | 1 | – | – | – | 1 | – |
| 3 | 1 | 4 | 17 | 7 | – | 10 | 1 | 2 | 3 | 1 | 1 | – | 1 | – |
| 4 | – | 4 | 19 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | – | 2 | – | – | – |
| 5 | 2 | 9 | 26 | 3 | 6 | 9 | 5 | 2 | 2 | – | – | – | – | – |
| 6 | 4 | 6 | 30 | 6 | 1 | 24 | 2 | – | 2 | – | 2 | – | 2 | 2 |
| 7 | 27 | 25 | 121 | 53 | 18 | 88 | 26 | 24 | 15 | 4 | 6 | – | 6 | 3 |
| 8 | 3 | 31 | 32 | 30 | – | 18 | 12 | – | 2 | 1 | 3 | – | 2 | – |
| 9 | 3 | 4 | 5 | – | – | 1 | 1 | – | – | – | – | – | | – |
| 9а | 1 | 4 | 22 | 12 | – | 13 | 14 | 18 | 5 | – | 1 | 2 | 2 | – |
| 9б–10 | 4 | 5 | 45 | 9 | 2 | 17 | 17 | 22 | 4 | – | 7 | 6 | 2 | – |
| 11 | – | – | 10 | 5 | 4 | 18 | 9 | 3 | 1 | – | – | – | – | – |
| 12 | 1 | – | 1 | – | – | 1 | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 13 | 1 | – | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 2 | – | – | – | – | – | – |
| *Разам:* | 47 | 94 | 341 | 129 | 37 | 209 | 92 | 74 | 36 | 6 | 22 | 8 | 16 | 5 |

фічнага гарызонту, што адпавядае пл. 7, 8 табліцы). Дыяметр венцаў ад 17 да 32 см.

Тып Б – гаршкі з высокай шыйкай і амаль вертыкальна пастаўленым венцам. Дыяметр гэтых пасудзін ад 12 да 27 см (агульная колькасць 37 венцаў). Гаршкі арнаментаваны лінейным у спалучэнні з хвалістым арнаментам па плечуку ці хвалістым арнаментам звонку пад самым краем венца. Максімальная колькасць гаршкоў (18 шт.) тыпу Б знойдзена ў верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту, што адпавядае пл. 7 табліцы.

Да тыпу В аднесены гаршкі з высокім, адагнутым вонкі каля 45° прамым венцам. Дыяметр гэтых пасудзін ад 22 да 28 см (агульная колькасць 209 венцаў). Гаршкі арнаментаваны хвалістым арнаментам у спалучэнні з лінейным, насечкамі па тулаву з хвалістым арнаментам. Максімальная колькасць гаршкоў тыпу В (88 шт.) знойдзена ў верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту, што адпавядае пл. 7 табліцы. У колькасці ад 13 да 18 шт. яны знойдзены ў сярэдняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту (пл. 9а–11 табліцы). Гэтая кераміка аналагічная некаторым тыпам гаршкоў з Верхняга замка, дзе яна датавана 50-мі гадамі XIII ст. [23, рыс. 43: *8*]. Большасць венцаў гаршкоў тыпу В знойдзена ў пласце, які адпавядае гэтаму датаванню і ў больш ранніх – XI ст.

Тып Г – гаршкі сярэдняга памеру (дыяметр вусця ад 12 да 26 см) з адагнутым вонкі венцам і пакатымі плечукамі. На полацкім гарадзішчы гэтыя гаршкі знойдзены ў колькасці 92 шт. Максімальная колькасць гаршкоў тыпу Г (26 шт.) знойдзена ў верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту, што адпавядае пл. 7 табліцы. Аднак гэтыя пасудзіны даволі роўна распаўсюджаны ў сярэдняй і верхняй частках сярэдняга стратыграфічнага гарызонту (ад пл. 7 да пл. 11) (табліца). Такія гаршкі, паводле Г. В. Штыхава, адпавядаюць тыпу І і датуюцца X–XI – XII стст. [23, с. 81]. На полацкім гарадзішчы гэтыя пасудзіны распаўсюджаны ў пластах XI–XIII ст. Гаршкі, як правіла, арнаментаваны гарызантальнымі палоскамі па тулаву альбо двума радамі хвалістага арнаменту па тулаву (нахіл хвалі ў левы бок), асобныя гаршкі арнаментаваны хвалістым арнаментам па самым краі венца.

Да тыпу Д аднесены гаршкі з высокім, плаўна адагнутым вонкі венцам. Дыяметр гэтых пасудзін ад 14 да 34 см (агульная колькасць 74 венца). Некаторыя гаршкі арнаментаваны па тулаву адным-двума радамі хвалістага арнаменту (нахіл хвалі ў левы бок). Максімальная колькасць гаршкоў тыпу Д знойдзена ў сярэдняй і верхняй частках сярэдняга стратыграфічнага гарызонту (22 і 24 шт. адпаведна), што адпавядае пл. 9б–10 і пл. 7 табліцы. Такія гаршкі на Верхнім замку ў Полацку былі знойдзены пераважна ў пласце XII ст. [23, рыс. 42: *21–23*]. На полацкім гарадзішчы яны бытавалі з XI па XIII стст.

Тып Е – гаршкі з невысокім, адагнутым вонкі венцам. Дыяметр гэтых венцаў ад 12 да 26 см. Гаршкі тыпу Е падзяляюцца на два варыянты. У варыянта Е 1 венца невысокае, у варыянта Е 2 яно мае значную вышыню (да 3 см), таўшчыня сценак каля 0,8 см. Некаторыя гаршкі арнаментаваны адным-двума радамі хваляў з нахілам у левы бок па тулаву. Агульная колькасць венцаў варыянта Е 1 – 36, з іх большасць знойдзена ў верхнім стратыграфічным гарызонце і верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту (табліца). На Верхнім замку такія гаршкі знойдзены ў пласце мяжы XII–XIII стст., што цалкам карэлюецца са стратыграфічным датаваннем гаршкоў на полацкім гарадзішчы [23, рыс. 42: *32*]. Венцаў гаршкоў варыянта Е 2 знойдзена 6 шт., з іх 4 – у пл. 7 (табліца).

Венцаў гаршкоў тыпу Ж знойдзена 22 шт. Дыяметр гэтых венцаў ад 16 да 22 см. Вылучае гаршкі адна характэрная рыса: край венца ў іх загнуты ўнутр і ўтварае своеасаблівы карнізік. Гэтыя гаршкі даволі роўна прадстаўлены ў сярэдняй і верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту (пл. 7, 9б–10 табліцы). У калекцыі керамікі Верхняга замка прадстаўлена адно падобнае венца, якое датуецца 50-мі гадамі XIII ст. [23, рыс. 43: *14*]. Гаршчок з гарадзішча арнаментаваны па плечуку рэльефнымі лініямі, а па краі венца – зашчыпамі.

Гаршкі тыпу З нешматлікія, знойдзены ў колькасці 8 шт. у сярэдняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту (табліца). Гэтыя гаршкі маюць пакатыя плечукі і гарызантальна адагнуты вонкі венчык. Дыяметр венцаў ад 18 да 22 см. Паводле стратыграфіі, гаршкі тыпу З ужываліся раней за XIII ст.

Гаршкі тыпу К падзяляюцца на два варыянты. Гаршкі варыянта К 1 маюць крыху адагнутае вонкі прамое венца са скошаным звонку краем, плечукі гаршка акруглыя, дыяметр венцаў ад 16 да 26 см. Вышыня краю венца не перавышае 2 см. Гаршкі варыянта К 2 маюць дыяметр 14–25 см і больш высокі прамы край венца (каля 2,5–3,0 см, часта аздоблены пад самым краем венца гарызантальным раўчуком па ўсім дыяметры). Некаторыя гаршкі арнаментаваны гарызантальнымі палоскамі па плечуку, маюць зашчыпы па краі ці аздоблены некалькімі радамі хвалістага арнаменту па тулаву. Большасць гаршкоў варыянта К 1 знойдзена ў пл. 7 (6 шт. з агульнай колькасці 16 шт.), астатнія даволі роўна распаўсюджаны ў верхніх пластах сярэдняга і ў верхнім стратыграфічным гарызонце. Гаршкі варыянта К 2 знойдзены ў колькасці 5 шт. ў верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту (пл. 6, 7 табліцы). Гэтыя гаршкі з'яўляюцца найбольш архаічным тыпам ганчарнай керамікі на полацкім гарадзішчы. Гаршкі сфармаваны на ганчарным крузе, аднак венца ў іх няроўнае, гузаватае, у керамічным цесце зафіксаваны кавалкі буйной жарствы, венца некаторых гаршкоў злеплена ад рукі і загладжана на ганчарным крузе.




Мал. 25. Ляпная кераміка: *1–5* – венцы гаршкоў. Малюнак М. А. Плавінскага. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007

Пэўныя аналогіі раннеганчарным гаршкам тыпу К магчыма знайсці сярод групы раннеганчарнай керамікі старажытнага Пскова так званага раскошнага стылю (вызначэнне С. В. Бялецкага). Датаванне гэтага посуду ў Пскове ўкладаецца ў дыяпазон канца X – пераважна першай паловы XI ст. Формы полацкага раннеганчарнага посуду тыпу К маюць аналагічна пскоўскаму начынню вертыкальна пастаўленае венца і выразны плячук, аздоблены арнаментам. Полацкі посуд адрознівае непараўнальна меншае аздабленне плечука як па глыбіні нанясення арнаменту, так і па яго разнастайнасці. Тым не менш гэтая група керамікі аднолькава нешматлікая як у Пскове, так і ў Полацку. Аналагічнага посуду ў Ноўгарадзе няма [1, рис. 6: *4, 7*; 18, с. 115, табл. 138: *2*].

Гаршкі тыпу К, знойдзеныя на полацкім гарадзішчы ў колькасці 21 шт., з'яўляюцца пераходнымі ад ляпной керамікі культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, вызначанай як група 3 паводле знаходак на селішчы-перадградздзі і вакольным горадзе. Варыянт К 2 прадстаўляе прыклад таго, як ляпны посуд групы 3 трансфармаваўся ў раннеганчарныя формы. У адрозненне ад гаршкоў тыпу I паводле Г. В. Штыхава, форма якіх шырока прадстаўлена ў культурных пластах канца X – XI ст. старажытнарускіх гарадоў [23, с. 81], формы гаршкоў тыпу К з полацкага гарадзішча выяўлены толькі ў Пскове [18, с. 115].

Да групы ганчарнай керамікі належаць фрагменты венцаў накрывак для гаршкоў, а таксама дзяржанні да іх. Накрыўкі маюць дыяметр 18–30 см і ў двух выпадках аздоблены насечкамі ў тры рады і двума радамі хвалістага арнаменту па вонкавым краі венца.

Асноўная колькасць ляпной керамікі была знойдзена менавіта ў ніжняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонту[1]. З яе складу вылучаюцца тыповыя формы гаршкоў культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў канца VIII – X ст. (большасць усіх венцаў) (мал. 2: *3*; 25: *1, 5*; 26: *1, 3–7;* 10). Гэты

[1] Сёння поўная апрацоўка ляпной керамікі яшчэ не завершана.




Мал. 26. Ляпная кераміка: *1–7* – венцы гаршкоў; *8* – дзяржанне патэльні. Малюнак М. А. Плавінскага. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007

посуд характэрны для тэрыторыі Беларускага Падзвіння і сустракаецца ў раннегарадскіх напластаваннях канца VIII – X ст. Лукомля, Віцебска і іншых гарадоў [3, рис. 13; 7, рис. 2–5]. Гэтая група керамікі зроблена з керамічнага цеста, у якім прысутнічаюць грубыя дамешкі жарствы. Паверхня вырабаў няроўная, гузаватая, кераміка мае сляды абпальвання.

Асаблівую цікавасць уяўляе комплекс ляпной керамікі з мацерыковай ямы 3 (мал. 10). Гэта кераміка тыповая для раннегарадскіх напластаванняў гарадоў Беларускага Падзвіння, паводле даных радыевугляроднага датавання кавалка дрэва з ямы 3, яна была выраблена не пазней 780 г. н. э. Гэты посуд характэрны для тэрыторыі Беларускага Падзвіння і сустракаецца ў раннегарадскіх напластаваннях кан-




Мал. 27. Верхняя частка ляпнога гаршка. Малюнак М. А. Плавінскага. Раскоп 1. Гарадзішча. Полацк. 2007

ца VIII – X ст. Лукомля, Віцебска і іншых гарадоў [3, рис. 13; 7, рис. 2–5].

Да групы ляпнога посуду, відаць, трэба аднесці дзяржанне керамічнай патэльні, знойдзенае ў верхнім стратыграфічным гарызонце (мал. 26: *8*).

Венцы гаршкоў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. тыповыя для банцараўскай культуры (мал. 2: *1–2*; 25: *2–4*; 26: *2*; 27), знойдзена 1 сценка посуду «з расчэсамі» сярэдзіны I тысячагоддзя н. э.

Венцы гаршкоў днепра-дзвінскай культуры знойдзены ў колькасці 13 экз. (мал. 28), большасць з іх аздоблена ямкавым арнаментам пад венцам.

Знойдзена 7 дробных фрагментаў венцаў гаршковай (міскавай) кафлі, дыяметр якой 12 см. Уяўляе цікавасць сценка начыння, зробленага з белай гліны і аздобленая пераплеценым хвалістым арнаментам. Рэдкімі з'яўляюцца сценкі начыння, зробленага з так званай каменнай масы, пакрытыя з двух бакоў карычневай празрыстай палівай. Знойдзены сценкі амфар, аздобленыя лінейным арнаментам.

Кераміка XVII–XVIII стст. прадстаўлена венцамі паліванай флягі, збана і іншых вырабаў. Венцы гаршкоў XVII–XVIII стст. тыповыя для свайго часу.

Такім чынам, колькасць і прадстаўнічасць калекцыі знаходак з полацкага гарадзішча пацвярджае высокі сацыяльны статус яго насельніцтва ў XI–XIII стст. Комплекс ляпной керамікі і асобных рэчаў сведчыць аб пражыванні на полацкім гарадзішчы насельніцтва днепра-дзвінскай, банцараўскай культур і культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў.

**Высновы.** Жыццё на гарадзішчы было распачата ў першай палове I тысячагоддзя да н. э., верагодна, каля VII ст. да н. э. Захаваўся культурны пласт днепра-дзвінскай культуры (ніжняя частка сярэдняга стратыграфічнага гарызонту і ніжні стратыграфічны гарызонт раскопу 1). Паводле радыевугляроднага аналізу, у стратыграфічным гарызонце днепра-дзвінскай культуры захаваліся прапласткі вугалю ад VII ст. да н. э. (П 6) да I–III стст. н. э. (П4, П5, П 7). У гэтым пласце дысперсна размешчаны рэчы і кераміка I тысячагоддзя да н. э. – першай чвэрці I тысячагоддзя н. э, сярэдзіны I тысячагоддзя н. э., трэцяй і апошняй чвэрцяў I тысячагоддзя н. э. Пласт з керамікай культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганаў апошняй чвэрці I тысячагоддзя н. э. захаваўся толькі ў межах мацерыковай ямы 3 (радыевугляродная дата – 780 г. н. э.) (П 3). Верагодна, усе напластаванні старэйшыя за III ст. н. э. былі зніveліраваны падчас добраўпарадкавання тэрыторыі гарадзішча. Гэта, дарэчы, тлумачыць факт адсутнасці ляпнога посуду і рэчаў, старэйшых за XI ст., у паўднёвай частцы гарадзішча, дзе ўзровень мацерыка больш высокі ў параўнанні з паўночнай часткай гарадзішча (шурфы А. М. Ляўданскага і Л. Д. Побаля).

Культурны пласт XI–XIII стст. выдатна захаваўся, асноўная інтэнсіўнасць жыцця прыпадае на XII–XIII стст. У пласце гэтага часу знойдзена вельмі вялікая колькасць высокамастацкіх вырабаў і побытавых рэчаў. Жыццё на гарадзішчы спынілася ў пачатку XIV ст., што пацвярджае радыевугляродная дата – 1270–1310 гг. (П 2)[1].

Лакалізацыя ў межах верхняй часткі сярэдняга стратыграфічнага гарызонту абломкаў тыгляў і вырабаў з каляровых металаў[2], інструментаў вытворчасці, нарыхтовак і гатовых пласцінак металічнага даспеха дазваляюць вызначыць размяшчэнне ў межах даследуемай тэрыторыі гарадзішча ювелірнай і зброевай майстэрняў. Захаваліся сляды дзейнасці мастака. Верагодна, рамеснікі абслугоўвалі патрэбы княжацкага двара, які размяшчаўся на гарадзішчы на працягу IX–XIII стст.

Асобныя рэчы (кавалкі плінфы, царкоўнае начынне, смальта, свінец і інш.) сведчаць аб размяшчэнні на гарадзішчы дзесьці паблізу ад раскопу 1 мураванага храма.

У XVII–XVIII стст. тэрыторыя гарадзішча ператварылася ў могілкі, на якіх хавалі вернікаў каталіцкай канфесіі. Размяшчэнне могілак у цэнтры горада, а таксама канфесійная прыналежнасць веруючых да рымска-каталіцкай царквы, дазваляюць зрабіць заключэнне, што на могілках пахавана полацкая шляхта.

[1] Другая радыевугляродная дата – 430–530 гг. н. э. (П 1) відавочна памылковая, дадзеная хібнасць дапушчальна для адносна маладых напластаванняў.

[2] Найбольш паказальна ў гэтым плане знаходка бронзавага барэльефа з выявай апостала Іаана ў верхнім стратыграфічным гарызонце, фігурка мае выразныя сляды адліўкі ў форме і шэраг унікальных рыс.




Мал. 28. Ляпная кераміка днепра-дзвінскай культуры: *1–23* – венцы гаршкоў. Малюнак З. А. Харытановіч. Гарадзішча. Полацк. 2007

## Літаратура

1. Белецкий, В. Д. Городское ядро средневекового Пскова / В. Д. Белецкий, С. В. Белецкий. – СПб., 1996. – Ч. 1: Белецкий, С. В. Начало Пскова / С. В. Белецкий. – 92 с.

2. Богомольников, В. В. Радимичи (по материалам курганов X–XII вв.) / В. В. Богомольников / под. науч. ред. О. А. Макушникова; ГГУ им. Ф. Скорины, Науч.-исслед. ин-т восточнославянских народов при ГГУ им. Ф. Скорины. – Гомель, 2004. – 226 с.

3. Бубенько, Т. С. Стратиграфия и хронология нижнего слоя Витебска / Т. С. Бубенько, О. Н. Левко // Ранние славяне Белорусского Поднепровья и Подвинья: материалы по археологии Беларуси. – Минск, 2003. – № 8. – С. 71–95.

4. Булкин, В. А. Отчет об археологических исследованиях Софийского собора и прилегающих к нему территорий в 1978 году / В. А. Булкин // Архіў Ін-та гісторыі НАН Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 594.

5. Дук, Д. Древо жизни Полоцкого городища / Д. Дук // Родина. – 2007. – № 10. – С. 37–39.

6. Дук, Д. Станаўленне Полацка ў IX–XIII стст. / Д. Дук // Беларус. гіст. часопіс. – 2007. – № 11. – С. 25–31.

7. Еремеев, И. Древний Лукомль. Лепная керамика и раннесредневековый культурный слой / И. Еремеев, Г. Штыхов // Acta archaeologica Albarutenika. Vol. I (Вып. I). – Мінск: ИП Логвінаў І. П., 2007. – С. 110–134.

8. Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. – Минск: Навука і тэхніка, 1989. – 208 с.: іл.

9. Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск (X–XIV вв.) / Я. Г. Зверуго. – Минск: Наука и техника, 1975. – 144 с.

10. Кирпичников, А. Н. Древнерусское оружие / А. Н. Кирпичников // САИ / под общ. ред. Б. А. Рыбакова. – Вып. Е1–36. – М.; Л.: Наука, 1966. – Вып. 2: Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX–XIII вв. – 216 с.: ил.

11. Коваленко, В. Археологические исследования Шестовицкого комплекса в 1998–2002 гг. / В. Коваленко, А. Моця, Ю. Сытый // Дружинні старожитності Центрально-Східно Європии VIII–XI ст. – Чернігів: Сіверянська думка, 2003. – С. 51–83.

12. Колчин, Б. А. Хронология новгородских древностей / Б. А. Колчин // Новгородский сборник. 50 лет раскопок Новгорода. – М.: Наука, 1982. – С. 156–177.

13. Корзухина, Г. Ф. Древнерусские энколпионы. Кресты-реликварии XI–XIII вв. / Г. Ф. Корзухина, А. А. Пескова. – СПб.: Петербургское Востоковедение, 2003. – 432 с.

14. Лысенко, П. Ф. Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко. – Минск: Наука и техника, 1989. – 159 с.

15. Ляўданскі, А. М. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе / А. М. Ляўданскі // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. – Мінск, 1930. – Т. 2, кн. 2: Працы археолёгічнай камісіі. – С. 157–198.

16. Макушников, О. А. Древнерусская оружейная мастерская из Гомия / О. А. Макушников // Старожитності Південної Русі: Чернігів і його округа IX–XIII ст.: матеріали III іст.-археолог. семінару, Чернігів, 15–18 травня 1990 р. / редкол.: П. П. Толочко [та інш.]. – Чернігів: Сіверянська думка, 1993. – С. 121–130.

17. Мядзведзева, В. У. Сярэдневяковыя шахматы Беларусі (гісторыка-археалагічнае даследаванне) / В. У. Мядзведзева. – Мінск: ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі», 2005. – 82 с.: іл.

18. Носов, Е. Н. Городище под Новгородом и поселения Северного Приильменья (новые материалы и исследования) / Е. Н. Носов, В. М. Горюнова, А. В. Плохов // Тр. Ин-та материальной культуры РАН. – СПб.: Издательство «Дмитрий Буланин», 2005. – Т. XVIII. – 404 с.: ил.

19. Плавінскі, М. Аб адной катэгорыі пахавальнага посуду ў курганах канца I – пачатку II тысячагоддзя н. э. на захадзе Полацкай зямлі / М. Плавінскі, А. Плавінскі // Acta archaeologica Albaruthenica. Vol. I (Вып. I). – Мінск: ИП Логвінаў І. П., 2007. – С. 135–145.

20. Поболь, Л. Д. Отчет об исследовании археологических памятников в г. Полоцке в 1959 г. / Л. Д. Поболь // Архіў Ін-та гісторыі НАН Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 594.

21. Раппопорт, П. А. Полоцкое зодчество XII века / П. А. Раппопорт // Советская археология. – 1980. – № 3. – С. 142–163.

22. Тарасов, С. В. Отчет о раскопках в Полоцке и Полоцкой округе в 1987 году / С. В. Тарасов // Архіў Ін-та гісторыі НАН Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 1014.

23. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк IX–XIII вв. / Г. В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – 136 с.: ил.

24. Щапова, Ю. Л. Стеклянные бусы Древнего Новгорода / Ю. Л. Щапова // Тр. Новгородской археолог. экспедиции // МИА. – М.: Изд-во АН СССР, 1956. – Вып. 55. – С. 164–179.

## Резюме

*Д. В. Дук*

**Археологические раскопки на древнем полоцком городище в 2007 г.**

Статья содержит итоги археологических раскопок в 2007 г. на древнейшем в Полоцке памятнике истории и культуры – городище. Приводится подробная характеристика стратиграфии культурного слоя раскопа 1 на полоцком городище. Дана характеристика важнейших археологических находок. Представлена типология гончарной керамики раскопа. Определена датировка серии артефактов, а также приведены данные радиоуглеродного анализа культурного слоя городища (днепро-двинской культуры: VII в. до н. э. – III в. н. э.), культуры смоленско-полоцких длинных курганов (780 г.). Определена дата окончания функционирования городища (начало XIV в.). Дана характеристика ремесленной деятельности на месте раскопа в XII–XIII вв. (оружейная и ювелирная мастерская). Определен статус городища в IX – начале XIV в. (княжеская резиденция).

## Summary

*D. Duk*

**Archaeological excavations on the ancient hill-fort of Polotsk in 2007**

The article presents the results of archaeological excavations in 2007 on the most ancient place in Polotsk – its hill-fort. The detailed characteristic stratigraphy of cultural layer 0$^{f}$ the 1$^{st}$ trench on the hill-fort of Polotsk is resulted. The characteristic of the main archaeological finds is made. The types of pottery from this trench is presented. Dating of a series of artefacts is certain, and also data of the radiocarbon analysis of a cultural layer of the hill-fort (the Dnieper and Dvina Culture (the 7$^{th}$ c. BC – the 3$^{rd}$ c. AD) and Smolensk–Polotsk long barrows Culture (780). The date stopped of functioning of the hill-fort of Polotsk is early 14$^{th}$ century. The characteristic of craft activity as weapon and jeweller workshops on this place in the 12$^{th}$–13$^{th}$ centuries is defined. Its status as princely residence in the 9$^{th}$ – early 14$^{th}$ is marked.

*Паступіў 24.02.2011*

***Д. У. Дук,*** *Полацкі дзяржаўны універсітэт, загадчык кафедры айчыннай і усеагульнай гісторыі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Наваполацк)*
***В. А. Емяльянчык,*** *Полацкі дзяржаўны універсітэт, старшы выкладчык кафедры айчыннай і усеагульнай гісторыі (г. Наваполацк)*

# Могілкі полацкага гарадзішча (па выніках археалагічных раскопак у 2007 г.)

Гісторыя вывучэння могілак на старажытным полацкім гарадзішчы пачынаецца з 1928 г., калі А. М. Ляўданскім былі ўпершыню праведзены раскопкі на помніку. Паводле А. М. Ляўданскага, час існавання могільніку на месцы старажытнага гарадзішча прыпадае на XVIII–XX стст. [6, с. 163–164]. У 1987 г. С. В. Тарасаў зафіксаваў выпадкова знойдзенае жаночае пахаванне, якое даследчык датаваў XII ст. [8, с. 23]. Паводле звестак краязнаўца І. П. Дэйніса, у пачатку XX ст. на могілках хавалі самазабойц [2, с. 14]. Такім чынам, у гістарыяграфіі не існавала адзінага пункту гледжання аб часе існавання могільніка на полацкім гарадзішчы.

У 2007 г. на старажытным полацкім гарадзішчы былі праведзены археалагічныя раскопкі, у выніку якіх стала магчымым дэталёва вывучыць 35 рознай ступені захаванасці пахаванняў. Каштоўнасць вынікаў даследавання заключаецца ў тым, што пахавальных комплексаў гарадскога насельніцтва Новага часу зафіксавана адносна няшмат. У Беларускім Падзвінні толькі адзінкавыя могільнікі у г. п. Гарадок (XV–XVI стст.) [7, с. 161] і ў г. Віцебску (XVI–XVIII стст.) [5, с. 134–135].

Раскоп 1 меў плошчу 44 м² [4, с. 25–31]. Раскопкі праводзіліся па пластам 0,2 м, адпаведна якім прыводзіцца планіграфія пластоў на мал. 1–4. Усе




Мал. 1. Венцы гаршкоў XVI–XVII стст. (*1–11*)

пахаванні раскопу 1 зроблены ў верхнім стратыграфічным гарызонце, які прадстаўлены вельмі аднароднай зямлёй светла-шэрага з карычневым адценнем колеру, камкаватай, сухой. Гэтая зямля складаецца з зярністага пяску, жвіру, у ёй сустракаюцца камянямі дыяметрам да 5–10 см, зрэдку ў пласце фіксуюцца дысперсна размешчаныя кавалкі вугалю і невялікія лінзы вапны (дыяметрам да 3–5 см). Магутнасць гэтага пласта складае ад 0,9 м да 1,6 м, сярэдняя магутнасць верхняга стратыграфічнага пласта – 1,2 м.

Пахаванні размешчаны на глыбіні ад 0,8 да 1,4 м. Візуальна контуры пахавальных ям не прасочваліся. Аднак непасрэдна над пахаваннямі былі знойдзены нешматлікія знаходкі, пераважна рэшткі керамікі з зялёнай эмаллю XVII–XVIII стст. і непаліваных гаршкоў XVI–XVII стст. (мал. 1), каваныя цвікі.

В. А. Емяльянчык праведзена антрапалагічная экспертыза рэшткаў усіх пахаванняў.

*Пахаванне 1* размешчана на мяжы кв. 10 і 11 на адлегласці 0,25 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Пахаванне размешчана на глыбіні каля 0,8 ад дзённай паверхні. Пахаванне пераадкладзенае. Захаваўся чэрап, які пакладзены патылічнай часткай уверх на пераадкладзеныя косткі шкілета (мал. 2). Рэшткаў інвентару, труны не зафіксавана. Косткі арыентаваны па накірунку захад–усход.

*Пахаванне 2* размешчана на мяжы кв. 5, 6, 11, 12. Пахаванне часткова пашкоджана (пераадкладзены косткі левай нагі памерлага) і размешчана на глыбіні каля 0,8 м (мал. 2). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены на грудзях. Даўжыня касцяка 1,9 м[1]. Пахаваны мужчына ва ўзросце 40–50 гадоў. Каля левай голені памерлага захаваўся жалезны цвік, магчыма, ад труны. Іншых рэшткаў труны і пахавальнага інвентару не зафіксавана.

*Пахаванне 3* размешчана на мяжы кв. 5, 6, 11, 12 пад пахаваннем 2. Пахаванне некранутае і размешчана на глыбіні каля 1 м (мал. 3). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Захаванасць шкілета дрэнная. Косткі рук і ступняў ног спарахнелі. Чэрап размешчаны за межамі ракопу ў сценцы кв. 12. Чэрап быў вынуты, дзеля чаго зроблены падкоп у сцяне раскопу. Даўжыня касцяка 1,8 м. Пахаваны – мужчына ва ўзросце 30–50 гадоў. У нагах памерлага (каля ступняў) захаваліся 2 жалезных цвіка, магчыма, ад труны. Іншых рэшткаў труны і пахавальнага інвентару не зафіксавана.

*Пахаванне 3а* (чэрап) размешчана ў паўднёва-заходнім вуглу кв. 5, на мяжы кв. 5 і 11, каля ног памерлага з пахавання 3. Пахаванне пераадкладзенае, размешчана на глыбіні каля 1 м, акрамя чэрапа костак не знойдзена (мал. 3). Знаходкі каля чэрапа адсутнічалі.

*Пахаванне 3б* размешчана ў паўночнай частцы кв. 2 (уздоўж сценкі раскопу) і выходзіць за межы раскопу. Зафіксаваны асобныя моцна спарахнелыя косткі шкілету, чэрап альбо не захаваўся, альбо знаходзіўся па-за межамі раскопу. Цела было пакладзена галавой на захад у выцягнутым стане (мал. 3). Гэта пахаванне дзіцяці ва ўзросце 1,5 гадоў. Пахаванне размешчана на глыбіні каля 1 м. Даўжыня захаванага касцяка складае каля 0,8 м. На месцы мяркуемага размяшчэння чэрапа былі знойдзены два жалезных цвіка. Інвентару і рэшткаў труны не выяўлена.

*Пахаванне 4* размешчана ў паўднёвай частцы кв. 6 і выходзіць за межы раскопу ў заходнім накірунку. У раскоп трапілі косткі ног памерлага, цела пакладзена галавой на захад (мал. 3). Пахаванне размешчана побач з пахаваннем 3 на глыбіні каля 0,9 м. Даўжыня часткі касцяка, якая трапіла ў раскоп, складае 0,75 м. Захаванасць костак добрая. Знаходак і рэшткаў труны не выяўлена.

*Пахаванне 5* размешчана на мяжы кв. 9 і 10 на адлегласці 0,23 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Пахаванне не пашкоджанае і размешчана на глыбіні каля 1 м (мал. 3). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены на жываце. Даўжыня касцяка 1,7 м. Каля левай і правай голені памерлага захаваліся жалезныя цвікі (па аднаму з кожнага боку), цвікі захаваліся каля чэрапа па аднаму справа і злева. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 6* размешчана ў межах ўсходняй часткі кв. 3 на адлегласці 0,5 м ад паўночнай сценкі раскопу. Пахаванне не пашкоджанае і размешчана на глыбіні каля 1 м (мал. 3). Арыентацыя касцяка – галавой на паўночны захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены: правая – на грудзях, левая – на жываце. Захаванасць касцяка дрэнная, спарахнелі косткі ступняў і кісцей рук. Даўжыня касцяка 0,8 м. Пахавана дзіця ва ўзросце 2,5–3 гадоў. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 7* размешчана на мяжы кв. 7 і 8, пасярэдзіне мяжы. Пахаванне не пашкоджанае і размешчана на глыбіні каля 1 м (мал. 3). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены: левая – на грудзях, правая – на жываце. Даўжыня касцяка 1,5 м. Пахаваны – мужчына ва ўзросце 30–40 гадоў. Захаванасць дрэнная, спарахнелі косткі ступняў ног і кісцей рук. Пад ніжняй сківіцай быў знойдзены алавяны нацельны каталіцкі крыж XVII ст. з выявай сцэны Распяцця (аверс)

[1] Тут і далей прыводзіцца даўжыня касцяка ў зямлі на момант расчысткі, гэтыя параметры не абавязкова супадаюць з вынікамі антрапалагічнай экспертызы.




Мал. 2. План размяшчэння пахаванняў. Пласт 4. Раскоп 1




Мал. 3. План размяшчэння пахаванняў. Пласт 5. Раскоп 1

і лацінскім надпісам «laureatus» (увенчаны лаўровым вянком) (рэверс) (мал. 4: *1*). Захаванасць крыжа добрая. Каля ног памерлага захаваўся жалезны цвік, яшчэ адзін цвік захаваўся каля чэрапа. Іншых рэшткаў труны не зафіксавана.

*Пахаванне 8* (чэрап) размешчана ў кв. 7, паміж костак ног памерлага з пахавання 7. Пахаванне пераадкладзенае, акрамя чэрапа на поўдзень ад пахавання 7 на адлегласці 0,2 м ад яго былі знойдзены дзве паўспарахнелыя косткі, магчыма, ад пахавання 8. Пахаванне размешчана на глыбіні каля 1 м (мал. 3). Знаходкі каля чэрапа адсутнічалі.

*Пахаванне 9* (чэрап) размешчана ў кв. 8 (на мяжы кв. 8 і 9), на адлегласці 1,2 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Пахаванне належала дзіцю ва ўзросце 1,5–2 гадоў і было размешчана на глыбіні каля 0,9 м (мал. 3). Знаходкі каля чэрапа адсутнічалі.

*Пахаванне 10* размешчана на мяжы кв. 4 і 5 на адлегласці 0,6 м ад паўночнай сценкі раскопу па лініі мяжы квадратаў. Пахаванне не пашкоджана і размешчана на глыбіні каля 1,2 м (мал. 5). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены: левая – на грудзях, правая – на жываце. Даўжыня касцяка 1,57 м. Захаванасць касцяка добрая, спарахнелі толькі косткі ступняў. Захаваліся рэшткі драўлянай труны ў выглядзе паласы таўшчынёй 1–2 см карычневай парахні. Гэтая паласа мае выгляд прамавугольніка памерамі 1,57 × 0,40 м (усходняя частка) ці 0,45 м (заходняя частка). У раёне костак таза і каля чэрапа ў паўднёвай сценкі труны захаваліся два жалезных цвікі. Два цвікі захаваліся ў заходняй сцяне рэшткаў труны. З рэшткаў пахавальнага інвентару зафіксаваны толькі алавяны крыжык, які вельмі моцна каразіраваны і практычна распаўся пры расчыстцы. Крыжык быў размешчаны ў раёне грудзей. Яма на месцы пахавання прасочана па напаўспарахнелым рэштках труны, яна мае глыбіню каля 0,2 м, плоскае роўнае дно, вертыкальна пастаўленыя сценкі.



1


2

Мал. 4. Каталіцкі алавяны нацельны крыжык XVII ст. пасля рэстаўрацыі (аверс, рэверс) (*1*) і бронзавы медальён XVII ст. пасля рэстаўрацыі (аверс, рэверс) (*2*)




Мал. 5. План размяшчэння пахаванняў. Пласт 6. Раскоп 1

*Пахаванне 11* (чэрап) размешчана ў кв. 4 на адлегласці 1 м ад паўночнай сценкі раскопу, практычна пасярэдзіне квадрата побач з пахаваннем 10. Пахаванне размешчана на глыбіні каля 1 м (мал. 5). Знаходкі каля чэрапа адсутнічалі.

*Пахаванне 12* размешчана пасярэдзіне кв. 7 на адлегласці 0,9 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Пахаванне часткова пашкоджана і размешчана на глыбіні каля 1,1 м (мал. 5). Арыентацыя касцяка – галавой на паўночны захад–паўднёвы ўсход. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Левая рука сагнута ў локці, правая выцягнута ўздоўж цела. Пахаванне належала даросламу чалавеку. Чэрап адсутнічае, таксама як і косткі левай нагі і голень правай. Даўжыня рэшткаў касцяка 1 м. Чэрап пахавання 8, зафіксаваны ў больш высокім пласце 5 у межах кв. 7 (мал. 3) належыць шкілету пахавання 12. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 13* размешчана на мяжы кв. 10 і 11 на адлегласці 1,42 м ад паўднёвай сценкі раскопу па лініі мяжы квадратаў. Пахаванне не пашкоджана і размешчана на глыбіні каля 1,1 м (мал. 5). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Даўжыня касцяка 1,6 м. Пахаваны – мужчына ва ўзросце 30–40 гадоў. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены на грудзях, захаванасць касцяка добрая, спарахнелі толькі косткі ступняў. Рэшткаў драўлянай труны не захавалася, аднак яе шырыню магчыма прасачыць па размяшчэнні чатырох цвікоў. Цвікі зафіксаваны папарна каля чэрапа на адлегласці 0,4 м адзін ад аднаго і каля каленных суставаў на адлегласці 0,4 м адзін ад аднаго. Рэшткаў пахавальнага інвентару не зафіксавана.

*Пахаванне 14* размешчана на мяжы кв. 9 і 10 на адлегласці 0,2 м ад паўднёвай сценкі раскопу па лініі мяжы квадратаў. Пахаванне часткова пашкоджанае пахаваннем 5, якое часткова размешчана над ім. У шкілета адсутнічаюць косці прадплечча левай рукі і левае бядро. Пахаванне 14 размешчана на глыбіні каля 1,2 м (мал. 5). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Даўжыня касцяка 1,35 м. Пахаваны – мужчына ва ўзросце 30–50 гадоў. Правая рука сагнута ў локці і пакладзена на жываце, косткі ступняў спарахнелі. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 15* размешчана пасярэдзіне кв. 9 ушчыльную да яго заходняй мяжы, на поўнач ад пахавання 14, і на адлегласці 1 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Пахаванне моцна пашкоджана. У шкілета адсутнічае большасць костак правай нагі, цалкам – левай рукі, няма большай часткі рэбраў з левага боку і чэрапа. Пахаванне 15 размешчана на глыбіні каля 1,1 м (мал. 5). Арыентацыя касцяка – галавой на паўночны захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Даўжыня касцяка 1,35 м. Пахаванне, верагодна, належала юнаку ва ўзросце 15–17 гадоў. На адлегласці 0,35 м на паўднёвы ўсход размешчаны фрагменты костак ног, магчыма, ад гэтага ж шкілета. Правая рука сагнута ў локці і пакладзена на жываце. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 16* размешчана пасярэдзіне кв. 9 ушчыльную да яго паўночнай мяжы, на поўнач ад пахавання 15, і на адлегласці 1,4 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Пахаванне моцна пашкоджана. У шкілета адсутнічаюць большасць костак абедзвюх ног, косткі таза пакладзены не ў анатамічным парадку. Пахаванне 16 размешчана на глыбіні каля 1,1 м (мал. 5). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну. Даўжыня касцяка 1,25 м. Пахаваны мужчына ва ўзросце 40–60 гадоў. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены на жываце. Зафіксаваны два цвіка, якія размешчаны каля костак левага пляча. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 17* размешчана пасярэдзіне кв. 9 практычна пад пахаваннем 15. Шкілет размешчаны на адлегласці 0,8 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Шкілет добрай захаванасці і размешчаны на глыбіні каля 1,2 м (мал. 6). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Даўжыня касцяка 1,6 м. Гэта пахаванне жанчыны ва ўзросце 60–70 гадоў. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены кісцямі ўверх, прычым кісці рук сагнуты ўніз і пакладзены пад ніжнюю сківіцу. Косці пазваночніка размешчаны не ў анатамічным парадку – яны ўтвараюць ламаную лінію. Правая бедраная косць размешчана пад вуглом 45° да левай. Парадак размяшчэння костак сведчыць пра тое, што цела было пахавана ў скурчаным стане. Зафіксаваны два цвікі, размешчаныя адзін супраць другога каля костак ступняў, трэці цвік – на поўнач ад левай галёначнай косткі, чацвёрты цвік – каля костак таза, пяты цвік – зафіксаваны каля чэрапа. У раёне гру-дзей памерлай, на левай ключыцы, знойдзены бронзавы медальён XVII ст. з двухбаковай выявай біблейскіх сцэн (аверс) і Дзевы Марыі з Немаўля (рэверс). Рэшткаў труны не зафіксавана (мал. 4: *2*).

*Пахаванне 18* размешчана на мяжы і пасярэдзіне кв. 11 і 12. Шкілет размешчаны на адлегласці 0,7 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Шкілет добрай захаванасці і размешчаны на глыбіні каля 1,2 м (мал. 6). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Чэрап размешчаны па-за межамі раскопу, у заходняй сценцы. Даўжыня касцяка 1,5 м (без чэрапа), ці 1,65 м (з чэрапам). Пасля расчысткі шкілета чэрап быў вынуты з культурнага пласта сценкі раскопу. Пахаваны – мужчына ва ўзросце 30–40 гадоў. Рукі выцягнуты ўздоўж цела. Рэшткаў труны і пахавальнага інвентару не зафіксавана.

*Пахаванне 19* размешчана на мяжы кв. 1 і 2, ушчыльную да паўночнай сценкі раскопу. Пахаванне

моцна пашкоджана. Захаваўся толькі чэрап і асобныя напаўспарахнелыя косткі. Пахаванне размешчана на глыбіні каля 0,9 м (мал. 6). Арыентацыю касцяка з-за дрэннай захаванасці вызначыць цяжка. Комплекс пахавання (чэрап і нешматлікія косткі) размешчаны на пляцоўцы памерамі 0,30 × 0,25 м. Пахаванне належала двум дзіцянятам ва ўзросце 2–3 гадоў. Рэшткаў труны і пахавальнага інвентару не зафіксавана.

*Пахаванне 20* размешчана на мяжы кв. 1 і 2. Пахаванне не пашкоджана. Шкілет размешчаны на адлегласці 0,3 м ад паўночнай сценкі раскопу па мяжы квадратаў. Шкілет добрай захаванасці і размешчаны на глыбіні каля 1,4 м (мал. 6). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Даўжыня касцяка 1,55 м. Гэта пахаванне жанчыны ва ўзросце 40–50 гадоў. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены на грудзі, кісці рук апушчаны ўніз. Рэшткаў труны і пахавальнага інвентару не зафіксавана.

*Пахаванне 21* размешчана ў межах кв. 9 на поўдзень ад пахавання 17 і ўшчыльную каля яго. Фактычна прадстаўлена некалькімі фрагментамі костак, дысперсна размешчаных ўздоўж усходняй частцы пахавання 17 на адлегласці 0,7 м ад паўднёвай сценкі раскопу. Напаўспарахнелыя косткі размешчаны на глыбіні каля 1,2 м на агульнай адлегласці 0,63 м (мал. 6). Чэрап адсутнічаў. Пахаванне належала даросламу чалавеку. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 22* размешчана ў межах кв. 3. Пахаванне не пашкоджана. Шкілет размешчаны на адлегласці 1,3 м ад паўночнай сценкі раскопу (умоўная перпендыкулярная лінія на ўзроўні чэрапа). Шкілет добрай захаванасці і размешчаны на глыбіні каля 1,2 м (мал. 6). Арыентацыя касцяка – галавой на паўночны захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Косці ступняў спарахнелі. Даўжыня касцяка 1,5 м. Пахаваны – мужчына ва ўзросце 20–30 гадоў. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены: правая – на жывот, левая – на грудзі. Пад ніжняй сківіцай была знойдзена бронзавая засцежка ад аддзення. Яшчэ адна засцежка зафіксавана на ўнутраным баку локцевага сустава. На месцы скрыжавання рук быў знойдзены чорны шкляны гузік. Рэшткаў труны не зафіксавана.

*Пахаванне 23* размешчана ў межах кв. 3 на поўнач ад пахавання 22. Большая яго частка, верагодна, размешчана па-за межамі раскопу, паколькі косткі зафіксаваны пасярэдзіне паўночнай сценкі кв. 3 і, адпаведна, раскопу. Фактычна прадстаўлена некалькімі фрагментамі костак, дысперсна размешчаных ўздоўж сценкі раскопу. Напаўспарахнелыя косткі размешчаны на глыбіні каля 1,3 м на агульнай адлегласці 0,7 м (мал. 6). Чэрап адсутнічаў. Гэта пахаванне дзіцяці ва ўзросце 4 гадоў. Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 24* размешчана ў межах паўночна-ўсходняга вугла кв. 3 на ўсход ад пахавання 22. Большая яго частка, верагодна, размешчана па-за межамі раскопу, паколькі ў ім зафіксаваны напаўспарахнелыя косткі ног на плошчы памерамі 0,2 × 0,2 м. Гледзячы па накірунку размяшчэння ног, шкілет арыентаваны галавой на паўночны захад. Напаўспарахнелыя косткі размешчаны на глыбіні каля 1,3 м (мал. 6). Рэшткаў пахавальнага інвентару і труны не зафіксавана.

*Пахаванне 25* размешчана ў межах паўночнай часткі кв. 1. Пахаванне не пашкоджана. Шкілет размешчаны ўшчыльную да паўночнай сценкі раскопу, у які трапілі косткі шкілета, за выключэннем чэрапа. Чэрап быў выкапаны з пласта ў сценцы раскопу. Шкілет добрай захаванасці і размешчаны на глыбіні каля 1,3 м (мал. 6). Арыентацыя касцяка – галавой на паўночны захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Косці ступняў спарахнелі. Даўжыня касцяка 1,55 м. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены на косткі таза. У раёне ключыцы, пасярэдзіне пазваночніка і на костках таза былі знойдзены адпаведна: два шкляных белых гузіка і адзін гузік чорнага колеру. Рэшткаў труны не зафіксавана.

*Пахаванне 26* размешчана ў межах усходняй часткі кв. 7. Пахаванне выходзіць за межы раскопу. Шкілет размешчаны ўшчыльную да ўсходняй сценкі раскопу, пасярэдзіне кв. 7. У раскоп трапілі косткі чэрапа, плечавыя косткі і верхняя частка пазваночніка з рэбрамі. Шкілет размешчаны на глыбіні каля 1,4 м (мал. 6). Арыентацыя касцяка – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну. Гэта пахаванне жанчыны ва ўзросце 40–50 гадоў. Рэшткаў труны і пахавальнага інвентару не зафіксавана.

*Пахаванне 27* размешчана на мяжы кв. 1 і 2 на адлегласці 1 м ад паўночнай сценкі раскопу па лініі мяжы квадратаў. Пахаванне не пашкоджана і размешчана на глыбіні каля 1,3 м (мал. 6). Касцяк размешчаны на паўднёвы ўсход ад касцяка 20. Арыентацыя касцяка 27 – галавой на захад. Цела пакладзена на спіну ў выцягнутым стане. Рукі сагнуты ў локцях і пакладзены: левая – на костках таза, правая – на жываце. Левая нага паўсагнута ў калене і прыхілена да правай. Даўжыня касцяка 1,4 м. Верагодна гэта пахаванне жанчыны ва ўзросце 40–50 гадоў. Захаванасць касцяка добрая, спарахнелі толькі косткі ступняў. Пад ніжняй сківіцай зафіксавана бронзавая засцежка ад аддзення. Захаваліся рэшткі драўлянай труны ў выглядзе паласы таўшчынёй 1–2 см з паўночнага і заходняга бакоў, фрагментарна – з паўднёвага боку. Ад труны засталася карычневая парахня ў выглядзе прамавугольніка памерамі 1,40 × 0,38 м. У раёне ўсходняй сценкі труны захаваліся тры жалезных цвікі, адзін цвік зафіксаваны каля чэрапа. Яма на месцы пахавання прасочана па напаўспарахнелым рэшткам труны, яна мае




Мал. 7. Дэталі адзення памерлых (*1–5*)

глыбіню каля 0,2 м, плоскае роўнае дно, вертыкальна пастаўленыя сценкі.

*Пахаванне 28* (чэрап) размешчана практычна пасярэдзіне кв. 2, каля пахавання 27 і на адлегласці 1,3 м ад паўночнай сценкі раскопу. Пахаванне размешчана на глыбіні каля 1,2 м (мал. 6). Знаходкі каля чэрапа адсутнічалі.

У кв. 2 быў зафіксаваны фрагмент чэрапа, які належаў дзіцяці ва ўзросце 6 гадоў. Чэрап зафіксаваны паміж пахаваннем 27, побач з чэрапам 28. Фрагментарнае пахаванне было засведчана ў межах кв. 1 паміж пахаваннямі 25 і 27. Косткі былі размешчаны дысперсна і належалі даросламу і дзіцяці. Каля сценкі раскопу ў кв. 12 былі зафіксаваны фрагментаваныя косткі дзіцяці ва ўзросце 1,5–2 гады, перакрытыя пахаваннем 18. У кв. 12 (пл. 3, глыбіня 0,6 м) зафіксаваны дзве верхнія дзіцячыя сківіцы, узрост памерлых 2 і 3 гады.

Такім чынам, нешматлікі пахавальны інвентар сведчыць аб прыналежнасці памерлых да каталіцкай канфесіі. З пахавальнага інвентару 16 найбольш захаваных і збольшага некранутых пахаванняў (2, 3, 5, 6, 7, 10, 12, 13, 14, 16, 17, 18, 20, 22, 25, 27) зафіксаваны: два алавяных нацельных крыжа (мал. 4: *1*), з якіх адзін вельмі пашкоджаны карозіяй, нацельная ікона-медальён (мал. 4: *2*), чатыры шкляных гузіка, тры бронзавыя засцежкі (мал. 7: *1, 2*). Гузікі з белага шкла маюць дыяметр 1,6 см, з унутранага боку ў шкло запаяна медная дужка, якая практычна цалкам разбурана карозіяй (мал. 7: *3, 4*). Чорны гузік мае дыяметр 1,1 см, з унутранага боку зроблена жалезнае дзяржанне-пяцелька (мал. 7: *5*). Бронзавыя засцежкі, тыповыя для адзення XVII стст. (мал. 7: *1, 2*), аналагічныя засцежкі знойдзены ў вялікай колькасці падчас даследавання сядзібы ювеліра на Вялікім пасадзе ў Полацку [3, с. 13–14].

Гэтыя рэчы былі знойдзены на целах пяці памерлых (пахаванні 10, 17, 22, 25, 27). Рэшткі драўляных трун захаваліся толькі на двух пахаваннях (11, 27), затое жалезныя цвікі былі знойдзены каля большасці шкілетаў у колькасці ад 1 да 4 штук, што сведчыць аб наяўнасці трун. Большасць пахаванняў (2, 3, 3б, 4, 5, 7, 11, 13, 14, 16, 18, 20, 26, 27) арыентаваны галавой на захад, меншая частка – на паўночны захад (6, 12, 15, 21 22, 25). Некаторыя пахаванні зроблены на месцы старых: целы памерлых перакрываюць адно другое (адпаведна пахаванні 2, 3, 15–21). Асобныя пахаванні размешчаны упарадкавана адзін каля аднаго: адзін рад пахаванняў 14, 15, 16 перакрывае пахаванні 17, 21. Зафіксавана і парнае пахаванне 20, 27. Выразна прасочваецца тэндэнцыя ў размяшчэнні целаў памерлых: жанчын хавалі са складзенымі на грудзях каля самага падбародка рукамі, кісцямі ўніз (пахаванні 17, 20), адной левай рукой на грудзях, другой – на жываце (пахаванне 7), дзвюма рукамі на жываце (пахаванне 27). Мужчын хавалі са складзенымі на жываце рука (пахаванні 14, 15, 16, 20), складзенымі на грудзях рукамі (пахаванні 2, 11), ці рукамі, выцягнутымі ўздоўж цела (пахаванне 18).

Пахавальны інвентар прадстаўлены вельмі бедна, у пераважнай большасці выпадкаў – алавяным крыжыкам на грудзях памерлага. Большасць крыжыкаў не захавалася па прычыне карозіі. Пра адзенне памерлых даных практычна няма. На целах трох памерлых жанчын і мужчын знойдзены бронзавыя засцежкі і шкляныя гузікі ў верхняй частцы шкілета. Верагодна, целы некаторых памерлых апраналася ў лёгкую тканевую кашулю на зашпільках і гузіках, большасць памерлых – у кашулю без зашпілек. Пахавальнага абутку не выяўлена.

Шкілетны матэрыял, выяўлены ў ходзе археалагічных раскопак, прадстаўлены рэшткамі 35 чалавек, сярод якіх 11 дзяцей і 24 дарослых (з якіх 11 мужчын, 5 жанчын; пол пяці пахаваных не вызначаны з-за фрагментарнасці шкілетаў). Пол і ўзрост пахаваных вызначаўся з выкарыстаннем традыцыйных метадаў [1, 9] і прадстаўлены ў табл. 1.

*Табліца 1.* **Полаўзроставы склад пахаваных**

| № п/п | Пахаванне | Квадрат | Пласт | Пол | Узрост | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1(1) | 10,11 | 4 | ? | ? | Перапахаванне |
| 2 | 1(2) | 10, 11 | 4 | ? | ? | Перапахаванне |
| 3 | 2 | 5, 6, 11, 12 | 4, 5 | М | 40–50 | – |
| 4 | 3 | 5, 6, 11, 12 | 5, 6 | М | 30–50 | – |
| 5 | 5 | 9, 10 | 5 | ? | ? | – |
| 6 | 6 | 3 | 5, 6 | Дзіця | 2,5–3,0 | – |
| 7 | 7 | 7, 8 | 5, 6 | Ж | 30–40 | – |
| 8 | 9 | 8 | 5 | Дзіця | 1,5–2,0 | – |
| 9 | 10(8) | 4, 5 | 6, 7 | ? | Дарослы | Фрагментарнае |
| 10 | 12 | 7 | 5, 6 | М | 50–60 | – |
| 11 | 13 | 10, 11 | 6 | М | 30–40 (40–50) | – |
| 12 | 14 | 9, 10 | 6 | М | 30–50 | – |
| 13 | 15 | 9 | 7 | М? | 15–17 | Фрагментарнае (падлетак) |
| 14 | 16 | 9 | 6 | М | 40–60 | – |
| 15 | 17 | 9 | 7 | Ж | 60–70 | – |
| 16 | 18 | 11,12 | 7 | М | 30–40 | – |
| 17 | 19(1) | 1 | 7 | Дзіця | 2–3 | – |
| 18 | 19(2) | 1, 2 | 7 | Дзіця | 2–3 | – |
| 19 | 20 | 1, 2 | 7 | Ж | 40–50 | – |
| 20 | 21 | 9 | 6 | ? | Дарослы | Фрагментарнае |
| 21 | 22 | 3 | 7 | М | 20–30 | – |
| 22 | 23 | 3 | 7 | Дзіця | 4 | – |
| 23 | 25 | 1 | 7 | Ж? | А–М | – |
| 24 | 26 | 7 | 7 | Ж | 40–50 | – |
| 25 | 27 | | | Ж? | 40–50 | – |
| 26 | 28 | 1 | 7 | – | – | Фрагментарнае |
| 27 | 29 | 2 | 7 | Дзіця | 6 | Фрагменты чэрапа |
| 28 | 29? | 1 | 7 | – | – | Фрагментарнае (рэшткі дарослага і дзіцяці) |
| 29 | Невядомае | – | – | М | 20–40 | – |
| 30 | Сценка раскопу | 12 | 7 | Дзіця | 1,5–2,0 | – |
| 31 | Сценка раскопу 1 | – | – | М | 30–40 | Толькі чэрап |
| 32 | Сценка раскопу 2 | – | – | М | 20–30 | Толькі чэрап |
| 33 | 3б | 2 | 5, 6 | Дзіця | 1,5 | – |
| 34 | | 12 | 3 | | 3 | Дзве верхнія сківіцы |
| 35 | | | | | 2 | |

У цэлым шкілетны матэрыял характарызуецца добрай захаванасцю. Дзіцячыя пахаванні складаюць 45,8% ад усёй колькасці памерлых, што адлюстроўвае нармальны для таго часу ўзровень дзіцячай смяротнасці. Падобная высокая рэпрэзентатыўнасць дзіцячых пахаванняў з'яўляецца хутчэй выключэннем з правіла, паколькі ў большасці выпадкаў даводзіцца мець справу з недаўлікам рэштак дзяцей (па прычыне нізкай мінеральнай насычанасці дзіцячыя косткі разбураюцца значна хутчэй у параўнанні з косткамі дарослых). Фрагментарнасць асобных шкілетаў тлумачыцца працяглым выкарыстаннем могілак, у выніку чаго многія магілы былі парушаныя больш познімі пахаваннямі.

На падставе атрыманых характарыстык узроставага размеркавання смяротнасці была складзена табліца дажыцця (табл. 2). Сярэдняя чаканая працяглаcць жыцця з улікам дзіцячай смяротнасці ($E_x$) склала 25,5 года. Падобная нізкая сярэдняя працяглаcць жыцця з'яўлялася тыповай для таго часу і была абумоўлена перш за ўсё высокай дзіцячай смяротнасцю.

На мал. 8 прадстаўлена працэнтнае размеркаванне смяротнасці ў розных узроставых інтэрвалах (так званая крывая смяротнасці). Пік смяротнасці прыходзіцца на ранні дзіцячы ўзрост, у падлеткаў смяротнасць зніжаецца да мінімуму, у далейшым смяротнасць заканамерна павялічваецца з узростам. Падобнае размеркаванне смяротнасці з'яўляецца нармальным для груп з так званым традыцыйным тыпам узнаўлення насельніцтва (высокая смяротнасць, асабліва ў дзіцячым ўзросце, у спалучэнні

*Табліца 2.* **Табліца дажыцця**

| Узрост, гадоў | $D_x$ | $d_x$ | $l_x$ | $q_x$ | $L_x$ | $T_x$ | $E_x$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0–7 | 10 | 35,7 | 100,0 | 0,357 | 492,9 | 2551,8 | 25,5 |
| 7–15 | 0 | 0,0 | 64,3 | 0,000 | 514,3 | 2058,9 | 32,0 |
| 15–20 | 1 | 3,6 | 64,3 | 0,056 | 312,5 | 1544,6 | 24,0 |
| 20–30 | 2,75 | 9,8 | 60,7 | 0,162 | 558,0 | 1232,1 | 20,3 |
| 30–40 | 5,25 | 18,8 | 50,9 | 0,368 | 415,2 | 674,1 | 13,2 |
| 40–50 | 6,25 | 22,3 | 32,1 | 0,694 | 209,8 | 258,9 | 8,1 |
| 50+ | 2,75 | 9,8 | 9,8 | 1,000 | 49,1 | 49,1 | 5,0 |
| *Разам:* | 28 | 100,0 | – | – | – | – | – |




Мал. 8. Крывая смяротнасці

з практычна неабмежаванай нараджальнасцю). Для насельніцтва, што пакінула могілкі на полацкім гарадзішчы, быў уласцівы нізкі працэнт дажываючых да фінальнай ўзроставай кагорты. Іншымі словамі, да старэчага узросту ў той час дажывалі нямногія палачане.

На падставе вымярэння даўгіх костак намі была здзейснена рэканструкцыя прыжыццёвай даўжыні цела пахаваных (паводле метаду Троттэр і Глэзер, 1952). Сярэдні рост мужчын склаў 167,25 см, жанчын – 154,30 см. Для параўнання: сярэдні рост мужчын Вроцлава (Польшча) ў XVI–XVIII стст. складаў 166,6 см, жанчын – 157,8 см [10].

У ходзе антрапалагічнай экспертызы былі зарэгістраваны некаторыя паталогіі:

*Пахаванне 5* (жанчына 20–30 гадоў). Остэаперыястыт даўгіх костак, паталогія грушападобнай адтуліны (сіфіліс?); на целе грудзіны – скразная адтуліна невядомага паходжання; остэахандроз пазванкоў.

*Пахаванне 7* (жанчына 30–40 гадоў). Хранічны остэаперыястыт (ключыца, плечавая, локцевая, прамянёвая, сцегнавая, вялікая і малая галёначныя косці).

*Пахаванне 13* (мужчына 30–50 гадоў). Траўма правага локцевага сустава.

*Пахаванне 14* (мужчына 30–50 гадоў). Скразная адтуліна ў лобнай косці; траўма правай лапаткі са слядамі зажыўлення; пераломы рэбраў са слядамі зажыўлення; касцявое зрастанне пазванкоў (у выніку пералому ?); на целе грудзіны – скразная адтуліна, падобная на аналагічную у пахаванні 5.

Траўмы, выяўленыя ў мужчын, могуць адлюстроўваць удзел мужчынскай часткі насельніцтва ў ваенных дзеяннях.

Такім чынам, у XVII–XVIII стст. тэрыторыя гарадзішча пераўтварылася ў могілкі, на якіх хавалі вернікаў каталіцкай канфесіі. Размяшчэнне могілак у цэнтры горада, а таксама канфесійная прыналежнасць веруючых да рымска-каталіцкай царквы, дазваляюць зрабіць заключэнне, што на могілках пахаваны прадстаўнік полацкай шляхты.

## Літаратура

1. Алексеев, В. П. Краниометрия. Методика антропологических исследований / В. П. Алексеев, Г. Ф. Дебец. – М.: Наука, 1964. – 127 с.

2. Дейнис, И. П. Полоцкая старина (исторические места и памятники старины г. Полоцка). Полоцк, 1978 (рукапіс) / И. П. Дейнис // Фонды НПГКМЗ, кп-2, № 1422/8.

3. Дук, Д. У. Выратавальныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка ў 2005 годзе / Д. У. Дук // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А, Гуманит. науки. – 2007. – № 1. – С. 2–15.

4. Дук, Д. Станаўленне Полацка ў IX–XIII стст. / Д. Дук // Беларус. гіст. часопіс. – 2007. – № 11. С. 25–31.

5. Дучыц, Л. У. Археалагічнае вывучэнне гарадскіх і вясковых могільнікаў / Л. У. Дучыц, А. В. Іоў, В. М. Ляўко // Археалогія Беларусі: у 4 т. / В. М. Ляўко [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2001. – Т. 4: Помнікі XIV–XVIII стст. – С. 132–138.

6. Ляўданскі, А. М. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. – Мінск, 1930. – Кн. 2: Працы археолёгічнай камісіі. Т. 2.– С. 157–198.

7. Ляўко, В. М. Гарадок / В. М. Ляўко // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск. – С. 161.

8. Тарасов, С. В. Отчет о раскопках в Полоцке и Полоцкой округе в 1987 году / С. В. Тарасов // Архіў Ін-та гісторыі, Нац. акад. навук Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 1014.

9. Piontek, J. Biologia populacji pradziejowych. Zarys metodyczny / J. Piontek. – Poznań: UAM, 1996. – 217 s.

10. Piontek, J. Climatic changes and biological structure of the human populations from Poland in the Middle Ages / J. Piontek // Biological perspectives on ecology of the prehistoric popuation from Central Poland. – Warszawa: Wydawnictwo SGGW-AR, 1990. – 88 p.

## Резюме

*Д. В. Дук, О. А. Емельянчик*

**Кладбище полоцкого городища**
**(по результатам археологических раскопок в 2007 г.)**

В 2007 г. на древнем полоцком городище были проведены археологические раскопки, в ходе которых были исследованы погребения, датированные на основании погребального инвентаря XVII–XVIII вв. Скелетный материал представлен останками не менее 36 человек, из которых 13 детей и 23 взрослых. Сделан вывод о том, что в XVII–XVIII вв. территория городища превратилась в кладбище, на котором хоронили верующих католической конфессии. Погребений более раннего времени в пределах раскопа не выявлено. Размещение кладбища в центре города, а также конфессиональная принадлежность верующих к римско-католической церкви указывает на то, что на кладбище похоронена полоцкая шляхта.

## Summary

*D. Duk, O. Emeljanchik*

**Cemetery of the Polotsk site of ancient settlement**
**(by results of archeological excavations in 2007)**

In 2007 on the Polotsk site of ancient settlement archeological excavations have been spent, in which course burials dated to the $17^{th}$ trhough the $18^{th}$ centuries have been investigated. The skeletal material is presented by remains not less than 36 persons, from which 13 children and 23 adults. The conclusion that in $17^{th}$–$18^{th}$ centuries the territory of a site of ancient settlement has turned to a cemetery on which buried believers of Catholic faith is drawn. Tombs of earlier time on the place of excavation have not been revealed. Cemetery placing in city centre, an accessory of believers to Catholic church specifies that on a cemetery representatives of the Polotsk nobility have been buried.

*Паступіў 24.02.2011*

***М. В. Клімаў,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік аддзела захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Новыя даныя аб Запалоцкім пасадзе ў Полацку (па выніках раскопак 2008 г.)

Археалагічныя раскопкі, якія праводзіліся ў 2008 г. у Полацку археалагічнай экспедыцыяй Інстытута гісторыі НАН Беларусі былі выклікаланы неабходнасцю выканання Дзяржаўнай праграмы археалагічнага даследавання Полацка на 2008–2012 гг., зацверджанай А. Р. Лукашэнкам у снежні 2007 г. Для першага этапа выканання праграмы было прапанавана летам 2008 г. правесці археалагічныя працы на частцы Запалоцкага пасада, якая раней амаль не мела археалагічнага вывучэння, насупраць стрэлкі (машны) Верхняга замка, на правым беразе р. Палаты. У сувязі з вышэйвыкладзеным была вызначана мэта будучых прац, а менавіта: удакладніць межы, час і характар фарміравання дадзенай часткі Запалоцкага пасада [15, с. 2].

Цікавасць да вызначанага ўчастка доследаў была выклікана некалькімі акалічнасцямі. Па-першае, на плане гістарычнага развіцця г. Полацка ў перыяд IX–XIII стст., які быў складзены на аснове ранейшых доследаў на вылучаным для раскопак участку, культурны пласт зусім не значыўся [1, с. 102, рис. 221; 23, с. 137, мал. 42; 27, с. 172, мал. 32] (мал. 1: *1–3*).




Мал. 1. Планы гістарычнай тапаграфіі Полацка IX–XIII стст.: *1* – згодна з Г. В. Штыхавым (з пазначэннем месца раскопу 2008 г. М. В. Клімавым); *2* – згодна з С. В. Тарасавым; *3* – План Полацка XI–XII стст. па Л. В. Аляксееву; *4* – план Полацка па С. Пахалавіцкаму (з сучаснай прывязкай мяркуемага месца раскопак 2008 г. М. В. Клімавым)




Мал. 2. План археалагічных доследаў у 2004–2009 гг.

Па-другое, у 2003 г. Д. У. Дукам у гэтай частцы пасада, за 120 м ад месца будучых раскопак, быў закладзены шурф і знойдзена кераміка XI ст. і больш пазнейшага перыяду, а таксама ніжняя частка кафляной печы пачатку XVI ст. [5, с. 104–113]. З 2004 па 2006 г. культурны пласт на тэрыторыі завулкаў, якія дапасаваліся да вул. Ф. Міронавай, фіксаваўся А. Салаўёвым. Нягледзячы на гэта, у пазнейшых публікацыях выкарыстоўвалася схема распаўсюджвання культурнага пласта, прапанаваная старшымі навукоўцамі [6, с. 35; 7, 2007, с. 28, мал. 1]. Таму ўзнікла неабходнасць удакладніць стратыграфічную сітуацыю адносна ўчастка на правым беразе р. Палаты. Па-трэцяе, размывы самаробнага шляху, які пралягаў праз першую надпоплаўную тэрасу правага берага р. Палаты таксама засведчылі наяўнасць культурнага пласта магутнасцю каля 1 м, у якім пры папярэднім вывучэнні сустракаліся фрагменты гаршкоў з венчыкамі, звернутымі ўнутр (XI–XIII стст.), фрагменты шкляных бранзалетаў.

У выніку археалагічны раскоп быў закладзены ўздоўж першай надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Палаты, за 25–28 м ад вады, за 44 м на поўдзень ад паварота р. Палаты, насупраць паўночнай аканечнасці (машны) Верхняга замка (мал. 1: *1*; мал. 2). Раскоп меў плошчу 72 м$^2$ з наступнымі памерамі: па лініі поўнач–поўдзень – 6 м, па лініі захад–усход – 12 м. Раскоп быў разбіты на квадраты памерамі 2 × 2 м. У працах на археалагічных раскопках прынялі ўдзел выкладчыкі і студэнты-гісторыкі першага курсу гістарычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава ў межах практыкі[1].

Звернемся да аналізу стратыграфіі раскопу 1, у якой прасочвалася два выразных пласта. Першы з пластоў магутнасцю да 0,3 м даследаваўся, пачынаючы са здымання дзірвану. Пры гэтым заўважым, што дзённая паверхня на месцы археалагічных раскопак мела травяністае пакрыццё і перапад вышынь у накірунку з поўдня на поўнач складаў 30–44 см.

Першы пласт вызначаўся неаднародным характарам культурнага слою. У верхняй, дзірваннай частцы раскопу, якая мела шэры колер, утрымліваліся розначасовыя матэрыялы, большасць якіх належала да керамічнага посуду XX ст. і фрагментаў шкла без слядоў ірызацыі. Амаль адразу пад дзірваном на ўзроўні 5–10 см ад дзённай паверхні фіксавалася пяшчаная паводле складу падсыпка. Магутнасць дадзенай падсыпкі складала ад 5 да 15 см. Падсыпка, якая добра чыталася ў профілях раскопу, мела позні характар і была зроблена не раней XIX ст. (мал. 3). Пад пяшчанай праслойкай прасочвалася цёмна-шэрая праслойка, якую магчыма звязваць з перыядам

[1] Прыносім удзячнасць за актыўны ўдзел у раскопках выкладчыкам Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава А. Субоціну і А. Дулаву.

несталага пражывання на дадзенай частцы Запалоцкага пасада ў перыяд XVII–XIX стст. Вызначаная праслойка мела значна перамешаны стан. На істотны характар перамешвання пласта ўказвалі такія знаходкі, як фрагменты керамічнай пліткі (кв. 12), мікраліты і крамянёвыя адшчэпы (кв. 7, 12), мелкія ўкрапленні глінянай абмазкі (кв. 13), солід-барацінчык (мал. 4: *8*) і бразготка X–XII стст. (мал. 5: *1*), металічны шлак, памерамі 8 × 9 см (кв. 15), шрапнэль XIX ст. Доля керамічнага посуду XI–XIII стст. у гэтым пласце складала мінімальную колькасць (мал. 6: *1, 2*). Разам з тым пераважалі больш познія па часе фрагменты, звязаныя з перыядам XV–XVII стст. (мал. 6: *3–5*).

Пераход да пласта 2 вылучаўся на глыбіні 0,25–0,35 м ад дзённай паверхні. Магутнасць пласта складала 0,8–1,2 м. Пласт у агульнай масе меў цёмна-шэрую афарбоку з праслойкамі шэрага і чорнага




Мал. 3. План мацерыка і мацерыковых ям раскопу: *1* – дзённая паверхня, дзірван; *2* – мяжа мацерыка; *3* – камяні; *4* – абпаленыя кавалкі дрэва; *5* – чорны слой; *6* – асобныя вуголлі; *7* – шэры слой; *8* – цёмна-шэры слой; *9* – светла-шэры слой; *10* – пясок; *11* – фрагменты абпаленай гліны; *12* – металічныя шлакі; *13* – межы ям

(вугальнага) слою, што было звязана з пажарам, які адбыўся на месцы помніка (мал. 3). Ва ўсім складзе пласта прасочваліся асобныя мелкія вуголлі і фрагменты глінянай абмазкі (абпаленнай гліны). У пласце не было выяўлена драўляных канструкцый, таму вызначыць будаўнічыя гарызонты не з'яўлялася магчымым. З мэтай больш рэльефнага апісання змен у стратыграфіі пласта 2 усе яго асаблівасці падаюцца адносна дзённай паверхні, тым больш што ўся фотафіксацыя і фіксацыя масавых і індывідуальных знаходак праводзілася па раскопачных пластах магутнасцю 0,2 м.

На ўзроўні 0,2–0,4 м ад дзённай паверхні пласт 2 у агульнай масе працягваў захоўваць цёмна-шэры колер з утрыманнем фрагментаў абпаленай гліны (глінянай абмазкі?) і вуголляў. Колькасць матэрыялаў, характэрных для перыяду XI–XIII стст., значна ўзрасла ў параўнанні з пластом 1. Асабліва гэта праявілася ў істотнай колькасці керамікі канца XI – першай паловы XIII ст. (мал. 6: *6, 12*) і характэрных для таго перыяду артэфактах: 4 фрагментах шкляных бранзалетаў, 2 шыферных прасніцах, бразготках (мал. 5: *2*). Адметным храналагічным маркёрам у верхняй частцы пласта 2 выступаў ключ да замка XII–XIII стст. з кв. 14, які захаваўся толькі фрагментарна (мал. 7: *1*). Адзін з арбалетных балтоў з кв. 7, таксама быў выяўлены на дадзеным узроўні (мал. 8: *6*).

Ужо на ўзроўні 0,2–0,4 м ад дзённай паверхні ў розных частках раскопу (кв. 2, 7, 10, 11) была выяўлена даволі істотная колькасць металічных шлакаў, адзін з якіх меў памеры 7 × 8 см. Пры перавазе керамічных матэрыялаў XI–XIII стст. відавочна прысутнасць і фрагментаў гаршкоў XV–XVII стст. (мал. 6: *3–5*), фрагмента макотры і нават кавалка паліванай, паліхромнай, каробкавай кафлі. Яркім




Мал. 4. Побытавыя рэчы з каляровага металу: *1* – лыжачка; *2* – іголка; *3, 7* – правушыны ад катлоў; *4, 5* – капавушкі; *6* – ключ; *8, 9* – манеты; *10* – гірка-разнавага; *1* – жоўты сплаў; *2, 4–6* – бронза; *3, 7, 8* – медзь; *9* – срэбра; *10* – медзь, чорны метал




Мал. 5. Упрыгажэнні і дэталі адзення: *1–3* – бразготкі; *4* –прывеска-меч; *5, 6, 8* – пярсцёнкі; *7, 9, 12* – элементы пасавай гарнітуры; *10* – бранзалет; *11–13* – спражкі; *14–16* – часткі фібул; *1, 2, 4, 7–11, 13, 15, 16* – бронза; *3, 6* – медзь; *5* – свінцова-алавяністы сплаў; *13* – медна-цынкавы сплаў; *14* – білонавы сплаў




Мал. 6. Венчыкі керамічных гаршкоў (*1–19*) і місак (*20–22*): *1–5* – пласт 1; *6–22* – пласт 2




Мал. 7. Побытавыя рэчы з чорнага металу: *1–3, 5, 6* – ключы; *4, 7–9* – часткі замкоў

храналагічным маркёрам, які ўказваў на XVII ст., з’явіўся крыжык-цельнік (мал. 9: *5*). Несумненна, што клямка з кв. 10 (мал. 10: *7*) папярэдне, храналагічна, можа быць аднесена да XVIII–XIX стст. Безумоўна, што сляды жыццядзейнасці, пазнейшай за XIII ст., фіксуюцца ніжэй за 0,3 м ад дзённай паверхні.

Цвікі, нажы, адшчэпы крамянёвыя дапоўнілі сціслую карціну зместу слою на ўзроўні 0,2–0,4 м ад дзённай паверхні. Відавочна, што матэрыялы верхняй часткі раскопу сведчылі аб слядах жыццядзейнасці на дадзеным участку ў XV–XVII стст. і больш пазнейшы час. Гэты перыяд жыццядзейнасці, відаць, не меў сталага праяўлення ў культурным пласце і істотнай інтэнсіўнасці. Ён вызначаўся выпадковай прысутнасцю матэрыялаў у шэрагу квадратаў на значнай глыбіні ў выніку перакопаў (слупавых ям?), як гэта паказалі і матэрыялы ніжэй ад дзённай паверхні.




Мал. 8. Наканечнікі стрэл (*1–8*)

На ўзроўні 0,4–0,6 м ад дзённай паверхні назіраўся неаднародны склад пласта 2. Сярод цёмна-шэрага слою па ўсіх квадратах была прасочана інтэнсіўная прысутнасць украпленняў абпаленай гліны (глінянай абмазкі?) і вугалляў. У зрэзе культурнага пласта падобныя ўкрапленні не ўтваралі сталых праслоек, а размяркоўваліся хаатычна, дзе фрагменты абпаленай гліны і вуголлі не мелі кампактнага размяшчэння (мал. 3). У некаторых квадратах акрамя фрагментаў глінянай абмазкі і вугалляў была зафіксавана істотная колькасць камянёў, якія ў свой час патрапілі пад уздзеянне высокай тэмпературы. У кв. 13 сярод фрагментаў абпаленай гліны і вугалляў быў выяўлены фрагмент керамічнай пліткі (плінфы?) з ракавістым зломам таўшчынёй 2,4 см. Відавочна, што ў вышэйзгаданых квадратах сярод камянёў (мал. 11: *1*) канцэнтраваўся і шэраг артэфактаў XI–XIII стст., такіх, як: фрагменты шкляных бранзалетаў, шыфернае прасніца (мал. 12: *8*), фрагмент шпоры (мал. 13: *1*), фрагмент фібулы, язычок да фібулы (мал. 5: *16*). Адзначаецца таксама і істотная колькасць керамічнага посуду з венчыкамі, звернутымі ўнутр. У якасці адноснага храналагічнага маркёра выступае і рабрыстая, бочкападобная, шкляная пацерка з сярэбранай фольгай (мал. 14: *6*). У кв. 10, 18 фіксуецца некалькі адметных цвіковых заклёпак з плоскімі плешкамі (мал. 10: *3*).

На ўзроўні 0,4–0,6 м ад дзённай паверхні ў кв. 5, 16, 17, 18 выяўлены металічныя шлакі побач з артэфактамі позняга паходжання, сярод якіх вызначаюцца фрагменты зялёна-паліваных місак XVII–XVIII стст. (мал. 6: *20–22*), фрагменты тэра-



Мал. 9. Культавая мелкая пластыка з бронзы: *1* – іконка-прывеска; *2–5* – крыжыкі-цельнікі; *6, 7* – крыжы-энкалпіёны

котавага керамічнага посуду XV–XVII стст. (мал. 6: *13, 14, 16, 17*), фрагмент абутковай падкоўкі, фрагмент глінянай люлькі (мал. 12: *12*) і самы яркі храналагічны маркёр – манета, якая была вызначана як паўпенязь ВКЛ (мал. 4: *9*) і выраблялася, па вызначэнні Ш. І. Бекцінеева, у перыяд 1410–1420 гг. [3, с. 159].

Асаблівасці пласта 2 на ўзроўні 0,6–0,8 м ад дзённай паверхні праявіліся ў істотным павелічэнні колькасці вугалляў, што асабліва датычылася квадратаў раскопу, дзе назіралася асноўная канцэнтрацыя знаходак, характэрных для жылой пабудовы, а менавіта: фрагментаў шкляных бранзалетаў (кв. 1, 7, 13, 14), нажоў і асялкоў (кв. 2–4, 8–10, 14, 17), ключа тыпу «Б» XII – сярэдзіны XIV ст. (мал. 7: *5*), крэсіва (мал. 15: *18*) і інш. Сярод фрагментаў посуду венчыкі XI–XIII стст. мелі істотную перавагу (мал. 6: *7, 8*). Канцэнтрацыя align="left" рознабаковых матэрыялаў, характэрных у большай ступені для перыяду XI–XIII стст., адпаведна прасочвалася ў заходняй частцы раскопу, дзе прысутнічала і шмат камянёў (мал. 11: *2*). Далей кв. 8, 13 і ў кв. 14 на ўзроўні 0,6–0,8 м ад дзённай паверхні адзначаліся тыя ж




Мал. 10. Скабяныя вырабы з чорнага металу: *1, 2* – цвікі; *3* – цвікападобная заклёпка; *4, 5* – скобы; *6* – пятля; *7* – клямка; *8* – запорная скаба; *9* – зацiск; *10* – правушына; *11, 12* – дзвярныя кольцы; *13* – крук

2.1




2.2




2.3




Мал. 11. План раскопу 1: *2.1* – на ўзроўні 0,4–0,6 м ад дзённай паверхні; *2.2* – на ўзроўні 0,6–0,8 м; *2.3* – на ўзроўні 0,8–1,0 (1,1) м ад дзённай паверхні. Планіграфія асноўных артэфактаў (спасылка на малюнак у артыкуле): № 1 (мал. 13: *1*); № 2 (мал. 4: *9*); № 3 (мал. 14: *6*); № 4 (мал. 13: *2*); № 5 (мал. 9: *6*); № 6 (мал. 8: *5*); № 7 (мал. 8: *2*); № 8 (мал. 9: *7*); № 9 (мал. 9: *2*); № 10 (мал. 5: *9*); № 11 (мал. 5: *11*); № 12 (мал. 8: *3*); № 13 (мал. 9: *4*); № 14 (мал. 8: *7*); № 15 (мал. 5: *5*); № 16 (мал. 4: *5*); № 17 (мал. 8: *1*)




Мал. 12. Вырабы з шыферу (*1–10*) і гліны (*11, 12*): *1–10* – прасніцы; *11* – элемент для гульняў; *12* – фрагмент люлькі

складнікі пласта. Тут, у цёмна-шэрым слоі, выяўлены фрагмент тэракотавай пліткі, фрагменты венчыкаў канца XI – XIII ст. і камяні. На дадзеным узроўні ў кв. 14 адбыўся выхад на перадмацерыковы слой, які складаўся з пяску і быў перанасычаны вуголлем, камянямі і вялікай колькасцю металічных шлакаў. Значная колькасць металічных шлакаў характэрна і для кв. 15, 16. У кв. 8 пры разборцы слою з камянямі і вуголлямі быў выяўлены скрутак ланцуга. Не выключана, што ланцуг выконваў функцыю ланцуговага трымальніка для катла, на што ўскосна ўказвае адмысловая адтуліна-фіксатар ў верхнім звяне (мал. 16: *1*). Паказальна, што шыферныя прасніцы (мал. 12: *1, 4, 7, 11*) знаходзіліся ў розных квадратах амаль на адным узроўні па нівеліры. Асаблівасцю пласта на ўзроўні 0,6–0,8 м ад дзённай паверхні з'яўлялася і павелічэнне колькасці знаходак наканечнікаў стрэл і культавай пластыкі. Наканечнік стралы і арбалетны болт былі знойдзены ў кв. 14, 11 (мал. 17: *2, 5*). З кв. 7 паходзіў крыжык-цельнік (мал. 9: *3*), з кв. 8 – створка крыжыка-энкалпіёна (мал. 9: *7*). Унікальнай знаходкай з кв. 16 выступае поўнасцю захаваны крыж-энкалпіён XII–XIII стст. са следам ўздзеяння высокай тэмпературы (мал. 9: *6*). Адметным храналагічным маркёрам з'яўляўся бронзавы ключ да нутранога замка XII–XIII стст. (мал. 4: *6*). Да рыштунку вершніка належаў фрагмент шпоры з кв. 9 (мал. 13: *2*). Выключэннем з храналагічнага шэрага XI–XIII стст. з'яўлялася дужка да замка тыпу «Е» па наўгародскай тыпалогіі (мал. 7: *9*). Бытаванне падобных замкоў пачынаецца ў сярэдзіне XIV ст. і адбываецца значна пазней вышэйуказанага




Мал. 13. Рыштунак вершніка і каня: *1, 2* – шпоры; *3, 4* – фрагменты цугляў; *5* – частка страмёнаў; *6, 7* – ледаходныя шыпы; *8* – частка падковы; *1–8* – чорны метал

храналагічнага прамежку [16, с. 162]. Таксама некаторыя з фрагментаў посуду з узроўню 0,6–0,8 м ад дзённай паверхні адносіліся да XVI–XVII стст. (мал. 6: *15*). У выніку магчыма казаць аб тым, што часткова перакоп культурнага пласта быў зафіксаваны і да глыбіні 0,8 м ад дзённай паверхні.

На ўзроўні 0,8–1,0 м ад дзённай паверхні асноўны склад пласта меў цёмна-шэрую афарбоўку з уключэннямі вуголляў і фрагментаў абпаленай гліны. Асабліва выразна падобны склад пласта праявіўся ў кв. 4, 8, 9. У кв. 13 пры выхадзе на мацярык былі зафіксаваны даволі вялікія вуголлі памерамі 2 × 3 см. Як і вышэй па слоі раскопу прасочвалася шмат металічных шлакаў. Побач са шлакамі звычайна фіксаваліся камяні і фрагменты глінянай абмазкі. У гэтым сэнсе паказальна наяўнасць вялікай колькасці шлакаў у кв. 17 побач з камянямі. Але казаць аб тым, што гэта рэшткі домнаў, не карэктна, бо зусім не былі сустрэты соплы і канцэнтрацыя фрагментаў глінянай абмазкі побач з камянямі мела неінтэнсіўны характар. Для складу пласта на ўзроўні 0,8–1,0 м ад дзённай паверхні характэрна значная колькасць камянёў, асабліва ў заходняй частцы раскопу. У кв. 2 сярод камянёў былі выяўлены вялікія фрагменты глінянай абмазкі і нават косткі. У большасці квадратаў пры зачыстцы перадмацерыковага слою прасочваўся выхад на мацярык і абазначыліся контуры мацерыковых ям. На перадмацерыковым узроўні рэчавы склад пласта 2 не істотна адрозніваўся ад складу пласта на ўзроўні 0,6–0,8 м ад дзён-




Мал. 14. Вырабы са шкла: *1–3, 5* – бранзалеты; *4, 6, 7, 9–11* – пацеркі; *8* – устаўка ў пярсцёнак

най паверхні, што можа сведчыць аб тым, што на ўзроўні 0,6–1,0 м (1,2 м) ад дзённай паверхні адбывалася фарміраванне пласта 2 у храналагічных межах XI – першай паловы XIII ст. У сувязі з гэтым заўважым, што ў складзе керамічнага посуду сярод традыцыйных венчыкаў канца XI–XIII ст. (мал. 18: *3–8*) павялічылася доля венчыкаў, у большай ступені характэрных менавіта для XI ст. (мал. 18: *2*). Асобна трэба адзначыць венчык з карнізікам (мал. 18: *1*).

Сярод іншых асаблівасцей культурнага пласта на перадмацерыковым узроўні адзначым наступнае. Асноўная колькасць нажоў і асялкоў канцэнтравалася ў заходняй і цэнтральнай частках раскопу, асабліва ў кв. 3, 4, 9, 10, 16. Усе фрагменты шкляных бранзалетаў выяўлены бліжэй да ўсходняй часткі раскопу (кв. 4–6, 18). У розных частках раскопу былі знойдзены наканечнікі стрэл (мал. 8: *1, 3, 7*). У якасці адносных храналагічных маркёраў перадмацерыковага пласта выступілі: фрагменты амфары з кв. 1, фібула з кв. 2 (мал. 5: *15*), крыжыкі-цельнікі з кв. 9, 17 (мал. 9: *2, 4*), ключ XII ст. (мал. 7: *2*), гірка-разнавага (мал. 4: *10*), шчытковы пярсцёнак з выявай праквітнеўшага крыжа з кв. 1 (мал. 5: *5*) і лірападобная спражка (мал. 5: *11*). Заўважана канцэнтрацыя ў кв. 10 асялкоў (мал. 19: *1, 10*). З гэтага ж квадрата паходзіць і керн ад свідраванай сякеры, асаблівасцю якога з'яўлялася наяўнасць аднаго зашліхтаванага, сплошчанага боку (мал. 19: *7*). Гэтую асаблівасць керна магчыма патлумачыць толькі яго другасным выкарыстаннем для шліфавальнай справы ці падточкі нажоў. Укажам на тое, што побач з кв. 10 у суседніх квадратах на ўзроўні 0,6–0,8 м ад дзённай паверхні заўважана канцэнтрацыя асялкоў, што з'яўлялася адным з ускосных маркёраў існавання пабудовы.

Асаблівасцю прадмацерыковага пласта трэба лічыць і тое, што на дадзеным стратыграфічным узроўні выяўлена даволі шмат фрагментаў рыштунку вершніка і каня, сярод якіх вылучаецца частка цугляў (мал. 13: *4*), падножная пласціна для стрэмені (мал. 13: *5*) і ледаходныя шыпы (мал. 13: *6, 7*).

Нягледзячы на аўтэнтычны пласт XI–XII стст. на перадмацерыковым узроўні, бліжэй да паўднёвай сценкі раскопу, фіксаваўся перакоп, аб чым сведчыць наяўнасць часткі ключа тыпу «Д» па наўгародскай класіфікацыі ў кв. 5 і дужка замка з пружынай тыпу «Д» (мал. 7: *8*). У гэтай сувязі застаецца не зусім зразумелай храналогія двух элементаў ад дзвярных запораў (мал. 10: *8, 11*).

Такім чынам, пласт 2 па сукупнасці матэрыялаў датаваўся ў межах XI – першай паловы XIII ст., аб чым сведчаць вышэйуказаныя матэрыялы. Звер-




Мал. 15. Побытавыя рэчы з чорнага металу: *1–6, 10, 14* – нажы; *7* – шыла; *8, 9* – іглы; *11–13* – рыбалоўныя кручкі; *15* – праколка; *16* – фібула; *17* – спражка; *18* – крэсіва; *19* – дужка

нем увагу на тое, што бліжэй да мацерыка павялічылася колькасць шлакаў, вуголляў і абпаленай гліны. На ўзроўні 0,6–1,0 м ад дзённай паверхні неабходна казаць аб наяўнасці пабудовы, якая знікла ў выніку пажару. Крыжыкі-цельнікі, фрагмент капавушкі (мал 4: *5*), шыферныя прасніцы, нажы і асялкі ўскосна ўказваюць на гэта. Звяртае на сябе ўвагу вялікая колькасць наканечнікаў стрэл на вышэйуказаным ўзроўні.

Пасля выбаркі пласта 2 пачалася зачыстка перадмацерыковай паверхні, якая дазволіла выявіць на перадмацерыку нагрувашчанне камянёў у кв. 14 (мал. 3). Адзначым, што глінянай абмазкі разам з камянямі не зафіксавана. На мацерыку прасочваліся асобныя




Мал. 16. Прылады з чорнага металу: *1* – ланцуг; *2* – зубіла




Мал. 17. Венчыкі керамічных гаршкоў (*1*–*7*) з археалагічных даследаванняў 2005–2009 гг.




Мал. 18. Венчыкі керамічных гаршкоў (*1–11*). Пласт 2

фрагменты керамікі XI–XII стст. Рэчавы склад слою зачысткі характарызаваўся разнастайнасцю. Рэдкай знаходкай трэба прызнаць бронзавую прывеску-іконку з выявай св. Георгія (мал. 9: *1*). З кв. 14 паходзіў наканечнік стралы (мал. 8: *4*) і шыла (мал. 15: *7*), у кв. 15 – рыбалоўны кручок (мал. 15: *11*), асялок (мал. 19: *5*). У кв. 13 выяўлена частка дужкі ад невядомай пасудзіны (мал. 15: *19*). У якасці рэдкай знаходкі згадаем біканічную пацерку (мал. 14: *4*). Мацярык меў жоўты колер і складаўся з пяску. Пасля зачысткі перадмацерыковай паверхні пачалася разборка мацерыковых ям.

У мацерыку сукупна было выяўлена 12 мацерыковых ям. Усе яны мелі свае асаблівасці запаўнення і храналогіі (мал. 3). Запаўненне ямы № 1 складаў шэры слой з дамешкам мелкіх вуголляў, фрагментаў керамікі XI–XIII стст. (мал. 20: *1–4*). Сярод матэрыялаў выяўлены цвікі, фрагмент нажа.

Запаўненне ямы № 2 складалася з цёмна-шэрага і чорнага слою з вуголлямі, фрагментамі абпаленай гліны і камянямі. У яме было шмат фрагментаў керамічных гаршкоў з венчыкамі, звернутымі ўнутр, канца XI – XIII ст. (мал. 20: *5, 6*) і значная колькасць костак жывёл. Адзін з венчыкаў гаршкоў таксама датаваўся ў межах XI ст. (мал. 20: *12*). Некаторыя з фрагментаў мелі больш познюю храналагічную мяжу, чым XIII ст. Гэта ўказвала на тое, што перакопы фіксаваліся і на дадзенай глыбіні (мал. 20: *7–11*). Істотная доля знаходак належала цвікам, скобам і пласцінам нявызначанага паходжання. Гэта сведчыла аб тым, што яма № 2 з'яўлялася часткай былой пабудовы. Гэту выснову дадаткова пацвярджалі рэчы побытавага характару, сярод якіх вызначаліся: нажы, шыла, шыферныя прасніцы (мал. 12: *5, 9*), фрагмент шклянога бранзалета, асялкі, зубіла (мал 16: *2*), жалезная іголка. У кв. 4 ў яме была выяўлена капавушка з фігуркай сабачкі на завяршэнні (мал. 4: *4*), фрагмент свянцовага пярсцёнка, бронзавае кальцо на пас (мал. 5: *7*) і наканечнік стралы (мал. 8: *8*). Яркімі храналагічнымі маркёрамі з'яўляліся дзве дужкі са спружынамі ад замкоў тыпу «В» (мал. 7: *4–7*) і масіўны ключ ад нутранога замка (мал. 7: *3*). Падобныя ключы сустракаюцца з XII ст. Звернем увагу на тое, што дзве дужкі ад аднатыпных замкоў знаходзіліся на адным стратыграфічным узроўні (адзнакі па нівеліру: 260 і 264 см адпаведна). Знаходка падобных артэфактаў не выглядае выпадковай з улікам таго, што ў гэтай жа яме на стратыграфічным узроўні 270 см была выяўлена частка дзвярнога запора ў выглядзе кальца і абламанай пласціны (мал. 10: *12*). Яма мела дачыненне да ямы № 3 і не выключана, што яна з'яўлялася ніжняй часткай пабудовы. Яма датуецца ў межах XI–XIII стст.

Яма № 3 была запоўнена цёмна-шэрым слоем з чорнымі праслойкамі, якія ў асноўным складаліся




Мал. 19. Вырабы з каменю: *1–5, 8–10* – асялкі; *6* – прывеска; *7* – керн

з вуголля. У верхняй частцы ямы было зафіксавана шмат камянёў, праслойка, якая складалася з вуголля, кавалкаў абпаленага дрэва, абпаленай гліны, камянямі са следам ўздзеяння высокай тэмпературы і ўтрымлівала металічныя шлакі. Вельмі важна адзначыць стратыграфічную сітуацыю, звязаную са шлакамі. Так, у кв. 5, 8 пад шлакамі былі знойдзены асобныя вуголлі і фрагмент керамікі з венчыкам, звернутым унутр (каля XI–XIII стст.). Тая ж сітуацыя ідэнтычна і для кв. 9, дзе пад праслойкай абпаленай гліны, сярод камянёў і вуголляў, у ніжняй частцы ямы былі зафіксаваны шлакі. У Запаўненні ямы выяўлена шыфернае прасніца (мал. 12: *6*) і асялкі (мал. 19: *2, 4*). Такім чынам, храналагічная сітуацыя ямы № 3 ідэнтычная сітуацыі ў яме № 2. Агульная форма ямы пасля поўнай разборкі культурнага пласта блізкая да авальнай, падобна на ніжнюю частку пабудовы, заглыбленай у мацярык. Яма датавалася XI–XIII стст.

Невялікая яма № 4 уваходзіла ва ўсходнюю частку раскопу і была запоўнена шэрым слоем з вуголлямі. Ідэнтычная сітуацыя прасочвалася




Мал. 20. Венчыкі керамічных гаршкоў з мацерыковых ям: *1–4* – яма № 1; *5–12* – яма № 2; *13–22* – яма № 3

і ў дачыненні да ямы № 5, у якой назіраўся шэры слой без істотных матэрыялаў. У верхняй частцы ямы выяўлена частка заціску для прабоя ці жалезнага ланцуга (мал. 10: *9*). Не мае датуючых матэрыялаў і шэры слой запаўнення ямы № 6, 8, 9. У ніжняй частцы ямы № 10 прасочвалася толькі прысутнасць вялікіх вуголляў.

У верхняй частцы запаўнення ямы № 7 быў выяўлены цёмна-шэры слой з вуголлямі, сярод якіх сустракаліся даволі вялікія, памерамі: 2 × 3 см; 4 × 5 см. У самым нізе ямы сярод фрагментаў гліны прасочваліся вуголлі, фрагмент амфары, цвікі. Яма № 11 мела адкрыты характар і фіксавалася побач з нагрувашчаннем камянёў на мацерыку. У яме выяўлены цвікі ў значна саржавелым стане, жалезная абламаная ігла. Яма № 12 таксама не мела датуючых матэрыялаў.

Звернемся да агульнай характарыстыкі матэрыялаў, атрыманых у выніку археалагічных раскопак.

Найбольшая колькасць індывідуальных знаходак была выраблена з чорнага металу, сярод якіх пераважалі скабяныя вырабы, прадстаўленыя цвікамі (мал. 10: *1, 2*), фрагментамі дзвярных кручкоў, клямкай (мал. 10: *7, 13*), пяцельнай завесай (мал. 10: *6*), прабоем (мал. 10: *8*), кольцамі дзвярнымі (мал. 10: *11, 12*), зажымам (мал. 10: *9*) і інш.

Значную колькасць вырабаў дадзенай групы складалі скобы і шыпы да скобаў. Скобы мелі розныя памеры, ад невялікіх (мал. 10: *4*) да масіўных (мал. 10: *5*).

Побытавыя рэчы ў раскопе былі прадстаўлены наборам рэчаў з чорнага і каляровага металаў, сярод якіх былі вылучаны наступныя вырабы з чорнага металу: шыла (мал. 15: *7*), іголкі (мал. 15: *8, 9*), спражка (мал. 5: *17*), частка дужкі для посуду, нажы. Апошнія датуюцца ў адносна шырокіх храналагічных межах: ад XI да XVII стст. Большасць нажоў належала да катэгорыі універсальных і адносілася да перыяду XI–XIII стст. (мал. 15: *1, 3–6*). Адзін з нажоў меў характэрную лажбінку на верхняй частцы палатна (мал. 15: *2*), а іншы быў дэфармаваны ў выніку ўздзеяння высокай тэмпературы і меў значнае скрыўленне палатна (мал. 15: *14*). З рамеснай дзейнасцю неабходна звязваць экзэмпляр нажа з шырокім лязом (мал. 15: *10*).

Асобную катэгорыю рэчаў складалі ключы і замкі. Большасць ключоў датавалася ў межах XII–XIII ст. і належала да нутраных замкоў (мал. 7: *1–3*). Адзін з ключоў адносіўся да перыяду XI–XIII стст. і меў абламаную круглую частку. Разам з тым ён быў арнаментаваны і прызначаўся для замкоў тыпу «Б» (мал. 7: *4*). Да тыпу «Е» адносіўся толькі фрагментарна захаваны экзэмпляр (мал. 7: *9*). У раскопе не было знойдзена ніводнага поўнасцю захаванага замка. Выяўлена некалькі частак замкоў, сярод якіх трэба адзначыць дужку ад замка тыпу «Д» (мал. 7: *8*), дужку са спружынай ад замка тыпу «Е» (мал. 7: *9*), дзве дужкі са пружынамі да замкоў тыпу «В» (мал. 7: *4, 7*).

Рэдкай знаходкай сярод побытавых вырабаў трэба прызнаць авальнае крэсіва з прадольнымі раўчукамі па корпусе (мал. 15: *18*). Авальныя крэсівы ўжываліся, згодна з наўгародскай храналогіяй, з сярэдзіны XII ст. [16, с. 163]. Рыбалоўныя кручкі (мал. 15: *11–13*), праколка (мал. 15: *15*), якая мела бронзавае калечка і правушыны для пасудзін (мал. 10: *10*) дапоўнілі спектр побытавых вырабаў. Спецыфічным вырабам, які ўжываўся ў сферы побыту з'яўляўся цэп са спецыяльным трымальнікам (мал. 16: *1*). Да інструментаў неабходна аднесці зубіла (мал. 16: *2*).

Асобную катэгорыю вырабаў з чорнага металу склалі зброя і ваенны рыштунак вершніка і каня. Зброя была прадстаўлена выключна наканечнікамі стрэл. Сярод апошніх былі адзначаны некалькі тыпаў: шылападобныя, чарашковыя (мал. 8: *7*, 8); лістападобны, чарашковы наканечнік (мал. 8: *1*), утулкавыя наканечнікі стрэл (мал. 8: *2–4*). Два наканечнікі адносіліся да арбалетных балтоў (мал. 8: *5, 6*). Шылападобны наканечнік (мал. 8: *7*, тып 87 па А. Ф. Мядзведзеву) датаваўся ў межах XII–XIV стст. [19, таб. 30: *80*]. Наканечнікі № 2–4 мелі шырокія межы бытавання, ад VII–VIII да XIII–XIV стст. [19, с. 56]. Ромбавідны наканечнік, які быў аднесены да 44 тыпу, мог быць датаваны ў межах IX–XI стст. [19, с. 67, таб. 30: *40*].

Склад рыштунку вершніка і каня з раскопу складаўся з двух фрагментаў шпор (мал. 13: *1, 2*) і ніжняй часткі стрэмені (мал. 13: *5*). Яе выгін і форма ўскосна сведчаць на карысць прыналежнасці стрэмені да XI–XIII стст., калі выкарыстоўвалі мяккі абутак. Па форме пласціны падножкі стрэмя блізкае да тыпу X (па класіфікацыі А. М. Кірпічнікава), які храналагічна адносіцца да XII–XIII стст. [14, с. 54, табл. 15].

Аб рыштунку каня магчыма меркаваць толькі па частках цугляў (мал. 13: *3, 4*), ледаходных шыпах (мал. 13: *6, 7*) і частцы падковы (мал. 13: *8*).

Значная група артэфактаў з раскопу была прадстаўлена вырабамі з каляровых металаў. Крыжыкі-цельнікі XVII ст. (мал. 9: *5*) і XI–XIII стст. (мал. 9: *2–4*) згадваліся вышэй. Упершыню ў Полацку сустрэты крыжык-цельнік са спецыфічнай арнаментацыяй (мал. 9: *4*), які мае прамыя аналогіі сярод падобных знаходак з Ноўгарада, Польшчы, Латвіі і Украіны [20, с. 96, рис. 49: *1*; 21, с. 50, рис. 16: *17*]. Выключнымі знаходкамі з'яўляліся два крыжыка-энкалпіёна. Ад аднаго засталася толькі створка (мал. 9: *7*). Падобная знаходка створкі вядома з гарадзішча Маскавічы і мае прамыя аналогіі сярод знаходак з тэрыторыі Латвіі [8, с. 52, рыс. 31: *1*; 17, с. 177, таб. 104: *IV.6.4/46*]. Другі крыж-энкалпіён захаваўся поўнасцю і меў пашкоджанне ад высокай тэмпературы (пажару?) (мал. 9: *6*). Прывеска-іконка

з выявай св. Георгія (мал. 9: *1*) мела аналогію сярод матэрыялаў з Ваўкавыска [12, с. 393, мал. 98: *1*].

Найбольшая колькасць вырабаў з каляровых металаў была аднесена да групы ўпрыгажэнняў і дэталяў адзення. Сярод іх вылучаліся часткі бразготак (мал. 5: *1–3*), віты бранзалет (мал. 5: *10*), пярсцёнкі (мал. 5: *6, 8*), дэталь (мал. 5: *4*). Падобны прадмет з Мінска трактаваўся як меч-амулет [10, с. 321, таб. XVII]. Адзін з пярсцёнкаў меў выяву праквітнеўшага крыжа (мал. 5: *5*). Гэта першая вядомая знаходка пярсцёнка з падобнай выявай на тэрыторыі Беларусі. Матыў «праквітнеўшага крыжа» шырока выкарыстоўваўся на вырабах з каляровых металаў у XI–XIII стст. на тэрыторыі Усходняй Еўропы і ў межах сучаснай Беларусі [4, с. 296, таб. 50, рис. 53: *19*, таб. 60: *14*; 18, с. 89, рис. 298–304].

Да адзення жыхароў X–XIII стст. з матэрыялаў раскопу належалі фрагменты фібул (мал. 5: *15, 16*). Адзін з фрагментаў фібул меў фігурную галоўку і быў зроблены з медзі і пакрыты срэбрам (мал. 5: *14*). Фібулы з аналагічнымі завяршэннямі былі выяўлены ў свой час яшчэ Завітневічам у Мінскім рэгіёне і пры пазнейшых раскопках у могільніку Нісімкавічы [2, с. 463]. Падобныя фібулы сустрэты і на тэрыторыі Расіі, у Курскай вобласці і Суздалі, дзе яны звязваюцца з колам скандынаўскіх старажытнасцей і класіфікуюцца як фібулы з савінымі галовамі [25, с. 207, 209]. Пасавая гарнітура была прадстаўлена кальцом (мал. 5: *7*), лірападобнай спражкай (мал. 5: *11*), авальнай спражкай (мал. 5: *13*) і ажурнай накладкай (мал. 5: *9*). Падобная накладка выяўлена ўпершыню на тэрыторыі Беларусі. Аналагічныя рэчы найбольш характэрны для кола старажытнасцей Скандынавіі і Балтыйскага рэгіёна [24, стр. 257, таб. IX: *35*][1].

З ліку побытавых рэчаў, зробленых з каляровых металаў, неабходна адзначыць ключ, які выкарыстоўваўся для нутраных замкоў у XII–XIII стст. (мал. 4: *6*), частку лыжачкі (мал. 4: *1*), медныя дужкі да катлоў (мал. 4: *7*), фрагмент капавушкі (мал. 4: *5*) і бронзавая капавушка з выявай сабачкі (мал. 4: *4*). Дэкаратыўны элемент у выглядзе сабачкі быў даволі папулярны ў мастацтве XI–XIII стст. і вядомы на капавушках з тэрыторыі Беларусі [2, с. 452].

Аб грашовым абарачэнні сведчаць такія знаходкі, як солід – барацінка, канца 50-х – пачатка 60-х гадоў XVII ст. (мал. 4: *8*), паўпенязь ВКЛ XV ст. (мал. 4: *9*) і гірка-разнавага (мал. 4: *10*), якая датуецца другой паловай X ст.[2]

У прадстаўленай публікацыі свядома пазбягаем падрабязнага апісання керамічных вырабаў (посуду, будаўнічага матэрыялу), бо храналагічныя моманты адносна прадстаўленай катэгорыі рэчаў прыводзяцца па тэксту. У ліку рэдкіх знаходак згадаем фрагмент чырвонагліняны люлькі для смалення (мал. 12: *12*) і керамічны шарык са сплошчанымі пласкасцямі (мал. 12: *11*).

Вырабы са шкла ў асноўным прадстаўлены пацеркамі, фрагментамі шкляных бранзалетаў і зялёнай устаўкай для пярсцёнка (мал. 14: *8*). Было выяўлена некалькі пацерак, сярод якіх адна сіняя (мал. 14: *7*), срэбрана-шкляная (мал. 14: *6*), пацеркі з празрыстага шкла (мал. 14: *9*, 10), біпірамідальная, пашкоджаная ад уздзеяння высокай тэмпературы (мал. 14: *4*). Адна пацерка па фактуры была зроблена з глушонага шкла, паліхромная па гаме колераў (мал. 14: *11*).

Шкляныя бранзалеты з раскопу сустрэты толькі ў фрагментарным стане і мелі гладкае (мал. 14: *1*), вітое (мал. 14: *3, 5*) і псеўдавітое сячэнне. Большасць з бранзалетаў была зроблена з сіняга шкла, але трапляліся і іншыя экзэмпляры. Адзін з бранзалетаў меў светла-жоўты колер і быў перавіты «залатой ніткай» (мал. 14: *2*).

Поўнавартасных вырабаў з косткі не выяўлена. Адна з костак мела рысы, падобныя на графіці літары «А».

Найбольшую колькасць вырабаў з каменю ў раскопе 1 склалі асялкі розных памераў. Масіўныя асялкі (тачыльныя камяні) вызначаліся няроўнымі прапорцыямі (мал. 19: *4, 8, 9*) ці мелі падпраўленыя да формы прамакутніка грані (мал. 19: *10*). Некаторыя фрагменты з шэрага сланца (шыфер) мелі значна сточаны стан (мал. 19: *5*) Два экзэмпляры асялкоў мелі адтуліны (мал. 19: *1, 2*).

Меншую па колькасці групу вырабаў з каменю склалі прасніцы, зробленыя з шыфернага сланца ў цэлым (мал. 12: *6–10*) і фрагментарным стане (мал. 12: *1–5*). Большасць з іх мела біканічную форму.

Асобная група вырабаў з каменю была прадстаўлена крамянёвымі вырабамі. У раскопе былі зафіксаваны фрагменты крэменю (скалкі), адшчэпы, некалькі скрабковых прылад і абламаны наканечнік, блізкі па апрацоўцы дзяржання да кола Свідэрскіх старажытнасцей[3].

Незвычайнай знаходкай з'яўляўся і керн, які належаў да адыходаў пры вырабе свідраванай сякеры (мал. 19: *7*). Асаблівасцю керна было яго другаснае выкарыстанне, у выніку чаго адна плоскасць аказалася сплошчанай.

Выклікае складанасці і ідэнтыфікацыя дэталі з адтулінай. Яна падобна на падвеску, зробленую з каменю (мал. 19: *6*). Падобная дэталь не мае дачынення да асялкоў з адтулінамі, бо зроблена з цвёрда-

[1] Падрабязна пасавая гарнітура аналізуецца ў асобным артыкуле аўтара і П. М. Кенькі.

[2] Просім ўдзячнасць Ш. І. Бекцінееву за зробленыя ім вызначэнні.

[3] Прыносім удзячнасць І. Язэпенку, М. Чарняўскаму, М. Крывальцэвічу.

га, не мелкадысперснага каменю і на ёй не фіксуецца след злому ў ніжняй частцы вырабу.

На аснове аналіза матэрыялаў, атрыманых у выніку археалагічных раскопак, разгледзім паэтапна гісторыю развіцця дадзенай часткі Полацка.

Наяўнасць крамянёвых прылад працы ўскосна можа сведчыць пра тое, што раскоп закрануў частку ранейшай па часе стаянкі. Абламанае свідэрскае дзяржанне прылады можа ўказваць на час мезаліту, якім магчыма датаваць пачатак жыццядзейнасці на гэтым участку.

Наступны перыяд жыццядзейнасці неабходна звязваць з перыядам сярэднявечча. Перш за ўсё выклікае пытанне час пачатковага засялення дадзенай часткі Полацка ў сярэднявечны час. Якім чынам дакладна вызначаць храналогію пачатка жыццядзейнасці на помніку: канцом X ст. ці пачаткам XI ст.? У гэтай сувязі звяртае на сябе ўвагу поўная адсутнасць фрагментаў ляпнога керамічнага посуду, падпраўленага на ганчарным коле, характэрнага для другой паловы X ст. Пытанне ўскладняецца і адсутнасцю дакладнага храналагічнага зрэзу некалькіх ганчарных венчыкаў, якія традыцыйна адносяцца да XI ст. (мал. 18: *1*; мал. 20: *1, 12*). Па нашым меркаванні, з'яўленне падобных венчыкаў павінна адпавядаць канцу X ст. Па ўкраінскіх матэрыялах, венчык раскопу з закругленым завяршэннем і падкарнізікам (мал. 20: *1*) датуецца па-рознаму: 1) у межах рубяжа X–XI – 30-х гадоў XI ст. [20, с. 58, рис. 32]; 2) характэрны для комплексаў сярэдзіны X – сярэдзіны XI ст. [13, с. 76, мал. 3: тып X]. Дакладна не вядома, калі разгледжаны тып керамікі патрапіў на тэрыторыю Полаччыны, таму гіпатэтычна магчыма дапускаць, што ніжняя храналагічная мяжа дадзенага венчыка ў Полацку вызначаецца X ст. у шырокім разуменні, бо пакуль не выяўлена зачыненных комплексаў у Полацку з падобным венчыкам, удакладніць яго храналогію не магчыма. Раннім венчыкам з'яўляецца і тып венчыка з карнізікам (мал. 18: *1*). Г. В. Штыхавым прадстаўлены венчык блізкі да тыпу II полацкай керамікі і датуецца аўтарам як тып, найбольш характэрны для XI ст. [26, с. 81, рис. 40]. Ю. А. Заяцам дапускаецца існаванне падобнага тыпу (аддзел II, тып 2, варыянт В) у шырокім часовым дыяпазоне (з канца X ст. да пачатаку XII ст.) [11, с. 76, рис. 55]. Таму адносна дадзенага венчыка бяспрэчным у храналогіі бытавання застаецца XI ст. Акрамя керамічнага посуду некаторыя рэчы таксама маюць ніжнюю мяжу бытавання – X ст. Так, па вызначэнні Ш. І. Бекцінеева, гірка-разнавага згодна з метралагічнымі дадзенымі адпавядае часу сярэдзіны – другой паловы X ст. Пацеркі з раскопу даюць у асноўным ніжнюю храналагічную мяжу, пачынаючы з XI ст. Так, па матэрыялах Кіеўскага Падола, рабрыстая бачонкападобная пацерка з сярэбранай фольгай (аналаг – мал. 14: *6*) паходзіла з комплекса XI – першай паловы XII ст., а пацеркі з пластычным арнаментам (мал. 14: *11*) – з комплексаў XII – першай паловы XIII ст. [9, с. 259]. Бачонкападобныя пацеркі з залатой і сярэбранай фольгай па наўгародскай храналогіі мелі шырокія межы бытавання, пачынаючы з X ст. [16, с. 167].

Вышэй указвалася на шэраг рэчаў, якія бытавалі ў XI–XIII стст. У гэтай сувязі ўзнікае пытанне, звязанае з храналогіяй пажару, які знішчыў помнік у перыяд сталага сярэднявечча. Калі вырашаць пытанне аб храналогіі пажару, неабходна мець канкрэтныя храналагічныя маркёры. Адносных храналагічных маркёраў, якія ўказваюць на шырокае датаванне (XII–XIII стст.) даволі шмат. Напрыклад, масавы матэрыял з адноснай храналагічнай схемай у раскопе прадстаўлены фрагментамі шкляных бранзалетаў і амфар. Шкляныя бранзалеты ў Полацку бытавалі з канца XII па канец XIII ст., а амфары – у X – першай палове XIII ст. [23, с. 32, мал. 43–46]. Гэтую ж катэгорыю матэрыялаў дапаўняюць і шыферныя праснiцы. Максімум іх распаўсюджвання на тэрыторыі Беларусі прасочваецца ў другой палове X – першай палове XIII ст. [22, с. 122]. Шыферныя праснiцы паступова выходзілі з выкарыстання, пачынаючы з 40-ых гадоў XIII ст., але гэты працэс не меў рэзкі характар. Каштоўнасць сярод артэфактаў з шырокімі межамі бытавання мелі тыя, якія паходзілі са слою пажару і на якіх фіксаваліся сляды высокатэмпературнага ўздзеяння. Сярод падобных артэфактаў перш за ўсё адзначым фрагменты керамікі, якія мелі венчыкі, звернутыя ўнутр (апісаны вышэй тып). Калі з пачаткам бытавання дадзенага тыпу пытанняў амаль не ўзнікае, то адносна знікнення тыпу могуць існаваць лакальныя дыскусіі, адносна таго, ці дажывае пазначаны тып у Полацку да сярэдзіны XIII ст.? У слоі пажару выяўлены таксама і крыж-энкалпіён са слядамі пашкоджання ад уздзеяння высокай тэмпературы. Найбольш блізкія аналогіі падобнага энкалпіёна былі выяўлены ў пачатку XX ст. на тэрыторыі Кіеўскай губерніі, адна з аналогій падобнага крыжа датавалася ў межах XII ст., адваротная створка іншага крыжа – XII – першай паловай XIII ст. [17, с. 133, 136, таб. 76: *III.3.1/32; III.1/5*]. Такім чынам, спыненне жыццядзейнасці найбольш верагодна датаваць у межах канца XII – першай паловы XIII ст.

Аналізуючы сам характар жыццядзейнасці ў межах XI–XIII стст., адзначым тое, што сукупнасць матэрыялаў дазваляе вылучыць некалькі накірункаў у жыццядзейнасці на даследаванай тэрыторыі ў перыяд XI–XIII стст. Адзін з накірункаў быў звязаны з апрацоўкай чорнага метала, аб чым сведчыць наяўнасць вялікай колькасці металічных шлакаў і зубіла. Але месца раскопак не магчыма лічыць у пэўным сэнсе месцам выплаўкі металу, на што ўказвае адсутнасць наступных ускосных артэфактаў: вялікай колькасці камянёў і глінянай абмаз-

кі, соплаў ад домнаў і металічнай шлакавай акаліны. Магчыма, дадзены працэс адбываўся побач, на пляцоўцы, якая не была закранута археалагічным раскопам. Гэтаму працэсу, відаць, садзейнічала блізкасць да вады р. Палаты.

Другі накірунак у жыццядзейнасці быў звязаны з пражываннем на дадзеным месцы прадстаўніка феадальнага саслоўя і яго сям'і (наяўнасць шпор, капавушак, пярсцёнка з праквітнеўшым крыжом, крыжыкаў-энкалпіёнаў і інш.). Гэты этап жыццядзейнасці быў перапынены ў выніку ваеннага ўварвання, на што ўказваў шэраг наканечнікаў стрэл у слоі пажарышча, сярод якіх быў зафіксаваны і арбалетны наканечнік стралы. Асабліва вялікая колькасць стрэл адпавядала, як гэта ўказвалася вышэй, 4–5 раскопачным пластам (мал. 8: *1–3, 7*).

Застаецца адкрытым пытанне аб тым, хто мог прычыніцца да знішчэння пасада ў канцы XII – першай палове XIII ст. У гэты храналагічны прамежак Полацк меў канфрантацыю з Псковам, Ноўгарадам, крыжакамі і Смаленскім княствам. Гіпатэтычна падобныя дзеянні магла ажыццявіць і «летапісная Літва». Наяўнасць арбалетнага наканечніка стралы са следам уздзеяння высокай тэмпературы падкрэслівае, што ў нападаючага боку на ўзбраенні былі арбалеты. Жорсткі характар нападу на дадзеную частку Запалоцкага пасада можа быць растлумачаны тым, што яна мела важкае значэнне, якое падкрэслівалася наяўнасцю маста праз р. Палату. Калі прааналізаваць гравюру XVI ст. С. Пахалавіцкага, то магчыма заўважыць насупраць стрэлкі (машны) Верхняга замка, на выгіне берага р. Палаты мост (мал. 1: *4*). Месца раскопу 2008 г. знаходзілася побач з ранейшым мастом, калі ўзяць за арыентыр выгін берага р. Палаты. Не выключана, што мост мог існаваць і ў больш ранейшы перыяд і ўзнаўляцца на тым жа месцы. Таму, гіпатэтычна, магчыма казаць аб тым, што жорсткі характар знішчэння дадзенай часткі пасада на мяжы XII–XIII стст. мог быць выкліканы жаданнем авалодаць мастом, які быў неабходны для захопу Верхняга замка.

Аб перыядзе XIV–XV стст. мы не можам нічога дакладнага сказаць. Бытаванне пэўных рэчаў заходзіць ў гэты перыяд (некаторыя тыпы венчыкаў гаршкоў, ключы і часткі замкоў тыпаў Д і Е), але адсутнічае гаршковая кафля, што характэрна для культурнага пласта г. Полацка ў гэты час [23, с. 35]. Разам з тым паўпенязь ВКЛ першай чвэрці XV ст. выступае як адметны храналагічны маркёр гэтага перыяду.

У XVI ст. даследаваная частка Запалоцкага пасада пачынае ізноў павялічвацца па плошчы. Да перыяду XVI–XVII стст. з матэрыялаў раскопу 1 адносяцца некалькі фрагментаў керамікі, частка абутковай падкоўкі, фрагмент тэракотавай люлькі і інш. Гэта ж пацвярджаюць і працы Д. Дука побач з раскопам 1 у 2003 г., прааналізаваныя вышэй. Несумненна, што Інфлянцкая вайна XVI ст. і вайна 1654–1667 гг. не садзейнічалі развіццю дадзенай часткі пасада. У гэтай сувязі заўважым, што каробкавая кафля, як важны храналагічны маркёр на раскопе амаль адсутнічае.

У выніку ўсяго вышэйсказанага неабходна зрабіць выснову аб тым, што Запалоцкі пасад меў істотнае пашырэнне ў паўночна-усходнім накірунку, пачынаючы з XI ст., і быў выцягнуты ўздоўж правага берага р. Палаты. Для аналізу плошчы распаўсюджвання культурнага пласта ў перыяд XI–XIII стст. мае значэнне аналіз даных, атрыманых падчас назіранняў А. Салаўёвым у 2004–2006 гг., аўтарам – у 2008 г. і І. Магалінскім – у 2009 г.[1] У 2004 г. А. Салаўёвым фіксаваліся асобныя фрагменты керамічных гаршкоў у пачатку вуліцы Ф. Міронавай (мал. 2: *1*). У 2005 г. пры аглядзе траншэі для газавай трубы быў выяўлены слой з керамікай, якая мела значнае бытаванне ў XI ст. (мал. 2: *2*; мал. 17: *1*). Пры назіраннях 2006 г. слой і керамічны посуд XI–XII стст. прасочваўся па 5-му завулку Ф. Міронавай (мал. 2: *3*; мал. 17: *2, 3*), у канцы 4-га завулка Ф. Міронавай (мал. 2: *4*; мал. 17: *4, 5*) і напрыканцы вул. Ф. Міронавай (мал. 2: *5*; мал. 17: *6*). Акрамя гэтага, дадатковае абследаванне вул. Ф. Міронавай, праведзенае восенню 2008 г. аўтарам дадзенага артыкула, засведчыла наяўнасць істотнага культурнага пласта, магутнасцю да 1 м напрыканцы 5-га завулка, дзе былі сабраны фрагменты керамікі XI–XIII стст. (мал. 2: *6*). Археалагічны нагляд, праведзены І. Магалінскім у 2009 г. у паўночнай частцы вул. Ф. Міронавай, не выявіў у траншэях культурнага пласта XI–XIII стст. (мал. 2: *7*). Гэта частка вул. Ф. Міронавай патрабуе дадатковых даследаў, бо побач з вынікамі І. Магалінскага існуюць вынікі А. Салаўёва па 2004 г. На адным з аб'ектаў назірання былі знойдзены фрагменты кафлі і фрагмент керамічнага посуду XVII ст. (мал. 2: *8*; мал. 17: *7*). Адсутнасць культурнага пласта і керамікі XI–XIII стст. у кропках назірання 2009 г. нам падаецца не выпадковай, што дазваляе папярэдне абмежаваць плошчу развіцця паўночна-усходняй часткі Запалоцкага пасада (мал. 2).

Такім чынам, праведзеныя працы дазволілі ўдакладніць храналогію існавання дадзенай часткі пасада. Як магчыма меркаваць на аснове вышэйвыкладзеных матэрыялаў, паўночна-усходняя частка Запалоцкага пасада фарміравалася ўздоўж надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Палаты (мал. 2). Плошча паўночна-усходняй часткі Запалоцкага пасада вагалася ў залежнасці ад перыяду, мела найбольшае пашырэнне ў канцы XI – першай палове XIII ст. і складала каля 12 га (па папярэдніх даных), што дазваляе павялічыць агульную плошчу Полацка ў адзначаны перыяд.

[1] Прыносім удзячнасць А. Салаўёву і І. Магалінскаму за магчымасць карыстацца матэрыяламі іх даследаў.

**Літаратура**

1. Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: в 2 кн. / Л. В. Алексеев; Ин-т археологии РАН. – М.: Наука, 2006. – Кн. 1. – 289 с.

2. Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. /рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш]. – Мінск: БелЭн, 1993. – 702 с.: іл.

3. Бектинеев, Ш. И. Интеграционные процессы в формировании денежных систем X – начала XV вв. государств Восточной Европы / Ш. И. Бектинеев // Інтэграцыйныя працэсы ў гісторыі краін Усходняй Еўропы: матэрыялы навук. канф., Мінск, 19–20 ліст. 2008. – Мінск: Беларус. навука, 2008. – С. 147–162.

4. Древняя Русь: Быт и культура / Д. А. Беленькая [и др.]; отв. ред. Б. А. Колчин, Т. И. Макарова. – М.: Наука, 1997. – 367 с.: ил.

5. Дук, Д. У. Археалагічная разведка на Запалоцкім пасадзе Полацка ў 2003 г. / Д. У. Дук // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2006. – Вып. 11. – С. 104–113.

6. Дук, Д. У. Гісторыя Полацка: па матэрыялах археалагічных даследаванняў: вучэб.-метад. комплекс для студэнтаў / Д. У. Дук; М-ва адукацыі Рэсп. Беларусь, ПДУ. – Наваполацк: УА «ПДУ», 2006. – 112 с.

7. Дук, Д. У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007 – 268 с.: іл.

8. Дучыц, Л. У. Браслаўскае Паазер'е ў IX–XIV стст. / Л. У. Дучыц – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 120 с.: іл.

9. Журухина, Е. Ю. Стеклянные бусы Киевского Подола / Е. Ю. Журухина // Тверской археологический сборник. – Тверь, 2007. – Вып. 6. – Т. 2. – С. 256–259.

10. Загорульский, Э. М. Возникновение Минска / Э. М. Загорульский. – Минск: Изд-во БГУ им. В. И. Ленина, 1982. – 358 с.: ил.

11. Заяц, Ю. А. Заславль в эпоху феодализма / Ю. А. Заяц. – Минск: Наука и техника, 1995. – 207 с.: ил.

12. Звяруга, Я. Г. Рэчавы інвентар / Я. Г. Звяруга // Археалогія Беларусі: у 4 т. – Мінск: Беларус. навука. – Т. 3. – 2000. – С. 370–423.

13. Іоў, А. В. Асноўныя тыпы керамічнага посуду X–XI ст. на Беларускім Палессі / А. В. Іоў. // Древняя история Восточной Европы: сб. науч. ст., посвящ. 80-летию проф. Э. М. Загорульского / науч. ред. А. А. Егорейченко. – Минск: БГУ, 2009. – С. 68–78.

14. Кирпичников, А. Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX–XIII вв. / А. Н. Кирпичников // М.: Наука, 1973. – 140 с.: ил.

15. Клімаў, М. В. Справаздача пра археалагічныя даследаванні ў г. Полацку ў 2008 г. / М. В. Клімаў // Архіў Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Спр. 2596. – 131 с.: іл.

16. Колчин, Б. А. Хронология новгородских древностей / Б. А. Колчин // Новгородский сборник: 50 лет раскопок Новгорода. – М.: Наука, 1982. – С. 156–177.

17. Корзухина, Г. Ф. Древнерусские энколпионы. Кресты-реликварии XI–XIII вв. / Г. Ф. Корзухина, А. А. Пескова. – СПб.: Петербургское Востоковедение, 2003. – 432 с.

18. Лавыш, К. А. Художественные традиции восточной и византийской культуры в искусстве средневековых городов Беларуси (X–XIV вв.) / К. А. Лавыш. – Минск: Беларус. наука. – 208 с.: ил.

19. Медведев, А. Ф. Ручное метательное оружие (лук и стрелы, самострел) / А. Ф. Медведев. – М.: Наука, 1966. – 184 с.: ил.

20. Петрашенко, В. А. Древнерусское село (по материалам оселений у с. Григоровка) / В. А. Петрашенко. – Киев, 2005. – 264 с.: 130 ил.

21. Седова, М. В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.) / М. В. Седова. – М.: Наука, 1981. – 198 с.

22. Сергеева, З. О распространении находок из волынского шифера в памятниках X–XIII вв. Беларуси / З. Сергеева // Час, помнікі, людзі: памяці рэпрасаваных археолагаў: тэз. дакл. Міжнар. канф., Мінск, 27–30 кастр. 1993 г. / уклад.: В. Вяргей, Г. Штыхаў. – Мінск, 1993. – С. 121–123.

23. Тарасаў, С. В. Полацк IX–XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія / С. В. Тарасаў. – Мінск: Беларус. навука, 1998. – 183 с.: іл.

24. Финно-угры и балты в эпоху средневековья / Л. А. Голубева [и др.]; отв. ред. Б. А. Рыбаков. – М: Наука, 1987. – 509 с.: ил.

25. Шпилев, А. Г. Фибулы с зооморфными окончаниями с Курской области / А. Г. Шпилев // Случайные находки: хронология, атрибуция, историко-культурный контекст: материалы тематической науч. конф., Санкт-Петербург, 16–19 дек. 2008 г. / редкол.: Д. Г. Савинов (отв. ред.) [и др.]. – СПб., 2008. – С. 205–210.

26. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк / Г. В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – 135 с.: ил.

27. Штыхаў, Г. В. Гарады Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі / Г. В. Штыхаў // Археалогія Беларусі: у 4 т. – Мінск: Беларус. навука. – Т. 3. – С. 171–228.

**Резюме**

*М. В. Климов*

**Новые данные о Заполотском посаде в г. Полоцке**
**(по результатам раскопок 2008 г.)**

В статье приводится анализ основных результатов археологического исследования северо-восточной части Заполоцкого посада. В 2008 г. был исследован раскоп площадью 72 м$^2$. В результате были получены материалы, которые свидетельствовали о развитии данной части посада, начиная с XI в. Большинство матералов датируется XII – первой половиной XIII в. и представлено в основном бытовыми вещами (ножами, замками, ключами и др.), фрагментами ке-

рамической посуды и украшениями. В раскопе находилось много предметов культового предназначения, среди которых были крестики-тельники, крестики-энколпионы и привеска-иконка. В раскопе зафиксирована прослойка пожара, в которой встречаются и наконечники стрел. Прекращение жизнедеятельности в месте раскопок необходимо датировать в широких хронологических границах: с конца XII по первую половину XIII в., и связывать с военным катаклизмом. В более позднее время данная часть Заполоцкого посада заселялась не полностью и периодически. В результате сопоставления результатов раскопок, полученных в 2008 г. А. Соловьевым и И. Магалинским, была очерчена примерная площадь северо-восточной части Запалоцкого посада, которая составила около 12 га.

**Summary**

*M. Klimov*

**The new materials concerning the suburb of Zapolot'e in Polotsk (results of the archaeological excavation in 2008)**

The article presents the results of archaeological excavation of north-eastern part the suburb of Zapolot'e. The trench by the area 72 sq.m. was researched in 2008. As a result materials which testified to development of the given part of suburb since the 11th century had been received. The majority of artefacts is dated back to the 12th – first half of the 13th century and presented, basically, household things (knives, locks, keys, etc.) and some ornaments and pottery. There were many subjects of religious applicability in the trench among which were crosses, pendant-icons and encolpia. Some arrow-heads were fixed in the layer of fire. The termination of ability to live there is to date in wide chronological periods: from the late 12th to the first half 13th century and to connect with military cataclysm. During later time the presented part of Polotsk was occupied periodically and not completely. As a result of comparison with archaeological supervision by A. Solovev and I. Magalinsky the rough area of north-eastern part the suburb of Zapolot'e which had been outlined as 12 hectares.

*Пастуніў 04.04.2011*

***Д. У. Дук,*** *Полацкі дзяржаўны універсітэт, загадчык кафедры айчыннай і усеагульнай гісторыі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Наваполацк)*

# Экімань у сацыятапаграфічнай структуры Полацка XV–XVIII стст.[1]

**Размяшчэнне і гісторыя пасялення.** Вёска Экімань Полацкага раёна размешчана на левым беразе Дзвіны насупраць правабярэжнага запалоцкага мікрараёна Полацка. Адлегласць ад Верхняга замка Полацка складае 0,6 км.

Вядома, што ў XVI ст. пасяленне на месцы Экімані мела статус полацкага пасада разам з трыма левабярэжнымі пасадамі: Востраўскім, Крыўцовым і Слабадскім.

Назва «Экімань» паходзіць ад назвы храма Іаакіма і Ганны (згаданага ў полацкай рэвізіі 1552 г.) [12, с. 22, 26]. Аналагічная карціна з паходжаннем назвы Якіманскай (Экіманскай, Акіманскай) вуліцы Пскова ад назвы манастырскага храма [8, с. 51]. У полацкай рэвізіі 1552 г. Экімань згадваецца як пасяленне з развітай тапаграфічнай структурай, уласна пасад. На тэрыторыі пасада ў 1552 г. было размешчана 269 двароў, і Экімань з'яўлялася другім па значнасці пасяленнем у тапаграфічнай структуры горада, саступаючы толькі Вялікаму пасаду (769 двароў).

У дачыненні да Экімані ў сярэдзіне XVI ст. ужываецца адначасова назва «пасад» і «прадмесце», у XVII ст. выкарыстоўваецца назва «мястэчка» і «факторыя». Гэта далёка не выпадкова. Экімань была перададзена Стэфанам Баторыем езуіцкаму калегіуму, з'яўлялася разам з Востравам яго найбуйнейшай юрыдыкай і, паводле земскіх кніг, з канца XVI ст. мела статус полацкага прадмесця, аднак жыхары Экімані ў XVII ст. па-ранейшаму лічыліся мяшчанамі [3, с. 33–38].

**Гісторыя археалагічнага вывучэння.** Археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Экіманскага пасада практычна не праводзіліся. Гісторыя археалагічных даследаванняў на яго тэрыторыі пачынаецца з 1976 г.

Так, падчас археалагічнай разведкі П. А. Рапапорта ў Экімані на месцы размяшчэння праваслаўнай царквы быў закладзены шурф (памеры не пазначаны) на адлегласці 10 м на паўночны-захад ад брацкай магілы 1944 г. Знойдзены фрагменты цэглы, якія даследчык вызначыў як слабаабпаленую плінфу і на падставе гэтага выказаў меркаванне аб размяшчэнні ў Экімані печаў для абпалу плінфы [14, с. 24–25].

У 1987 г. С. В. Тарасаў праводзіў археалагічны нагляд за катлаванам ў зоне будаўніцтва аўтамабільнага моста праз Дзвіну ў раёне Экімані. Знойдзены кавалкі керамікі, якія можна аднесці не пазней як да XII ст., аднак асноўная колькасць сабранай керамікі датуецца XV–XVIII стст. Кераміка XI–XIII стст. у вялікай колькасці была знойдзена як пад'ёмны матэрыял на ворыўных палях паміж тагачаснай Экіманню і Вostравам, на поўдзень ад кургана Бессмяротнасці. Аднак вызначыць магутнасць і характар культурнага пласта Экіманскага пасада ў той час не ўдалося [17, с. 21].

У 1996 г. М. В. Клімавым у Экімані зроблены шурф плошчай 2 м$^2$ (300 м на захад ад моста праз Дзвіну на першай надпоплаўнай тэрасе). Глыбіня культурнага пласта дасягала 2 м. Знойдзена кераміка XIV–XV стст. [7, с. 9].

У выніку археалагічнага нагляду за пракладаннем у 2000 г. праз Экімань цеплатрасы Д. У. Дукам былі адкрыты мураваныя падмуркі і пахаванні каля іх [4].

На тэрыторыі Экімані на агародзе каля дома № 24 Баравік Неляй Станіславаўнай быў знойдзены крыж-энкалпіён XII ст. (захоўваецца ў Нацыянальным Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку).

У 2002 г. пракладалася траншэя пад водапровод па вул. Набярэжнай. Звесткі пра стратыграфію культурнага пласта захаваліся ў палявым дзённіку А. А. Салаўёва. Так, культурны пласт дасягаў глыбіні 1,2 м (у сярэднім 1 м) і прадстаўляў сабой аднародную зямлю цёмна-шэрага колеру. Практычна на ўсёй працягласці траншэі на глыбіні каля 1 м была выяўлена драўляная маставая з круглых бярвенняў, дыяметрам каля 15–17 см, якая пачыналася ад вул. Садовай і вяла да разгалінавання гэтай вуліцы на вул. Перамогі. Пад'ёмны матэрыял прадстаўлены пераважна фрагментамі керамічных вырабаў XVII–XVIII стст. Відавочна, што ўскрыты насціл вулічнай маставой паўтарае трасіроўку сённяшняй вуліцы, што сведчыць пра пераемнасць у размяшчэнні старажытнай і сучаснай забудовы на тэрыторыі старой часткі Экіманскага пасада.

Такім чынам, надзейных археалагічных даных аб плошчы былога Экіманскага пасада, ні тым больш пра стратыграфію і час утварэння культурнага пласта да сёння практычна не існавала.

Вёска Экімань шчыльна забудавана. Гэтаму спрыяе яе размяшчэнне паміж гарадамі Полацкам і Наваполацкам. Для археалагічных раскопак з дазволу ўладальнікаў намі былі абраны асобныя агароды заселеных сядзіб.

Мэтай археалагічных разведак і раскопак у 2009 г. з'яўлялася высвятленне часу ўзнікнення, плошчы

[1] Работа выканана ў межах рэгіянальнай праграмы «Полацк–2009» (грант Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў).




Мал. 1. Размяшчэнне шурфаў у Экімані і Крыўцовым пасадзе. 2009 г.

і характару культурных напластаванняў Экіманскага пасада. Дзеля гэтага на тэрыторыі сучаснай Экімані Полацкага раёна было зроблена 7 шурфоў і зачышчана сценка гранічнай траншэі пад водаадвод (мал. 1), агульная раскапаная плошча склала 42 м$^2$.

**Шурфоўка ва ўсходняй частцы Экімані.** Усходняя частка Экімані прадстаўляе свайго роду мыс, які ўзвышаецца з поўдня над Дзвіной, а з усходу над ровам, які вядзе да Дзвіны. З гэтай кропкі добра праглядаецца Запалоцкі пасад і Верхні замак. Вышыня над узроўнем першай надпоплаўнай тэрасы складае каля 7 м. Крайняя ўсходняя частка гэтага мыса была часткова перакапана падчас будаўніцтва моста праз Дзвіну ў 1990-х гадах і падчас пракладання траншэі цеплатрасы ў 2000 г.

Усяго на ўсходнім мысе Экімані было зроблена чатыры шурфы і зачышчана сценка гранічнай траншэі пад водаадвод. Шурфы 1–3 былі размешчаны на агародзе дома № 7 па вул. Перамогі (мал. 2) з дазволу ўладальніка сядзібы Мікалая Аляксеевіча Папкова.

Адзнакі ўзроўню размяшчэння шурфоў прыводзяцца па балтыйскай шкале.

Шурф 1 мае памер 1 × 2 м, выцягнуты па накірунку поўдзень–поўнач (мал. 3). Шурф разбіраўся на глыбіню 0,8 м. Культурны пласт – цёмна-шэры аднародны супесак, камкаваты, адносна сухі. У структуры пласта траплялiся каменьчыкі дыяметрам да 0,05 м.

У паўднёвай частцы шурфа зафіксаваны падмурак, які размешчаны на глыбіні 0,4 м ад паверхні зямлі. Падмурак зроблены з бутавага каменю на вапнавай рошчыне. У верхняй яго частцы зафіксавана цагліна памерам (31 × 15 × 4,5) см. Цэгла такога памеру, максімальна прыбліжаная да памеру плінфы, знойдзена ў Полацку ўпершыню.

Падмурак мае вышыню каля 0,45 м і арыентаваны па накірунку паўднёвы ўсход–паўночны захад. Шырыня падмурка перавышае 0,6 м (падмурак выходзіць за межы шурфа).

У шурфе зафіксаваны тры пахаванні. Пахаванне 1 размешчана у цэнтральнай частцы шурфа, на адлегласці 0,4 м на поўнач ад падмурка. Захаваліся пераадкладзеныя косткі на глыбіні 0,3 м (скапленне № 2), якія належалі немаўляці (антрапалагічная экспертыза зроблена В. А. Емяльянчык). Скапленне костак № 1 належала дзіцяці ва ўзросце 8 гадоў. Косткі пазваночніка і ног ў анатамічным парадку былі выяўлены на глыбіні 0,4 м, даўжыня захаванай часткі касцяка складае 0,6 м. Пахаванне арыентавана на паўночны захад. Захаваліся рэшткі труны ў выглядзе асобных напаўспарахнелых валокнаў дрэва, разам з якімі знойдзены жалезны цвік.

Пахаванне 2 выяўлена на глыбіні 0,6 м у паўночна-ўсходнім вугле шурфа. Зафіксаваны косткі ног, астатняя частка выходзіла па-за межы шурфа. Размяшчэнне ног ўказвае на аналагічную пахаванню 1




Мал. 2. План размяшчэння шурфаў 1–4 і траншэі 8. Экімань




Мал. 3. Стратыграфія культурных напластаванняў шурфа 1. Экімань

паўночна-заходнюю арыенціроўку касцяка. Каля костак ног зафіксаваны жалезны цвік.

Пахаванне 3 – дзіцяці ва ўзросце 6 месяцаў. Сабраны шкілетныя рэшткі. Акрамя дзіцячых костак у скапленні касцей знойдзены два фрагменты касцей дарослага чалавека, што сведчыць пра часткова перaадкладзены характар пахавання. Пахаванне было размешчана на адлегласці 0,1 м ад падмурка. Косткі чэрапа былі афарбаваны зялёным колерам з-за вокіслу медзі. Галава немаўля судакраналася з тканінай, у якую была ўплецена ніць з каляровага металу (бронзы). Каля скроні было размешчана кальцо дыяметрам 2,3 см, шырынёй 0,5 см, зробленае з бяросты. Рэштакаў труны не зафіксавана, акрамя цвіка даўжынёй 3 см з рэшткамі дрэва (мал. 4).

Пад пахаваннем 1 былі выяўлены косці іншага пахавання, аднак з-за невялікай плошчы шурфа раскопкі вырашана было спыніць на ўзроўні 0,8 м ад паверхні зямлі. Шурф засыпаны.

Археалагічныя знаходкі прадстаўлены кавалкамі керамічных начынняў, сярод якіх зафіксаваны тры венцы, тыповыя для XVI–XVII стст. (мал. 5: *1–3*).

Шурф 2 мае памер 2 × 2 м, разбіты па баках свету. Шурф разбіраўся да мацерыка на глыбіню 0,8 м. Культурны пласт – цёмна-шэрая аднародная супесь, камкаватая, адносна сухая. У структуры пласта трапляліся каменьчыкі дыяметрам да 0,05 м.

Мацярык – жоўты аднародны зярністы пясок. На паверхні мацерыка зафіксаваны спарадычна размешчаныя лінзы круглай формы дыяметрам 0,03 м ад слупкоў агароджы.

Археалагічныя знаходкі з шурфа 2 прадстаўлены фрагментамі керамічнага начыння, якое датуецца XVI–XIX стст. Знойдзены некалькі венцаў, якія датуюцца канцом XV – XVI ст. (мал. 5: *4–7*) і адно венца XIV–XV стст. (мал. 5: *8*).

Шурф 3 мае памер 2 × 2 м, разбіты па баках свету. Шурф разбіраўся да мацерыка на глыбіню 1,0–1,2 м. Магутнасць культурнага пласта складае ў паўднёва-ўсходняй частцы 0,6 м, ў паўночна-заходняй – 1,2 м. Фактычна ў паўднёва-ўсходнім куце



Мал. 4. Скроневае берасцяное кальцо (*1*), жалезны цвік (*2*) і тканіна з бронзавым дротам (*3, 4*). Пахаванне № 3. Шурф 1. Экімань

выяўлена мацерыковая яма, якая выходзіць за межы шурфа і займае тры чацвёртых усёй яго плошчы. Сценкі ямы паката нахіленыя, дно плоскае. Культурны пласт – цёмна-шэры аднародны супесак, камкаваты, адносна сухі, з глыбіні 0,8 м – вельмі вільготны. У структуры пласта траплялiся каменьчыкі дыяметрам да 0,05 м, кавалкі вугалю, цэгла. Мацерыковая яма запоўнена згаданым цёмна-шэрым супескам з вялікай колькасцю цаглянага друзу і вуголля.

Мацярык зафіксаваны ва ўсходняй частцы на глыбіні 1 м, ў заходняй – на глыбіні 1,2 м. У структуры пласта знойдзена больш 20 венцаў гаршкоў XVII–XVIII стст., а у межах мацерыковай ямы – 205 фрагментаў тэракотавай кафлі канца XVIII – першай паловы XIX ст., пераважна карнізнай, а таксама некалькі фрагментаў кафлі XVII ст. Відавочна, што кафля і цэгла, а таксама вугаль у структуры пласта вызначалі яму-сметніцу, у якую трапілі рэшткі разбуранай печы. Пра гэта ж сведчыць адносна вялікая магутнасць культурнага пласта. Найбольш характэрнымі знаходкамі з шурфа з'яўляюцца фрагменты керамічных цацак XVIII–XIX стст., керамічнага посуду. Сярод рэштkaў кафлі XVII ст. асаблівай увагі заслугоўвае фрагмент паліванай пласціны з выявай сімволікі ордэна езуітаў. Гэтая кафля вызначае канфесійную прыналежнасць гаспадара таго дома, у якім пабудавана печ. Разначасовы набор кафлі сведчыць пра тое, што печ неаднаразова рамантавалася і падчас рамонтаў выкарыстоўваліся асобныя пласціны папярэдняга кафлянога набору.

Шурф 4 мае памер 2 × 1 м, доўгім бокам арыентаваны па накірунку поўдзень–поўнач. Разбіты на перасячэнні вул. Перамогі і ўсходняга завулка да гэтай вуліцы. Шурф разбіраўся на глыбіню 0,6 м. Культурны пласт уяўляў сабой цёмна-шэрую, камкаватую зямлю з кавалкамі гліны, камянямі дыяметрам да 0,2 м, цагляным друзам. Сярод цаглянага друзу знойдзена звыш 300 фрагментаў керамічных вырабаў XIX ст. (кавалкі кафлі (мал. 6: *1*), посуд, дзіцячая цацка (мал. 6: *2*), грузік ад сецi (мал. 6: *3*) і інш.). Па сведчанні уладара сядзібы № 24 па вул. Перамогі, на месцы шурфа да Вялікай Айчыннай вайны размяшчаўся дом, дзе спадкаемна на працягу многіх пакаленняў жылі ганчары. На глыбіні 0,6 м капаць было немагчыма па прычыне суцэльнага развалу камянёў вялікіх памераў (да 0,4 м), верагодна, ад падмурка дома.

Таксама была зачышчана паўднёва-ўсходняя сценка гранічнай траншэі каля прысядзібнага ўчастка дома № 15. Даўжыня траншэі склала 10 м, шырыня – 1 м. Глыбіня выбаркі культурнага пласта – 1 м. Мацярык (гліна чырвонага колеру) на глыбіні 0,8 м зафіксаваны толькі ў паўднёва-заходняй частцы траншэі. Выбраць культурны пласт да мацерыка перашкаджалі карані дрэў і грунтавая вада (траншэя пракапана мясцовымі жыхарамі для адводу вады з агародаў).

Пласт аднародны па структуры і прадстаўляе сабой зямлю цёмна-шэрага колеру з кавалкамі вугалю, керамічным друзам, камянямі дыяметрам




Мал. 5. Венцы гаршкоў з шурфа 1 (*1–3*) і шурфа 2 (*4–8*). Экімань




Мал. 6. Кафля (*1*), дзіцячая цацка (*2*) і керамічны грузік ад сеці XVIII ст. (*3*). Шурф 4. Экімань

да 0,1 м. У верхняй частцы да глыбіні 0,4 м зафіксавана шмат бытавога смецця XX ст.

Археалагічныя знаходкі прадстаўлены кавалкамі керамічнага начыння XV–XX стст. (мал. 7), аднак асаблівую цікавасць прадстаўляюць знойдзеныя фрагменты і адна цэлая пласціна каробкавай кафлі. Так, фрагменты каробкавай кафлі датуюцца сярэдзінай – другой паловай XVII ст. (кафля з раслінным арнаментам (мал. 8: *1*) і выявай арла ў геральдычнай паставе (мал. 8: *2*). Знойдзена адна цэлая пласціна з выявай манаграмы у выглядзе дзвюх лацінскіх літар «A» і «S», змешчаных у вянку (мал. 9). Кафля з такой манаграмай знойдзена ўпершыню, манаграма расшыфроўваецца па пачатковых літарах імя ўладальніка печы: Антоній Сялява (з 1624 па 1639 г. – полацкі архіепіскап, з 1641 па 1655 г. – уніяцкі мітрапаліт з захаваннем пасады полацкага архіепіскапа) [6, с. 649].

**Шурфоўка ў заходняй і паўднёвай частцы Экімані.** Шурф 5 мае памеры 4 × 2 м, доўгім бокам арыентаваны па накірунку ўсход–захад. Размешчаны на агародзе на адлегласці 37 м на поўнач ад дома № 42 па вул. Набярэжнай.

Культурны пласт мае магутнасць 0,4 м. Пласт аднародны па структуры, прадстаўляе сабой зямлю цёмна-шэрага колеру, вельмі вільготную, камкаватую. Перадмацерыковая прапластка 0,05 м – жвір жоўтага колеру з камянямі дыяметрам да 0,1 м. Мацярык – чырвоная аднародная гліна. Паверхня мацерыка роўная.




Мал. 7. Керамічны посуд XV–XVIII стст. (*1, 3–6*) і бронзавы грузік ад сеці (*2*). Траншэя 8. Экімань

У шурфе знойдзены фрагменты непаліванай і паліванай керамікі (гаршкі і міскі) XV–XIX стст. (мал. 11: *1, 2, 5–13*), фрагменты сценавай кафлі XVIII ст. (мал. 11: *14*). Два венцы больш старажытныя (тып V па Г. В. Штыхаву) і датуюцца XIV–XVI стст. (мал. 11: *3, 4*) [18, с. 82].

Шурф 6 мае памеры 4 × 2 м, доўгім бокам арыентаваны па лініі ўсход–захад. Размешчаны на полі на адлегласці 5 м на захад ад плоту дома № 14 па вул. Садовай.

Культурны пласт мае магутнасць 0,4 м. Пласт аднародны па структуры, прадстаўляе з сябе зямлю карычневага колеру, вельмі вільготную, камкаватую. У структуры зямлі зафіксаваны камяні дыяметрам да 0,1 м. Мацярык – чырвоная аднародная гліна. Паверхня мацерыка роўная.

У шурфе знойдзены венцы гаршкоў XVI–XVII стст. (мал. 10: *1–4*), венца паліванага збана XVII ст. (мал. 10: *5*) і кавалак карнізнай кафлі XVII ст. (мал. 10: *6*).

Шурф 7 мае памеры 4 × 1 м, доўгім бокам арыентаваны па накірунку ўсход–захад. Размешчаны на агародзе на адлегласці 17 м на поўнач ад лазні сядзібы № 36.

Культурны пласт мае магутнасць 0,4 м. Пласт аднародны па структуры, прадстаўляе сабой суглінак карычневага колеру, вельмі вільготны, камкаваты. У структуры зямлі зафіксаваны камяні дыяметрам да 0,1 м. Мацярык – чырвоная аднародная гліна. Паверхня мацерыка роўная.

У шурфе знойдзены венца гаршка XVI ст. і донца паліванага начыння XVII ст. (мал. 10: *7, 8*).

Акрамя шурфоўкі было праведзена візуальнае даследаванне тэрыторыі ворыўных палей вакол Экімані і збор пад'ёмнага матэрыялу на агародах. Было высветлена, што па-за межамі вул. Садовай







Мал. 8. Сценавая кафля (*1, 2*). Сярэдзіна XVII ст. Траншэя 8. Экімань

(заходняй ускраіны вёскі) на месцы размяшчэння яблыневага саду культурны пласт адсутнічае (шурф 6 маркіруе яго заходнія межы). На першай надпоплаўнай тэрасе знойдзены пераважна посуд XIX ст., менавіта сюды па сведчанні мясцовых жыхароў скідвалася керамічнае смецце ад ганчарных майстэрняў таго ж часу (шурф № 4). Шурф № 7, у якім практычна не было археалагічных знаходак, вызначае паўднёвую мяжу распаўсюджвання культурнага пласта. Асноўная колькасць артэфактаў была знойдзена ў раёне вул. Перамогі і Набярэжнай.

Сярэдняя магутнасць культурнага пласта на тэрыторыі былога Экіманскага пасада роўная 0,4–0,6 м. Максімальная глыбіня культурнага пласта 1,2 м і больш зафіксавана ва ўсходняй частцы Экімані, у раёне перакрыжавання вул. Перамогі і Набярэжнай. Пры гэтым вул. Набярэжная захавала свой напрамак з часоў уладкавання на ёй драўлянага насцілу, верагодна, у межах XVII–XVIII стст., тое ж магчыма



Мал. 9. Кафля з выявай манаграмы Антонія Сялявы. Сярэдзіна XVII ст. Траншэя 8. Экімань




Мал. 10. Керамічныя вырабы XV–XVIII стст. (*1–14*). Шурф 5. Экімань

сказаць і пра размяшчэнне драўляных дамоў, якія традыцыйна, прынамсі на працягу XX ст., будавалі непасрэдна ўздоўж згаданых вуліц.

Культурны пласт XVI–XVIII стст. аднародны, без стратыграфічных разрываў, што сведчыць пра адносна невялікую інтэнсіўнасць жыцця і будаўнічай дзейнасці ў параўнанні з сінхроннымі па часе напластаваннямі правабярэжных пасадаў Полацка. Найбольш раннія артэфакты з Экімані (керамічны посуд, цэгла) сведчаць пра пачатак засялення яе тэрыторыі ў межах XV ст.

Такім чынам, межы старажытнага Экіманскага пасада абмежаваны сядзібамі, размешчанымі на сучасных вул. Перамогі, Набярэжнай і Садовай. Тэрыторыя распаўсюджвання культурнага пласта ахоплівае каля 7 га.

**Археалагічныя знаходкі.** Знойдзеная ў шурфе 1 цагліна памерам (31 × 15 × 4,5) см, максімальна прыбліжаная да памеру плінфы, папярэдне можа датавацца XVI ст. і з'яўляецца самай ранняй з выяўленых у Полацку. Раней у Запалоцці была даследавана печ, зробленая з цэглы і гаршковай кафлі, якая датуецца XV ст. Цэгла з гэтай печы мае памер, блізкі да знойдзенага ў Экімані: шырыня да 20 см, таўшчыня ад 3 да 4 см [2]. Па ўсёй верагоднасці кавалкі падобнай цэглы П. А. Рапапорт пры-




Мал. 11. Керамічныя вырабы XV–XVIII стст.: *1–6* – шурф 6; *7, 8* – шурф 7. Экімань

няў за плінфу падчас пошукаў падмуркаў царквы св. Георгія.

Найбольш раннія керамічныя гаршкі, выяўленыя падчас археалагічных даследаванняў, належаць да тыпу V паводле Г. В. Штыхава і датаваны XIV–XVI стст. (мал. 11: *3, 4*) [18, с. 82]. Большасць венцаў гаршкоў датаваны ў межах канца XV – XVII ст. і належаць да груп 1 і 2 [3, с. 103–104].

Таксама знойдзены сталовы посуд: талеркі (мал. 11: *5*) і паўміскі (мал. 7: *6*) XVII ст., паліваны посуд XVII–XIX стст. (мал. 11: *11, 12*).

Кафля з выявай манаграмы полацкага архіепіскапа і ўніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы знойдзена ў адзінкавым экзэмпляры і прадстаўляе вялікую цікавасць. Кафля мае памер 17 × 17 см, пакрыта зялёнай палівай са слядамі пазнейшай вапнавай тынкоўкі. Выява перададзена невысокім рэльефам (мал. 9).

Выява манаграмы – лацінскія літары «А» і «S» – змешчана ў полі вянка. Рамка зялёнапаліванай кафлі з адным уступам, што сведчыць пра час яе вырабу ў межах другой чвэрці–сярэдзіны XVII ст. (вядома, што Антоній Сялява памёр у 1655 г.). Разам з гэтай кафляй была знойдзена вырабленая ў межах трэцяй чвэрці XVII ст. рамачная кафля з выявай арла ў геральдычнай паставе (сімвал велічы дзяржавы) і кафля з выявай гронак вінаграду (мал. 8). Рэзідэнцыя полацкага архіепіскапа размяшчалася на Верхнім

замку, таму, магчыма, што кафля з выявай манаграмы належала прызначанаму Сялявай у 1646 г. настаяцелю храма св. Георгія Васілію Нікіфаровічу, пра што гаворка пойдзе ніжэй.

Прадукцыю полацкіх ганчароў XVIII–XIX стст. магчыма вызначыць па артэфактах з шурфа № 4 (кафля, керамічныя грузік ад сеці і дзіцячая цацка) (мал. 6).

Прыкладам пахавальнага адзення дзяўчынкі-немаўля з пахавання 3 шурфа 1 з'яўляюцца рэшткі тканіны (галаўнога ўбору?), у якую была ўплецена ніць з каляровага металу (бронзы) (мал. 4: *3, 4*). Кальцо дыяметрам 2,3 см, шырынёй 0,5 см, зробленае з бяросты, сведчыць пра апрананне дзяўчынкі ва ўбор маладой (мал. 4: *1*). Рэшткаў труны не зафіксавана, акрамя цвіка даўжынёй 3 см з кавалкамі дрэва (мал. 4: *2*).

Такім чынам, самыя раннія адзінкавыя фрагменты венцаў гаршкоў, знойдзеныя падчас шурфоўкі і збору пад'ёмнага матэрыялу ў Экімані, датуюцца XIV–XVI стст. Найбольш верагодная ніжняя дата знойдзеных венцаў гаршкоў па сукупнасці артэфактаў – XV ст. Асноўная група артэфактаў мае датаванне ў межах XVI–XVIII стст.

Выключэннем з'яўляецца крыж-энкалпіён XII ст. (згаданая выпадковая знаходка Н. С. Баравік) (мал. 12). Аднак размяшчэнне побач з месцам знаходкі царквы св. Георгія сведчыць, што крыж належаў сям'і святара і перадаваўся па спадчыне на працягу многіх стагоддзяў, пакуль не быў згублены.



Мал. 12. Крыж-энкалпіён XII ст. Экімань

**Месца Экімані ў сацыятапаграфічнай структуры Полацка.** Такім чынам, у выніку археалагічных даследаванняў у 2009 г. былі вызначаны час утварэння культурнага пласта на тэрыторыі былога Экіманскага пасада (другая палова XV – XIX ст.) і тэрыторыя яго залягання (7 га). Асобныя катэгорыі выяўленых археалагічных аб'ектаў (пахаванні, падмуркі, нерухомыя артэфакты) дазваляюць высветліць сацыятапаграфічную структуру пасада. Атрыманыя падчас раскопак даныя стала магчыма супаставіць з пісьмовымі крыніцамі па гісторыі Экіманскага пасада.

У полацкай рэвізіі 1552 г. Экімань згадваецца як пасяленне з развітай тапаграфічнай структурай, уласна пасад. Такім чынам, з моманту заснавання пасялення (пра гэта ўпэўнена сведчаць даныя археалогіі) да сярэдзіны XVI ст. прайшло не больш за 50–80 гадоў. Гэта значыць, што засяленне дадзенай тэрыторыі магло адбыцца не інакш як цэнтралізавана і, відаць, працэс перасялення быў добра арганізаваны.

Што заставіла людзей перасяліцца ў Экімань? Адказ знаходзім у пісьмовых крыніцах. У маі і жніўні 1518 г. маскоўскія войскі ў чарговы раз спалілі Вялікі і Запалоцкі пасады і паркан [15, с. 192–196] (дагэтуль пасад выпальваўся ў 1508 і 1513 г.). Пасля гэтых падзей насельніцтва пасадаў, якое было пад уладай баяр і духавенства, вымушана было *пакінуць свае дворышчы ў горадзе і разысціся*. Месцы, куды яны разышліся, у крыніцах не пазначаны, аднак ёсць усе падставы сцвярджаць, што іх шлях быў накіраваны на левабярэжжа Дзвіны, а мяжа рассялення ахоплівала Экіманскі і Крыўцоў пасады (па-за межамі мястэчка Слабады і Вострава). Юрыдычная залежнасць гэтых людзей ад баярства адлюстравана ў тапонімах Экімані – Баяршчызна, вул. Баярская. Пазней, з канца XVI ст., насельніцтва Экімані заставалася пад юрыдыкай езуіцкага калегіума. Выгоднае размяшчэнне Экіманскага пасада на левым беразе Дзвіны на значным аддаленні ад Верхняга замка (асноўнай мэты частых захопніцкіх паходаў на Полацк у XVI–XVII стст.) рабіла пасад вельмі прыцягальным для жыцця.

Пачатак гэтага перасялення таксама магчыма вызначыць дастаткова ўпэўнена. У прывілеі Полацку на магдэбургскае права 7 кастрычніка 1498 г. Аляксандра Ягелончыка вызначаны катэгорыі баярскіх, мяшчанскіх і «папоўскіх» людзей, якія «живут(ь) за Двиною, так и тые, *которые з другое стороны*

*реки Двины и на острове мешкают(ь)»* (тут і далей вылучана аўтарам. – *Д. Д.*). У тэксце другога прывілея на магдэбургскае права Жыгімонта Старога 27 жніўня 1509 г. (датуецца паводле Г. Л. Харашкевіч) называюцца «вси мещане, и чорные люди, и всякие закладни, так тые, которые мешкають в замъку, и около замъку, *так теж и тые за Двиною* и на всяких местъцох в мести нашом Полоцъком, за вл(а)д(ы)кою, и за игуменью, и за кн(я)зи и за бояры, и за игумены и за попы, на всих местцох ц(е)рк(о)в(н)ых и кн(я)зьских и бояръских» [13, с. 57]. Такім чынам, у 1498 і 1509 г. згадваюцца людзі, якія былі падначалены баярам і духавенству, і пражывалі на тэрыторыі левабярэжнай часткі Полацка. У 1552 г. залежныя ад Васілея Карценя трыццаць мяшчан, якія «з местом тягнуть», складаюць усё насельніцтва Крыўцовага пасада [12, с. 148].

Паводле рэвізіі 1552 г. на ўласных землях у Экімані жылі толькі два мешчаніны, на мяшчанскай зямлі – адзін, на шляхецкіх – чатырнаццаць, астатнія сяліліся на царкоўных землях [12, с. 26].

У 1650-я гады меў разгалінаваную вулічную сетку. Тут размяшчаліся вул. Баярская, Віленская, Езеньская, а таксама мясцовасць Баяршчына з вул. Вялікай [10]. Да таго ж Экіманскі пасад меў уласны рынак. Назва вул. Віленскай сведчыць пра наяўнасць аднайменнай дарогі па-за межамі пасада. Пра аналагічную дарогу паведамляецца ў апісанні похода Івана IV на Полацк 1563 г. «за Двиною же рекою на Виленскои дороге… против Якиманские слободы» [9, с. 306].

У 1774 г. на езуіцкім фальварку Экімані разам з Востравам быў размешчаны 121 дом (на 726 чалавек), мястэчка цягнулася ўздоўж Дзвіны на дзве мілі, а ўшырыню на адну мілю «а месцамі болей ці меней… ляжыць тое мястэчка ад слабады Бельчыцкай у ¼ мілі». У Экімані было чатыры карчмы: Пятніцкая, Хоцевічская і Палюдавічская [20, с. 2–3, 24–25], а чацвёртая карчма была прыватная, альбо вольная [16, с. 55].

Паводле даных пісьмовых крыніц XVII–XVIII стст. вядома, што на тэрыторыі Экіманскага пасада размяшчаліся касцёл і царква. Так, у 1646 г. мітрапаліт Антоній Сялява прызначыў настаяцелем царквы св. Георгія *за горадам* Васілія Нікіфаровіча [1, с. 208–209]. Паводле «Люстрацыі 1774 г.» Экімань з'яўлялася полацкім мястэчкам (такі ж статус меў і Востраў), але разглядаецца разам з дзевяццю фальваркамі полацкіх езуітаў [20, с. 2]. Экіманскія мяшчане былі прыпісаны да езуіцкага калегіума. На тэрыторыі Экіманскага пасада размяшчаўся «драўляны касцёл без рэзідэнцыі для ксяндза», была і прыходская царква з вялікім заезджым домам. Гэты дом меў «пакой» і мураваныя скляпы, каля дома размяшчаліся «спустошаныя» стадолы з прычыны ўтрымання ў іх расійскага лазарэта. Адзначаецца, што Экімань «пры абразцовым расійскага салдата абыходжанні прыйшло да цалкам мізэрнага стану» і ў параўнанні з іншымі фальваркамі была не самай густанаселенай і прыбытковай [20, с. 3].

У пісьмовых крыніцах не пазначаецца назва касцёла і цэркваў XVII–XVIII стст. Сучасныя насельнікі Экімані не памятаюць назвы царквы, якая была напаўразбурана падчас баявых дзеянняў 1944 г. і канчаткова знішчана пасля вайны. У «Даведцы аддзела аховы помнікаў архітэктуры ўпраўлення па справах архітэктуры пры СНК БССР аб разбурэнні і рабаванні гітлераўскімі акупантамі гістарычных помнікаў архітэктуры на тэрыторыі Беларусі ў 1941–44 гг.» экіманскі храм згадваецца як «выстроенный в 1737 г. и являющийся древнейшим деревянным сооружением города» [11, с. 488]. П. А. Рапапорт у справаздачы аб археалагічных даследаваннях згадвае Георгіеўскую царкву, каля якой ён іх і праводзіў [14, с. 24].

З тэксту копіі інвентару Экіманскай праваслаўнай царквы, зробленай Вікенціем Мяніцкім у пачатку XX ст., вынікае, што царква ў мястэчку Экіманія мела назву ў гонар св. Георгія. У 1853 г. гэтая царква была перабудавана[1] з каталіцкага касцёла, узведзенага ў 1736 г. [19, арк. 114]. Гэты касцёл, відаць, быў пабудаваны на месцы аднайменнай уніяцкай царквы, згаданай у дакуменце 1646 г. і, магчыма, разбуранага падчас вайны 1654–1667 гг.

Царква ўяўляла сабой крыжова-купальны драўляны храм на каменным падмурку з адным купалам і званіцай. Пабудавана ў візантыйскім стылі, дах крыты гонтай [19, арк. 114]. У царкве над царскімі варотамі знаходзіўся абраз Казанскай Божай Маці, які шанаваўся мясцовымі жыхарамі як цудадзейны. Абраз утрымліваў надпіс «Образъ Казанскія Божія Матери, 1637 года, октября 29 дня». У царкве размяшчаліся на правай сцяне абраз св. Георгія, на левай – св. Мікалая, абодва зробленыя «ў вялікіх памерах, са срэбранымі шатамі, старажытнага малявання» [19, арк. 114].

У копіі інвентару Мяніцкага згадваецца таксама старажытная уніяцкая царква св. Мікалая, якая знаходзілася непадалёк ад царквы св. Георгія і была зруйнавана ў сярэдзіне XIX ст. Царква мела 4 званы: два вялікія, адлітыя ў 1776 і 1881 г., два малыя, недатаваныя. Яны былі без надпісаў. Звон, які адліты ў 1776 г., утрымліваў два надпісы: «Me fecit Johann August hetzel anno 1766 in Riga» і «Roku 1766 ten dzwon odlowani z bractwa do cerkwi Ekimanskiey Swientego Mikolaia» [19, арк. 114]. Гэты звон відавочна паходзіў з былой уніяцкай царквы св. Мікалая і быў адліты за кошт экіманскага мікалаеўскага брацтва.

Да парафіі мікалаеўскай царквы належалі шматлікія прыходы, частка якіх у 1778 г. была аддадзена

[1] Перабудова адбылася за кошт купца Кудрашова з г. Санкт-Пецярбургу.

полацкай Барысаглебскай (у тэксце інвентару памылкова вызначана «Багаяўленскай») царкве на Кабаку [19, арк. 114, 114адв.].

Такім чынам, магчыма вызначыць, што выяўленыя падчас археалагічнага вывучэння 2000 і 2009 г. падмуркі і цвінтар належалі драўлянай уніяцкай царкве св. Мікалая, якая была разбурана ў сярэдзіне XIX ст. Час яе будаўніцтва застаецца не высветленым, аднак магчыма меркаваць, што яно адбылося пасля Інфлянцкай вайны, магчыма, на падмурку царквы св. Іаакіма і Ганны (аб гэтай царкве існуе толькі адна згадка ў полацкай рэвізіі 1552 г.). Уніяцкая царква св. Георгія, згаданая ў пісьмовых крыніцах сярэдзіны XVII ст., у 1736 г. перабудаваная ў касцёл, а ў 1863 г. – ў праваслаўную царкву, праіснавала да 1944 г.

Рэшткі пахаванняў, ускрытых непасрэдна каля падмуркаў былой Мікалаеўскай царквы, уладкаваны аналагічна могілкам на полацкім гарадзішчы і належалі каталіцкаму (ці уніяцкаму?) насельніцтву XVII–XVIII стст. (арыенціроўка касцякоў галавой на паўночны захад, наяўнасць розначасовых пахаванняў у межах адной магілы). Полацкі краязнавец І. П. Дэйніс сведчыць пра існаванне на экіманскім цвінтары «нізкіх каменных крыжоў», ад якіх сёння захаваўся толькі малюнак [5, с. 11].

Кафля з выявай манаграмы полацкага архіепіскапа і уніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы, знойдзеная каля разбуранай у 1944 г. царквы ў адзінкавым экзэмпляры, прадстаўляе вялікую цікавасць. Рэзідэнцыя полацкага архіепіскапа размяшчалася на Верхнім замку, таму кафля з выявай манаграмы належала прызначанаму Сялявай у 1646 г. настаяцелю храма св. Георгія Васілію Нікіфаровічу.

Такім чынам, Экіманскі пасад пачаў фарміравацца напрыканцы XV ст. за кошт перасяленцаў з Вялікага і Запалоцкага пасадаў Полацка. Гэта пацвярджаюць археалагічныя даныя і звесткі пісьмовых крыніц. З канца XVI ст. Экімань з’яўляецца найбуйнейшай юрыдыкай езуітаў, згаданай у люстрацыі 1774 г. як фальварак. Экіманскі пасад меў разгалінаваную вулічную сетку, уласны рынак, элементы гарадской інфраструктуры і адыгрываў важную ролю ў сацыяльна-эканамічным развіцці Полацка XVI–XVIII стст.

**Літаратура**


1. Витебская старина / сост. А. Сапунов, 1888. – Т. V: Витебск. – 670 с. + 40 л. ил.
2. Дук, Д. У. Археалагічная разведка на Запалоцкім пасадзе Полацка ў 2003 г. / Д. У. Дук // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – № 11. – 2006. – С. 104–113.
3. Дук, Д. У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.: іл.
4. Дук, Д. У. Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у Полацку ў 2000 г. / Д. У. Дук, С. В. Тарасаў // Архіў Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 1880.
5. Дэйніс, І. П. Полацкая даўніна / І. П. Дэйніс; уклад., прад. і камент. М. Баўтовіча; пер. з руск. мовы М. Ермалаева. – Мінск: Медисонт, 2007. – 330 с.
6. Казуля, С. Сялява Антоній / С. Казуля // Вялікае княства Літоўскае: энцыкл.: у 2 т. – Мінск : БелЭн, 2006. – Т. 2: Кадэцкі корпус–Яцкевіч / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]; мастак З. Э. Герасімовіч.– С. 649.
7. Клімаў, М. В. Справаздача за 1996 г. аб археалагічных даследаваннях у г. Полацку і Полацкім раёне / М. В. Клімаў // Архіў Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 1622.
8. Колосова, И. О. Улицы Полонища: XV–XVIII вв. / И. О. Колосова // Археология и история Пскова и Псковской земли: материалы 50-го научного семинара: сб. статей / под ред. В. В. Седова. – Псков, 2004. – С. 39–60.
9. Лебедевская летопись / отв. ред. М. Н. Тихомиров // Полное собрание русских летописей. – М.: Наука, 1965. – Т. 29. – С. 224–314.
10. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. – Ф. 1823. – Воп. 1. – Спр. 1.
11. Памяць: гіст.-дак. хроніка Полацка / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]; мастак Э. Э. Жакевіч. – Мінск: БелЭн, 2002. – 912 с.: іл.
12. Полоцкая ревизия 1552 г. К изданию подготовил И. И. Лаппо. – М.: Университетская типография, Страстной бульвар, 1905. – 237 с.
13. Полоцкие грамоты XIII – начала XVI в.: в 6 вып. / Акад. наук СССР. Ин-т истории СССР. – М., 1977–1989. – Вып. 3 / сост. А. Л. Хорошкевич. – 1980. – 214 с.
14. Раппопорт, П. А. Отчет об археологических раскопках 1976 г. / П. А. Раппопорт // Архіў Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 527.
15. Справы полацкага гродзскага суда 1533–1539 гг. // Беларускі архіў. – Мінск, 1928. – Т. 2. – 344 с.
16. Сяргеенка, Н. А. Люстрацыя паезуіцкіх маёнткаў 1774 года – каштоўная малавядомая крыніца па гісторыі Полаччыны другой паловы XVIII ст. / Н. А. Сяргеенка // Матэрыялы навук.-практ. канф. (па выніках навуковадаследчай работы ў 2002 г.). – Полацк: НПГКМЗ, 2003. – С. 50–59.
17. Тарасов, С. В. Отчет о раскопках в Полоцке и Полоцкой округе в 1987 г. / С. В. Тарасов // Архіў Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Воп. 1. – Спр. 1014.
18. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Мінск: Наука и техника, 1975. – 136 с.: ил.
19. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. – Ф. 599. – Воп. 1. – Спр. 3.
20. Lustrator Połocki z Dobr Ex – Iezuickich, ad Archivum J. O. Xcia, Jmci. Radziwiłła, Mar. Gener. Konf.: WXL. C. D., рукапіс, 1774 г. // Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік. – Кніга паступленняў-17, № 20222.

**Резюме**

*Д. В. Дук*

**Экимань в социотопографической структуре Полоцка XV–XVIII вв.**

Статья посвящена историко-археологическому исследованию бывшего полоцкого посада и юридики полоцких иезуитов – Экимани. Территория левобережных Экиманского и Кривцового посадов Полоцка является наименее изученной в археологическом плане. Хронологические рамки исследования охватывают XV–XVIII в. Впервые представлены итоги археологического изучения на территории Экимани. Сделан аргументированный вывод о времени (конец XV в.) и причинах заселения Экимани (переселение зависимого от бояр населения Великого и Заполоцкого посада вследствие частых войн и разрушений основной территории посада возле Верхнего Замка). На основании данных археологических и письменных источников представлены новые данные о социотопографической структуре посада, размещении памятников культового зодчества.

**Summary**

*D. Duk*

**Eciman as a part of social and topography structure of Polotsk in the $15^{th}$–$18^{th}$ centuries**

Article is devoted to historical and archaeological studying the former suburb of Polotsk and ownership of Polotsk Jesuits – Eciman. The territories of such left-bank suburbs of Polotsk as Eciman and Krivtsov are the least archeologically investigated. Chronological frameworks of research cover the $15^{th}$–$18^{th}$ centuries. For the first time results of archaeological studying on the territory of Eciman are presented. It is drawn the given reason conclusion on time (late $15^{th}$ century) and the reasons of settling of Eciman (resettlement of the dependent population of the suburbs of Great Zapolot'e owing to frequent wars and destructions the main territories near the Upper Custle). On the basis of the given archaeological and written sources new data are presented as about social and topography structure of suburbs as accommodation of monuments of religious architecture.

*Паступіў 24.02.2011*

*І. У. Магалінскі, Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, старшы навуковы супрацоўнік навукова-рэстаўрацыйнага аддзела (г. Полацк)*

# Вытворчыя ювелірныя комплексы старажытнага Полацка (X–XVII стст.)

**Уводзіны.** Шматгадовыя археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Полацка далі багаты матэрыял для рэканструкцыі розных бакоў матэрыяльнай культуры палачан. У межах старажытнага горада былі выяўлены рэшткі развітой ювелірнай вытворчасці. Высокая канцэнтрацыя артэфактаў, звязаных з дадзеным відам рамеснай дзейнасці, дазваляе адносіць Полацк да ліку буйнейшых ювелірных цэнтраў беларускіх зямель эпохі Сярэдневякоўя.

У кантэксце вывучэння гісторыі старажытнага ювелірнага рамяства асаблівае значэнне мае аналіз вытворчых ювелірных комплексаў, якія былі знойдзены у межах горада і адлюстроўваюць асноўныя заканамернасці развіцця дадзенага накірунку рамеснай дзейнасці. За перыяд археалагічнага вывучэння Полацка на яго тэрыторыі было знойдзена пяць такіх комплексаў. Матэрыялы, атрыманыя падчас іх вывучэння, дазваляюць рэканструяваць асноўныя этапы вытворчасці вырабаў з каляровых металаў, выявіць адметныя рысы старажытнага полацкага рамяства, прасачыць дынаміку змянення асартыменту ювелірных вырабаў.

Пад тэрмінам «вытворчы комплекс» мы разумеем сукупнасць адначасовых храналагічных і тэрытарыяльна блізка размешчаных пабудоў, а таксама прастору, што іх акружае, характар знаходак на якой указвае на існаванне на дадзеным участку вытворчай дзейнасці [11]. У гэтым сэнсе аб’ём паняцця «вытворчы комплекс» роўны аб’ёму тэрміна «майстэрня». Такім чынам, гэтыя два паняцці будзем выкарыстоўваць у якасці сінонімаў.

Пытанні вылучэння крытэрыяў вытворчых ювелірных комплексаў не раз узнімаліся ў спецыяльнай літаратуры [4, с. 25; 9; 10; 12, с. 377; 13; 14; 16, с. 448; 17, с. 213]. У сувязі з гэтым абмяжуемся простым пералічэннем асноўных маркёраў ювелірных майстэрняў, якія дазваляюць надзейна атаясамліваць той ці іншы комплекс пабудоў з падобным вытворчым аб’ектам. Да ліку найбольш важных характарыстык ювелірных майстэрняў варта аднесці наступныя: 1) спецыяльны набор інструментаў (ліцейныя формы, тыглі, льячкі, металічны інструментарый); 2) гатовыя рэчы і адыходы вытворчасці; 3) сыравіна для вырабу прадметаў з каляровых металаў.

Сярэдневяковыя ювелірныя майстэрні былі выяўлены ў многіх беларускіх гарадах. Іх аб’ядноўвае прысутнасць у межах адной сядзібы комплексу артэфактаў, якія ўказваюць на характар заняткаў яе жыхароў. Так, у Віцебску былі выяўлены сляды існавання дзвюх ювелірных майстэрняў, якія функцыянавалі на тэрыторыі горада ў XIII ст. У іх знойдзены фрагменты тыгляў з нацёкамі каляровага металу, ювелірныя упрыгажэнні, бракаваныя вырабы [3, с. 122].

Відавочна, што наяўнасць усяго набору характэрных прыкмет у межах аднаго комплексу пабудоў фіксуецца дастаткова рэдка. У сувязі з гэтым на існаванне ювелірнай майстэрні можа ўказваць камбінацыя толькі некаторых найбольш значных прыкмет (напрыклад, выяўленне на тэрыторыі адной сядзібы ліцейных форм і адыходаў вытворчасці, ці тыгляў і металічных інструментаў – пінцэта, ювелірных абцугоў і інш.).

У матэрыялах археалагічных раскопак Полацка дастаткова часта сустракаюцца сляды вытворчасці вырабаў з каляровых металаў (тыглі, сыравіна, металічны рамесны інструментарый, адходы вытворчасці). Між тым лакалізацыя асобных майстэрняў на аснове некалькіх знаходак, не звязаных з канкрэтнымі комплексамі пабудоў, да якіх яны адносяцца, не зусім апраўдана [7, мал. 59]. У сувязі з гэтым у дадзеным артыкуле прыводзіцца характарыстыка толькі сядзібных комплексаў, у межах якіх быў выяўлены неабходны набор артэфактаў, які ўказвае на існаванне на дадзеным участку вытворчай дзейнасці па вырабу прадметаў з каляровых металаў.

**Асноўная частка.** На падставе матэрыялаў археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Полацка ў межах горада можна лакалізаваць не менш пяці вытворчых ювелірных комплексаў (табліца).

У 1961–1962 гг. у Полацку на тэрыторыі Верхняга замка праводзіліся археалагічныя даследаванні пад кіраўніцтвам В. Р. Тарасенкі і Г. В. Штыхава. Раскоп III (агульная плошча 320 м$^2$), які быў прывязаны да раскопа II (1959–1960 гг.), размяшчаўся ва ўсходняй частцы Верхняга замка ў двары Полацкай міжраённай бальніцы [20, с. 1; 21, с. 1]. Усяго ў межах так званага усходняга раскопу (агульная назва раскопу II і раскопу III) было выяўлена XIV будаўнічых гарызонтаў, якія адлюстроўвалі асноўныя заканамернасці развіцця полацкага драўлянага будаўніцтва ў сярэдневяковы перыяд [26, с. 37].

У кантэксце нашага даследавання асаблівую цікавасць выклікаюць пабудовы VI і IX будаўнічых гарызонтаў, у межах якіх ўяўляецца магчымым лакалізаваць асобныя вытворчыя ювелірныя комплексы.

**Характарыстыка вытворчых ювелірных комплексаў з тэрыторыі Полацка X–XVII ст.**

| № | Месца, час выяўлення | Дата | Інструменты вытворчасці | | Сыравіна, нарыхтоўкі і адходы вытворчасці | Гатовыя вырабы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | для ліцейнай справы | для механічнай апрацоўкі | | |
| 1. | Верхні замак, 1961–1962 гг. | II палова XIII ст. | 2 ліцейныя формы, тыглі для плаўкі каляровых металаў | – | Злітак свінца, 2 асобныя кавалкі свінца, медны выраб | Фрагмент пярсцёнка |
| 2. | Верхні замак, 1961–1962 гг. | Сярэдзіна XIII ст. | Фрагмент ліцейнай формы, тыглі для плаўкі каляровых металаў | – | 2 фрагменты дроту, нарыхтоўка з латуні, бронзавая пласцінка, літы бронзавы выраб, нарыхтоўка наверша свінцовай булавы | Віты бранзалет з петлепадобнымі канцамі, трайны металічны бранзалет, бронзавы пярсцёнак, круглая медная бляшка |
| 3. | Вялікі пасад, 1987–1988 гг. | XII–XIII стст. | 2 ліцейныя формы, тыглі, соплы горна | Пінцэт, ювелірныя вагі, гіркі-разнавагі | Металічны шлак, дрот, зліткі свінца, нарыхтоўка грыўні і інш. | Ліравідныя спражкі (4 экз.), падковападобныя фібулы, шматпацеркавае скроневае кальцо, бранзалеты, зашпількі і інш. |
| 4. | Ніжні замак, 1989–1990 гг. | X–XI стст. | Больш за 80 фрагментаў тыгляў | 2 пінцэты, каваdлачка, фрагмент ювелірных вагаў, гіркі-разнавагі | – | Крыж-цельнік з грубай выявай Ісуса, спражкі, падковападобныя фібулы і інш. |
| 5. | Вялікі пасад, 2005 г. | I палова XVII ст. | Больш за 50 фрагментаў плавільных тыгляў | Ювелірны малаточак-цвікадзёр | Металічны дрот, нарыхтоўкі «пус епі» (20 экз.), бронзавы злітак і інш. | Пус епі (32 цэлых экз.), 5 кручкоў ад кафтана, 10 іголак, 2 мініяцюрныя іголачкі, таварная пломба і інш. |

Пабудовы VI будаўнічага гарызонту загінулі ў моцным пажары. Аснову планіроўкі гарызонту складала вуліца, ці скрыжаванне дарог. Менавіта гэтаму гарызонту адпавядае верхні насціл маставой. У яго межах асаблівую цікавасць выклікае пабудова 6К (№ 6 паводле палявой дакументацыі) і спадарожныя ёй канструкцыі 6Л і 6М. Сукупнасць матэрыялаў, выяўленых падчас іх расчысткі, дае падставы для атрыбуцыі сядзібы ў якасці вытворчага ювелірнага комплексу.

Пабудова 6К (4 × 4 м) з'яўлялася жылой і паўночным фасадам выходзіла на вуліцу. Увесь комплекс ўяўляў сабой трохчленную структуру, выцягнутую ўздоўж восі поўнач–поўдзень. Непасрэдна на вуліцу выходзіла амаль квадратнае ў плане жылое памяшканне, ад якога захаваўся толькі вянок зруба, які размешчаны на чурбанах (с усходняга боку іх сем). Пасярэдзіне зруба ў напрамку поўнач–поўдзень памяшканне падзелена лагай з рэшткамі падлогі на ёй. У вуглу пабудовы знойдзены дзве каменныя ліцейныя формы.

З паўднёвага боку ад гэтай канструкцыі захаваўся насціл з абгарэўшых круглых бярвенняў (сені). Бярвенні былі пакладзены на лагі, якія ляжалі на зямлі. На захад ад канструкцыі знаходзіліся рэшткі невялікага насцілу (рэшткі ганка).

Да сеняў з поўдня прымыкала клець. Захаванасць яе рэшткаў дрэнная. Пабудова рублена «ў абло», захавалася частка насціла падлогі. У межах дадзенай канструкцыі знойдзены злітак свінца. Каля заходняй сцяны жылога дома выяўлены рэшткі варот (шырыня – 1,7 м). Ушчыльную да ўсходняй сцяны праходзіў востракол, які аддзяляў комплекс ад суседняй сядзібы. Парубачная дата аднаго са слупоў варот – 1276 г. На думку Г. В. Штыхава, гэтыя пабудовы ўяўляюць сабой узаемазвязаны комплекс хата–сені–клець [26, с. 41].

Вялікую цікавасць выклікае набор артэфактаў, выяўленых на тэрыторыі сядзібнага комплексу. Акрамя ўжо адзначаных вышэй дзвюх ліцейных форм (пабудова 6К) і злітка свінца (пабудова 6М) у межах гэтага комплексу былі выяўлены яшчэ два кавалкі свінца, два тыглі для плаўкі каляровых металаў, медны выраб і фрагмент пярсцёнка [21, с. 9]. Такі набор знаходак дазваляе з упэўненасцю суаднасіць дадзеную сукупнасць пабудоў з вытворчым ювелірным комплексам, які існаваў на месцы раскопу ў другой палове XIII ст.

Майстр-ювелір спецыялізаваўся на адліўке ювелірных упрыгажэнняў з каляровых металаў у каменных ліцейных формах. Відавочна, што пасля вялікага пажару, які вынішчыў пабудовы ўсяго гарызонту, рэштві згарэўшага комплексу не расчышчаліся, што дазволіла ў культурным слоі выявіць матэрыялы, якія ўказвалі на характар заняткаў жыхароў дадзенай сядзібы.

Вялікае значэнне для аналізу вытворчасці вырабаў з каляровых металаў мае выяўленне ў межах «усходняга раскопу» яшчэ адной ювелірнай майстэрні, з якой можна суаднесці пабудову 7М (№ 14 паводле палявой дакументацыі), якая пачала функцыянаваць у IX будаўнічым гарызонце, а загінула ў пажары ў межах VII гарызонта [21, с. 18].

Жылая пабудова 7М – адна з найбольш добраўпарадкаваных канструкцый, выяўленых у Полацку. Яе памеры – 4,7 × 4,7 м. Ад зруба захавалася шэсць ніжніх вянкоў агульнай вышынёй каля 1 м. У выніку дэндрахраналагічнага даследавання пяці выпілаў з розных бярвенняў канструкцыі былі ўстаноўлены іх парубачныя даты – 1243–1245 гг. Паводле назіранняў Г. В. Штыхава, пабудова 7М існавала каля 20 гадоў, што падцвярджаецца дадзенымі дэндрахраналагічнага датавання канструкцый 6С і 6І VI будаўнічага гарызонту, якія перакрывалі сядзібу 7М. Падрабязнае апісанне канструктыўных асаблівасцей гэтай пабудовы прыведзена ў манаграфіі Г. В. Штыхава «Древний Полоцк» [26, с. 45].

У 4 м на захад ад азначанай канструкцыі у межах кв. 105 і 113 быў выяўлены развал вугляў і ліцейных шлакаў з нацёкамі сіняга і карычневага колеру. Разам са шлакамі выяўлены фрагмент тыгля. Верагодна, на гэтым месцы адбываўся працэс выплаўкі каляровых металаў у адкрытых тыглях. Размяшчэнне печы наводдаль ад сядзібы тлумачылася патрэбамі пажарнай бяспекі [21, с. 21].

У межах пабудовы 7М і побач ад яе быў выяўлены характэрны набор прадметаў, якія дазваляюць атаясамліваць дадзеную канструкцыю з вытворчым ювелірным комплексам, які існаваў на гэтай тэрыторыі ў сярэдзіне XIII ст.

Сярод знаходак асабліва трэба адзначыць інструменты ліцейшчыка – 12 тыгляў (з іх 3 – цэлыя) з нацёкамі метала на ўнутранай паверхні, абломак імітацыйнай ліцейнай формы; нарыхтоўкі і брак вытворчасці – 2 фрагменты дроту (меднага і бронзавага), нарыхтоўка з латуні ў выглядзе вузкай доўгай паласы, бронзавая пласцінка, алавянны выраб (метал, які застыў у літніку), літы бронзавы выраб у выглядзе трохвугольніка, побач з канструкцыяй выяўлена нарыхтоўка наверша свінцовай булавы; гатовыя вырабы – віты бранзалет з петлепадобнымі канцамі, трайны металічны бранзалет з петлепадобнымі канцамі, бронзавы пярсцёнак, круглая медная бляшка з арнаментам [26, с. 45].

Акрамя слядоў існавання на дадзенай тэрыторыі ювелірнай вытворчасці ў межах сядзібы былі выяўлены сведчанні заняцця яе жыхароў і іншымі відамі рамёстваў, у прыватнасці апрацоўкай скуры.

Можна дапусціць, што майстэрня, якая была выяўлена ў межах шостага будаўнічага гарызонту і дэндрахраналагічна датуецца 1276 г., генетычна звязана з пабудовай 7М, якая знікла ў выніку пажара на ўзроўні сёмага гарызонту (пабудовы 6С і 6І, якія перакрываюць канструкцыю 7М, маюць парубачную дату 1265 г.). Такім чынам, верагодна, ювелірны вытворчы комплекс, які складаецца з пабудоў 6К, 6Л і 6М, з'яўляецца працягам існавання на новым месцы пабудовы 7М. На гэта ўказвае і набор знаходак, які выразна характарызуе заняткі жыхароў абедзвюх сядзіб (фрагменты ліцейных форм, тыглі, сыравіна і адходы вытворчасці).

Вельмі цікавы вытворчы ювелірны комплекс, які існаваў у XII–XIII стст., быў выяўлены на тэрыторыі Вялікага пасада падчас археалагічных даследаванняў пад кіраўніцтвам С. В. Тарасава ў 1987–1988 гг. Раскопкі далі вялікі матэрыял для вывучэння матэрыяльнай культуры старажытных палачан. На даследаванай тэрыторыі ў межах другога будаўнічага гарызонту быў выяўлены вялікі сядзібны комплекс, які складаўся з сямі пабудоў, размешчаных на плошчы 1500 м$^2$ [24, с. 11]. Агульная характарыстыка комплексу была дадзена С. В. Тарасавым у спецыяльным даследаванні [19].

На тэрыторыі сядзібы знойдзена значная колькасць артэфактаў, якія ўказваюць на характар заняткаў яе жыхароў. Сярод слядоў ювелірнай вытворчасці можна адзначыць роўнаплечныя вагі, гіркі-разнавагі, ювелірны пінцэт, тыглі для плаўкі каляровых металаў, ліцейныя формы, нарыхтоўкі і гатовыя вырабы. Акрамя выразных сведчанняў існавання вытворчасці па апрацоўцы каляровых металаў у межах комплексу былі выяўлены сляды апрацоўкі бурштыну (у 13 пласце знойдзена 640 кавалкаў бурштыну), якая не патрабуе спецыяльнага абсталявання [25]. На думку С. В. Тарасава, у дадзенай майстэрні мог ажыццяўляцца выраб шкляных упрыгажэнняў [19; 22, с. 13].

Верагодна, да азначанай сядзібы меў дачыненне развал плінфы другаснага выкарыстання, які быў выяўлены ў непасрэднай блізкасці ад яе разам са значнай колькасцю фрагментаў тыгляў, металургічных шлакаў і соплаў горнаў. Дадзены комплекс можа быць атрыбутаваны як рэшткі горна для плаўкі каляровых металаў, які ў старажытнасці быў разбураны і перанесены ў дадзенае месца.

Вялікую цікавасць выклікае ювелірная майстэрня, якая была выяўлена С. В. Тарасавым на Ніжнім замке ў 1989–1990 гг. На тэрыторыі раскопу былі знойдзены сляды існавання найбольш ранняга вытворчага ювелірнага комплексу, які датуецца аўта-

рам раскопак X–XI стст. [18, с. 3]. Акрамя яго падчас шурфоўкі на Ніжнім замке былі выяўлены і іншыя сведчанні існавання ювелірнай майстэрні. Так, падчас шурфоўкі на «стрэлцы» Ніжняга замка, С. В. Тарасавым на мацерыку была знойдзена ліцейная форма для адліўкі манетападобных прывесак, імітуючая арабскія дырхемы. Верагодна, дадзеная знаходка магла адносіцца да яшчэ аднаго вытворчага ювелірнага комплексу, сляды якога захаваліся толькі ў выглядзе мацерыковых ям [23, с. 14].

Магутнасць культурнага слою на раскопе агульнай плошчай 400 м$^2$ складала 1,0 м. Культурныя напластаванні былі значна перамешаны, а «заўважныя стратыграфічныя асаблівасці пачаліся толькі з глыбіні 0,6–0,8 м, а часам і ў перадмацерыку». Сляды існавання на тэрыторыі раскопу вытворчага ювелірнага комплексу былі зафіксаваны ў межах рэшткаў наземнай каркасна-слупавой пабудовы і звязаных з ёй мацерыковых ям [23, с. 4].

Пабудова размяшчалася непасрэдна на мацерыку ў межах кв. 29, 38 і 39 і была даследавана часткова. Яна ўяўляла сабой наземную, каркасна-слупавую канструкцыю з даўжынёй адной са сценак 2,8 м. Пабудова загінула ў пажары, на што ўказвае праслойка вугалю магутнасцю да 5 см. У паўднёва-заходняй частцы кв. 39 былі выяўлены рэшткі печы-каменкі (дыяметр 1,1 м), выкладзенай з камянёў дыяметрам 10 см. Побач з развалам печы былі выяўлены фрагменты тыгляў для плаўкі каляровых металаў, а таксама шкляныя пацеркі і бурштын [23, с. 8].

Усяго на месцы раскопу было знойдзена каля 80 тыгляў (цэлых і фрагментаў), два ювелірныя пінцэты, ювелірная кавадлачка, фрагмент роўнаплечных вагаў і гірка-разнавага, сыравіна і гатовыя вырабы. Між тым асноўная частка ювелірнага інструментарыю, які быў выяўлены на месцы раскопу, паходзіць з вышэйшых перамешаных слаёў, што не дазваляе адназначна суадносіць іх з пабудовай, знойдзенай на мацерыку. Аднак, калі прыняць да ўвагі той факт, што культурны слой у межах даследаванай тэрыторыі быў моцна пашкоджаны карэннямі дрэў, а таксама адноснае тыпалагічнае датаванне большасці інструментаў, можна лічыць дадзены комплекс знаходак наборам інструментаў мясцовага ювеліра.

Складаным застаецца пытанне адносна агульнай спецыялізацыі дадзенай майстэрні. На думку С. В. Тарасава, яна была арыентавана на выраб шкляных упрыгажэнняў (у прыватнасці пацерак) [19]. Між тым падобная вытворчасць патрабавала існавання спецыяльнага абсталявання, а таксама адмысловага інструментарыю.

Шкларобчае рамяство на тэрыторыі старажытнай Русі з’явілася не раней канца X ст. і было прадстаўлена работамі грэчаскіх майстроў, якія працавалі ў Кіеве. Толькі пачынаючы з сярэдзіны XI ст. дадзены від рамеснай дзейнасці пачынае развівацца больш актыўна, аднак па-ранейшаму ў межах грэчаскіх майстэрняў [2, с. 145].

Некаторыя сучаныя даследчыкі ўвогуле адмаўляюць магчымасць існавання на тэрыторыі старажытнай Русі ўласнай шкловытворчаці, аргументуючы свае высновы адсутнасцю археалагічна выяўленых майстэрняў, якія б спецыялізаваліся на вырабе шкла [15].

На тэрыторыі раскопу 1989–1990 гг. і побач з пабудовай адсутнічаюць сляды існавання самастойнай шклоробчай вытворчасці (не былі выяўлены рэшткі адмысловых печаў, шклошлакаў, інструментарыю, значнай колькасці бракаваных вырабаў і нарыхтовак). Адсутнасць пералічаных вышэй прыкмет не дазваляе атаясамліваць дадзены комплекс і з майстэрняй па другаснай апрацоўцы шкла з мэтай вырабу з яго спецыяльных упрыгажэнняў. Такім чынам, значную колькасць выяўленых разам з пабудовай пацерак можна лічыць скарбам шкляных вырабаў, які быў схаваны ў момант небяспекі, падчас якой, верагодна, канструкцыя і была знішчана.

Вялікая колькасць пацерак, а таксама керамічны матэрыял дазваляюць датаваць комплекс X–XI стст. Такое датаванне характэрна і для рамеснага інструментарыю, выяўленага на месцы раскопу (шыракагубы арнаментаваны пінцэт, роўнаплечныя вагі).

Падчас выратавальных раскопак на тэрыторыі Вялікага пасада ў г. Полацку ў 2005 г. былі выяўлены рэшткі яшчэ аднаго вытворчага ювелірнага комплексу. Культурны пласт у раскопе меў агульную магутнасць 3 м, пры максімальнай магутнасці ў паўночна-заходняй частцы (3,06 м), складаўся з трох стратыграфічных гарызонтаў. Ювелірная майстэрня была выяўлена ў сярэднім стратыграфічным гарызонце (0,8–1,0 м) са значнай колькасцю рэчаў пераважна XVII–XVIII стст. [5].

У межах кв. 17–21 былі выяўлены рэшткі востракола, які размяшчаўся па лініі поўнач–поўдзень і складаўся з калкоў невялікага дыяметра (да 0,1 м), завостраных у ніжняй частцы. Верагодна, дадзеная канструкцыя ўяўляла сабой рэшткі агароджы дзвюх сядзіб. У гэтым жа стратыграфічным гарызонце (кв. 11) знойдзены рэшткі апечка, ад якога захаваўся пласт гліны магутнасцю 0,1–0,15 м пры агульных памерах 1,0 × 1,2 м з кавалкамі керамічнага друзу і вапны. Па ўмоўнай лініі заходняй сценкі кв. 11 выяўлены чатыры слупы дыяметрам 0,2 м, якія размешчаны ўшчыльную на адлегласці 0,5 см ад апечка. На гэтым жа ўзроўні ў межах кв. 21–22, зафіксаваны рэшткі драўлянага насціла, зробленага з дошак таўшчынёй каля 0,05 м [8, с. 6].

Характар выяўленых канструкцый дазваляе аднесці іх да адной сядзібы, а выяўленыя ў яго межах знаходкі даюць падставы для атрыбуцыі пабудовы ў якасці вытворчага ювелірнага комплексу, які існаваў

на дадзеным месцы ў першай палове XVII ст. Такое датаванне пацвярджаецца керамічным матэрыялам, выяўленым на месцы размяшчэння канструкцый.

Асаблівую цікавасць выклікае асартымент рэчаў, якія былі знойдзены ў межах вытворчага комплексу і маюць непасрэднае дачыненне да ювелірнага рамяства. Сярод інструментаў ювеліраў варта адзначыць знаходку малаточка і 50 фрагментаў плавільных тыгляў.

Акрамя набору інструментаў вялікае значэнне мае выяўленне вялікай колькасці гатовых вырабаў і нарыхтовак з металічнага сплаву (на аснове медзі з невялікімі дамешкамі серабра). Усяго знойдзена 96 прадметаў. Сярод іх 32 цэлыя пус епі, 20 нарыхтовак, 5 кручкоў ад кафтана, 10 іголак, 2 мініяцюрныя іголачкі і інш. Высокая канцэнтрацыя на дадзеным месцы вырабаў, які валодаюць аналагічнымі фізічнымі і хімічнымі характарыстыкамі, дазваляе з упэўненасцю казаць пра іх выраб у межах знойдзенай падчас раскопак сядзібы [6, с. 173].

Матэрыялы археалагічных даследаванняў дазваляюць выказаць меркаванне адносна спецыялізацыі азначанага комплексу на вырабе функцыянальных рэчаў – дэталяў адзення (засцежкі пус епі, кручкі ад кафтана), а таксама бытавых рэчаў (іголкі, напарстак). Рэшткі тыгляў указваюць на ліцейны спосаб вытворчасці прадметаў. Між тым агульны характар артэфактаў, а таксама адсутнасць у межах раскопу адмысловых ліцейных форм, указвае на той факт, што тыглі маглі выкарыстоўвацца толькі для вырабу сплаву (з якога зроблена большасць прадметаў) і выплаўкі сыравіннага матэрыялу, у той час як асноўным тэхналагічным прыёмам мясцовых ювеліраў была механічная апрацоўка каляровых металаў.

Комплекс канструкцый, выяўленых на тэрыторыі Вялікага пасада ў 2005 г., можна лічыць слядамі ювелірнай майстэрні, якая існавала на гэтай тэрыторыі ў першай палове XVII ст. Майстар-ювелір спецыялізаваўся на вырабе дэталяў адзення і шэрагу пабытовых рэчаў, выкарыстоўваючы для іх вырабу абмежаванае кола рамесных аперацый (перадусім прыёмы для механічнай апрацоўкі каляровых металаў).

У актавай кнізе Полацкага магістрата 1650 г. у сувязі з маёмаснымі справамі два разы сустракаецца імя толькі аднаго полацкага злотніка Стэфана Мандрыкі. У справе ад 15 лютага 1650 г. дадзены майстар набываў агарод «в месте Полоцъкомъ, за паръканомъ месъкимъ … на улицы, назъваной Великой» [1, с. 127]. Падобная лакалізацыя агарода можа ўказваць на той факт, што сядзіба ювеліра размяшчалася ў непасрэднай блізкасці ад яго, на Вялікім пасадзе. Гэта можна лічыць ускосным доказам таго, што выяўленая ў 2005 г. майстэрня належала менавіта гэтаму злотніку.

**Заключэнне.** За перыяд археалагічнага вывучэння Полацка на яго тэрыторыі былі выяўлены бясспрэчныя сведчанні існавання ювелірнай вытворчасці, арыентаванай на апрацоўку каляровых металаў. У межах гістарычнай часткі горада знойдзена 5 вытворчых рамесных ювелірных комплексаў, якія абслугоўвалі патрэбы гарадскога насельніцтва, пачынаючы з X ст.

Рамесныя майстэрні адносяцца да трох храналагічных груп, якія адлюстроўваюць асноўныя заканамернасці развіцця дадзенага накірунку рамеснай дзейнасці на тэрыторыі горада: 1) X–XI стст.; 2) XII–XIII стст.; 3) XVII ст.

Ювелірная майстэрня X–XI стст. уяўляла сабой прыклад сядзібна-дваравой забудовы, якая ўтрымлівала як жылыя, так і вытворча-гаспадарчыя пабудовы агульнай плошчай каля 100 м². Асноўнымі інструментамі злотнікаў у гэты час з'яўляліся плавільныя тыглі, пінцэты, роўнаплечныя вагі. На вялікі жаль, фрагментарная захаванасць канструкцыі майстэрні, а таксама перамешаны характар культурнага слою не дазваляе выказаць адназначнага меркавання адносна яе спецыялізацыі. Між тым, зыходзячы з асобных знаходак, выяўленых на ўсёй плошчы раскопу, можна лічыць, што вытворчы комплекс спецыялізаваўся выключна на апрацоўцы каляровых металаў. Відавочна, што галоўным тэхналагічным прыёмам было ліццё, якое, верагодна, ажыццяўлялася ў гліняных ліцейных формах, зробленых па воскавай мадэлі, ці з дапамогай адбіткаў гатовых рэчаў у сырой гліне.

У XII–XIII стст. павышаецца інтэнсіўнасць ювелірнай вытворчасці, на што ўказвае выяўленне на тэрыторыі горада трох вытворчых комплексаў, якія адносяцца да дадзенага храналагічнага адрэзку. Вытворчыя сядзібныя комплексы гэтага часу арыентаваліся пераважна адносна вуліц і складаліся з некалькіх пабудоў. Пры гэтым ювелірная майстэрня на тэрыторыі Вялікага пасада адрознівалася сваімі вялікімі памерамі ад канструкцый майстэрняў, якія размяшчаліся на Верхнім замку. Верагодна, такую акалічнасць трэба тлумачыць не толькі статусам саміх рамеснікаў, але і абмежаванасцю тэрыторыі Верхняга замка.

У азначаны перыяд з'яўляюцца новыя рамесныя прыёмы і пашыраецца асартымент ювелірных вырабаў. У межах усіх трох комплексаў былі выяўлены ліцейныя формы (каменныя і касцяныя), якія прызначаліся для адліўкі шырокага кола ювелірных упрыгажэнняў. З'яўленне падобнай тэхналогіі трэба тлумачыць неабходнасцю вырабу значнай колькасці серыйных вырабаў, выкананых з танных матэрыялаў, якія знешне былі падобныя да прадметаў з каштоўных металаў (перадусім серабра). Такім чынам, з'яўленне ліцейных форм шматразовага выкарыстання трэба разглядаць у якасці сведчання таварнас-

ці полацкай ювелірнай вытворчасці ў XII–XIII стст. У межах сядзібы ювеліра на Вялікім пасадзе, верагодна, існавала і апрацоўка бурштыну, якая не патрабуе значнай колькасці спецыялізаванага інструментарыю і адмысловага абсталявання.

Матэрыялы археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Полацка не даюць падстаў для лакалізацыі ніводнага вытворчага ювелірнага комплексу XIV–XVI стст. Дадзеную акалічнасць можна патлумачыць адсутнасцю на працягу доўгага перыяду сярод беларускіх археолагаў належнай увагі да познасярэдневяковых культурных слаёў, якія маглі ўтрымліваць рэшткі падобнай вытворчасці на тэрыторыі горада.

Акрамя таго, у выніку шматгадовых назіранняў за культурным слоем Полацка была адзначана складанасць вылучэння пластоў, якія б утрымлівалі выразныя матэрыялы XIV–XV стст. Гэтыя асаблівасці культурнага слою горада значна ўскладняюць працэс выяўлення і датавання рэшткаў ювелірнай вытворчасці, якія адносяцца да дадзенага храналагічнага адрэзка.

Асобна варта спыніцца на вытворчым ювелірным комплексе першай паловы XVII ст., які вылучаецца не толькі характэрным наборам інструментаў, але і асартыментам вырабаў. Дадзеная майстэрня ўяўляе сабой узор вузкаспецыялізаванага вытворчага комплексу, арыентаванага на выраб дастаткова абмежаванага набору прадметаў, якія насілі ўтылітарны характар. У сувязі з гэтым дадзены рамесны комплекс з'яўляецца яркім прыкладам эвалюцыі ювелірнай вытворчасці па шляху яе большай спецыялізацыі і арыентацыі на выраб найбольш запатрабаванай групы рэчаў, якія насілі функцыянальнае прызначэнне. На прыкладзе рамеснага інструментарыю, выяўленага ў межах майстэрні, можна выказаць пэўнае меркаванне і адносна змянення тэхналогіі апрацоўкі рэчаў з каляровых металаў. Тыглі у гэты час выкарыстоўваюцца пераважна для прыгатавання адмысловага сплаву, з якога зроблена абсалютная большасць рэчаў, выяўленых у сярэднім стратыграфічным гарызонце, а выраб гатовых рэчаў быў звязаны з механічнымі прыёмамі апрацоўкі прадметаў з каляровых металаў.

Такім чынам, значная колькасць вытворчых ювелірных комплексаў, якія былі выяўлены на тэрыторыі Полацка, сведчаць пра высокі ўзровень развіцця дадзенага віду рамеснай дзейнасці ў межах горада. Высокая канцэнтрацыя слядоў апрацоўкі каляровых металаў ставіць Полацк у шэраг буйнейшых ювелірных цэнтраў старажытных беларускіх зямель, а разгледжаныя ў рабоце вытворчыя комплексы даюць падставы для вывучэння асноўных этапаў эвалюцыі старажытнага полацкага златарства.

**Літаратура**

1. Актавая кніга полацкага магістрата 1650 г.: зб. дакументаў / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі; склад. і падрыхт. да друку М. Ю. Гардзееў. – Мінск: Беларус. навука, 2006. – 270 с.: іл.

2. Безбородов, М. А. Стеклоделие в Древней Руси. Химико-технологическое исследование древнерусских стекол и огнеупоров / М. А. Безбородов. – Минск: Академия наук БССР, 1956. – 307 с.

3. Бубенько, Т. С. Средневековый Витебск: Посад – Нижний замок (X – первая половина XIV в.) / Т. С. Бубенько. – Витебск: ВГУ им. П. М. Машерова, 2004. – 276 с.

4. Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город) / Ф. Д. Гуревич. – Л.: Наука, 1981. – 160 с.

5. Дук, Д. У. Выратавальныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка ў 2005 годзе / Д. У. Дук // Весн. «ПДУ». Сер. А, Гуманітарныя навукі.– 2007. – № 1. – С. 5–23

6. Дук, Д. У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.

7. Дук, Д. У. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.) / Д. У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2010. – 180 с.

8. Дук, Д. У. Справаздача аб археалагічных раскопках і наглядзе ў горадзе Полацку ў 2005 годзе / Д. У. Дук // ААНД Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Спр. 2284.

9. Ениосова, Н. В. Литейные формы Гнёздова / Н. В. Ениосова // Историческая археология. Традиции и перспективы (к 80-летию со дня рождения Даниила Антоновича Авдусина). – М.: «Памятники исторической мысли», 1998. – С. 67–81.

10. Ениосова, Н. В. Ювелирный производственный комплекс из «Ветчаного города» домонгольского Владимира / Н. В. Ениосова, Ю. Э. Жаров // Российская археология. – 2006. – № 2.– С. 64–80.

11. Зайцева, И. Е. Производственные ювелирные комплексы Серенского детинца и их место в системе застройки (XII–XV вв.) / И. Е. Зайцева // Тр. VI Междунар. конгр. славянской археологии. – М.: Наука, 1998. – Т. 2: Славянский средневековый город. – С. 100–113.

12. Каргер, М. К. Древний Киев / М. К. Каргер // Очерки по истории материальной культуры древнерусского города: в 2 т. – М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1958. – Т. 1. – 579 с.

13. Коваленко, В. П. Майстерня ювеліра XIII ст. на дитинці Любеча / В. П. Коваленко // Старожитності Русі-України. – Київ, 1994. – С. 21–32.

14. Никольская, Т. Н. Кузнецы железу, меди и серебру от вятич / Т. Н. Никольская // Славяне и Русь. – М.: Наука, 1968.– С. 122–132.

15. Олейников, О. М. Стеклодельные мастерские в древности (К вопросу о существовании древнерусского стеклоделия) / О. М. Олейников // Новгород и Новгородская земля. История и археология. – 1997. – Вып. 11. – С. 51–73.

16. Рыбаков, Б. А. Ремесло древней Руси / Б. А. Рыбаков. – М.: Изд-во АН СССР, 1948. – 784 с.

17. Рындина, Н. В. Технология производства новгородских ювелиров X–XV вв. / Н. В. Рындина // Тр. нов-

городской археологической экспедиции. – М., 1959. – № 65: Материалы и исследования по археологии СССР. – С. 200–247.

18. Тарасаў, С. В. Справаздача аб археалагічных доследах у Полацку і полацкай акрузе ў 1990 г. / С. В. Тарасаў // ААНД Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Спр. 1205.

19. Тарасаў, С. В. Сядзіба полацкіх ювеліраў XII–XIII стст. / С. В. Тарасаў // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы IV Міжнар. навук. канф. – Полацк: НПГКМЗ, 2003. – С. 267–272.

20. Тарасенко, В. Р. Отчет о раскопках Полоцкого отряда белорусской археологической экспедиции в 1962 г. / В. Р. Тарасенко, Г. В. Штыхов // ААНД Ин-та истории Нац. акад. наук Беларуси. – Дело 130.

21. Тарасенко, В. Р. Отчет о раскопках Полоцой археологической экспедиции Института истории АН БССР в 1961 г. / В. Р. Тарасенко, Г. В. Штыхов // ААНД Ин-та истории Нац. акад. наук Беларуси. – Дело 114.

22. Тарасов, С. В. Отчет о раскопках в Полоцке в 1988 г. / С. В. Тарасов // ААНД Ин-та истории Нац. акад. навук Беларуси. – Дело 1084.

23. Тарасов, С. В. Отчет о раскопках в Полоцке в 1989 г. / С. В. Тарасов // ААНД Ин-та истории Нац. акад. наук Беларуси. – Дело 1165.

24. Тарасов, С. В. Отчет о раскопках в Полоцке и Полоцкой округе в 1987 г. / С. В. Тарасов // ААНД Ин-та истории Нац. акад. наук Беларуси. – Дело 1014.

25. Шаповалов, Р. Г. Обработка янтаря в средневековом Новгороде / Р. Г. Шаповалов // Новгород и Новгородская земля. История и археология. – 1998. – Вып. 12.– С. 109–120.

26. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк IX–XIII вв. / Г. В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – 136 с.

**Резюме**

*И. В. Магалинский*

**Производственные ювелирные комплексы древнего Полоцка (X–XVII стст.)**

Дана характеристика производственных ювелирных комплексов, открытых на территории Полоцка. Автор локализирует пять ювелирных мастерских, которые относятся к трем хронологическим группам: 1) X–XI вв.; 2) XII–XIII вв.; 3) XVII в. На основе анализа археологических материалов делаются выводы относительно характерного для каждой хронологической группы ассортимента изделий, особенностей производственного процесса, а также планировки и размеров усадеб.

**Summary**

*I. Mahalinski*

**Jewelry production complexes on the territory of ancient Polotsk (X$^{th}$–XVII$^{th}$ cc.)**

In the article the author defines jewelry production complexes that were open on the territory of Polotsk. The author localizes 5 jewelry workshops that refer to 3 chronological periods 1) X$^{th}$–XI$^{th}$ cc.; 2) XII$^{th}$–XIII$^{th}$ cc.; 3) XVII$^{th}$ c. According to the analysis of archaeological materials they draw a conclusion about range of goods that is typical to each chronological period, about peculiarities of production process, and about the size and planning of constructions.

*Паступіў 24.02.2011*

***О. Н. Левко,*** *Институт истории НАН Беларуси, заведующая Центром истории доиндустриального общества, доктор исторических наук, профессор (г. Минск);*
***А. В. Войтехович,*** *Институт истории НАН Беларуси, научный сотрудник отдела сохранения и использования археологического наследия (г. Минск);*
***П. М. Кенько,*** *Институт истории НАН Беларуси, младший научный сотрудник отдела сохранения и использования археологического наследия (г. Минск)*

# Археологические исследования Друцка в 2008–2009 гг.

В 2008–2009 гг. на территории агрогородка Друцк были возобновлены археологические исследования посада, начатые под научным руководством О. Н. Левко в 1999–2000 гг. при подготовке к празднованию 1000-летия древнего города [1]. В исследованиях принимали участие научные сотрудники Института истории НАН Беларуси А. В. Войтехович, П. М. Кенько, а также студенты Витебского государственного университета в рамках проведения археологической практики.

Цель исследования – продолжить изучение средневекового посада Друцка и выявить новые археологические объекты (селища и курганы) на территории агрогородка. В качестве подосновы для привязки шурфов, раскопов VI, VII на территории посада, курганов 1–3 вновь выявленной группы IV, селища-2 использовался современный план агрогородка Друцк в масштабе 1 : 5000 (рис. 1).

***Раскоп VI*** был заложен в 2008 г. на территории посада с западной стороны от Окольного города (рис. 1). Он ориентирован по сторонам света и вытянут с севера на юг, его площадь 48 м². Дневная поверхность в раскопе VI, как показала нивелировка, имела небольшой уклон с севера на юг на 0,1 м. Стратиграфически прослежены три слоя: 1) серого цвета, имеющий среднюю толщину 0,4 м; 2) темный слой с включением углей, вкраплений кирпичного боя, имеющий толщину 0,2–0,3 м; 3) светло-серый слой толщиной 0,20–0,25 м, в котором также отмечены скопления углей (рис. 2). Общая мощность культурных напластований раскопа равна 0,8 м. Только с южной стороны в кв. 11 и частично кв. 12 глубина раскопа достигала 2,2 м в связи с тем, что здесь была выявлена яма, проходящая с запада на восток и заполненная серым слоем до материка. В ней наряду с материалами, характеризующими культурный слой раскопа, выявлены современные предметы.

На уровне пл. 2, 3 в кв. 3, 4 (рис. 2) были выявлены фрагменты *каменных вымосток*. Они не имели определенной формы и невозможно было установить их назначение. На уровне расчистки вымостки и под ней в данных квадратах (пл. 3) найдено значительное количество керамики, среди которой встречены венчики, датируемые XII–XIII вв. с линейным рифлением и волнистым рельефным орнаментом. Есть одно днище (пл. 3, кв. 4) с клеймом в виде треугольника с заходящими концами (рис. 3: *1*).

При зачистке материка в раскопе VI были выявлены материковые ямы, которые имели округлую форму и их диаметр достигал 0,25–0,60 м. При выборке заполнения ям оказалось, что все они имели форму столбов с тупым окончанием, заполнены светло-серым слоем и связаны с нижним горизонтом культурных отложений. Глубина ям с диаметром 0,4–0,6 м достигала 0,20–0,35 м, с диаметром 0,25–0,35 м глубина достигала 0,11–0,35 м. Особо выделяются две ямы у стен кв. 10–12. Одна из них была заполнена серым слоем. Однако в кв. 12 эта яма выходит за пределы раскопа в южном направлении, ее размеры, заполнение и сложность конфигурации допускают, что здесь имел место подклет XVI–XVII вв., который вторично использован в качестве мусорной ямы в XX в. Вторая яма выявлена на границе кв. 10–12 и выходит за пределы раскопа в восточном направлении. Ее размеры в пределах раскопа 1,46 × 0,47 см при глубине 0,3–0,4 м (яма имеет уступ). Заполнение ямы нижним светло-серым слоем позволяет предполагать, что она имеет хозяйственное назначение.

Вещевой материал, выявленный в раскопе VI, показывает, что, несмотря на видимую сохранность стратиграфии слоев, внутри них имелись перекопы. Это неизбежно при небольшой мощности слоя в целом. Некоторые вещи более раннего происхождения оказывались ниже, чем вещи более поздние. Главным образом, вещевой состав не выходил хронологически за пределы древнерусского времени. К изделиям из цветного металла относятся фрагмент бронзового проволочного браслета с круглым сечением, полутораоборотное височное кольцо, фрагмент подвески с ушком, одежная застежка, свинцовая пломба и др. (рис. 4: *1–4, 7*). Изделия из железа представлены ключом, пинцетом, двумя фрагментами




Рис. 1. Ситуационный план размещения исследуемых объектов




Рис. 2. План и профили раскопа VI. Территория посада. 2008 г.




Рис. 3. Изделия из глины (раскоп VI, 2008 г. ): *1–3* – клейма на днищах сосудов; *4* – фрагмент крышки; *5* – фрагмент ручки; *6, 7* – венчики горшков




Рис. 4. Изделия из цветных металлов (раскоп VI, 2008 г.): *1* – фрагмент браслета; *2* – кольцо; *3* – фрагмент подвески; *4* – пломба; *5* – фрагмент пластинки; *6* – фрагмент накладки; *7* – застежка одежды

серпа, ножами с широкой спинкой (рис. 5: *1–4, 10–13*). К верхнему слою (позднее XIII в.) относятся фрагменты цепочки, язычок пряжки и фрагмент шпоры (рис. 5: *6–8, 14*). Особый интерес представляют изделия из глины. К ним относится амфорка киевского типа с клеймом на днище, ручка большой амфоры, датируемые XIII в. (рис. 6: *1, 3*), а также фрагменты горшков, крышки XII в. и днища с различными клеймами (рис. 6: *2, 3*). Среди клейм есть одно с трезубцем (рис. 3: *2*).

После завершения работ на раскопе VI, располагавшемся с западной стороны площадки автостоянки, с ее южной стороны в 2008 г. был заложен *шурф 13*, цель закладки которого – проверить перспективность разбивки раскопа на данном участке. Шурф 13 находился за канавой, проходившей вдоль южного ограждения площадки автостоянки, был ориентирован с севера на юг, его площадь составляла 12 м$^2$. С южной стороны площадка, где был расположен шурф 13, ограничивалась забором усадьбы. Стратиграфически шурф 13 включал два слоя. Первый слой темного цвета с углями и вкраплениями кирпича, либо фрагментов кирпичной кладки имел толщину в среднем 0,4 м и начинался сразу от дневной поверхности под травой. Ниже него располагался второй светло-серый слой толщиной до 0,2 м. За ним шел материк из светлого песка.

В кв. 2 на глубине 0,6 м при зачистке материка была обнаружена яма. По характеру ямы (скопление углей, камней и керамики), она определялась как очаг. Зафиксированный на границе кв. 2, 3 очаг имел округлую форму, и в его верхней части с восточной и южной сторон были прослежены мелкие и средней величины камни, между которыми и рядом с ними с наружной стороны очага собрано большое количество керамики, а также зубы коровы и мелкие кости животных. Помимо этих находок в верхней части очага и рядом с ним встречены обмазка, иголки, пряслице из розового шифера, железное кольцо, днище с клеймом в виде треугольника с закругленными углами (рис. 5: *9*, *15–17*; 7: *5*). Очаговая яма имела размеры 1,4 м по линии север–юг и 1,1 м по линии запад–восток. Ее глубина 0,27 м.

***Раскоп VII*** был прирезан в 2009 г. к шурфу 13 с южной стороны площадки автостоянки. Площадь раскопа VII составляла 24 м$^2$. Основная часть раскопа имела мощность культурных напластований 0,40–0,55 м (рис. 8). Стратиграфически он включал верхний слой серого цвета толщиной до 0,2 м, под которым залегал второй слой темного цвета с вкраплениями битого кирпича. Его мощность составляла 0,2–0,3 м. Этот слой подстилался светло-серым слоем толщиной 0,1–0,2 м. Однако в кв. 5, 6 и кв. 6, 7 на уровне материка стали вырисовываться две




Рис. 5. Изделия из железа: (раскоп VI, 2008 г.): *1* – ключ; *2* – пинцет; *3, 4* – фрагменты серпа; *5* – изделие; *6, 14* – фрагменты цепочки; *7* – язычок пряжки; *8* – фрагмент шпоры; *10–13* – ножи; (шурф 13, 2008 г.) *9* – кольцо; *15–17* – иглы

большие ямы, уходящие за пределы раскопа (яма 1 в восточном направлении и яма 2 в южном направлении). Выборка слоя в этих ямах показала, что их глубина достигает 1,40 м (яма 1) и 1,75 м (яма 2). Стены ям имели уступы. Профиль ямы 2 по линии кв. 6, 7 имел подпрямоугольные очертания (рис. 8, разрез А-А') шириной 3,2 м. Заполнение ям 1, 2 представлено смешанным темным и светло-серым слоем, насыщенным углями с линзами красной прокаленной глины. Этот слой четко отделяется от вышележащего темного слоя прослойкой угля. Стратиграфические наблюдения позволили предположить, что ямы 1, 2 являются впущенными в материк подклетами строений XVI–XVII вв., которые сгорели. После выборки слоя из ямы 2 в кв. 8, 9 стали видны очертания подклета, имевшего размеры примерно

зброя, прадметы хатняга ўжытку, якія знойдзены падчас археалагічных раскопак. Зыходным матэрыялам для кавальскай справы было жалеза.

Лагойшчына мела значныя, у маштабах вытворчасці сярэдневяковага часу, запасы руды. Буры жалязняк выходзіць на значнай адлегласці ў адкладах поплава, а таксама ў самім рэчышчы ракі Ілля ў Лагойскім раёне. Як устанавілі даследчыкі, гэты жалязняк даволі плотны, паводле хімічнага аналізу ўтрымлівае да 58,8% жалеза [2, с. 142].

Рэшткі глінабітных печаў-дамніц і жалезны шлак былі выяўлены ў 1915 г. маладым археолагам, тады студэнтам Петраградскага універсітэта, М. В. Шавельскім на гарадзішчы Замкавая гара (Замкавішча), размешчаным у лесе за 1 км на паўднёвы-захад ад Лагойска. А. М. Ляўданскі ў 1923 г. пры раскопках гарадзішча каля вёскі Свідна на правым беразе Гайны выявіў жалезны шлак і рэшткі гліняных жалезаапрацоўчых печаў ранняга жалезнага веку. Археалагічныя даныя сведчаць, што за тысячу гадоў да з'яўлення Лагойска абарыгеннае насельніцтва на Лагойшчыне было знаёма з жалезам і яго апрацоўкай. Наогул у Лагойску знойдзена некалькі соцен жалезных вырабаў XI–XIII стст. Можна не сумнявацца, што большасць з іх зроблены мясцовымі рамеснікамі.

Для вывучэння кавальскай апрацоўкі жалеза ў Лагойску быў прыменены металаграфічны аналіз, які выканаў прафесар М. Ф. Гурын [4, с. 49]. Гарадскія рамеснікі ў XI–XIII стст. выкарыстоўвалі складаныя тэхнічныя прыёмы. На рабочыя часткі прылад працы – нажоў, нажніц, сякер і іншых, наварваліся сталёвыя палосы.

З жалеза і сталі кавалі выраблялі інструменты для розных рамёстваў, сельскагаспадарчыя прылады, прадметы ўзбраення, шматлікія бытавыя рэчы. Тыповай прыладай працы з'яўляецца жалезная скобля, знойдзеная ў Лагойску. Гэты выраб выкарыстоўвалі для здзірання кары з бярвення і грубага яго стругання.

У розных відах рамяства знаходзіць ужытак свідраванне – прыём нанясення адтулін у цвёрдых матэрыялах. У Лагойску знойдзены абломак ніжняй часткі жалезнага свердла ці яго пяро (мал. 12: *16*). Свердзел меў металічны стрыжань, а рабочая частка – лыжкападобную форму з дзвюма рэжучымі гранямі.

Жалезны разец – даволі рэдкая знаходка. Рабочая частка інструмента – тонкая, вострая з абодвух бакоў, крута загнутая пласціна (мал. 7: *12*). Разцамі карысталіся каўшэчнікі для апрацоўкі ўнутранай часткі каўшоў і лыжак. На думку вядомага даследчыка Б. А. Колчына, галоўным прызначэннем такіх інструментаў было іх выкарыстанне токарамі па дрэве [10, с. 42]. У сярэднявечным Лагожску існавала такарная справа.



Мал. 16. Вырабы: *1–13, 16–25* – з жалеза; *14, 15* – з валынскага сланца

Цікавай знаходкай з Лагойска з'яўляецца жалезная лыжка (мал. 9: *5*). Яе памеры 5 × 5 см, глыбіня 1,5 см. Магчыма, лыжка выкарыстоўвалася як прылада працы і выконвала ролю тыгля для плаўкі метала, неабходнага ў ювелірнай справе.

Прадукцыяй ганчарнага рамяства была бытавая кераміка, сярод якой у Лагойску пераважаў кухонны посуд. Калекцыя керамікі служыць каштоўнай крыніцай для вывучэння ўзроўню ганчарства ў розныя перыяды гісторыі горада. Вывучэнне керамікі з раскопак Полацка, Віцебска, Лукомля прывяло нас да высновы, што ганчарны круг з'явіўся каля сярэдзіны X ст. У другой палове гэтага стагоддзя ва ўсіх гарадах выкарыстоўваўся ганчарны круг для вырабу кухонных гаршкоў. Адбыліся якасныя змены ў ганчарнай справе. Яна вылучылася ў важную галіну сярэдневяковай рамеснай вытворчасці. У гэтым сэнсе Лагойск не мог быць выключэннем сярод іншых гарадоў Полацкай зямлі.

У Лагойску знойдзены адзінкавыя абломкі гліністага посуду, зробленага ад рукі, сярод якіх два венчыкі: адзін амаль прамы (мал. 11: *1*), другі крыху адагнуты і мае арнамент (мал. 11: *2*). Уся астатняя кераміка зроблена на ганчарным крузе. Калекцыя кругавой керамікі з раскопак Лагойска налічвае многія сотні фрагментаў. У 1968 г. была класіфікавана

кругавая кераміка з раскопаў-1, 3 агульнай плошчай 194 м$^2$ (мал. 13).

Тып I уключае кераміку з простым адагнутым венчыкам і пакатымі плечукамі. Тут вылучаецца тры віды посуду. У першым край венчыка коса зрэзаны, у трэцім – венчык мае паглыбленне. Гэта група ранняй кругавой керамікі. У Полацку такі матэрыял адносіцца да другой паловы X – XI ст. [38, с. 81, рис. 40]. Прыкладна так яна датуецца ў Заслаўі [7, с. 190].

Тып II асноўны, найбольш распаўсюджаны ў гарадах Полацкай зямлі XII–XIII ст. Гаршкі маюць выгнутую мякка прафіляваную шыйку. У віду 2 венчык скошаны ўсярэдзіну і нагадвае спецыфічны полацкі тып керамікі [38, рис. 40]. Від 3 мае акруглы край венчыка, які загнуты ўсярэдзіну і добра прыстасаваны для прылягання крышкі.

Тып III зусім нешматлікі, у пасудзіны рэзка адагнуты верхні край з венчыкам.

Тып IV аб’ядноўвае гаршкі з вельмі кароткай шыйкай. У віду 1 край венчыка зрэзаны, у віду 2 край венчыка акруглены. Гаршкі гэтага тыпу характэрны для другой паловы XVI – XVII ст.

У раннесярэдневяковым Лагожску існавалі розныя рамёствы (жалезаапрацоўчае, ганчарнае, дрэваапрацоўчае і інш.). Каб дасягнуць пэўнага поспеху, рамесніку неабходна было ведаць сакрэты цяжкага рамяства, валодаць навыкамі майстэрства, мець умелых памочнікаў, якімі з’яўляліся члены яго сям’і.

Сваё сталае месца ў гаспадарчым жыцці горада займалі прадзенне і ткацтва. Гэта былі заняткі кожнай жанчыны не толькі ў вёсцы, аднак таксама і ў горадзе: пралі лён, авечую воўну, пяньку (валакно з каноплі). Гэтымі вельмі працаёмкімі заняткамі займаліся выключна жанчыны.

**Сведчанні гандлёвых і культурных сувязей.** У раннім сярэдневякоўі былі шырока распаўсюджаны праселкі з ружовага і шэрага сланцу («оўруцкага шыферу»), радовішчы якога знаходзяцца каля г. Оўруча Жытомірскай вобласці (Украіна), дзе выраблялася асноўная колькасць праселкаў. Адтуль яны траплялі ва ўсходнеславянскія (старажытнарускія) гарады ў вялікай колькасці. У Лагойску выяўлена 16 такіх вырабаў (мал. 5: *4–6*; 16: *14, 15*).

Шмат у якіх гарадах XII – першай паловы XIII ст. вельмі папулярным упрыгажэннем з’яўляліся шкляныя бранзалеты ў выглядзе кольцаў са шкла, як насілі на руцэ вышэй кісці. Бранзалеты вырабляліся са шкла розных колераў: ад празрыстых да цёмных адценняў. У Мінску на замчышчы выяўлена больш за тысячу фрагментаў гэтых ломкіх вырабаў. Адзін бранзалет аказаўся цэлым. Колер бранзалетаў: сіні, блакітны, зялёны, карычневы. Большасць бранзалетаў выраблена ў Кіеве, як засведчана спецыяльнымі аналізамі.

У Лагойску знойдзены толькі тры фрагменты шкляных бранзалетаў (мал. 5: *7, 8*; 12: *13*) карычневага, зялёнага, сіняга колеру. Варта прыгадаць, што ў Заслаўі, дзе даследавана значная частка культурных напластаванняў сярэдневяковага горада, знойдзены чатыры фрагменты шкляных бранзалетаў. Цяжка знайсці здавальняючы адказ на пытанне, чаму ў Лагойску, Заслаўі, а таксама ў Браславе практычна не ўжываліся шкляныя бранзалеты, вельмі распаўсюджаныя ў іншых гарадах Полацкай зямлі (Полацку, Мінску, Віцебску, Лукомлі, Оршы, Копысі, Друцку, Барысаве).

На Лагойскім замчышчы выяўлена 17 абломкаў паўднёвых амфар XII – першай паловы XIII ст. Адзін абломак даволі буйны. Таўшчыня сценак амфары складала 2 см, яе паверхня была пакрыта рыфленнем (мал. 9: *1*). Амфары – гліняныя пасудзіны з высокім горлам і дзвюма вертыкальнымі ручкамі. У іх трымалі і перавозілі вадкія прадукты. Фрагменты амфар знойдзены амаль ва ўсіх беларускіх гарадах, найбольшая колькасць у Наваградку – 2202 фрагменты ад пяці тыпаў. Вышыня некаторых амфар дасягае 50 см, дыяметр тулава – 24 см [16, с. 185].

Амфары добра вядомы ў шматлікіх гарадах Кіеўскай Русі. Іх прывозілі з візантыйскіх гарадоў паўночнага і заходняга ўзбярэжжа Чорнага мора, дзе выраблялі тару для перавозкі віна, аліўкавага масла і іншых вадкасцей. Разам са сваім змесцівам амфары імпартаваліся ў цэнтры Усходняй Еўропы. Трэба сказаць, што імпартныя тавары не траплялі ў Лагойск непасрэдна з цэнтраў іх вырабу, а дастаўляліся шляхам транзіту праз буйныя гарады: Кіеў, Ноўгарад, Полацк, Смаленск і інш.

Сярод разнастайных імпартных вырабаў даследчыкі вылучаюць групу прадметаў, якія называюць «падкովападобныя фібулы з патоўшчанымі канцамі». Падкովападобная фібула мае амаль круглую форму ды іголку ў выглядзе стрыжня. Вырабляліся яны з бронзы, некаторыя былі арнаментаваныя. Такі выраб трапіўся ў Лагойску. Ён авальны ў сячэнні, мае арнамент са спіраляў і завіткоў (мал. 11: *5*). Памеры фібулы – 4 × 4 см. Датаваны яны XII – пачаткам XIII ст.

На тэрыторыі Усходняй Еўропы такіх фібул знойдзена 48. У Беларусі яны выяўлены ў Засвіры, Наўрах, Стара-Барысаве, Лукомлі, Браславе, Гродне, Навагрудку, Слоніме, Ваўкавыску, Мсціславе, Турыйску, Мінску, Суляцічах [28]. Большасць фібул належыць тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Прыбалтыцы, адкуль такія ўпрыгажэнні пранікалі ў славянскія гарады і паселішчы.

Трапілася ў Лагойску яшчэ другая шпілька, зробленая з каляровага металу, іголка ў ёй не захавалася. У сячэнні шпілька круглая, на яе канцах праглядаюцца стылізаваныя выявы (мал. 12: *9*). Падобная фібула знойдзена пры раскопках кurганоў XI ст. каля вёскі Захарнічы Полацкага раёна [34,

мал. 45: *13*]. Блізкія аналогіі вядомы ў старажытнасцях усходняй Прыбалтыкі.

Вырабаў з каляровых металаў на Лагойскім замчышчы мала. Адзіным экзэмплярам прадстаўлена літая паясная спражка з авальнай пярэдняй частка і прамавугольным прыёмнікам для рэменя (мал. 11: *6*). Спражка раздзелена воссю для замацавання язычка, які не захаваўся і, відаць, быў жалезным. Блізкі па форме варыянт ліրападобнай спражкі сустрэты ў Ноўгарадзе ў пласце XII–XIII стст. [27, рыс. 56: *8*].

У Лагойску знойдзена стылізаваная плоская падвеска-конік з загнутым уверх хвастом і выцягнутымі вушамі. Ён дэталёва выраблены, на паверхні нанесены кружковы пуансонны арнамент, характэрны для дадзенай групы вырабаў (мал. 11: *7*). На капытах коніка адтуліны, у якія ўстаўляліся металічныя кольцы для прымацавання іншых падвесак. Конік адліты ў каменнай форме. Арэал падвесак-конікаў ахоплівае паўночную частку ўсходнеславянскай тэрыторыі (Бранскую, Калужскую, Смаленскую, Маскоўскую, Пскоўскую і іншыя вобласці) [31, с. 91].

Аднак найбольш сканцэнтраваны падвескі-конікі на прасторы рассялення смаленска-полацкіх крывічоў. Падвескі-конікі выяўлены на тэрыторыі Полацкай зямлі ў Віцебску (3 экз.), Лукомлі, Мінску, Браславе, Усвяце, на Менцы, Маскавічах. В. В. Сядоў лічыць, што з'яўленне такіх амулетаў звязана з балцкім субстратам смаленска-полацкіх крывічоў [25, с. 28].

На Лагойскім замчышчы знойдзены бранзалет з чатырох бронзавых дратоў (мал. 5: *10*). Выраб мае петлепадобныя канцы. Гэтакі бракованы бранзалет вядомы ў Полацку [38, рыс. 33: *25*]. На Лагойшчыне здаўна былі распаўсюджаны вітыя бранзалеты з канцамі, завязанымі двайным вузлом [37, с. 194]. Менавіта такі тып упрыгажэнняў маглі выраблязь мясцовыя рамеснікі.

Асаблівай увагі заслугоўвае жалезная гіра ад бязмена, без якога не абысціся пры гандлі. Такія гіры выкарыстоўваліся ў якасці меры пры важанні. Яе вышыня 11 см, дыяметр каля 9,5 см, вага 2250 г. У ніжняй частцы ёсць паглыбленне (мал. 5: *12*). Паводле формы, памераў і вазе Лагойская знаходка блізкая да гіры з Ноўгарада [10, с. 97]. Падобная знаходка вядома з Кукенойса – полацкай крэпасці ва ўсходняй Прыбалтыцы на Заходняй Дзвіне.

Варта прыгадаць, што ў 1902 г. у былой вёсцы Слабодка Лагойскага раёна знойдзены манетны скарб. Ён складаўся з 24 цэлых і 7 фрагментаваных сярэбраных плацёжных зліткаў наўгародскага і літоўскага тыпаў у выглядзе палачак (агульнай масай 3,3 кг). На двух наўгародскіх злітках графіці «птрва» (Пятрова). Скарб датуецца XIII–XIV стст. [21, с. 567].

Да гандлю мае адносіны шкляная знаходка. У верхнім пласце адкладаў на Лагойскім замчышчы выяўлены шкляны выраб «кварта». Гэта закрытая



Мал. 17. Знаходкі з Лагойскага замчышча: *1, 2* – кераміка; *3* – жалеза; *4* – шкло

пасудзіна – бутэлька з квадратным ці прамавугольным у плане донцам, якая мае завяршэнне кароткай шыйкай з вузкім рыльцам (мал. 17: *4*). Яе прыкладная вышыня 21 см, памеры донца 4,6 × 6,3 см. Кварта была разам з кафляй XVI ст. У Вялікім Княстве Літоўскім квартай называлася пасудзіна і адначасова мера вадкасці [41, с. 318].

**Рэчы хатняга выкарыстання.** У Лагойску знойдзены розныя прадметы паўсядзённага побыту і сярод іх шмат вырабаў з жалеза. Універсальным прадметам, які ўжываўся ў побыце і рамёствах з'яўляўся нож (24 экз.). Нажы XII–XIII стст. мелі вузкія клінкі даўжынёй ад 5 да 15 см (мал. 4: *6–10*; 7: *17, 18*), аддзеленыя ад дзяржання ўступамі. Лязо нажоў заканчвалася плаўным закругленнем.

Нажы насаджваліся звычайна на масіўнае драўлянае дзяржанне (тронкі). Разам з тым у Лагойску выяўлена дзяржанне, упрыгожанае цыркульным і лінейным арнаментам (мал. 12: *14*). Невялікая касцяная муфтачка для дзяржання нажа мае «ёлачны» арнамент (мал. 12: *10*). Большасць нажоў былі гаспадарчымі (кухоннымі), некаторыя маглі служыць для апрацоўкі дрэва і косці, а іншыя выкарыстоўваліся ў якасці зброі.

Нажніцы, як і нажы, – універсальныя інструменты і шырока ўжываліся ў побыце і рамястве

для рэзання і стрыжкі. У Лагойску знойдзены тры экзэмпляры нажніц (мал. 7: *1, 4, 5*). Яны спружынныя, названыя цяпер «авечымі». У сярэднія вякі іх выкарыстоўвалі не толькі для стрыжкі авечак, але і ў кравецкай справе.

На Лагойскім замчышчы знойдзены дзве іголкі з завостраным канцом і вушкам для ніткі: адна касцяная, другая жалезная. Касцяная іголка ў сячэнні авальная, даўжынёй 7,5 см, сярэдняя таўшчыня 3 мм, дыяметр вушка 1,5 мм. Напэўна, такія іголкі выкарыстоўваліся для сшывання конскай вупражы (мал. 12: *11*). Жалезная іголка нагадвае сучасныя вырабы, яе даўжыня 4 см, вушка не захавалася (мал. 7: *10*).

Крэсівы – жалезныя вырабы для высякання іскры і здабывання агню пры ўдары пласцінкі аб крэмень. На Лагойшчыне ў курганах каля вёскі Ізбішча знойдзена 14 крэсіваў. Амаль у кожным пахаванні з крэсівамі быў кавалак крэменю. У Ноўгарадзе Вялікім такія «калачападобныя» крэсівы выкарыстоўваліся з пачатку X – да апошняй чвэрці XII ст. У XII–XIII стст. ужываліся крэсівы двухлязовыя, авальныя па форме. У Лагойску знойдзена крэсіва такога тыпу (мал. 8: *7*). Крэсівы насілі ў мяшэчку разам з крэменем і кнотам каля пояса з левага боку.

У сярэдневякоўі вельмі распаўсюджанымі сталі замкі – прыстасаванні для запірання чаго-небудзь на ключ. Звязана гэта было з усталяваннем прыватнай уласнасці. На беларускіх землях засведчана ўжыванне замкоў з другой паловы X – пачатку XI ст. Ключ гэтага часу знойдзены ў кургане з трупаспаленнем каля вёскі Экімань Полацкага раёна [34, с. 120, мал. 67: *11*]. Выкарыстоўваліся замкі для замыкання дзвярэй жылых і гаспадарчых пабудоў, крышак куфраў, скрыняў, шкатулак і інш.

Усходнеславянскія замкі па форме корпуса і адпавядаючага ёй ключа падзяляюцца на нерухомыя (нутраныя) і навясныя (здымныя). У лагойскай калекцыі прысутнічаюць ад нерухомых замкоў 3 ключы, ад навясных – 12.

Найбольш раннім і адзіным у Кіеўскай Русі X–XI стст. быў навясны замок тыпу А. У замкý кубічнай формы ключ меў прамавугольную ці квадратную лапатачку з некалькімі адтулінамі, якія сціскалі спружыны на верхняй дужцы, і яна свабодна вынімалася з корпуса замкá. Такі ключ, у лапатачцы якога змешчаны чатыры квадратныя адтуліны, знойдзены ў Лагойску (мал. 4: *15*). Яго агульная даўжыня – 12 см, памеры лапатачкі 4 × 4 см. Аналагічныя ключы ў Ноўгарадзе датуюцца другой паловай X – XI ст. [10, с. 80]. Ключ з круглай лапатачкай ад замка цыліндрычнай формы, які датуецца тым жа часам (мал. 8: *17*).

Далейшым развіццём апісанага замкá быў замок тыпу Б. Ключ ад яго змяніўся. Лапатачка (лопасць) была адагнута пад прамым вуглом да стрыжня. Ключ стаў каленчатым. Такіх ключоў у Лагойску знойдзена чатыры (мал. 8: *22, 23*). Новы цыліндрычны замок (тып В) меў ключ каленчатай формы з плоскім стрыжнем (мал. 8: *21*).

Сярод нерухомых (нутраных) замкоў налічваецца некалькі відаў. Жалезны ключ ад зусім простага нерухомага замкá знойдзены ў Лагойску (мал. 12: *15*), чатыры ключы выяўлены ў Мінску [6, с. 330]. Замком служыла падоўжаная гладкая дошчачка-планка ці засаўка, якая рухалася паміж двума скобамі. Ключ устаўляўся ў адтуліну і пры павароце ўправа ці ўлева адсоўваў засаўку. Такімі ключамі карысталіся ў вёсках да XX ст. Былі яшчэ замкі з драўлянай засаўкай крыху іншай канструкцыі. Каленчаты ключ ад такога замка выяўлены ў Лагойску (мал. 16: *1*).

Больш складанымі з’яўляліся нерухомыя жалезныя замкі. Ключ XI–XII стст. меў пустацелы стрыжань і прамавугольную бародку з пяццю кантралюючымі круглымі адтулінамі (мал. 16: *3*). Ключ ад другога варыянта нерухомага жалезнага замка XII–XIII стст. меў востры выступ (цыпель) (мал. 12: *19*). На яго бародцы было пяць адтулін, прычым сярэдняя ў выглядзе крыжа. Выяўлена некалькі дэталяў ад замкоў (мал. 16: *18, 19*). Амаль цалкам захавалася плоская спружына ад нерухомага замка (мал. 8: *15*). Пласціны ад нерухомых нутраных замкоў знойдзены ў Гродне, Лукомлі, Брэсце [13, с. 241].

З нерухомымі замкамі для дзвярэй была звязана яшчэ адна распаўсюджаная знаходка – замочныя лічыны і накладкі пад дзвярныя ручкі (мал. 4: *17, 20*). Дзвярная ручка ўяўляла сабой жалезнае кальцо, якое прымацоўвалася вузкай жалезнай скабой (мал. 5: *2*).

Рэдкай знаходкай з’ўляецца мініяцюрны ключык, даўжынёй усяго 3,9 см. Мусіць, ён быў амулетам – сімвалам багацця і яго зберажэння. Па сваёй форме нагадвае найбольш распаўсюджаны тып ключоў XI–XII стст. (мал. 16: *2*). Насіліся яны таксама ў складзе другіх амулетаў [30, с. 288; 31, с. 96].

Не выклікае сумнення існаванне ў Лагойску бандарнай справы. Хваёвыя і ліставыя лясы на Лагойшчыне садзейнічалі рамёствам па апрацоўцы дрэва. З драўніны выраблялася шматлікія прадметы хатняга ўжытку, у тым ліку вёдры, бочкі, кубкі, місы і інш. Дрэва ў культурных напластаваннях Лагойска не захоўваецца. Але знойдзены фрагменты жалезных дужак ад вядра, а таксама рэшткі жалезных абручоў ад іх. Абруч выглядаў вузкім жалезным вобадам, які набіваўся на кадушку, бочку, вядро ці кубак, складзены з драўляных дошчачак – клёпак.

Для расчэсвання валасоў служылі грабяні, выробленыя з рога лася. У Лагойску карысталіся цэльнымі двухбаковамі грабянямі з рэдкімі зубамі на адным баку і частымі на другім (мал. 5: *1*; 12: *12*).

Самым архаічным элементам культуры, выяўленай на Лагойскім замчышчы, з’яўляюцца каменныя сякеры (мал. 10: *2, 3*). Шліфаваныя крамянёвыя сякеры-кліны з’явіліся ва ўжытку насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў канцы новага каменнага веку (неаліту). Найбольшае значэнне яны набывалі ў бронзавым веку (II тысячагоддзе да н. э.). Медзь і волава, сплаў якіх утварае бронзу, трапля́лі з поўдня (Каўказа і Прыкарпацця). Паступова на землях нашых продкаў узнікла бронзаліцейная справа. Адсутнасць уласнай сыравіны стрымлівала шырокае ўкараненне металічных вырабаў на тэрыторыі Беларусі.

Сякера выступае ў славянскай міфалогіі як сімвал бога Перуна, узброенага каменным молатам ці сякерай, які адбіваў варожыя навалы Чарнабога. Пярун разбіваў чорныя хмары і вада лілася на зямлю. Шырока распаўсюджана павер’е – хто мае каменную сякеру, таго мінуе маланка, не кране д’ябал [11, с. 10–11].

Каменныя сякеры бронзавага веку часта знаходзяць пры раскопках гарадоў. Так, у Полацку ў культурных напластаваннях XIII–XVII стст. іх выяўлена 16 (1969–1967 гг.). Большасць сякер мае клінападобную форму, як у Лагойску. Верагодна, з гэтымі каменнымі вырабамі ў жыхароў горада, якія недзе выпадкова знайшлі іх, былі звязаны рэлігійныя вераванні.

Паколькі ў культурным пласце Лагойскага замчышча дрэнна захоўваюцца арганічныя рэчывы расліннага і жывёльнага паходжання, у ім не захаваліся рэшткі адзення і абутку. Уяўленне пра касцюм і абутак жыхароў раннесярэдневяковага гарадоў можна атрымаць па выніках раскопак у Полацку, Мінску, Віцебску, а таксама карыстаючыся этнаграфічнымі данымі, дачыненне да якіх мелі Канстанцін і Яўфімій Тышкевічы [1].

**Даследаванне паселішча на Лагазінцы.** Паходжанне назвы горада Лагожск працягвае цікавіць даследчыкаў. Меркаванне выклаў гісторык В. Л. Насевіч, які са спасылкай на мовазнаўцу В. П. Лемцюгову, пісаў: «Лагойск, як вядома, стаіць на рацэ Гайне. Аднак за 9 км вышэй па цячэнні ў яе ўпадае рачулка Лагазінка, на якой стаіць вёска Лагаза. Гэта наводзіць на думку, што некалі Лагазой называлася сама рэчка, а назву “Лагожск” магло атрымаць паселішча, якое першапачаткова існавала недзе ля яе ўпадзення ў Гайну. Пазней гэта паселішча магло быць перанесена на новае, больш зручнае месца, захаваўшы пры гэтым старую назву (такая практыка пераносу гарадоў была даволі звыклай у той час). Праўда, ніякіх археалагічных доказаў на карысць гэтай гіпотэзы мы пакуль не маем, але не выключана, што яны могуць з’явіцца ў будучым» [19, с. 49].

Паводле «Карты рэк», выдадзенай былым Інстытутам энергетыкі Беларускай акадэміі навук у 1959 г.,




Мал. 18. Схематычны план археалагічнага комплексу «Лагазінка» каля в. Старое Гарадзішча Лагойскага раёна

рэчка мае назву «Логозинка» (Лагазінка), з’яўляецца правым прытокам Гайны. Даўжыня Лагазінкі каля 10 км, у яе сярэднім цячэнні знаходзіцца вёска Лагаза, цэнтр Лагазінскага сельскага савета Лагойскага раёна.

Недалёка ад вытокаў Лагазінкі на левым яе беразе, на высокай (пануючай) гары знаходзіцца гарадзішча. Яго мясцовая назва «Замкавая гара» (мал. 18). У 1963 г. гэтыя месцы абследаваў вядомы археолаг Л. Д. Побаль. У сваёй справаздачы, а затым у публікацыі ён упамінае рэчку «Замкавую», відаць, бытавую мясцовую назву [20, с. 329].

Гарадзішча размешчана за 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі Старое Гарадзішча. Недалёка, на супрацьлеглым правым беразе ракі знаходзіцца вёска Новае Гарадзішча. Л. Д. Побаль зняў план археалагічнага помніка – гарадзішча. Яго пляцоўка авальнай формы мае памеры 65 × 32 м і вышыню 40 м над узроўнем вады ў рэчцы. Гарадзішча было ўмацаванаваламі і равамі. Вал праходзіў па краі пляцоўкі. Былі яшчэ два кальцавыя валы і равы. Бліжэйшы да пляцоўкі роў і знешні вал добра прасочваюцца. Іншыя знешнія валы моцна разбураны, і равы апынуліся засыпанымі. Л. Д. Побаль адзначыў, што ўся пляцоўка гарадзішча, а ў некаторых месцах і схілы заняты сучаснымі сельскімі могілкамі. Л. Д. Побаль пісаў у справаздачы, што куль-




Мал. 19. Кераміка: *а* – з гарадзішча; *б* – з селішча-2. Комплекс «Лагазінка»

турны слой гарадзішча мае чорную і шэрую афарбоўку. У ім знойдзены два абломкі грубаляпных пасудзін. Адзін гладкасценны шэра-чорнага колеру, другі – чырвоны звонку і шэры з другога боку, акрамя таго, з гэтага боку ёсць штрыхоўка.

З паўночна-заходняга боку да гарадзішча прылягае селішча, адкрытае Л. Д. Побалем у 1963 г. Тады яно разворвалася і мела плошчу да 1,5 га. У некаторых месцах былі бачны чорныя плямы, дзе знойдзены абломкі ляпной і ганчарнай керамікі. Выяўленую кераміку Л. Д. Побаль датаваў другой паловай I тысячагоддзя н. э. Даследчык меркаваў, што тут былі пабудаваны паўзямлянкавыя жытлы. Знойдзена каменная зерняцёрка, глінянае біканічнае праселка з вялікай адтулінай, два каменныя брускі, фрагмент глінянага грузіка, жалезны нож, вялікая колькасць жалезных шлакаў і ганчарная кераміка розных тыпаў [20, с. 329].

У 2004 г. мне давялося абследаваць берагі Лагазінкі. Гара і яе схілы каля вёскі Старое Гарадзішча ўся была занята сучаснымі могілкамі. Яны ўзніклі таксама на селішчы, адкрытым Л. Д. Побалем у 1963 г.

У 2006 г. Г. В. Штыхаў разам з настаўнікам гісторыі У. У. Хартановічам больш дэталёва абследавалі гарадзішча ў надзеі знайсці якія-небудзь старажытныя матэрыялы. Варта адзначыць, што ў паўночнай частцы яго пляцоўкі каля схілу захаваліся рэшткі вала вышынёй не менш 2 м, што сведчыць аб магутных умацаваннях гарадзішча. Уся пляцоўка цяпер вельмі шчыльна занята магіламі. Адна з іх адносіцца да 1900 г., як сведчыць надпіс на каменным помніку. Некаторыя магілы вырыты зусім нядаўна. Правесці тут нават невялікія раскопкі няма магчымасці.

Даследчыкі абышлі гэтыя мясціны некалькі разоў і ім пашчасціла выявіць 12 кавалкаў ад гліняных пасудзін, з іх 10 кавалкаў ад ляпнога посуду. Два невялікія кавалкі са штрыхоўкай. Штрыхі зроблены не толькі са знешняга боку, але таксама з унутранага. Таўшчыня такой керамікі 0,6 см. Знойдзены больш значны па памерах фрагмент ад прыдоннай часткі таўшчынёй 1,1 см. Ён мае шмат жарствы, паверхня шурпатая без арнаменту, колер цёмны, амаль чорны, верагодна, адносіцца да VI–VIII стст. Сем невялікіх кавалкаў ад ляпнога посуду гладкасценныя, маюць таўшчыню да 0,8 см.

Намі выяўлена чатыры абломкі керамікі ад кругавога посуду з лінейным арнаментам (мал. 19, *а*). Па выгляду і тэхніцы выканання арнамент ідэнтычны з арнаментам гаршкоў XI ст., знойдзеных у значнай колькасці на селішчы-2, аб чым будзе сказана ніжэй. Прасочаныя на Лагазінскім гарадзішчы матэрыялы (кераміка) належаць тром эпохам: культуры штрыхаванай керамікі, банцараўскай культуры і ўсходнеславянскай культуры X–XI стст. часоў Полацка-Менскага княства.

З супрацьлеглага, паўднёва-ўсходняга, боку гарадзішча аўтарам дадзенага артыкула было выяўлена паселішча-2. У канцы XX ст. будаўнічыя арганізацыі тут пачалі браць гравій і ўзнік значны кар'ер глыбінёй 3–4 м. На абрэзах кар'ера бачны культурныя напластаванні. На працягу трох сезонаў (2005–2007 гг.) намі рабіліся зачысткі абрэзаў кар'ера (мал. 18). У рабоце ўдзельнічаў настаўнік У. У. Хартановіч з групай школьнікаў.

На схілах кар'ера закладваліся траншэі звычайна памерамі 2 × 8 м. Іх распрацоўка вялася па квадратах 2 × 2 м, глыбінёй 20 см. Была даследавана плошча 70 м$^2$. Магутнасць культурных адкладаў складала 0,4–1,1 м. Выяўлена паглыбленне ў мацерыку, з улікам чаго таўшчыня слоя дасягала 1,4 м.

Чаргаванне напластаванняў на селішчы наступнае: пад дзірваном – шэры слой амаль пазбаўлены знаходак. Ніжэй залягаў чорны слой. У перадмацерыковым пласце на глыбіні 1,4 м знойдзена верхняя частка ляпнога слабапрафіляванага гаршка банцараўскай культуры (мал. 20: *7*). На глыбіні 1,2 м – фрагменты вылепленай ад рукі патэльні (мал. 20: *6*). Яе вышыня 1,5 см. На глыбіні 0,7–1,1 м знойдзена раннекругавая кераміка з патоўшчаным венчыкам XI ст.

У 2006 г., таксама як у 2005 г., сярод знаходак выяўлена толькі кераміка і косці жывёл (дрэнна захаваныя). Абломкаў керамікі, прыгоднай для класіфікацыі, каля 250 экз. Сярод яе 20 абломкаў ад ляпных




Мал. 20. Кераміка: *1, 2, 4–7* – з селішча-2; *3* – знаходка з пляцоўкі гарадзішча. Комплекс «Лагазінка»




Мал. 21. Ляпная кераміка банцараўскай культуры (*1–6*). Селішча-2. Комплекс «Лагазінка»




Мал. 22. Кераміка: *1, 2* – ляпная, падпраўленая на ганчарным крузе; *3–6* – кругавая (XI ст.). Селішча-2. Комплекс «Лагазінка»




Мал. 23. Кераміка (*1–5*). Паселішча-2. Комплекс «Лагазінка»

пасудзін банцараўскай культуры (мал. 21). Адзінкавыя абломкі ад пасудзін з плечыкамі тыпу полацкіх і смаленскіх доўгіх курганоў канца VIII – пачатку X ст. (мал. 22: *1*; 23: *1*; 24: *1*).

Асобную цікавасць уяўляе знаходка посуду, на плечуку якой прасочваецца арнамент у выглядзе ломанай лініі, нанесенай касой насечкай зубчатым чаканам ці палачкай, абмотанай шнурком (мал. 23: *1*). Падобны арнамент вядомы на славянскай кераміцы з паселішчаў роменскай і боршаўскай культур на вялікай тэрыторыі ва Усходняй Еўропе – ад Ладагі да берага Азоўскага і Чорнага мораў. Найбольш яна распаўсюджана ў вобласці на ўсход ад Дняпра, паміж Дняпром і Донам [15, с. 34, 41, рис. 23: *5*].




Мал. 24. Гліняны посуд (*1–4*). Паселішча-2. Комплекс «Лагазінка»




Мал. 25. Вырабы з жалеза (*1, 2*) і гліны (*3–9*): *1* – фібула; *2* – вушка ад вядра; *3* – праселка; *4–9* – фрагменты посуду. Селішча-2. Комплекс «Лагазінка». Раскопкі Г. В. Штыхава. 2007 г.

На тэрыторыі Беларусі такая кераміка выяўлена на Мазырскім гарадзішчы Кімбараўка, Чачэрскім гарадзішчы, паселішчах на Менцы, на гарадзішчы Жужлянка ў ніжнім цячэнні Свіслачы, у старажытных гарадах Полацка-Менскага княства – Полацку, Віцебску, Лукомлі.

Выяўлены буйны фрагмент кругавога гаршка з вертыкальным горлам (мал. 23: *2*). Такая ганчарная кераміка ў невялікай колькасці знойдзена ў паселішчы на Менцы, у Наваградку, Клецку. На некаторых фрагментах гаршкоў можна заўважыць налепачную тэхніку, з дапамогай якой яны рабіліся (мал. 24: *3*). Сярод кругавой керамікі значная колькасць гаршкоў мае так званы карнізік (мал. 22: *3–6*). Знойдзены буйныя фрагменты посуду, арнаментаванага хвалістым і лінейным арнаментам (мал. 23: *3*; 24: *4*). Мусіць, вялікія па памерах пасудзіны выкарыстоўваліся ў якасці тарнай керамікі. Посуд з карнізікам (манжэтай) на тэрыторыі Беларусі датуецца XI ст. [34, мал. 52: *12, 13*].

У 2007 г. намі была распрацавана яшчэ 20 м$^2$ культурнага напластавання. Як звычайна, на гэтым помніку першы пласт уяўляў сабой шэрую зямлю, у якой не было знаходак. Другі пласт глыбінёй ад 20 да 40 см быў культурным слоем чорнага колеру. Праслежваліся прыкметы паглыбленай у мацярык пабудовы. На глыбіні 35 см была першая жалезная знаходка – падковападобная, спіралеканцовая з рамбічным сячэннем фібула (мал. 25: *1*). Яе дыяметр 4,6 см, іголка фібулы моцна каразіравана. Такія фібулы датуюцца X – пачаткам XI ст. [17, с. 156]. Знаходка дапамагае датаваць значную частку напластаванняў у дадзеным месцы.

Другая знаходка – глінянае біканічнае праселка (мал. 25: *3*). Яго дыяметр 2,9 см, памеры адтуліны 1,1 см. Падобныя гліняныя праселкі добра вядомы па раскопках паселішча на Менцы, дзе яны датуюцца X – пачаткам XI ст. Праселка было на глыбіні 45 см ад дзённай паверхні, дзе шмат бытавой керамікі. Верагодна, на гэтым месцы знаходзілася жылая пабудова, менавіта тут зафіксавана паніжэнне, яма ў мацерыку памерам 6 м. Знойдзена жалезная рэч, якая нагадвае вушка для вядра (мал. 25: *2*).

Амаль на мацерыку быў маленькі «гаршчочак», вылеплены рукамі з аднаго кавалка гліны. Вышыня вырабу 4 см, мяркуемы дыяметр па венчыку 10 см. Магчыма, гэта місачка (мал. 26: *4*). Па профілю з'яўляецца тыповай керамікай культуры доўгіх курганоў Полацкай зямлі IX – пачатку X ст. Знойдзены фрагменты паўляпных гаршкоў, у цесце якіх шмат жарствы (мал. 26: *1*). Знойдзены венчык ад гаршка з высокай гарлавінай (мал. 26: *3*), фрагмент донца ляпнога гаршка, у гліне якога шмат жарствы (мал. 26: *2*).

Шмат буйных абломкаў кругавой керамікі і гаршчок, які захаваўся цалкам (мал. 24: *3*). Гэта прысадзістая (місападобная) пасудзіна зроблена на руч-

ным ганчарным крузе. У ніжняй прыдоннай яе частцы прасочваецца мадэліраванне, якое вялося з дапамогай кальцавога налепа, шырыня кольцаў складала 1,5–2 см. Пры фармаванні ніжняй часткі выкарыстоўваўся «донны начын», як гэта звычайна рабілася.

Знойдзены буйныя кавалкі ад ганчарных гаршкоў, якія мелі ў верхняй частцы венчык з карнізікам (манжэтай) (мал. 22: *3–6*; 23: *3–5*). Гаршкі з такім наружным выступам па верхнім краі мелі распаўсюджванне ў паселішчах на Менцы, у Заслаўі і іншых месцах Беларусі, дзе датуюцца XI ст.

Пры зачыстцы абрэзаў кар'ера трапіліся два венчыкі, якія адрозніваюцца ад вышэйапісанай керамікі: край венчыка загнуты ў сярэдзіну пасудзіны, што характэрна для гаршкоў XII–XIII стст. На селішчы-2 знойдзена звыш 280 касцей жывёл. У большасці яны малыя і неазначальныя. Гэта, несумненна, кухонныя рэшткі.

У наваколлі гарадзішча на беразе Лагазінкі існавала яшчэ вялікае селішча-3. Л. Д. Побаль пісаў у справаздачы за 1963 г., што мясцовыя жыхары на агародах каля берага ракі знаходзяць старажытныя рэчы. Яны перадалі археолагу тры праселкі (два з ружовага шыферу і адно з шэра-жоўтага порыстага вапняковага каменю), а таксама дзве плоскія цёмнасінія пацеркі. У 2007 г. мы абследавалі левы бераг ракі і ўпэўніліся ў існаванні тут значнага па памерах селішча. Несумненна, што каля гарадзішча існавала не менш трох селішчаў.

Недалёка ад гарадзішча і селішча-1 захаваліся курганы. У кнізе «Памяць: Лагойскі раён» [19] адзначаны каля вёскі Старое Гарадзішча «курганны могільнік за 0,3 км на паўднёвы-захад ад гарадзішча». У 2007 г. мы наведалі гэта месца. Сярод сучаснага поля здалёк бачны два зараснікі кустоў. Курганы зараслі хмызняком, дзякуючы чаму і захаваліся.

Курган-1 мае вышыню 1,6 м, дыяметр 12 м, яго вышыня плоская, пасярэдзіне скарбашукальнікамі выкапана яма памерам 4 × 6 м, глыбінёй 0,8 м. Курган насыпаны з пяску, ніякіх праслоек у насыпе не прасочваецца. Відаць, скарбашукальнікі нічога не знайшлі, да мацерыка не дайшлі. Курган-2 размешчаны за 30 м ад першага. Яго вышыня 1,3 м, дыяметр 9 м, вяршыня плоская, захаванасць добрая. Увесь зарослы хмызняком. Верагодна, тут існаваў значны па памерах могільнік і ўсе насыпы меншых памераў былі зрыты і развораны.

Такім чынам, на Лагазінцы (Лагазе) існаваў родаплемянны цэнтр, як мінімум на працягу тысячагоддзя да таго, як з'явілася першая звестка пісьмовай крыніцы пра ўмацаваны пункт Лагожск. У раннім сярэднявеччы цэнтр на Лагазе меў акрамя гарадзішча тры паселішчы і курганны могільнік. У канцы X–XI стст. пункт на Лагазе існаваў сінхронна з паселішчам на Гайне.




Мал. 26. Кераміка: *1–6* – ляпная, *7, 8* – кругавая. Селішча-2. Комплекс «Лагазінка». Раскопкі 2007 г.

**Горад і яго назва.** Вызначаючы прычыны і час узнікнення горада, неабходна мець на ўвазе, што гістарычнымі перадумовамі ўтварэння сярэдневяковых гарадоў было павелічэнне сельскагаспадарчай прадукцыі і паляпшэнне тэхнікі апрацоўкі зямлі, аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі, развіццё шматукладнай эканомікі і адпаведнага грамадскага ладу [35, с. 238–239].

У раннім сярэдневякоўі на беларускіх землях існавалі перадумовы для ўзнікнення гарадскіх селішчаў. Доказам прагрэсу земляробства служаць знаходкі земляробчых прылад працы, выяўленыя пры археалагічных раскопках, у тым ліку ў Лагойску. Узнікалі і развіваліся рамёствы: кавальскае, ганчарнае, дрэваапрацоўчае і іншыя, аб чым сведчаць даныя археалагічных раскопак. Распаўсюджваліся гандлёвыя сувязі, што мы таксама назіраем у Лагойску. Гандаль і рамёствы ўсё больш канцэнтраваліся ў населеных пунктах са зручным геаграфічным размяшчэннем. Горад не мог быць ізаляваным ад свайго наваколля, яго гаспадарчая роля адчувалася ў межах адпаведнай воласці.

Паходжанне гарадоў Полацкай зямлі можна ўявіць наступным чынам. Зародкамі найстаражыт-

нейшых з гарадоў былі ўмацаваныя пункты славян, што ўзніклі пры рассяленні апошніх. Сярод іх найперш вылучаецца Полацк як галоўны племянны цэнтр полацкіх крывічоў. На прыкладзе Полацка можна прасачыць, што зародак горада ў IX – пачатку X ст. меў гарадзішча, паселішча (перадгорад), выконваў адміністрацыйныя функцыі ў воласці [38, с. 21, 130].

У сувязі з каланізацыяй навакольнай тэрыторыі і ўстанаўленнем даніны ў Падзвінні, а затым ў Падняпроўі адначасова з Полацкам ствараліся іншыя ўмацаваныя пункты (Віцебск, Лукомль, Заслаўе, крыху пазней Друцк, Мінск (на Свіслачы), Лагойск (на Гайне)), якія падпарадкоўваліся Полацку ў адміністрацыйных і ваенных адносінах, з'яўляючыся правобразам будучых, залежных ад старэйшага, малодшых гарадоў [39].

Раннесярэдневяковы горад у адрозненне ад вёскі з'яўляўся паступовa ўскладняючымся пры сваім развіцці сацыяльным арганізмам з уласцівымі яму рознымі функцыямі – гандлёва-рамеснымі, ваенна-абарончымі, адміністрацыйнымі, культурнымі, рэлігійнымі [39, с. 18].

Мае значэнне сама назва населенага пункта. Ва ўсходнеславянскай тапаніміцы суфікс -ск у назве пункта лічыцца «гарадскім». У старажытнасці ён стаў прыкметай «гарадской» мадэлі наймення. Для негарадскіх пунктаў – пагостаў, сёлаў, вёсак – тыповымі лічацца назвы на -ічы, іцы (Батаровічы, Дзядзілавічы).

Вучоны археолаг-славіст В. В. Сядоў разгледзеў пытанне пра паходжанне назваў найбольш старажытных гарадоў на «беларускай этнічнай тэрыторыі» і сярод іх пунктаў, якія маюць суфікс -ск. Даследчык сцвярджае, што ў тапаніміі беларускіх зямель гэты суфікс з'яўляецца ўжо ў IX–X стст.

Такі суфікс прысутнічае ў назве гарадоў: Полацк (Полтеск), па назве ракі По́латы (Палаты), Віцебск ад Віцьбы, Друцк (Дрютьск) ад Друці, Пінск ад Піны, Слуцк (Случеск) ад Случы і г. д. [26]. Для афармлення тапонімаў з суфіксам -ск выкарыстоўваўся, галоўным чынам, мясцовы матэрыял. Пагэтаму ў асновах тапонімаў на -ск часта былі гідронімы з неславянскімі (балцкімі) апелятывамі (асновамі).

Вялікі працэнт на́зваў старажытных гарадоў з суфіксам -ск складае спецыфічную асаблівасць беларускай тэрыторыі. Па-за беларускім этналінгвістычным арэалам такія тапанімічныя ўтварэнні IX–XIV стст. нешматлікія і большасць з іх размешчана па-суседску з вывучаемай тэрыторыяй. Амаль адсутнічае суфікс -ск у старажытнай тапаніміі паўночна-заходняй і паўночна-ўсходняй зямель Кіеўскай Русі. У Наўгародска-Пскоўскай зямлі, як сцвярджае вучоны, ёсць толькі адна назва гэтага старажытнага тыпу – Ізборск.

Паспрабуем растлумачыць своеасаблівасць тапаніміі беларускай этналінгвістычнай тэрыторыі ў перыяд IX–XIV стст. В. В. Сядоў дае верагодны адказ. Спецыфічны характар старажытнай тапаніміі беларускай тэрыторыі абумоўлены этнічнай гісторыяй гэтай зямлі – ўздзеяннем на славян культуры балтаў. Але дадзеная спецыфіка не з'яўляецца запазычаннем. Не можа быць размовы, што суфікс -ск запазычаны славянамі ў балтаў. Суфікс, несумненна, славянскі, але ён атрымаў у старажытнасці распаўсюджванне толькі ў тых абласцях славянскай тэрыторыі, дзе славяне змешваліся з балцкім насельніцтвам (Беларусь і часткова Польшча). Пазней тапонім на -ск шырока распаўсюджваецца шмат у якіх славянскіх рэгіёнах [26].

Выклікае цікавасць паходжанне назвы горада Лагойска. У Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім летапісных зводах горад названы Логожьск, Ложьск, Логажеск. У Радзівілаўскім летапісе – Логожеськ, Логожск. У сучаснасці Лагойск размешчаны на рацэ Гайне, а за 7 км ад Лагойскага замчышча ў гэту раку ўпадае яе правы прыток Лагазінка (Лагаза).

П. М. Шпілеўскі (1823–1861), папулярызатар этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі, выказаў меркаванне, што, магчыма, горад атрымаў сваю назву ад слова «лог», «логовье», таму што Лагойск ляжыць у даліне паміж гор [33, с. 170]. Географ В. А. Жучкевіч згодны з такой гіпотэзай [5, с. 207]. Гэтай думкі прытрымліваецца таксама сучасны аўтар П. А. Каралёў [9, с. 32].

Аднак вядомы лінгвіст В. П. Лемцюгова выказала думку, што назва Логожск магла ўзнікнуць на аснове гідроніма Лагаза [12, с. 92]. Другі лінгвіст М. А. Ююкін пацвярджае, што назва горада, мусіць, сапраўды паходзіць ад назвы ракі [40, с. 20].

Вышэй намі быў ахарактарызаваны археалагічны комплекс V–XI стст. (гарадзішча, селішчы, курганы) у вярхоўі рэчкі Лагазінкі (Лагазы) за 7–8 км ад Лагойскага замчышча на Гайне. На Лагойскім замчышчы пры раскопках знойдзена ў невялікай колькасці ляпная кераміка X ст. Тут існавала селішча ў XI ст., верагодна, той населены пункт, які названы ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха. Значыць, на працягу XI ст. селішчы на Лагазе і на Гайне суіснавалі сінхронна.

Населены пункт на Лагазе можна лічыць папярэднікам горада, які потым быў пабудаваны на Гайне. Назва родаплемяннога цэнтра на Лагазе паўтарала найменне ракі. Новы пабудаваны цэнтр, падпарадкаваны Полацку, атрымаў назву Логожск, відаць, па рацэ Лагаза, паколькі першапачатковы цэнтр на ёй страціў значэнне і наогул заняпаў.

**Заключэнне.** Лагойск з'яўляецца адным са старажытнейшых гарадоў на тэрыторыі Беларусі. Першая згадка пра гэты горад Полацкай зямлі-княства змешчана ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха ў сувязі з падзеямі, якія адбыліся ў 1078 г.

За 7–8 км ад Лагойска знаходзіцца цэнтр сельсавета Лагаза, размешчаны на невялікай рацэ Лагазінка. У 1963 г. археолаг Л. Д. Поболь знайшоў у вярхоўі гэтай ракі селішча каля падножжа старажытнейшага гарадзішча. У 2004–2007 гг. Г. В. Штыхавым было адкрыта і даследавана другое селішча і знойдзены матэрыялы V–XI стст.

Такім чынам, было ўстаноўлена, што на Лагазінцы (Лагазе) на рубяжы нашай эры існавала гарадзішча балтаў (культура штрыхаванай керамікі), у V–VIII стст. побач узнікла паселішча носьбітаў банцараўскай культуры (змешанага насельніцтва з балтаў і славян). Гарадзішча выкарыстоўвалася як сховішча ў выпадку небяспекі. У IX–X стст. сюды пранiклі крывічы. У XI ст. матэрыяльная культура насельніцтва, мяркуючы па кераміцы, была ўсходнеславянскай (старажытнарускай). На беразе Лагазы (Лагазінкі) ўзнікла трэццяе селішча.

У канцы X – XI ст. за 8 км ад гэтага населенага пункта (цяпер в. Старое Гарадзішча) на правым беразе ракі Гайны ўзнікае ўсходнеславянскае паселішча, якое было ўмацаваным. Такім чынам, у XI ст. сінхронна існавалі паселішчы на Лагазе (Лагазінцы) і на Гайне. Цэнтр воласці родаплемяннога часу на Лагазе (археалагічны комплекс «Лагазінка») прыйшоў у заняпад. Новы цэнтр воласці, узведзены на Гайне нейкім полацкім князем (магчыма Брачыславам), атрымаў назву Лагожск на аснове гідроніма Лагаза. Магчыма, Уладзімір Манамах браў Лагожск у 1078 г., размешчаны на Гайне, у час вайны з полацкім князем Усяславам. Сярэдневяковы Лагожск з'яўляўся ўмацаваным пунктам на паўднёвых рубяжах Полацкай зямлі, а ў XII ст. стаў цэнтрам удзельнага княства.

**Літаратура**

1. Акуліч, С. Лагойск: Гісторыка-эканамічны нарыс / С. Акуліч, Б. Сасноўскі. – Мінск, 1979.

2. Блиодухо, Н. Ф. Сборник трудов по геологии и полезным ископаемым БССР / Н. Ф. Блиодухо. – М., 1952.

3. Гуревич, Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич – М., 1962.

4. Гурин, М. Ф. Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX–XIII вв. / М. Ф. Гурин. – Минск, 1987.

5. Жучкевич, В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В. А. Жучкевич. – Минск, 1974.

6. Загорульский, Э. М. Возникновение Минска / Э. М. Загорульский. – Минск, 1982.

7. Заяц, Ю. А. Заславль в эпоху феодализма / Ю. А. Заяц. – Минск, 1995.

8. Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск X–XIV вв. / Я. Г. Зверуго. – Минск, 1975.

9. Каралёў, П. А. Лагойск Тышкевічаў / П. А. Каралёў // Другія Тышкевіцкія чытанні, Лагойск, 15 кастр. 2009 г. – Мінск, 2009. – С. 32.

10. Колчин, Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого / Б. А. Колчин // Материалы и исследования по археологии СССР. – 1959. – № 65.

11. Крывальцэвіч, М. М. Культ каменных сякер на Беларусі / М. М. Крывальцэвіч // Старонкі гісторыі Беларусі. – Мінск, 1992.

12. Лемцюгова, В. Н. Беларуская айканімія. Лінгвістычны аналіз назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці / В. Н. Лемцюгова. – Мінск, 1970.

13. Лысенко, П. Ф. Берестье / П. Ф. Лысенко. – Минск, 1985.

14. Лявданский, А. Н. Некоторые данные о городищах Смоленской губернии / А. Н. Лявданский. – Смоленск, 1926.

15. Ляпушкин, И. И. Городище Новотроицкое. О культуре восточных славян в период сложения Киевского государства / И. И. Ляпушкин. – М., 1958.

16. Малеўская, М. В. Амфоры Новагрудка XII–XIII вв. / М. В. Малеўская // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. – Минск, 1969.

17. Мальм, В. А. Подковообразные и кольцевые застежки-фибулы / В. А. Мальм // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. – М., 1967.

18. Медведев, А. Ф. Оружие Новгорода Великого / А. Ф. Медведев // Материалы и исследования по археологии СССР. – 1959. – № 65.

19. Насевіч, В. Л. Старонкі мінулага Лагойшчыны / В. Л. Насевіч // Памяць. Лагойскі раён. – Мінск, 2003. – Кн. 1.

20. Поболь, Л. Д. Славянские древности Белоруссии / Л. Д. Поболь. – Минск, 1974.

21. Рабцэвіч, В. Н. Слабодкаўскі манетны скарб / В. Н. Рабцэвіч // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993.

22. Радзивиловская летопись // Полное собрание русских летописей. – Ленинград, 1989. – Т. 38.

23. Раппопорт, П. А. Очерки по истории русского военного зодчества X–XIII вв. / П. А. Раппопорт. – М., 1956.

24. Россия. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. – СПб., 1905. – Т. 9.

25. Седов, В. В. Амулеты-коньки из древнерусских курганов / В. В. Седов // Славяне и Русь. – М., 1966.

26. Седов, В. В. Древнерусская топонимия на белорусской территории / В. В. Седов // Пытанні беларускай тапанімікі. – Мінск, 1970.

27. Седова, М. В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X–XV вв.) / М. В. Седова. – М., 1981.

28. Сергеева, З. М. О подковообразных фибулах с утолщенными концами на территории древней Руси / З. М. Сергеева // Краткие сообщения Института археологии. – 1977. – № 150.

29. Ткачоў, М. А. Замкі і людзі / М. А. Ткачоў. – Мінск, 1991.

30. Томашевич, И. В. Языческие привески в виде миниатюрных хозяйственно-бытовых предметов с территории Беларуси / И. В. Томашевич // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2008. – Вып. 15.

31. Успенская, А. В. Нагрудные и поясные привески / А. В. Успенская // Очерки по истории русской деревни X–XIII вв. – М., 1967.

32. Чантурия, В. А. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии / В. А. Чантурия. – Минск, 1986.

33. Шпилевский, П. М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю по тексту журнала «Современник» 1853–1855 / П. М. Шпилевский. – Минск, 1992.

34. Штыхаў, Г. В. Крывічы па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі / Г. В. Штыхаў. – Мінск, 1992.

35. Штыхаў, Г. В. Эканамічныя ўклады – факты і меркаванні / Г. В. Штыхаў // Гісторыя Беларусі. – Мінск, 2000. – Т. 1.

36. Штыхаў, Г. В. Археалагічны комплекс Ізбішча-Дзвінаса на Лагойшчыне / Г. В. Штыхаў // Acta Archaeologica Albaruthenica. – Мінск, 2007. – Vol. II.

37. Штыхаў, Г. В. Курганны могільнік Ізбішча-Дзвінаса // Матэрыялы па археалогіі Беларусі / Г. В. Штыхаў. – Мінск, 2008. – Вып. 16.

38. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк IX–XIII вв. / Г. В. Штыхов. – Минск, 1975.

39. Штыхов, Г. В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Минск, 1978.

40. Ююкин, М. А. Логожьскъ (к 925-летию первого упоминания) / М. А. Ююкин // Acta Baltico-Slavica 27. – Warszawa, 2003.

41. Яніцкая, М. М. Кварта / М. М. Яніцкая // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993.

## Резюме

*Г. В. Штыхов*

### Древний Логойск в свете археологических раскопок

Логойск, ныне центр Логойского района Минской области (в древности Логожск, Логожеск) является древнейшим восточнославянским городом на территории Беларуси. В ранних древнерусских летописях сведений о Логойске очень мало. Первое упоминание об этом городе Полоцкой земли-княжестве имеется в «Поучении» Владимира Всеволодовича Мономаха, где Логожеск назван вместе с Лукомлем и Друцком, когда они были разрушены этим князем в ответ на нападение воинственного полоцкого князя Всеслава Брячиславича на Смоленск. Исследователи установили, что эти печальные события происходили в 1078 г.

В 1925 г. Логойское замчище на берегу Гайны обследовал белорусский археолог А. Н. Лявданский. Он отметил, что «на площадке почти не заметен культурный слой» и датировал городище «временем не ранее XII в.», руководствуясь преимущественно летописными сведениями. В 60–70-е годы XX века, в соответствии с научными планами Института истории Академии наук БССР, на Лагойском замчище были произведены стационарные археологические раскопки (руководитель Г. В. Штыхов).

Площадка Логойского замчища имеет около 1,5 га. Мощность культурного слоя 0,8–1,2 м. В ходе раскопок изучено 440 м$^2$. Дерево в культурных отложениях не сохраняется вовсе. Среди находок наиболее многочисленны изделия из глины и железа. Ведущей отраслью ремесленного производства в средневековом городе была обработка черного металла.

В Логойске найдены многочисленные железные предметы – ремесленные инструменты, железообрабатывающие орудия труда, оружие дружинников, предметы домашнего обихода.

О торговых и культурных связях свидетельствуют находки волынских каменных пряслиц, обломков южных амфор XII – первой половины XIII в. Подковоподобные фибулы (застежки) говорят о связях с землями восточной части Прибалтики. Обнаружена железная гиря от безмена, который необходим в торговле.

В логойской коллекции представлены материалы XI–XIII вв., типичные для восточнославянского города эпохи Киевской Руси. Предметами, имеющими более узкую датировку (XI – начала XII в.), являются два железных ключа (тип А, по Б. А. Колчину), бронзовый конек-амулет, массивный шип от шпоры конца X – XI в. Имеется несколько обломков лепной керамики ранее середины X в.

Обнаружен угол фундамента кирпичной постройки XVI в. и изразцы с зеленой поливой и типичными для времен Ренессанса изображениями.

Оставался неясным вопрос относительно происхождения названия города. В 1970 г. В. В. Седов привел доводы в пользу того, что названия городов с суффиксом -ск X–XI в. «на белорусской территории» происходят от наименований рек, на которых они были основаны. Логожска среди них В. В. Седов не упомянул. Лингвист В. П. Лемтюгова более определенно высказала мысль, что название Логожска могло возникнуть на основе гидронима Логоза.

В 7–8 км от Логойска находится центр сельсовета Логоза, расположенный на небольшой реке Логозинка (длиной 10 км). В 1963 г. археолог Л. Д. Поболь нашел в верховьях этой реки селище у подножия древнейшего городища. В 2004–2007 гг. Г. В. Штыховым было открыто и исследовано второе селище возле городища, где обнаружены материалы VI–XI в.

Таким образом, было установлено, что на Логозинке (Логозе) на рубеже нашей эры существовало городище балтов (культура штрихованной керамики) в V–VIII вв. рядом возникло селище носителей банцеровской культуры, вероятно, смешанного населения из балтов и славян. Городище использовалось как убежище в случае опасности. В IX–X вв. сюда проникли кривичи. В XI в. материальная культура населения, судя по керамике, была восточнославянской (древнерусской). На берегу Логозы (Логозинке) размещалось и третье селище.

В конце X – XI в. в 8 км от этого населенного пункта (теперь д. Старое Городище) на правом берегу Гайны возникало восточнославянское поселение, которое, вероятно, вскоре было укреплено. Итак, в XI в. синхронно существовали поселения на Логозе (Логозинке) и на Гайне. Центр волости родоплеменной поры на Логозе пришел в упадок. Новый центр волости, возведенный на Гайне кем-то из полоцких князей (возможно Брячиславом), получил название Логожск по гидрониму Логоза. Вероятнее всего, Владимир Мономах, действительно, в 1078 г. брал Логожск, расположенный на Гайне, когда воевал с полоцким князем Всеславом. Средневековый Логожск являлся укрепленным пунктом на южных рубежах Полоцкой земли и в XII в. стал центром Логожского удельного княжества.

**Summary**

*G. Shtykhov*

**The Ancient Logoisk in a view of archaeological excavations**

Nowadays Logoisk is the centre of Logoisk district, Minsk area. It was known as Logozhsk or Logozhesk in the past, one of the most ancient Slavonic towns on the territory of Belarus. This place was firstly mentioned in 1078 with Lukoml and Drutsk in «Lectures» by Vladimir Vsevolodovich Monomakh when they were destroyed in reply to an attack of the warlike Polotsk prince Vseslav Bryachislavich to Smolensk.

The castle place of Logoisk on the bank of the river of Gaina was surveyed in 1925 by Belarusian archaeologist A. N. Lyavdansky who dated this site «to time not earlier the 12th century». The stationary archaeological excavations were performed by G. V. Shtykhov in 1960–1970s.

The plateau of the castle of Logoisk is about 1,5 hectares. Thickness of the cultural layers are 0,8–1,2 m. 440 sq. m. were investigated by excavations. Wood in cultural layers was not kept at all. Among artefacts pottery and iron were most numerous. Leading branch of craft in medieval town was production of ferrous metal. Tools, weapons and household objects were found there.

Finds which could testify the trading and cultural connections with Volyn region (stone spindle whorls), the Black sea region (fragments of amphoras of the 12$^{th}$ – the first half 13$^{th}$ century) and the grounds of East Baltic (brooches) were recovered. The iron weight as a part of spring-balance was found out, too.

The artefacts dated back to the 11$^{th}$ – early 12$^{th}$ century were two iron keys (type A according to B. A. Kolchin), a bronze horse-amulet, a massive spike of the late 10$^{th}$–11$^{th}$ century. There were some fragments handmade potteries before middle of the 10$^{th}$ century were presented.

There was not clear a question concerning an origin of the name of place. Linguist V. P. Lemtyugova has definitely stated an idea that name of town could be connected with the name of the river of Logozinka. L. D. Pobol located the open settlement near the hill-fort in the upper part of this river in 1963. G. V. Shtykhov found and investigated the second settlement near hill-fort, too. Artefacts of the 6$^{th}$–11$^{th}$ centuries were discovered in 2004–2007.

Thus, it has been established that on the river of Logozinka (Logoza) at the turn of the era there was a place of the Baltic ancient hill-fort (culture of the shaded ceramics). Then the open settlement of the 5$^{th}$–8$^{th}$ centuries with mixed population of the Bantserovscha culture had arisen. The hill-fort could be used as a refuge in case of danger. The Krivichy was known here in the 9$^{th}$–10$^{th}$ centuries. The character of the material culture in the 11th century in accordance with pottery was the Eastern Slavs or the Old Russian.

Next settlement with Eastern Slavonic population was fixed since late 10$^{th}$–11$^{th}$ century on the bank of the river Gaina not far from the village of Staroe Gorodische.

So, there were synchronously settlements on the rivers of Logoza and Gaina in the 11$^{th}$ century. The centre of volost of the tribal time on the river of Logoza had fallen into decay. The new centre of volost formed on the river of Gaina by someone from Polotsk princes (it might be Bryachyslav), had received the name of Logozhsk. Most likely, Vladimir Monomakh, really destroyed Logozhsk in 1078 located on the river of Logoza when he was at war with Polotsk prince Vseslav. Medieval Logozhsk was the fortification point on southern boundaries of the Polotsk ground and in the 12$^{th}$ century became the centre of Logozhsk princedom.

*Пастуніў 20.04.2011*

## МАТЭРЫЯЛЫ

***І. У. Магалінскі,*** *Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, старшы навуковы супрацоўнік навукова-рэстаўрацыйнага аддзела (г. Полацк)*

# Ліцейныя формы і тыглі для плаўкі каляровых металаў з тэрыторыі Полацка (X–XVII стст.)

Асобнае месца ў сістэме старажытнага рамяства займала ювелірная справа. Апрацоўка каляровых металаў і выраб упрыгажэнняў патрабавалі ад ювеліра наяўнасці мастацкага густу, высокага ўзроўню валодання markнымі рамеснымі тэхнікамі і прыёмамі, а таксама добрага ведання фізічных, хімічных і тэхналагічных уласцівасцей сыравіны. Ад ступені авалодання майстрам ўсім арсеналам неабходных навыкаў залежала якасць выніковага прадукту.

На тэрыторыі Полацка выяўлены сляды развітога ювелірнага рамяства. Сярод інструментаў ювеліра ў полацкай калекцыі найбольш поўна прадстаўлены прылады, якія былі звязаны з ліцейнай справай. Асноўнымі прыстасаваннямі ліцейшчыкаў з'яўляліся тыглі і ліцейныя формы. Гэтая катэгорыя знаходак здаўна прыцягвала ўвагу навукоўцаў.

Вывучэннем інструментаў ювеліраў плённа займаліся Б. А. Рыбакоў, Н. В. Рындзіна, М. К. Каргер, Н. В. Еніосава, І. В. Дайга і інш. [1–6].

Шэраг спецыяльных даследаванняў, прысвечаных усебаковаму аналізу прыстасаванняў ліцейшчыкаў старажытнага Полацка, належыць Г. В. Штыхаву [7, 8]. Навуковец адным з першых у айчыннай археалогіі адзначыў вялікае значэнне дадзенай групы прадметаў для аналізу развіцця ювелірнай вытворчасці. Для рэалізацыі сваіх навуковых інтарэсаў даследчык актыўна карыстаўся міждысцыплінарнай метадалогіяй і сумесна з іншымі падраздзяленнямі АН БССР правёў шэраг вельмі каштоўных аналізаў асобных інструментаў з арсеналу полацкіх ювеліраў.

Вялікую цікавасць мае таксама праца Д. В. Навумава, прысвечаная хімічным і структурным даследаванням асобных знаходак з Полацка [9].

Большая частка інструментаў і прыстасаванняў ювеліраў, якія паходзяць з раскопак на тэрыторыі Полацка, захоўваецца ў фондах Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка (далей – НПГКМЗ). Пэўная колькасць матэрыялаў знаходзіцца таксама ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь (далей – НГМРБ) і археалагічнай навукова-музейнай экспазіцыі НАН Беларусі.

**Ліцейныя формы.** Формы для адліўкі ювелірных упрыгажэнняў з'яўляліся вельмі важнымі прыстасаваннямі ліцейшчыкаў. Іх рабілі з розных парод каменю, гліны, дрэва, бронзы ці рога [10]. Дадзеная катэгорыя знаходак адрозніваецца складанай канструкцыяй і ўтрымлівае інфармацыю аб ліцейнай тэхніцы, прыёмах апрацоўкі металаў і прафесійным узроўні майстроў [4].

Паводле нашых падлікаў на тэрыторыі Полацка падчас археалагічных даследаванняў было выяўлена не менш 28 ліцейных форм. Сярод іх не толькі цэлыя экзэмпляры, але фрагменты, нарыхтоўкі і бракаваныя вырабы. У дадзеным артыкуле аналізуецца 21 ліцейная форма. Дадзеная выбарка дастаткова поўна адлюстроўвае асноўныя тыпы прадметаў дадзенага віду, якія выкарыстоўвалі мясцовыя рамеснікі.

Вывучэнне форм праводзілася намі метадам візуальнага агляду. Даныя адносна фізічных і хімічных ўласцівасцей прадметаў мы бяром з працы Г. В. Штыхава. Нягледзячы на тое што работа была напісана ў пачатку 1960-ых гадоў, яна не страціла актуальнасці, а серыя аналізаў матэрыялу форм і нацёкаў металу на іх сценках і літніках да гэтага часу з'яўляецца самай прадстаўнічай [8].

Даследаванні Г. В. Штыхава паказалі, што большасць знаходак адносіцца да адной пароды каменю. Яе колер шэры ці светла-шэры з жоўтым адценнем. Гэта мікразярністая, а месцамі дробназярністая карбанатная парода, нераўнамерна раскрышталізаваная з адзінкавымі дробнымі зернямі кварцу [8, с. 130]. Такім чынам, полацкія майстры-ювеліры рабілі ліцейныя формы з даламіцізіраваных вапнякоў. Выбар гэтай пароды каменю тлумачыўся яе фізічнымі ўласцівасцямі: мяккасцю і прыдатнасцю для тонкай апрацоўкі. Акрамя гэтага, у Полацку былі знойдзены формы, зробленыя з рога і гліны. У сувязі з асаблівым значэннем ліцейных форм для аналізу ювелірнага рамяства старажытнага горада ў дадзенай рабоце мы падрабязна спынімся на характарыстыцы кожнага асобнага вырабу.

1. Нарыхтоўка ліцейнай формы (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 7,0 × 5,8 × 2,3 см). На прадмеце прысутнічае палявы нумар, а таксама датаванне – XII ст. У адпаведнасці з подпісам, форма была знойдзена ў 1961 г. на тэрыторыі Верхняга замка (у межах траншэі?). Знаходка адзначана ў справаздачы Г. В. Штыхава аб археалагічных раскопках у Полацку ў 1961 г. Між тым менавіта ў работы выраб не згадваецца [11, мал. 21: *3*]. Форма была апублікавана ў манаграфіі даследчыка, аднак там яе датаванне зменена на XIII ст. [7, мал. 32: *9*].

Прадмет зроблены з мяккай пароды каменю, на вонкавым апрацаваным баку разцом абазнача-

ны контуры будучай адліўкі – гэта васьміплёсткавая разетка.

2. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 4,4 × 3,9 × 2,4 см). Форма двухбаковая, зроблена з мяккай пароды каменю, выкарыстоўвалася для адліўкі гузікаў. На адным баку размешчаны выявы трох гузікаў (сярэднія памеры – 1,4 × 0,9 см) з літнікамі, а таксама нескразная адтуліна, у якой павінен быў знаходзіцца металічны штыфт для мацавання вонкавай створкі формы. На цэнтральную выяву гузіка нанесены лінейны арнамент. Вушкі вырабаў адліваліся разам з асноўным корпусам прадметаў. На адваротным баку таксама размешчаны выявы адлівак трох гузікаў, але ўжо значна меншага памеру, а таксама скразная адтуліна для мацавання вонкавай створкі. Між тым тут адсутнічаюць літнікі, што не дазволіла б выкарыстоўваць формы па прызначэнні. Акрамя таго, на выяве вушка сярэдняга гузіка адсутнічае характэрная дэталь – рэльефнае акруглае ўзвышэнне, якое было неабходна для адліўкі гатовай рэчы разам з вушкам. Усе пазначаныя факты ўказваюць, што адваротны бок ліцейнай формы не выкарыстоўваўся для адлівак і ўяўляе сабой брак вытворчасці.

Прадмет апублікаваны ў манаграфіі Г. В. Штыхава, дзе датаваны XIII ст. [7, мал. 32: *17*]. Выраб знойдзены падчас археалагічных даследаванняў А. Г. Мітрафанава на тэрыторыі Верхняга замка ў 1959 г. у межах раскопу II на ўзроўні восьмага будаўнічага гарызонту [12, с. 13].

3. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 3,9 × 2,5 × 0,9 см). Форма зроблена з гліны і прызначана для адліўкі імітацыі пярсцёнка з плеценай сярэдняй часткай. Выява адліўкі ўтворана праз адбітак гатовай рэчы ў сырой гліне. Форма мела другую створку, на што ўказвае наяўнасць паловы варонкападобнага літніка (даўжынёй 1,4 см). На вырабе адсутнічаюць сляды мацавальных штыфтаў, якія б прызначаліся для спалучэння дзвюх створак, што сведчыць аб іх мацаванні іншым спосабам (верагодна, вяроўкай).

Дадзены прадмет быў знойдзены Г. В. Штыхавым падчас даследаванняў на тэрыторыі Верхняга замка ў межах раскопу III (1961 г.) на глыбіні 2,6 м разам з характэрнымі прадметамі старажытнарускага часу (шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты і інш.) [13, с. 116]. Выраб выяўлены ў непасрэднай блізкасці ад пабудовы 6К, якая разам з канструкцыямі 6Л і 6М складала адзіны вытворчы ювелірны комплекс [7, с. 41]. Такім чынам, дадзеная ліцейная форма магла мець непасрэднае дачыненне да гэтай майстэрні.

Вытворчы ювелірны комплекс датуецца другой паловай XIII ст. Пацвярджае датаванне храналогія пярсцёнкаў з плеценай сярэдняй часткай, якія на тэрыторыі Ноўгарада бытуюць у другой палове XII – першай палове XIV ст. [14, с. 127].

4. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 3,5 × 1,8 × 2,2 см). Прадмет зроблены з дробназярністага вапняку і моцна фрагментаваны. Ён прызначаны для адліўкі ўпрыгажэння з імітацыяй зерні. Падобныя ліцейныя формы ў літаратуры атрымалі назву «імітацыйных» [3, с. 381].

На адваротным баку размешчаны амаль паралельныя неглыбокія каналы, якія, верагодна, з'яўляліся літнікамі. На жаль, значная фрагментаванасць формы не дазваляе адназначна казаць пра від упрыгажэння, для адліўкі якога яна прызначалася.

Форма была выяўлена у раскопе III у 1961 г. на тэрыторыі Верхняга замка на глыбіні 3,89 м падчас даследаванняў канструкцый IX будаўнічага гарызонту [11, мал. 21: *2*; 13, с. 143]. Выраб знойдзены каля драўлянай канструкцыі № 21, якая была размешчана недалёка ад пабудовы 7М (№ 14 паводле палявой дакументацыі). Знаходкі з сядзібы 7М указваюць на той факт, што ў ёй жыў і працаваў майстар-ювелір. Пабудова 7М датуецца сярэдзінай XIII ст. [7, с. 45]. Гэтым жа часам (40-мі гадамі XIII ст.) паводле дадзеных дэндрахcraналогіі аўтар раскопак Г. В. Штыхаў датуе і саму форму.

5. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 2,3 × 2,1 × 1,7 см). Прадмет зроблены з мяккай пароды каменю. У сувязі са значнай фрагментаванасцю вырабу не ўяўляецца магчымым устанавіць від упрыгажэння, якое ў ёй адлівалася.

Ліцейная форма апублікавана ў манаграфіі Г. В. Штыхава, дзе датуецца XIII ст. [7, мал. 32: *18*]. Палявы нумар, размешчаны на прадмеце, ўказвае, што выраб быў знойдзены падчас даследаванняў 1959 г. на тэрыторыі Верхняга замка (у двары бальніцы ці каля Сафійскага сабора). Больш дакладная лакалізацыя знаходкі не ўяўляецца магчымым.

6. Нарыхтоўка ліцейнай формы (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 2,8 × 2,3 × 1,1 см). Выраб аднабаковы, прамавугольнай формы, зроблены з мяккага каменю, які добра адшліфаваны з усіх бакоў. На тарцы размешчана сегментападобная выемка (нарыхтоўка варонкі літніка), аднак адсутнічае канал, які павінен быў служыць для запаўнення формы расплаўленым металам, што не дазваляе разглядаць прадмет у якасці гатовай ліцейнай формы. На вонкавым баку – скразная адтуліна для мацавання створкі штыфтам, а таксама незакончаная апрацоўкай выява будучай адліўкі. Скразная адтуліна ў сярэдняй частцы выявы дазваляе лічыць яе нарыхтоўкай вушка будучага ўпрыгажэння, верагодна манетападобнай прывескі.

Гэты выраб быў знойдзены ў 1962 г. у раскопе III на глыбіні 4,64 м [13, с. 175]. Разам з формай выяўлены матэрыялы старажытнарускага часу – прасліцы, шкляныя бранзалеты, плінфа і інш. Прадмет апублікаваны ў манаграфіі Г. В. Штыхава, дзе датуецца XIII ст. [7, мал. 32: *11*].

7. Нарыхтоўка ліцейнай формы (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 5,8 × 3,5 × 2,2 см). Выраб уяўляе сабой невялікі брусок амаль прамавугольнай формы, выкананы з мяккага каменю, адшліфаванага з аднаго боку.

Прадмет быў знойдзены ў 1960 г. падчас даследаванняў на тэрыторыі Верхняга замка ў межах раскопу II (кіраўнік – А. Г. Мітрафанаў). Дакладна лакалізаваць і ўстанавіць храналогію прадмета не ўяўляецца магчымым.

8. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 6,5 × 4,6 × 2,3 см). Выраб зроблены з адшліфаванага з усіх бакоў мяккага каменю. Відавочна, што гэта нарыхтоўка двухбаковай формы для адліўкі манетападобных прывесак. На гэта ўказвае незакончаная апрацоўкай выява будучай адліўкі, якая захавалася на адным баку. Яна ўяўляе сабой амаль правільны, урэзаны ўнутр круг (дыяметрам 2,7 см) з невялікім каналам па краі, які злучаны з варонкападобным літнікам. Падвеска павінна была быць адлітая разам з вушкам. Для гэтай мэты майстар разцом акрэсліў адмысловы канал, размешчаны перпендыкулярна літніку. Сюды павінен быў устаўляцца металічны стрыжань, які служыў для адліўкі вушка. На незавершанасць рэчы ўказвае і характар адтулін, з дапамогай якіх павінна была мацавацца яшчэ адна створка формы. На адным баку іх дзве, а на другім – толькі невялікая выемка, якая ўтварылася ад працы свердлам. Ад выявы на адваротным баку нарыхтоўкі захаваўся толькі фрагмент літніка.

Такім чынам, дадзены выраб нельга лічыць гатовай ліцейнай формай. Верагодна, перад намі не проста нарыхтоўка, а брак вытворчасці ювеліра. Прадмет быў апублікаваны ў манаграфіі Г. В. Штыхава і датаваны ім XIII ст. [7, мал. 32: *15*].

9. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 13,2 × 4,6 × 1,6 см). Прадмет зроблены з мяккага каменю і добра адшліфаваны. З двух бакоў на форме размешчаны варонкападобныя літнікі з двума каналамі, якія злучаюцца з выявай будучай адліўкі. Верагодна, форма прызначалася для вырабу літых колцаў невялікага дыяметру.

Прадмет быў знойдзены Г. В. Штыхавым у 1961 г. падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Верхняга замка (раскоп III). Згодна вопісу знаходак, дадзеная ліцейная форма была выяўлена падчас вывучэння драўлянай канструкцыі 6К (№ 6 паводле палявой дакументацыі), якая з'яўлялася складанай часткай вытворчага ювелірнага комплексу. Знаходка датуецца 70-мі гадамі XIII ст. [7, мал. 32: *12*; 13, с. 123].

10. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 8,9 × 6,8 × 1,6 см). Прадмет зроблены з добра апрацаванага мяккага каменю прамавугольнай формы. На адным яго баку размешчана выява будучай адліўкі – гэта манетападобная прывеска з раслінным арнаментам. Да адліўкі вядзе варонкападобны літнік, які пад прамым вуглом перасякаецца з адмысловым жалабком. Ён выкарыстоўваўся для вырабу прывескі разам з вушкам са скразной адтулінай. Акрамя выявы будучай адліўкі на гэтым жа баку формы размешчаны яшчэ адзін літнік (выява адліўкі адсутнічае), а таксама дзве скразныя адтуліны для ўмацавання верхняй створкі формы. У адной адтуліне захаваўся металічны штыфт, які, верагодна, не з'яўляецца аўтэнтычным, а быў устаўлены падчас эксперыментальнай адліўкі, якая праводзілася ў 1961 г.

Прадмет быў выяўлены Г. В. Штыхавым у 1961 г. на тэрыторыі Верхняга замка (раскоп III). Паводле калекцыйнага вопісу знаходак, выраб знойдзены ў межах канструкцыі 6К, якую можна разглядаць як ювелірную майстэрню. Датуецца форма 70-мі гадамі XIII ст. [13, с. 124].

11. Ліцейная форма (захоўваецца ў НГМРБ, памеры 3,4 × 2,3 × 0,9 см). Прадмет зроблены з мяккай пароды каменю і мае амаль прамавугольную форму. На адным баку вырабу размешчана выява будучай адліўкі – гэта пацерка. На вонкавым баку, а таксама на тарцы прадмета знаходзяцца адтуліны для мацавання створак формы. У дзвюх з іх захаваліся фрагменты металічных штыфтаў.

Наяўнасць двух супрацьлеглых літнікаў указвае на той факт, што адліўка ўпрыгажэння адбывалася ў тэхніцы «навыплеск», якая дазваляла атрымліваць полыя вырабы, на паверхні якіх імітаваліся такія працаёмкія рамесныя прыёмы, як зерні і філігрань [7, с. 64].

Прадмет быў выяўлены ў 1959 г. падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Верхняга замка, якія праводзіліся А. Г. Мітрафанавым. Форма знойдзена на ўзроўні XI будаўнічага гарызонту на глыбіні 4,15 м разам з характэрнымі матэрыяламі старажытнарускага часу [12, с. 13]. Г. В. Штыхаў датуе прадмет XIII ст. [7, мал. 32: *3*].

12. Ліцейная форма (захоўваецца ў НГМРБ, памеры 7,2 × 3,3 × 2,4 см). Прадмет зроблены з мяккай пароды каменю, аднабаковы. На адным баку формы размешчана выява чатырохканцовага крыжа з трохвугольным завяршэннем перакладзін і ромбападобнай сярэдняй часткай. Адзін канец выявы злучаны з варонкападобным літнікам, а на другім размешчана выемка для фармавання вушка крыжа. Адсутнасць на форме адтулін для штыфтаў указвае на той факт, што верхняя створка была плоскай і не мела выявы. На думку А. А. Башкова, дадзенае прыстасаванне прызначалася для адліўкі крыжоў «з прафіляванымі шарападобнымі канцамі тонкіх круглых у сячэнні прамянёў і блізкім да ромбападобнай формы сяродкрыжжам» (аддзел аб'ёмныя, тып VII), якія датуюцца XII – першай паловай XIII ст. [15, с. 30, мал. 11: *3*].

Выраб знойдзены ў 1959 г. падчас даследаванняў на тэрыторыі Верхняга замка. Форма была выяўлена ў межах X будаўнічага гарызонту на глыбіні 3,95 м разам з характэрнымі матэрыяламі старажытнарускага часу [12, с. 13]. Г. В. Штыхаў, які ўпершыню апублікаваў знаходку, датуе яе XIII ст. [7, мал. 34: *3*].

13. Нарыхтоўка ліцейнай формы (захоўваецца ў НГМРБ, памеры 7,0 × 6,2 × 2,3 см). Прадмет зроблены з кавалка, прыдатнага для дробнай апрацоўкі мяккага каменю няправільнай формы. На адным баку прадмета размешчана незаконачаная апрацоўкай выява адліўкі (манетападобная прывеска ці накладка), упрыгожаная геаметрычным арнаментам.

Форма знойдзена ў 1959 г. падчас даследаванняў на тэрыторыі Верхняга замка. Выраб выяўлены ў межах будаўнічага гарызонту Xa на глыбіні 3,9 м [12, с. 13]. Г. В. Штыхаў датуе гэтую нарыхтоўку ліцейнай формы XIII ст. [7, мал. 32: *1*].

14. Ліцейная форма (захоўваецца ў НГМРБ, памеры 4,7 × 3,7 × 3,0 см). Прадмет мае амаль прамавугольную форму і моцна фрагментаваны. На вонкавым баку формы выразана будучая адліўка – гэта абразок з выявай святога (захавалася толькі ніжняя частка). Форма была знойдзена ў 1960 г. на тэрыторыі Верхняга замка. Г. В. Штыхаў датаваў выраб XIII ст. [7, мал. 34: *28*].

15. Ліцейная форма (захоўваецца ў НГМРБ, памеры 6,7 × 5,2 × 2,4 см). Прадмет зроблены з мяккай пароды каменю і мае трапецападобную форму. Выраб прызначаўся для адліўкі манетападобнай прывескі з салярным арнаментам (дванаццаціпялёсткавая разетка, якую акружаюць два арнаментальныя пояскі (ілжэвіты і ілжэзярнёны)). На вонкавым баку прадмета выразаны варонкападобны літнік, выемка для адліўкі вушка прывескі, а таксама дзве адтуліны для штыфтаў (у іх захаваліся сляды металу).

Выраб паходзіць з матэрыялаў археалагічных даследаванняў 1960 г. на тэрыторыі Верхняга замка. Больш дакладная лакалізацыя знаходкі ў межах раскопу не ўяўляецца магчымай. Г. В. Штыхаў датуе выраб XIII ст. [7, с. 69, мал. 34: *1*].

16. Ліцейная форма (захоўваецца ў НГМРБ, памеры 3,5 × 2,6 × 1,9 см). Прадмет двухбаковы, зроблены з мяккай пароды каменю і добра апрацаваны. На адным баку формы размешчана выява пацеркі з імітацыяй зерні, а таксама нескразная адтуліна для мацавання вонкавай створкі. Фрагментаванасць прадмета не дазваляе адназначна гаварыць аб спосабе ліцця, які выкарыстоўваўся майстрам для адліўкі дадзенага ўпрыгажэння, але найбольш верагодна, што пацерка адлівалася метадам «навыплеск». На адваротным баку размешчана выява яшчэ аднаго вырабу – крынападобнай прывескі. Хутчэй за ўсё гэтая частка формы з'яўлялася бракам вытворчасці і не выкарыстоўвалася па прызначэнні. На гэта ўказвае частковае несупадзенне варонкі літніка з выемкай для фармавання вушка прывескі.

Выраб быў выяўлены ў 1962 г. падчас даследаванняў Г. В. Штыхава на тэрыторыі Верхняга замка ў слаях XIII ст. (глыбіня 4,14 м) [13, с. 153; 7, мал. 34: *2*].

17. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 7,2 × 2,8 × 1,3 см). Прадмет зроблены з распілаванага ўздоўж і добра апрацаванага шчыльнага рога. На вонкавай паверхні вырабу размешчаны невялікі варонкападобны літнік з двума каналамі, а таксама выявы будучых адлівак – гэта чатыры пацеркі. На трох з іх павінна была быць размешчана імітацыя зерні, а на чацвёртай – цыркульны арнамент. Рогавыя формы з'яўляюцца вельмі рэдкай знаходкай. Падобныя вырабы былі выяўлены ў Бірке, Хэдэбю, Ноўгарадзе і Пскове[1].

Зыходзячы з фізічных характарыстык матэрыялу, можна дапусціць, што такія прыстасаванні маглі ўжывацца для вырабу васковых мадэляў, якія служылі асновай для вырабу аднаразовых ліцейных форм. Між тым у матэрыялах раскопак старажытнага Ноўгарада сустракаюцца таксама і драўляныя ліцейныя формы, ужыванне якіх для адліўкі металічных упрыгажэнняў з алавяніста-свінцовых сплаваў з невысокай тэмпературай плаўлення не выклікае сумненняў. У сувязі з гэтым нельга выключаць магчымасці выкарыстання і дадзенай рогавай формы для непасрэднай адліўкі ўпрыгажэнняў [2, с. 220].

Прадмет быў знойдзены С. В. Тарасавым падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Вялікага пасада ў 1987 г. Верагодна, дадзены артэфакт трэба атаясамліваць з выяўленай у межах раскопу ювелірнай майстэрняй XII–XIII стст. [16; 17, мал. 63: *18*].

18. Ліцейная форма (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 4,9 × 4,3 × 1,4 см). Прадмет аднабаковы, прамавугольнай формы, зроблены з мяккай пароды каменю, добра апрацаваны і адшліфаваны. На адным баку размешчаны выявы будучых адлівак, якія ўяўляюць сабой невялікія паўсферы (1,2 × 1,2 см), злучаныя з варонкападобным літнікам трыма канальцамі (мал. 1: *2*). На думку Д. У. Дука, магчымае прызначэнне адлівак – накладка на рамяні [18, с. 12].

Прадмет быў знойдзены падчас археалагічных даследаванняў у 2010 г. на тэрыторыі Запалоцкага пасада. Выраб выяўлены ў слоі баласту, аднак аўтарам раскопак датуецца XI–XII стст. [18, с. 12].

19. Брак ліцейнай формы (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 4,1 × 2,7 × 1,7 см). Прадмет зроблены з надзвычай мяккай і крохкай пароды каменю. Выраб мае форму прамавугольнага бруска і апрацаваны з усіх бакоў. На іх размешчаны некалькі выемак правільнай формы: на шырэйшым баку – паўсферычная, а на тарцы – конусападобная. Побач з паўсфе-

[1] Аўтар выказвае шчырую падзяку Н. В. Еніосавай за ўказанне аналогій.




Мал. 1. Ліцейныя формы з Полацка: *1, 2* – знаходкі Д. У. Дука; *3* – знаходка А. А. Салаўёва

рычнай выемкай знаходзіцца нескразная прасвідраваная адтуліна, край якой сколаты. Фрагментаванасць выяў не дазваляе адназначна меркаваць аб характары будучай адліўкі. Дадзены артэфакт варта разглядаць у якасці бракаванай ліцейнай формы ці яе нарыхтоўкі.

Выраб знойдзены ў 2010 г. падчас даследаванняў Д. У. Дука на тэрыторыі Запалоцкага пасада. Прадмет быў выяўлены ў верхнім баластным слоі і аўтарам раскопак датуецца XI–XII стст. [18, с. 12, мал. 38: *8*].

20. Ліцейная форма (захоўваецца ў археалагічнай навукова-музейнай экспазіцыі НАН Беларусі, памеры 4,9 × 2,0 × 1,6 см). Прадмет зроблены з мяккай пароды каменю і добра апрацаваны. На адным баку формы захаваўся фрагмент выявы будучай адліўкі, які, аднак, не дае магчымасці поўнасцю рэканструяваць яе выгляд. Найбольш верагодна, што гэта частка трох- ці чатырохчасткавай ліцейнай формы, якая выкарыстоўвалася для адліўкі складанага прадмету. Характар арнаменту дазваляе меркаваць, што форма прызначалася для адліўкі полых вырабаў тэхнікай «навыплеск» (мал. 1: *1*).

Дадзены артэфакт выяўлены падчас археалагічных даследаванняў 2009 г., якія праводзіліся пад кіраўніцтвам Д. У. Дука на тэрыторыі Вялікага пасада. Прадмет быў знойдзены ў перамешаным слоі XIII–XVII стст. [19, с. 10].

21. Нарыхтоўка ліцейнай формы (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры 7,8 × 5,4 × 2,0 см). Прадмет зроблены з мяккай пароды каменю, амаль прамавугольнай формы, добра апрацаваны. На абодвух баках вырабу размешчаны незакончаныя апрацоўкай выявы будучых адлівак, а таксама па чатыры нескразныя адтуліны, якія, верагодна, прызначаліся для злучэння створак формы. На адным баку, акрамя невыразных драпін, знаходзяцца дзве цыркульныя выявы, злучаныя паміж сабой невялікім канальцам. Малюнак, верагодна, з'яўляецца часткай разметкі, якая наносілася майстрам на камень для будучай дапрацоўкі разцом. Выява падобнага характару размешчана і на адваротным баку формы. Між тым малюнак разметкі тут больш складаны і мае раслінна-геаметрычны характар (мал. 1: *3*). Верагодна, у форме планавалася адліваць упрыгажэнні з перагародкамі для запаўнення іх эмаллю.

Выраб з'яўляецца выпадковай знаходкай і паходзіць з прыватнай калекцыі А. А. Салаўёва. Прадмет знойдзены ў 2000 г. на тэрыторыі Вялікага пасада (вул. Леніна, д. 14) падчас нагляду за землянымі работамі. Верагоднае датаванне формы – XII–XIII стст.

Такім чынам, ліцейныя формы, знойдзеныя на тэрыторыі Полацка, з'яўляюцца выдатным адлюстраваннем высокага прафесійнага ўзроўню старажытных полацкіх ювеліраў. Большая іх частка зроблена з прыдатнага для тонкай апрацоўкі дробназярністага вапняку. Пашырэнне іх выкарыстання трэба звязваць з павышэннем таварнасці ювелірнага рамяства, арыентацыі яго прадукцыі на рынак. Гэтым можна патлумачыць і ўжыванне для вырабу ліцейных форм на першы погляд не прыдатных для гэтых мэт матэрыялаў (рог), якія паводле сваіх фізічных уласцівасцей былі прызначаныя для адлівак упрыгажэнняў з алавяніста-свінцовых сплаваў з нізкай тэмпературай плаўлення.

Ювелірныя вырабы, зробленыя з такой сыравіны, знешне вельмі нагадвалі дарагія сярэбраныя ўпрыгажэнні, якія былі не даступны для простых гараджан. На арыентацыю прадукцыі мясцовых ювеліраў на масавага спажыўца ўказвае і з'яўленне так званых імітацыйных форм, з дапамогай якіх на паверхні літых упрыгажэнняў імітаваліся вельмі працаёмкія дэкаратыўныя прыёмы – зярненне і філігрань. На тэрыторыі Ноўгарада падобныя формы з'яўляюцца ў XII ст., а ў Полацку, паводле Г. В. Штыхава, толькі ў 20-ыя гады XIII ст. [2, с. 218; 8, с. 139]. Між тым нельга адмаўляць магчымасці існавання такой тэхнікі і ў больш ранні час, пра што можа

сведчыць знаходка рогавай ліцейнай формы, якая датуецца больш шырока – XII–XIII стст.

Не выклікае сумнення, што ліцейныя формы рабілі самі майстры-ювеліры. На гэта ўказваюць знаходкі нарыхтовак, а таксама браку вытворчасці. Акрамя таго, толькі злотнікі ведалі фізічныя характарыстыкі каляровых металаў і іх сплаваў, а таксама іх паводзіны пад ўздзеяннем высокіх тэмператур, што дазваляла разлічыць неабходныя памеры літніка, а таксама аб'ём металу, патрэбны для адліўкі ўпрыгажэнняў. Такім чынам, ювелір павінен быў не толькі валодаць адмысловымі прыёмамі апрацоўкі сыравіны, але таксама ўмець працаваць з каменем, глінай, рогам і іншымі матэрыяламі.

Пэўную цікавасць выклікае таксама датаванне і лакалізацыя ліцейных форм, знойдзеных на тэрыторыі Полацка. Асноўная іх частка датуецца XIII ст. і была знойдзена падчас археалагічных даследаванняў на Верхнім замку. У межах «усходняга раскопу» мы вылучаем два вытворчыя ювелірныя комплексы, якія актыўна дзейнічалі ў XIII ст. З вялікага раскопу 1987–1988 гг. на тэрыторыі Вялікага пасада ў фондах НПГКМЗ на сённяшні момант захоўваецца толькі адна ліцейная форма, зробленая з рогу. Яна, верагодна, мела дачыненне да ювелірнай майстэрні, якая функцыянавала на дадзеным месцы ў XII–XIII стст. Яшчэ адзін фрагмент ліцейнай формы, знойдзенай на Вялікім пасадзе ў 2009 г., датуецца больш позні часам – XIII–XVII стст.

Дзве формы былі выяўлены на тэрыторыі Запалоцкага пасада падчас раскопак 2010 г. Прадметы знойдзены ў баластным верхнім слоі. На месцы раскопак не было зафіксавана іншых сведчанняў ювелірнай вытворчасці, што не дазваляе атаясамліваць дадзеныя знаходкі з пэўным вытворчым комплексам. Таксама цяжка датаваць і нарыхтоўку ліцейнай формы, якая паходзіць з прыватнай калекцыі А. А. Салаўёва.

**Тыглі.** Важным прыстасаваннем старажытных ліцейшчыкаў былі тыглі – керамічныя ёмістасці для плаўкі каляровых металаў і разліву яго ў формы [20]. Тыглі ўяўляюць асаблівую цікавасць для даследавання ювелірнай вытворчасці не толькі таму, што з'яўляюцца яе індыкатарам. Форма і памеры гэтых керамічных пасудзін, склад і ўласцівасці глі693нага цеста залежаць ад умоў плаўкі пэўных металаў і сплаваў, канструкцыі вогнішча і печы, ад здольнасцей ліцейшчыкаў кантраляваць металургічныя працэсы, якія адбываюцца ў тыглях [5].

У літаратуры дастаткова часта згадваецца яшчэ адзін тып керамічных пасудзін, якія мелі дачыненне да ліцейнай справы – льячкі. Існуе меркаванне, што дадзеныя вырабы выкарыстоўваліся для разліву расплаўленага металу ў формы. Аднак у даследаваннях апошняга часу прыводзяцца пераканаўчыя доказы немэтазгоднасці вылучэння гэтай групы ёмістасцей у асобны від [5]. У дадзенай рабоце мы прытрымліваемся падобнай кропкі гледжання і ўсе керамічныя пасудзіны, якія маюць дачыненне да гарачай апрацоўкі каляровых металаў, будзем адносіць да тыгляў.

Паводле нашых падлікаў, на тэрыторыі Полацка за час археалагічных даследаванняў было выяўлена звыш 200 тыгляў. Сёння ў фондах НПГКМЗ захоўваецца 107 тыгляў (11 цэлых і 96 фрагментаў), асобныя артэфакты знаходзяцца таксама ў Археалагічнай навукова-музейнай экспазіцыі НАН Беларусі, а таксама ў НГМРБ. Фрагменты пасудзін для плаўкі каляровых металаў дастаткова часта сустракаюцца падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Полацка, аднак найбольшая іх канцэнтрацыя была зафіксавана ў тых месцах, дзе знойдзены сляды існавання вытворчых ювелірных комплексаў.

Як ужо адзначалася, спецыяльным даследаваннем полацкіх тыгляў займаліся Г. В. Штыхаў і Д. В. Навумаў (класіфікацыя і фізіка-хімічныя даследаванні). Апошні прывёў хімічны аналіз аднаго тыгля з раскопак 1960–1961 гг. на тэрыторыі Верхняга замка. У выніку было ўстаноўлена, што прадмет зроблены з матэрыялу, які адпавядае паўкіслым вогнеўпорам, на зломе мае шэравата-малочны колер і дробназярністую структуру. Аналіз нацёкаў металу на ўнутранай паверхні ёмістасці паказаў, што ў тыглі плавілася бронза [9].

Вялікую цікавасць уяўляюць работы Г. В. Штыхава, які займаўся комплексным вывучэннем пасудзін для плаўкі каляровых металаў з раскопак на Верхнім замку («усходні раскоп»). Паводле яго даследаванняў, полацкія тыглі зроблены са светлай тугаплаўкай гліны з дамешкамі буйназярністага пяску. Усе знойдзеныя падчас раскопак 1959–1961 гг. прадметы дадзенай катэгорыі навуковец аднёс да «кругладонных, пірамідальнай формы». Даследчык адзначыў, што ўсе ёмістасці мелі носік-зліў, які дазваляў разліваць расплаўлены метал непасрэдна ў форму [8, с. 135–136].

У іншых публікацыях, прысвечаных вынікам археалагічны даследаванняў на тэрыторыі Полацка, прыводзяцца, як правіла, толькі самыя агульныя звесткі адносна колькасці, формы і памераў выяўленых пасудзін для плаўкі каляровых металаў [16; 22, с. 172].

Дадзенае даследаванне ў асноўным заснавана на дастаткова прадстаўнічай калекцыі полацкіх тыгляў са збору НПГКМЗ. Са 107 тыгляў прыдатным для класіфікацыйнага аналізу з'яўляецца 61. Дадзеная група прадметаў поўнасцю ці часткова захавала свой першапачатковы выгляд.

Паводле формы намі вылучаны тры тыпы ёмістасцей: 1) цыліндрычныя (26 экзэмпляраў); 2) конусападобныя (35 экзэмпляраў); 3) тыглі-купелі (1 экзэмпляр). Конусападобныя тыглі, у сваю чаргу, падзяля-




Мал. 2. Тыглі для плаўкі каляровых металаў з Полацка: *1*, *4* – раскопкі Д. У. Дука; *2* – раскопкі С. В. Тарасава; *3* – раскопкі М. В. Клімава

юцца на два падтыпы паводле формы дна: 1) з акруглым дном; 2) з плоскім дном.

Цыліндрычныя тыглі зроблены са светлай, аднаслойнай, добра вымучанай гліны, якая амаль не ўтрымлівае ў сваёй структуры ўключэнняў буйных каменьчыкаў. Як правіла, вонкавая паверхня тygляў моцна ашлакованая, што ўказвае на шматразовае выкарыстанне ёмістасці для плаўкі каляровых металаў. Пераважаюць шлакі чырвонага і чорнага колеру (мал. 2: *1, 2*).

Вонкавае ашлакоўванне з’яўляецца вынікам хімічнай рэакцыі паміж крэменязёмам, які ўтрымліваецца ў фармовачнай масе, драўляным попелам у печы і металам, падчас яго ўцечкі з ёмістасці. Чырвоныя плямы на шклопадобнай паверхні – гэта сілікат медзі, чорныя – сілікат жалеза [5].

Цыліндрычныя тыглі маюць розныя памеры. Можна вылучыць вялікія (вышыня 7–9 см) і маленькія тыглі (вышыня 3–4 см). Сярэдняя таўшчыня сценак такіх тygляў – 0,7–0,8 см, а дыяметр вусця вагаецца ад 2,6 да 3,9 см.

Аб’ём вялікіх цыліндрычных тygляў, паводле падлікаў Н. В. Рындзінай, складаў 25–30 см$^3$. У іх магло змясціцца 200–210 г бронзы ці 250–270 г серабра. Аб’ём маленькіх цыліндрычных тygляў вагаецца ад 2 да 8 см$^3$, што адпавядае 20–70 г бронзы ці 20–80 г серабра [5].

Падобныя вырабы атрымалі дастаткова шырокае распаўсюджванне на вялікай тэрыторыі, што не дае магчымасці звязваць іх паходжанне і распаўсюджванне з пэўным рэгіёнам ці этнасам.

У межах Полацка знаходкі цыліндрычных тygляў у асноўным канцэнтруюцца ў двух пунктах: на Вялікім пасадзе (раскопкі С. В. Тарасава, 1987–1988 гг.) і Ніжнім замку (раскопкі С. В. Тарасава, 1989 г.) [23, мал. 45: *1*; 24, мал. 20: *1–6*]. Падчас даследаванняў на гэтых аб’ектах былі выяўлены рэшткі вытворчых ювелірных комплексаў, да дзейнасці якіх адносіліся знойдзеныя тыглі. Майстэрня на Ніжнім замку датуецца X–XI стст., а на Вялікім пасадзе – XII–XIII стст. [16].

Акрамя гэтых двух цэнтраў, цыліндрычныя тыглі былі выяўлены падчас археалагічных даследаванняў на полацкім селішчы (раскопкі Г. В. Штыхава, 1979 г.), а таксама на Вялікім пасадзе (вул. Ніжне-Пакроўская, д. 35; плошча Свабоды) (раскопкі Н. І. Здановіч, 1991–1992 гг.; Д. У. Дука, 2009 г.) [25, с. 6; 19, с. 10].

Група конусападобных тygляў самая шматлікая і колькасна пераважае сярод полацкіх артэфактаў (35 экзэмпляраў). Дадзены тып ёмістасцей для плаўкі каляровых металаў адрозніваецца паводле характарыстык фармовачнай масы, памераў і іншых параметраў (мал. 2: *3*).

Кругладонныя конусападобныя тыглі найбольш шырока прадстаўлены ў полацкай калекцыі (31 экзэмпляр). Падобная форма найбольш мэтазгодна для тygляў: вузкія, невысокія ёмістасці з нешырокім вусцем да мінімуму абмяжоўвалі доступ паветра да расплаўленага металу і не дазвалялі яму акісліцца [2, с. 214].

Выразна вылучаюцца дзве рэцэптуры, паводле якіх прыгатаваны фармовачныя масы такіх тygляў: 1) светлая, аднаслойная гліна з дамешкамі буйной жарствы (сярэднія памеры ўключэнняў – 0,3 × 0,3 см); 2) светлая, аднаслойная, добравымучаная гліна без уключэнняў. Структура фармовачнай масы, відавочна, уплывала на вогнеўпорныя ўласцівасці тygляў, а таксама на тэрмін іх выкарыстання для плаўкі каляровых металаў.

Як правіла, вонкавая паверхня кругладонных конусападобных тygляў слабаашлакованая. Пераважаюць шлакі чырвонага і чорнага колеру. Слабая ашлакованасць ўказвае на той факт, што падобныя ёмістасці выкарыстоўваліся ліцейшчыкамі не больш аднаго-двух разоў.

Паводле сваіх памераў тыглі гэтага тыпу падзяляюцца на вялікія (сярэдняя вышыня 7,2–7,8 см пры таўшчыні сценак 0,6–0,8 см) і маленькія (сярэдняя вышыня 3,5–4,5 см пры таўшчыні 3,5–4,5 см). Сярэднія памеры вусцяў вялікіх сасудаў – 6,0 × 7,0 см, а маленькіх – 4,5 × 4,0 см.

Як можна меркаваць па вядомых артэфактах, конусападобныя тыглі мелі адмысловы носік-зліў, які выкарыстоўваўся для разліву расплаўленага металу ў ліцейныя формы.

Пэўную цікавасць уяўляюць таксама і плаксадонныя конусападобныя тыглі, якіх у полацкай калекцыі налічваецца чатыры экзэмпляры. На вялікі жаль, усе яны з'яўляюцца выпадковымі знаходкамі, што не дазваляе з упэўненасцю датаваць прадметы. Вырабы зроблены з добравымучанай аднаслойнай светлай гліны і паводле асноўных параметраў адпавядаюць вялікім кругладонным конусападобным тыглям. Дыяметр донцаў трох такіх ёмістасцей (выпадковыя знаходкі А. А. Салаўёва на тэрыторыі Экімані) без слядоў выкарыстання на знешняй і ўнутранай паверхні ў сярэднім роўны 1,8 см. Такое донца не забяспечвала пасудзіне ўстойлівасць на плоскай паверхні, і, верагодна, не несла значнай функцыянальнай нагрузкі. Цікавасць уяўляе плаксадонны тыгель для плаўкі каляровых металаў з дыяметрам донца 3,6 см (выпадковая знаходка А. А. Салаўёва на тэрыторыі Ніжняга замка). Прадмет танкасценны (0,4 см), зроблены з добравымучанай гліны, на ўнутранай і вонкавай паверхні – сляды ўжывання. З'яўленне ўстойлівых плаксадонных тыгляў, верагодна, трэба звязваць са змяненнем канструкцыі плавільных печаў і павелічэннем аб'ёмаў сыравіны, якая трапляла ў рукі гарадскіх майстроў. На думку Н. В. Рындзінай, падобныя ёмістасці з'явіліся ў XIV–XV стст. [2, с. 214].

Паводле назіранняў Г. В. Штыхава, аб'ём конусападобных тыгляў вагаецца ад 30 да 75 см$^3$. У ёмістасці падобнага аб'ёму можна было расплаўляць 100–300 г волава [8, с. 136].

Конусападобныя тыглі дастаткова часта сустракаюцца ў матэрыялах археалагічных даследаванняў старажытнага Полацка, аднак найбольшая іх колькасць фіксуецца на Верхнім замку (раскопкі А. Г. Мітрафанава і Г. В. Штыхава, 1959–1962 гг.) і Вялікім пасадзе (раскопкі Д. У. Дука, 2005 г.) [7, с. 64, мал. 34: *26*; 21]. Падчас раскопак на гэтай частцы тэрыторыі горада было выяўлена не менш трох вытворчых ювелірных комплексаў [26].

Майстэрні на Верхнім замку датуюцца сярэдзінай–другой паловай XIII ст. [7, с. 41, 46]. Тыглі, якія адносяцца да дадзеных вытворчых комплексаў, зроблены з выкарыстаннем першай рэцэптуры, а таму ўтрымліваюць у сваёй структуры значныя дамешкі буйной жарствы. Трэба адзначыць, што выкарыстанне ёмістасцей з падобнай фармовачнай масай не было зафіксавана ў іншых месцах Полацка.

Падчас выратавальных раскопак на Вялікім пасадзе ў 2005 г. былі ўскрыты рэшткі вытворчага ювелірнага комплексу, які дзейнічаў у першай палове XVII ст. У межах раскопу знойдзена звыш 50 тыгляў [22, с. 172]. Усе прыдатныя для класіфікацыйнага аналізу экзэмпляры адносяцца да тыпу кругладонных конусападобных. Фармовачная маса большасці гэтых ёмістасцей зроблена па другому рэцэпту і амаль не ўтрымлівае ў сваёй структуры дамешак буйной жарствы. Акрамя таго, дадзеная група тыгляў мае больш тонкія сценкі і вузкае дно ў параўнанні з пасудзінамі з майстэрняў на тэрыторыі Верхняга замка.

Конусападобныя тыглі былі знойдзены таксама ў Экімані (2001 г., А. А. Салаўёў, выпадковыя знаходкі разам з матэрыяламі XVII–XVIII стст.), на Вялікім пасадзе (2006 г., выпадковыя знаходкі А. А. Салаўёва) і інш.

Яшчэ адзін артэфакт, выяўлены на тэрыторыі Полацка, адносіцца да тыпу тыгляў-талерачак (ці тыгляў-купеляў) (захоўваецца ў НПГКМЗ, памеры фрагмента 5,9 × 3,7 × 0,7 см) (мал. 2: *4*). Падобныя пасудзіны выкарыстоўваліся ў працэсе купеляцыі (аддзялення каштоўных металаў ад дамешкаў), а таксама пры вызначэнні чысціні серабра ці золата [5]. Гэта быў вельмі складаны працэс, які патрабаваў пэўных тэхнічных навыкаў і матэматычных ведаў, што ўказвае на высокі ўзровень мясцовых ювеліраў.

Гэты прадмет знойдзены ў 2005 г. падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Вялікага пасада сярод рэштак вытворчага ювелірнага комплексу першай паловы XVII ст. [21]. Тыгель моцна фрагментаваны, зроблены з добравымучанай, аднароднай гліны, якая не ўтрымлівае ў сваёй структуры буйных дамешкаў жарствы ці шамоту. Унутраная і знешняя паверхня слаба ашлакаваная. На вонкавай паверхні пераважаюць шлакі чырвонага колеру, на ўнутранай – чорнага і чырвонага. Існуе думка, што метал у такіх пасудзінах награваўся зверху пры дапамозе паяльніка і адмысловай трубкі-феўкі [5]. Менавіта гэтым можна патлумачыць наяўнасць шлакаў не толькі на вонкавым, але і на ўнутраным баку.

Н. В. Еніосава мяркуе, што тыглі-купелі маюць скандынаўскае паходжанне. На думку даследчыцы, менавіта майстры-скандынавы з'ўляліся на Русі носьбітамі тэхнікі купеляцыі [5]. Між тым археалагічны кантэкст полацкай знаходкі, дазваляе з упэўненасцю меркаваць, што тыглі-купелі ўжываліся мясцовымі ювелірамі і ў першай палове XVII ст. Верагодна, падобная тэхналагічная аперацыя з'ўлялася вельмі ўдалым сродкам ачысткі каштоўных металаў, а таму не страчвала сваёй актуальнасці на працягу многіх стагоддзяў.

Такім чынам, тыглі, якія выкарыстоўвалі полацкія ліцейшчыкі, з'яўляюцца выдатным адлюстраваннем высокага ўзроўню развіцця ювелірнага ра-

мяства на тэрыторыі горада на працягу X–XVII стст. У іх канструкцыі ўвасобіліся глыбокія веды полацкіх майстроў адносна фізічных і хімічных уласцівасцей каляровых металаў і іх сплаваў.

У ходзе даследавання намі было выяўлена, што полацкія ліцейшчыкі карысталіся не менш чым трыма тыпамі пасудзін для плаўкі металаў: 1) цыліндрычныя; 2) конусападобныя; 3) тыглі-купелі. Цыліндрычныя тыглі атрымалі найбольшае распаўсюджванне ў X–XIII стст. і надзейна атаясамліваюцца з двума вытворчымі ювелірнымі комплексамі, якія функцыянавалі на тэрыторыі Ніжняга замка (X–XI стст.) і Вялікага пасада (XII–XIII стст.). Фармовачная маса гэтых тыгляў выканана па аднаму рэцэпту. Падобныя ёмістасці выкарыстоўваліся некалькі разоў, на што ўказвае вялікая ступень ашлакованасці паверхні.

Конусападобныя тыглі найбольш шырока прадстаўлены ў полацкай калекцыі. У прыгатаванні фармовачнай масы для іх вырабу выразна вылучаюцца два рэцэпты. Конусападобныя тыглі з вялікімі дамешкамі буйной жарствы лакалізуюцца ў межах Верхняга замку («усходні раскоп»), дзе было выяўлена не менш дзвюх ювелірных майстэрняў сярэдзіны–другой паловы XIII ст. Пасудзіны з добра вымучанага глінянага цеста канцэнтруюцца ў межах знойдзенай ў 2005 г. на тэрыторыі Вялікага пасада ювелірнай майстэрні першай паловы XVII ст. Адзіны экзэмпляр тыгля-талерачкі таксама адносіцца да гэтага рамеснага комплексу.

У полацкіх майстроў-ліцейшчыкаў вялікую папулярнасць атрымаў тып кругладонных конусападобных тыгляў, якія выкарыстоўваліся мясцовымі рамеснікамі з XIII па XVII ст. У той жа час цыліндрычныя тыглі, папулярныя ў X–XIII стст., не атрымалі распаўсюджвання ў наступны час. Тлумачыць гэтую акалічнасць можна па-рознаму. Магчыма, выбар быў абумоўлены канструкцыйнымі асаблівасцямі плавільнай печы. Акрамя таго, як ужо адзначалася, менавіта конусападобная форма з'яўлялася найбольш прыдатнай для плавільных пасудзін з функцыянальнай кропкі гледжання. Аднак нельга выключаць магчымасці не аўтахтоннасці традыцыі ўжывання цыліндрычных тыгляў, што і праявілася ў хуткім яе знікненні, у той час як конусападобныя пасудзіны трывала ўвайшлі ў арсенал полацкіх ліцейшчыкаў і ўжываліся імі на працягу некалькіх стагоддзяў.

Такім чынам, полацкія майстры-ювеліры валодалі найбольш прагрэсіўнымі для свайго часу рамеснымі прыёмамі апрацоўкі каляровых металаў. Наяўнасць у полацкай калекцыі значнай колькасці прыстасаванняў для ліцейнай справы сведчыць аб вялікім значэнні дадзенага накірунку рамяства ў асяроддзі мясцовых ювеліраў.

**Літаратура**

1. Рыбаков, Б. А. Ремесло древней Руси / Б. А. Рыбаков. – М.: Изд-во АН СССР, 1948. – 784 с.

2. Рындина, Н. В. Технология производства новгородских ювелиров X–XV вв. / Н. В. Рындина // Тр. новгородской археолог. экспедиции. – М., 1959. – № 65: Материалы и исследования по археологии СССР. – С. 200–247.

3. Каргер, М. К. Древний Киев / М. К. Каргер // Очерки по истории материальной культуры древнерусского города: в 2 т. – М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1958. – Т. 1. – 579 с.

4. Ениосова, Н. В. Литейные формы Гнёздова / Н. В. Ениосова // Историческая археология. Традиции и перспективы (к 80-летию со дня рождения Даниила Антоновича Авдусина). – М.: Памятники исторической мысли, 1998. – С. 67–81.

5. Ениосова, Н. В. Тигли Гнёздовского поселения / Н. В. Ениосова, Р. А. Митоян // Археолог. сб., посв. памяти Марии Васильевны Фехнер. Тр. ГИМ. – М.: ГИМ, 1999. – Вып. 111. – С. 54–63.

6. Дайга, И. В. К вопросу о литейных формах и литейном деле на территории Латвии (до XIII в.) / И. В. Дайга // Сов. археология. – 1960. – № 3. – С. 78–92.

7. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк IX–XIII вв. / Г. В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – 136 с.

8. Митрофанов, А. Г. Древний Полоцк (по археологическим данным) / А. Г. Митрофанов, Г. В. Штыхов, В. Р. Тарасенко // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі» НАН Беларусі. – Спр. 124.

9. Наумов, Д. В. Химическое и структурное исследование некоторых предметов из Полоцка XII–XIII стст. / Д. В. Наумов // Белорусские древности: докл. к конф. по археологии Белоруссии (январь-февраль 1968 г.). – Минск: Отпечатано на ротапринте Фундаментальной библиотеки им. В. Г. Белинского АН БССР. – С. 298–306.

10. Сингх, В. К. Инструменты новгородских ювелиров / В. К. Сингх // Родина. – 2009. – № 9. – С. 72–79.

11. Тарасенко, В. Р. Отчет о раскопках Полоцой археологической экспедиции Института истории АН БССР в 1961 г. / В. Р. Тарасенко, Г. В. Штыхов // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі» НАН Беларусі. – Спр. 114.

12. Полоцк. Коллекционные описи археологических раскопок на Верхнем замке в 1959 году // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі» НАН Беларусі. – Спр. 164а.

13. Полоцк. Коллекционные описи находок из раскопок Верхнего замка в 1960, 1961, 1962 гг. // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі» НАН Беларусі. – Спр. 114а.

14. Седова, М. В. Ювелирные изделия Древнего Новгорода (X–XV вв.) / М. В. Седова. – М.: Наука, 1981. – 196 с.

15. Башков, А. А. Христианские древности Беларуси конца X – XIV в. (предметы христианского культа индивидуального использования) / А. А. Башков. – Минск: ИП Логвинов И. П., 2011. – 194 с.

16. Тарасаў, С. В. Сядзіба полацкіх ювеліраў XII–XIII стст. / С. В. Тарасаў // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы IV Міжнар. навук. канф. – Полацк: НПГКМЗ, 2003. – С. 267–272.






Мал 1. Кафля з сюжэтам «Пакланенне вяшчуноў»

на лаве Божая Маці. Мастак выдатна паказаў малюнак пляцення верхняй часткі загародкі і саму сценку. Лёгка прызнаць і жывёлін – асла і карову.

Трэба некалькі слоў сказаць і аб інтэр’еры памяшкання. На заднім плане вельмі дэтальна паказана сцяна будынка, аркавы праём, дзверы, адхоны двух вакон з вузкім прасценкам паміж імі і цагляная муроўка. Размяшчэнне і характар выяў цаглін дазваляюць меркаваць, што мастак імкнуўся паказаць тычковую муроўку. Аднак найбольш дэталёва ён паказаў арнаментаваную пліткавую падлогу з квадратных і прамавугольных плітак, якія аздоблены кругамі. Выкарыстанне керамічных падлогавых плітак ў жылых пабудовах у XVI ст. Д. У. Дук лічыць адметнай з’явай ў матэрыяльнай культуры Полацка першай паловы XVI ст. [2, с. 97]. Такім чынам, можна меркаваць, што гэта інтэр’ер жылога дома гараджаніна сярэдняга дастатку. На карысць гэтага сведчаць як пліткавая керамічная падлога, так і загон для жывёлы. Трымаць маладую жывёлу ў доме, калі было вельмі холадна ўзімку, з’яўлялася звычайнай практыкай як для гараджан, так і для вяскоўцаў, для гэтага і будавалі часовую плеценую загародку. Гэта ж дэталь таксама падкрэслівала, што Хрыстос нарадзіўся ўзімку, значыць у вельмі складаных і неспрыяльных умовах.

Калі гаварыць менавіта пра кафлю, то адтуліны румпы знаходзяцца не толькі зверху і знізу, як звычайна ў кафлях, але і ў бакавых, больш кароткіх сценках румпы. Звычайна даследчыкі лічаць, што праз гэтыя адтуліны прапускалі дрот для мацавання кафлі пры будаўніцтве печы, але адтуліны часам бываюць толькі пазначаны паглыбленнямі, таму можна меркаваць, што яны былі неабходныя самім кафлярам, каб зручней было браць і выцягваць спецыяльнымі кляшчамі гарачыя вырабы з горна. Дарэчы, ў сувязі з гэтым трэба прыгадаць гравюру Ф. Скарыны з выявай будаўнічай пляцоўкі. Апрацаваныя каменныя блокі маюць невялікія паглыбленні у тарцах, якія вельмі падобны на адтуліны у кафлях. Таксама паказана, як падобныя каменныя блокі падымаюць на сцяну, заціснуўшы з двух бакоў спецыяльнымі кляшчамі [4, с. 14]. Такім жа чынам, верагодна, выцягвалі пры абпале і кафлю з горна. Таксама з супрацьлеглых бакоў ёсць адтуліны, пракалатыя трэскай, але прызначэнне іх невядома. Верагодна, ў іх сапраўды ўстаўляліся трэскі пры ўмуроўванні кафлі ў люстэрка печы, каб пры высыханні апошняй яна не зварухнулася з месца. Вышыня румпы каля 10 см дазваляла выкарыстоўваць кафлю як самастойны будаўнічы матэрыял для надстаўкі печы.

Не менш цікавай была наступная выява. Вонкавы бок кафлі ўяўляў сабой прамавугольную пласціну 21,0 × 18,5 см. Па яе краі была двухуступная масіўная рамка, далей – шырокая дэкаратыўная рамка, аздобленая вельмі вытанчаным геаметрычным арнаментам. Па кутах у квадратах знаходзіліся разеткі, якія нагадвалі металічныя заклёпкі. Сваім выглядам малюнак гэтай кафлі нагадвае шпалеру (мал. 2).




Мал. 2. Кафля з выявай «Маленне аб Чашы»

Галоўная выява займала цэнтральную частку пласціны. Гэта таксама вельмі вядомы па Евангеллі сюжэт «Маленне аб Чашы». Выява мае невысокі рэльеф, але фігуры вучняў і Хрыста, іх вопратка прапрацаваны вельмі дэталёва. Мастаку з дапамогай драпіроўкі адзення ўдалося вельмі экспрэсіўна перадаць напружаную атмасферу надыходзячай катастрофы. У правым куце, на ўзвышшы, на заднім плане бачны каленапрыхілены Хрыстос. Невялікія памеры фігуры Хрыста і палоска зямлі вылучаюць і аддаляюць яго ад вучняў. А тыя знясіленыя забыліся ў цяжкім сне. Адзін спіць ў абдымку з дрэвам. Другі сядзіць на камені, падпіраючы галаву рукой, змагаецца са сном. Трэці не вытрымаў і прыхіліўся да ўзвышша, на якім моліцца Хрыстос. Невялікія памеры выяў не дазволілі паказаць мастаку рысы іх твараў, але ў дзвюх фігур добра бачны бароды. З Евангелля ад Марка мы ведаем, што непасрэдна гэта былі Пётр, Марк і Іаан [6, с. 57, ст. 33, 37]. Дарэчы, апошні быў юнаком, самым малодшым з трох, таму ён на выяве без барады. Менавіта ён больш за ўсіх трымаўся, змагаючыся са сном.

Вельмі цікавым было аздабленне кутняй кафлі з выявай «Маленне аб Чашы». Яна складалася з паловы сюжэтнай пласціны і ўвагнутай нішы ў чвэрць круга. У ёй была скульптурная барэльефная выява сталага мужчыны ў рэнесансных строях. Мастак дасканальна папрацаваў. Высокія боты, кароткія штаны – марыналы і кароткая куртка з арнаментаванай тканіны, вялікія круглыя гузікі і ляжачы каўнер

сведчылі аб тым, што яго ўладальнік – вельмі заможны чалавек. Гэты касцюм цалкам адпавядаў заходнееўрапейскай модзе XVI–XVII стст. ад якой імкнуліся не адставаць і беларускія магнаты і шляхта. Да нас ён прыйшоў праз Галандыю і Нідэрланды, якія ў той час, натхнёныя ідэямі Рэфармацыі, перажывалі росквіт [7, с. 49]. Таксама вельмі падрабязна паказаны рысы твару. Невялікія вусы і барада, прычоска і карона. Дзіўна, але рук скульптура не мае, хаця месца для іх ў нішы было шмат. За плячыма мужчыны рыскамі пазначаны плашч.

Застаецца невядомым, як выглядалі запаўненні верхняй і ніжняй вуглавой кафлі, якія завяршалі вугал сценак печы.

Калі гаварыць пра кафлю, то адтуліны, зробленыя пальцамі, знаходзяцца ў бакавых сценках, а зверху і знізу яны былі праколаты трэскай. Вышыня румпы (каля 10 см) дазваляла выкарыстоўваць кафлю як самастойны будаўнічы матэрыял для надстаўкі печы. Таксама з супрацьлеглых бакоў ёсць адтуліны, праколатыя трэскай, але прызначэнне іх невядома. Верагодна, ў іх сапраўды ўстаўляліся трэскі пры ўмуроўванні кафлі, каб пры высыханні печы яна не зварухнулася з месца.

Назіранні і параўнанні выяў знойдзенай кафлі паказалі, што найбольш старэйшай з'яўляецца выява «Пакланенне вяшчуноў». Яна спалучае рысы готыкі і рэнесансу. Гатычныя элементы яскрава бачныя ў дэталях касцюма вяшчуноў – доўгім плашчы і панчохах – кальцэсах з прышыўнымі падэшвамі. Рэнесансныя – ў рэалістычнасці выяў, дынаміцы руху. Вядома, што нават ў першай палове XVII ст. працягваліся рэнесансныя традыцыі, нягледзячы на тое, што набірала моц контррэфармацыя, ударнай сілай якой былі езуіты. Такім чынам, верагодная дата вырабу гэтай кафлі – канец XVI – XVII ст.

Кафля з выявай «Маленне аб Чашы» больш позняя. На ёй цалкам адсутнічаюць гатычныя элементы, але вельмі яскрава выступаюць элементы эпохі Рэнесансу і Барока (маньерыстычныя). Першыя выражаны як у пабудове выявы, так і ў дынаміцы руху, напружанасці фігур, рэалістычнасці іх выканання. Другімі (рысамі ранняга Барока) з'яўляецца прамавугольная форма пласціны, наяўнасць дадатковай дэкаратыўнай рамкі з вельмі вытанчаным геаметрычным арнаментам і двухуступная рамка па краі пласціны. Гэтым самым яна нагадвае кафлю з выявай пешага воіна з Магілёва, датаваную сярэдзінай XVII ст. [7, с. 50], але прамавугольная дадатковая рамка полацкай знаходкі даволі выразная. Дзякуючы невысокаму рэльефу геаметрычнага арнаменту рамкі ў параўнанні з вонкавай двухуступнай рамкай і сюжэтнай цэнтральнай часткай, менавіта на апошняй канцэнтруецца ўвага. Звяртае таксама на сябе ўвагу і шыкоўны рэнесансны строй скульптурнай барэльефнай выявы мужчыны з кутняга вырабу. Характар касцюма нагадвае вопратку мушкецёра з кафлі, якая была знойдена на Верхнім замку. Але на кафлі з калегіума прыклад рэнесанснага строю, вельмі распаўсюджанага ў другой палове XVI – пачатку XVII ст. Такім чынам, гэтую кафлю можна датаваць першай паловай XVII ст.

Змест сюжэтаў гэтых кафляў дазваляе меркаваць, што першапачаткова з іх маглі быць збудаваны надстаўкі печаў езуіцкіх драўляных касцёлаў. Першая згадка пра будаўніцтва касцёла паміж замкам і горадам адносіцца да 1582 г. [8, с. 209], але магчыма, што ў хуткім часе ён быў перабудаваны альбо разбураны, бо зноў згаданы ўжо ў 1636 г. [9, с. 4]. У той час Будакам быў збудаваны касцёл на каменных крыптах. Гэты касцёл загінуў у пажары 1643 г. [4, с. 203], потым ён быў зноў адбудаваны і разбураны падчас руска-польскай вайны 1654–1667 гг. Па апошніх назіраннях за стратыграфіяй памяшканняў корпуса «З», верагодна, рэшткі гэтага касцёла могуць быць «пахаваны» пад яго паўднёвай часткай. Гэта найбольш раннія згадванні драўлянага касцёла езуітаў. Такім чынам, верагодна, да прыведзеных дат (паміж 1582 и 1643 г.) можна паспрабаваць прывязаць выраб гэтых кафляў. Для кафлі з выявай «Пакланенне вяшчуноў» верагодныя ніжняя і верхняя мяжа іх вырабу 1582 і 1636 г., а для кафлі з выявай «Маленне аб Чашы» – 1636 і 1643 г. апаведна, бо пасля пажару печы касцёла, магчыма, упершыню былі пакрыты кафляй з «дывановым арнаментам». Менавіта яна разам пласцінамі з езуіцкай сімволікай знойдзена ў пластах, якія непасрэдна перакрылі рэшткі каменных падмуркаў касцёла.

Назіранні паказалі, што ўся дадзеная кафля сустракалася толькі на тэрыторыі калегіума альбо ў непасрэднай блізкасці да яе. Так, падобныя фрагменты кафлі з сюжэтам «Маленне аб Чашы» былі сустрэты ў засыпцы скляпення над першым паверхам корпуса «В». Знойдзеныя кавалкі былі пакрыты белым ангобам. Таксама кавалкі падобнай кафлі знойдзены на вул. Стралецкай, 7 (на паўднёвы захад ад корпуса «Е»).

Незвычайна дакладная прапрацоўка скульптурнай выявы мужчыны на кутняй кафлі дазваляе меркаваць, што гэта выява можа быць партрэтнай. Вялікасвецкі дваранскі рэнесансны касцюм і наяўнасць кароны дазваляюць меркаваць, што гэта можа быць выява караля, верагодна, Стэфана Баторыя – дабратворцы, абаронцы і патрона полацкіх езуітаў. Аднак гэта версія патрабуе дадатковай праверкі.

**Высновы.** У выніку даследаванняў корпуса «В» былі сустрэты унікальныя сюжэтныя кафлі, дагэтуль у Полацку невядомыя. З'яўленне падобных кафляў з евангельскімі сюжэтамі, выявы якіх вельмі падобны на царкоўныя абразы, можа быць вынікам імкненняў езуітаў прыстасавацца да варожага для іх праваслаўнага гарадскога асяроддзя. Гэта таксама

можа сведчыць і пра адваротны ўплыў рэфармацыі на контррэфармацыю. Знаёмыя сюжэты павінны былі прыцягваць ўвагу палачан, перш за ўсё вучняў калегіума. На падставе вышэйпрыведзеных назіранняў можна меркаваць, гэтыя кафлі былі зроблены па спецыяльнай замове для касцёла альбо вучэбнага памяшкання. Найстарэйшай з'яўляецца кафля з сюжэтам «Пакланенне вяшчуноў». Выява носіць рысы позняй готыкі і рэнесансу. Яна магла быць выраблена паміж 1582 і 1636 г. На кафлі паказаны тагачасны інтэр'ер грамадзянскай пабудовы, што робіць яе вельмі каштоўнай крыніцай па вывучэнні матэрыяльнай культуры Полацка канца XVI – XVII ст. Другі від сюжэтнай кафлі крыху больш пазнейшы – носіць рысы рэнесансу і маньерызму (нават барока). Час яе стварэння – прыкладна перыяд паміж 1636–1643 гг., бо пазней ў моду пачаў уваходзіць «дывановы арнамент». «Дывановай» кафляй разам са старой адбудоўваліся печы калегіума пасля пажару 1643 г. Цалкам дапушчальна, што скульптурная барэльефная выява мужчыны на яе кутнім экзэмпляры з'яўляецца партрэтнай і належыць аднаму з патронаў езуітаў ў Полацку, напрыклад Стэфану Баторыю. Гэтае меркаванне патрабуе далейшай праверкі.

### Літаратура

1. Салаўёў, А. А. Каменныя будынкі Полацкага езуіцкага калегіума падчас яго мадэрнізацыі / А. А. Салаўёў // Беларускае Падзвінне, методыка вопыт і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у Полацку): зб. навук. прац рэсп. практ. семінара, Полацк, 20–21 лістап. 2008 г. / пад агульн. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача. – Наваполацк: ПДУ, 2009. – С. 70–79.

2. Дук, Д. У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.: іл.

3. Трусов, О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв.: архитект.-археолог. анализ / О. А. Трусов. – Минск: Наука и техника, 1988. – 160 с.: ил.

4. Гравюры Ф. Скорины. На белорусском и русском языках / рэд. І. Крымава; мастакі У. і Н. Басалыгі; маст. рэд. В. Курусь; карэктары А. Жукаў, В. Харэўскі. – Мінск: Беларусь, 1972.

5. Барвенава, Ганна. Гатычны касцюм. ВКЛ / Ганна Барвенава // CASTRUM, URBIS ET BELLUM: зб. навук. прац. – Баранавічы: Баранав. узбуйн. друк., 2002.– 422 с.

6. Новый завет. (Евангелие от Марка).

7. Дук, Д. У. Аб адным «паралельным» сюжэце полацкай і магілёўскай кафлі з выявамі рыцараў / Д. У. Дук // Мінулая і сучасная гісторыя Магілёва: зб. навук. прац / уклад. І. А. Пушкін. – Магілёў: Магілёўская абл. узбуйн. друк., 2001. – С. 47.

8. Памяць: гіст.-дакум. хроніка Полацка / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мінск: БелЭн, 2002. – 912 с.: іл.

9. Глинник, В. В. Благоустройство территории комплекса иезуитского коллегиума в г. Полоцке. Комплексные научные изыскания / В. В. Глинник. – Лицензия № П-920/1. – Минск, 2004.

### Резюме

*А. А. Соловьёв*

**Новые находки сюжетных изразцов в Полоцке**

В статье приводится описание сюжетных изразцов, выявленных при исследовании одного из корпусов бывшего иезуитского коллегиума в г. Полоцке. Изображения на изразцах носят евангельский характер. Они отражают сюжеты: «Поклонение вещунов» и «Моление о чаше» и датируются концом XVI – серединой XVII в. Один угловой изразец отображает, предположительно, покровителя иезуитов – короля Стефана Батория.

### Summary

*A. Soloviov*

**New Finds of plot tiles in Polotsk**

Plot stove tiles from the excavations of a building of jesuits' collegium are deseribed. The images on the tiles are of religions character. They represent a number of plots from New Testament. The tiles date from the end of the 16th – mid 17th c.

*Пастуліў 10.03.2011*

***В. У. Мядзведзева,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, навуковы супрацоўнік аддзела захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Культура сярэдневяковага насельніцтва Полацка (на аснове касцярэзнай вытворчасці)

Культура насельніцтва Полацка сярэдневяковага перыяду вельмі багатая і разнастайная. Розныя яе аспекты можна прасачыць на матэрыялах касцярэзнай вытворчасці, якая была дастаткова развіта ў XI–XVII стст. Прадметы, што характарызуюць культуру, адносяцца да катэгорый інтэлектуальных лагічных гульняў і забаў, музычных інструментаў, вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Да інтэлектуальных лагічных гульняў належаць шахматы, шашкі і кубік-фішка. У Полацку пры археалагічных даследаваннях выяўлена 12 абстрактных умоўных шахмат у выглядзе геаметрычных фігур. У калекцыі маюцца ўсе фігуры, акрамя каня: 2 каралі, 3 ферзі, 1 фрагмент ферзя (?), 1 ладдзя, 2 сланы, 3 пешкі, якія ўяўляюць фігуры новага ўзору XIII–XVII стст. Новы тып шахмат атрымаў асаблівае распаўсюджванне ў XIII–XIV стст., калі шахматы ў асноўным выраблялі на такарным станку, што дало магчымасць паскорыць працу рамеснікаў-касцярэзаў.

Два каралі знойдзены пры археалагічных даследаваннях С. В. Тарасава. Адзін кароль выяўлены на Вялікім пасадзе ў 1987 г. (мал. 1: *1*). Вышыня фігуры 7,2 см, аснова дыяметрам 2,6 см. Шахмата цэлая, добрай захаванасці, вытачана з рогу на такарным станку і складаецца з круглай асновы, ад якой уздымаецца каркас з размешчанымі на ім трыма вялікімі ярусамі, двума кальцавымі перахватамі. Ніжні ярус зроблены ў выглядзе паўсферы, сярэдні – цыліндрычнай формы, а апошні ярус завяршаецца падабенствам кароны. Уся фігура ўпрыгожана цыркульна-лінейным арнаментам, захаваліся нават сляды інкрустацыі жоўтым металам (золата?). Аўтар раскопак датаваў фігурку канцом XVI – пачаткам XVII ст. і палічыў яе за ферзя. Але ўсебаковы разгляд шахматы дазваляе канстатаваць, што гэта кароль – першая фігура шахматнага набору. На карысць гэтага сведчыць увесь яе выгляд: складаецца з трох вялікіх ярусаў, што характэрна толькі для фігур каралёў, а завяршэнне ў выглядзе кароны здымае ўсялякія сумненні. Вялікія памеры, упрыгажэнне арнаментам і інкрустацыяй толькі пацвярджаюць інтэрпрэтацыю шахматы як фігуры караля. Аддалена падобная фігурка вядома з раскопак Пскова, дзе яна датуецца XVI–XVII стст. [9, с. 46, мал. 11: *1*].

Другі шахматны кароль знойдзены ў 1993 г. на Верхнім замку (мал. 1: *2*). Зроблена фігура з рога на такарным станку, добра захавалася і мае вышыню 6,5 см, дыяметр асновы 2,6 см. На круглай аснове вышынёй 0,8 см размешчаны 2 масіўныя ярусы, якія падзелены 3 паяскамі. Далей узвышаюцца 2 невялікія ярусы з перахватам з 4 паяскоў, а завяршае канфігурацыю сплюшчаны круг з адным поясам. Аўтар раскопак лічыць гэту фігуру «каралевай» (ферзём) і датуе яе XVI–XVII стст. Але, на нашу думку, гэта таксама кароль, толькі іншага шахматнага камплекта. Аб гэтым сведчаць памеры фігуры, колькасць ярусаў і вышыня асновы. Зроблена шахмата ў аналагічным стылі, як і вышэйапісаная фігура караля з Вялікага пасада Полацка, фігура з Пскова, а таксама падобна на шахматы з Вялікага пасада Масквы (XIV–XVI стст.) і Мангазеі (XVII ст.) [9, с. 46–47, мал. 11: *2*].

Падчас археалагічных даследаванняў 2003 г. на Вялікім пасадзе Д. У. Дук[1] знайшоў шахматную фігурку ферзя XV–XVI стст. (мал. 1: *3*) [1, с. 48, 54; 2, с. 89, мал. 7: *9*; 4, с. 196, мал. 81: *4*; 7, с. 124, мал. 66; 9, с. 48, мал. 11: *3*]. Шахматная фігура добрай захаванасці, выраблена з рога аленя на такарным станку і адносіцца да шахмат новай абстракцыі, мае вышыню 4,3 см, дыяметр круглай асновы – 2,4 см. Шахмата цыліндрычнай формы складаецца з высокай асновы (2,3 см), перахопленай пасярэдзіне паяском, 2 чашападобных ярусаў і конусападобнай верхавіны. Манера выканання гэтай фігуры зусім іншая, чым папярэдніх: яна масіўная, шырокія чашы маюць зверху прарэхі (па 4 на кожным ярусе). Аснова і ярусы ўпрыгожаны лінейным арнаментам.

Дзве фігуры ферзяў знойдзены на Верхнім замку пры раскопках В. Р. Тарасенкі і Г. В. Штыхава ў 1961 г. Адна з фігурак вышынёй 3,2 см, дыяметрам асновы 2 см (мал. 1: *4*) складаецца з асновы і 2 ярусаў чашападобнай формы, размешчаных адзін над адным на конусападобным каркасе. Завяршае кампазіцыю невялікі «ярус» з канічным паглыбленнем у цэнтры. Аснова і ярусы пакрыты лінейным арнаментам. Аўтарамі раскопак знаходка датуецца канцом XIII – пачаткам XIV ст. і інтэрпрэтуецца як кароль [14, с. 94, рыс. 48: *25*]. На нашу ж думку, гэта фігура ўяўляе ферзя, таму што над невысокай асновай ўзвышаюцца толькі два выступы. Невялікія памеры таксама сведчаць на карысць гэтай думкі [9, с. 32–33, мал. 7: *2*; 14, с. 94, рыс. 48: *25*].

Ад другога ферзя захавалася аснова і больш-менш ніжні ярус, другі ярус і верх адламаны (мал. 1: *5*). Вы-

[1] Большасць касцяных артэфактаў, прыведзеных у артыкуле, знойдзена ў час археалагічных даследаванняў, праведзеных Д. У. Дукам, якому выказваю шчырую падзяку за магчымасць іх выкарыстання, а таксама апублікавання новых матэрыялаў.




Мал. 1. Прадметы інтэлектуальна-лагічных гульняў – шахматныя фігуры: *1* – кароль (канец XVI – пачатак XVII стст.); *2* – кароль (XVI–XVII стст.); *3* – ферзь (XV –XVI стст.); *4, 5* – ферзі (канец XIII – пачатак XIV стст.); *6* – слон (XIII–XIV стст.); *7* – слон (XIII ст.); *8* – ладдзя (XVI ст.); *9, 10* – пешкі (XIII–XIV стст.); *11* – пешка (XII–XIII стст.); *12* – фрагмент ферзя (?) (XII–XIII стст.)

шыня часткі, што засталася, складае 3,3 см, дыяметр асновы – 2,2 см. Гэта фігура па ўсяму выгляду больш магутная, шырэйшая, чым першая: дыяметр і вышыня асновы большыя, тулава і ярусы таўсцейшыя. Калі б абедзве фігуркі адносіліся да аднаго шахматнага набору, то, напэўна, гэта шахмата магла быць каралём. Па аналогіях датуецца канцом XIII – пачаткам XIV ст. [9, с. 33, мал. 7: *3*].

Новы абстрактны тып слана, вытачаны на такарным станку ў выглядзе конусаў без верхніх выступаў, выяўлены пры раскопках Г. В. Штыхава ў 1963 г. на Верхнім замку і датуецца аўтарам XIII–XIV стст. (мал. 1: *6*) [9, с. 36–37, мал. 8: *3*; 14, с. 94–95, рис. 18: *7*]. Захаванасць шахматы не вельмі добрая, бо адламана адна з верхніх частак. Слон уяўляе фігуру агульнай вышынёй 3 см. На круглай аснове вышынёй

0,6 см, дыяметрам 2 см размешчана тулава з двума высокімі разрэзанымі часткамі-біўнямі. Аналогіі гэтай шахматнай фігуры маюцца ў г. Тракаі (Літва), якія датуюцца XIV–XV стст. [8, с. 87, рис. 2б; с. 123–125, рис. 6].

Другі слон знойдзены пры даследаваннях Д. У. Дука ў 2007 г. на гарадзішчы (мал. 1: *7*). Параметры шахматы наступныя: вышыня 2,2 см, дыяметр авальнай асновы 1,5 × 2 см. Датуецца аўтарам раскопак XIII ст., і аналогіі ёй вядомы ў Мінску [5, с. 23–24, мал. 49: *4*, фота 30: *1*; 9, с. 38, мал. 8: *6, 7*].

Ладдзя XV–XVII стст. таксама выяўлена Д. У. Дукам пры раскопках 2010 г. на тэрыторыі Запалоцкага пасада (мал. 1: *8*). Гэта вельмі мініяцюрная фігурка вышынёй 1,3 см, дыяметрам круглай асновы 1,8 см і выраблена з рога лася або высакароднага аленя. Падобныя шахматы маюцца ў матэрыялах Ліды, Віцебска і Мсціслаўля [6, с. 12, мал. 37: *6*; 9, с. 34–36, мал. 7: *5–8*].

Пешка знойдзена А. Г. Мітрафанавым пры раскопках 1959 г. (мал. 1: *10*) [9, с. 40–41, мал. 9: *8*]. На жаль, у шахматы абламаны верх, але, мяркуючы па форме і памерах часткі, што захавалася, – гэта пешка. На аснове, якая складаецца з 3 валікаў дыяметрам 1,5 см і вышынёй 0,5 см, узвышаецца тулава, на якім бачны сляды аднаго або двух невялікіх чашападобных ярусаў. Агульная вышыня часткі фігуры, што засталася, складае 2 см, напэўна, цэлая шахмата была не больш 2,5 см.

Падчас археалагічных даследаванняў А. Г. Мітрафанава, В. Р. Тарасенкі, Г. В. Штыхава ў пачатку 1960-х гадоў выяўлена яшчэ адна шахматная фігурка, вельмі падобная на папярэднюю (мал. 1: *9*) [9, с. 41, мал. 9: *4*]. На круглай аснове вышынёй 0,4 см, дыяметрам 1,7 см, упрыгожанай лінейным арнаментам, размешчана невялікая падстаўка, над якой узвышаецца тулава са слядамі дзвюх чаш. Фігура дрэннай захаванасці: адламаны верх, адсутнічаюць бакавыя ярусы, вышчарблена аснова. Вышыня захаванай часткі шахматы складае 2,4 см.

Абедзве полацкія фігуры датуюцца XIII–XIV стст. і падобны на пешкі з Навагрудка, Тарапца і Тракая [8, с. 121, 125].

Фрагмент ніжняй часткі пешкі знойдзены Д. У. Дукам у 2005 г. на тэрыторыі Вялікага пасада (мал. 1: *11*) [3, с. 14, мал. 14: *1*, 20: *1*]. Шахмата мае невялікія памеры: вышыня фрагмента 0,9 см, дыяметр асновы 1,1 см. Па стратыграфіі датуецца XII–XIII стст.

Фрагмент шахматы, круглай у аснове і з паясным арнаментам, выяўлены на тэрыторыі Вялікага пасада пры археалагічных даследаваннях 1988 г. С. В. Тарасавым (мал. 1: *12*) [9, с. 44, мал. 10: *5*]. Вышыня фрагмента і дыяметр па 1,2 см, па перыметры прасочваецца арнамент у выглядзе прамых ліній. Фрагмент ад верхняй часткі, магчыма, ферзя, аб чым сведчаць дастаткова вялікія памеры. Захаваная частка ўяўляе сабой прамавугольны цыліндр, на самым версе якога ўзвышэнне таксама прамавугольнай формы. Датуецца па аналогіях XII–XIII стст.

Шашак знойдзена 5 экз., выраблены яны з рагоў лася і высакароднага аленя. Класіфікацыйна належаць да тыпу круглыя пляскатыя, падтыпаў: шашкі з канцэнтрычнымі кругамі (3), шашка камбінаваная, шашка з выявай. Дыяметрам 3,4–5,0 см, вышыня 0,4–1,0 см, бытавалі ў XII–XVI стст.

Дзве шашачныя фігуркі выяўлены на Верхнім замку пры археалагічных даследаваннях А. Г. Мітрафанава ў 1959 г. [10, с. 190, мал. 2: *4,5*]. Адна з шашак добрай захаванасці, цэлая, запаліраваны абедзве паверхні, мае дыяметр 3,6 см пры вышыні 0,6 см (мал. 2: *1*). З абодвух бакоў з краю глыбокая двайная канцэнтрычная лінія, у цэнтры – тры невялікія канцэнтрычныя кругі. Другая фігура дыяметрам 3,4 см, вышынёй 0,4 см з аднаго боку мае невялікі скол, а з краю і пасярэдзіне – неглыбокія канцэнтрычныя кругі (мал. 2: *2*). Датуюцца вырабы XII–XIII стст.

Пры даследаваннях Г. В. Штыхава знойдзена шашка камбінаваная (з канцэнтрычнымі кругамі і цыркульным арнаментам), якая датуецца пачаткам XIII ст. (мал. 2: *3*) [10, с. 192, мал. 3: *5*; 14, с. 94, рис. 48: *20*]. Дыяметрам яна 4,8 см, вышынёй 0,7 см. Знешняя паверхня ўпрыгожана 6 двайнымі глыбокімі канцэнтрычнымі лініямі, паміж чацвёртым і пятым кругамі маецца пояс з вочкамі, шчыльна прылягаючымі адно да аднаго. Тыльная паверхня роўная, гладкая, без арнамента, а на бакавой – дзве паралельныя лініі.

У 2011 г. на тэрыторыі Запалоцкага пасада Д. У. Дук выявіў шашку з канцэнтрычнымі кругамі без адтуліны (мал. 2: *4*)[1]. Дыяметр шашкі 5 см, таўшчыня 1 см. Зроблена яна з рога высакароднага аленя. Па знешнім выглядзе і параметрах падобна да вышэй апісанай шашкі, па стратыграфіі датуецца канцом XV – першай паловай XVI ст. Гэта самая вялікая па памерах шашачная фігура з усіх, выяўленых на тэрыторыі Беларусі.

Пры археалагічных даследаваннях Н. І. Здановіч на вул. Леніна, 35 у 1992 г. знойдзены фрагмент выяўленчай шашкі XVI ст. (мал. 2: *5*) [10, с. 194, мал. 4: *5*]. Выраб абламаны з усіх бакоў, дыяметр захаванай часткі складае 2,6 × 1,8 см. На шашцы адлюстравана выява нейкай фантастычнай істоты: твар чалавека з вушамі жывёліны.

Полацкая фішка-кубік выяўлена Д. У. Дукам на тэрыторыі Верхняга Замка пры даследаваннях 2003 г. (мал. 2: *6*). Гэта адна з васьмі падобных рэчаў, знойдзеных на Беларусі. Фішка-кубік выкарыстоў-

[1] Шашка знойдзена пры археалагічных раскопках летам 2011 г. і яшчэ не апублікавана аўтарам даследавання, таму выказваю ўдзячнасць Д. У. Дуку за дазвол выкарыстання гэтага прадмета ў дадзенай публікацыі.




Мал. 2. Прадметы інтэлектуальна-лагічных гульняў і музычныя інструменты: *1, 2* – шашкі з канцэнтрычнымі кругамі (XII–XIII стст.); *3* – шашка камбінаваная (пачатак XIII ст.); *4* – шашка з канцэнтрычнымі кругамі (канец XV – першая палова XVI ст.); *5* – выяўленчая шашка (XVI ст.); *6* – фішка-кубік (XVII ст.); *7–9* – дудкі-жалейкі (XII–XIII стст.)

валася як дапаўняльны прадмет пры першапачатковых гульнях у шашкі і шахматы, ці ў якасці самастойнага прадмета ў азартных гульнях (напрыклад, зернь). Уяўляе сабой кубік з вочкамі правільнай формы, памерамі граняў 1,2 × 1,2 см, з аднаго боку фішка крыху абламана. На кожным з шасці бакоў размешчаны кружкі-вочкі, якія складаюцца з двух канцэнтрычных кругоў (адзін у адным), а ўнутры знаходзіцца кропка. Па часе бытавання – гэта самы позні кубік на тэрыторыі Беларусі (XVII ст.) [1, с. 48, мал. 2; с. 89, мал. 7: *8*; 4, с. 195, мал. 81: *1*; 7, с. 124, мал. 66; 11, с. 137, мал. 1: *4*].

Да катэгорыі музычных інструментаў адносяцца дудкі-жалейкі ці свісцёлкі (3 экз.) (мал. 2: *7–9*). Музычныя прадметы ў выглядзе свісцёлак часцей вырабляліся з трубчастых костак птушак. Дзве дуд-

кі знойдзены на тэрыторыі Верхняга замка і зроблены з тонкіх птушыных костак (даследаванні Д. У. Дука). Адна з іх уяўляе полую трубачку даўжынёй 7,7 см, з аднаго боку пашыраную, дыяметр яе складае 1,0–1,2 см. У верхняй частцы – маленькая скразная адтуліна памерам 0,2 × 0,4 мм. Другая трубачка вельмі тонкая, дыяметрам 0,6 см, даўжынёй 8,2 см, у верхняй частцы – невялікая адтуліна дыяметрам 0,3 мм. З абодвух краёў упрыгожана геаметрычна-лінейным арнаментам, сярэдзіна не арнаментаваная. Падобная на свістульку рэч знойдзена на Вялікім пасадзе і выраблена таксама з птушынай косткі (дыяфіз плечавой косці) і з аднаго боку зламана (даследчык С. В. Тарасаў). Мае невялікія памеры, адна частка крыху пашырана, другая – зроблена ў выглядзе роўнага шасцівугольніка. Даўжыня захаванай часткі прадмета 6,5 см, дыяметр 1,7–1,8 см. Усе тры вырабы па слоі і аналогіях датуюцца XII–XIII стст. Падобныя музычныя інструменты знойдзены на тэрыторыі Беларусі ў Слуцку і Пінску, таксама вядомы ў археалагічных матэрыялах Расіі і Германіі.

З XII–XIII стст. рамеснікі-касцярэзы пачалі надаваць асаблівую ўвагу вырабу высокамастацкіх твораў, каштоўных у эстэтычных адносінах, якія з'яўляюцца ўзорамі сярэдневяковага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. За гады археалагічнага даследавання ў Полацку сярод шматлікіх касцяных вырабаў сабрана дастаткова выразная калекцыя твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва свецкага і культавага характару. Дадзеныя вырабы характарызуюць высокі ўзровень вытворчасці і культуры тагачаснага насельніцтва горада, з'яўляюцца крыніцай па вывучэнні яго культурных, гандлёвых, эканамічных сувязяў, даюць падставы для параўнання з агульнаеўрапейскім матэрыялам.

З гэтай групы вырабаў у Полацку знойдзены разнастайныя пласціны, ігольнік, капавушкі, паясныя накладкі, рытуальная лыжка, наверша і некаторыя іншыя рэчы.

У XIII–XIV стст. шырока выкарыстоўваліся пласціны-накладкі для ўмацавання і аздаблення куфэркаў, шкатулак, а таксама калчанаў і іншых прадметаў. Многія з іх упрыгожаны складанымі ўзорамі: раслінным, геаметрычным ці камбінаваным арнаментам, або выкананы ў тэраталагічным стылі, як накладка з галавой дракона (сабакі?) памерам 2,0 × 5,5 см (мал. 3: *6*) (даследчык Г. В. Штыхаў) [14, с. 114, рис. 59]. Адна з такіх пласцін-накладак для калчана даўжынёй 10 см выраблена паўкруглай формы і ўпрыгожана складанымі геаметрычнымі ўзорамі (мал. 3: *1*) (даследчык Д. У. Дук).

Асабліва вылучаецца сярод прадметаў гэтай групы разны́ аб'ёмны ігольнік XII–XIII стст., аздоблены камбінаваным геаметрычна-цыркульным арнаментам (мал. 3: *3*) (даследаванні Д. У. Дука). Яго даўжыня складае 7,5 см, дыяметр – 2 см. Гэта прадмет бытавога ўжытку, аднак выраблены з высокім майстэрствам і ў асобай манеры выканання.

Капавушкі служылі прадметамі гігіенічнага выкарыстання, а таксама дапаўнялі набор упрыгажэнняў, які насілі жанчыны на грудзях альбо каля пояса. Дзве капавушкі знойдзены на тэрыторыі Вялікага пасада, яны фрагментаваныя (адсутнічаюць ніжнія часткі з лапатачкай) (мал. 3: *2, 4*) (даследаванні Д. У. Дука і С. В. Тарасава). Адна з іх выканана ў выглядзе аб'ёмнай выявы галавы птушкі з разяўленай дзюбай, вялікімі вачыма. Сярэдняя частка аздоблена разны́м плеценым арнаментам, які нагадвае жаночую касу. Вышыня фрагменту 7 см, дыяметр 1 см. Датаваны ён па аналогіях XII ст. Верхняя частка другой капавушкі мае памер 5,2 см, дыяметр 0,9 см. Верх уяўляе амаль прамакутнік з вушкам і падоўжанай скразной адтулінай памерам 0,2 × 0,7 см. Далей ідуць тры валікі, сярэдзіна аздоблена лентачным кручаным арнаментам, а ніжняя частка з лапатачкай абламана. Выраблена з метаподыя буйной рагатай жывёлы і датавана XII–XIII стст. [12, с. 145, мал. 2: *1, 5*].

Паясныя накладкі з'яўляліся неабходнымі элементамі вопраткі, служылі для замацавання адзення, у той жа час выконвалі і ролю ўпрыгажэння. Паясная накладка (мал. 3: *5*) – гэта пласцінка, аздобленая па баках геаметрычным арнаментам (трохкутнікі з маленькіх ромбаў, падзеленыя трыма прамымі лініямі) (даследчык Г. В. Штыхаў). Даўжыня яе складае 9 см, шырыня – 3,3 см, таўшчыня – 0,2 см. Датавана яна XII–XIII стст.

Пры правядзенні рэлігійнага абраду – прыняцця прычасця – прымяняліся касцяныя лыжачкі. Такая лыжачка знойдзена з адламанай ніжняй часткай – адсутнічае лапатачка (мал. 3: *7*) (раскопкі Г. В. Штыхава). Уяўляе доўгі гладкі стрыжань даўжынёй 12 см і дыяметрам 0,7–1,0 см. Зверху і знізу ручка ўпрыгожана плеценым арнаментам у выглядзе касы, а сярэдзіна добра адпаліраваная. Костка, з якой выраблена рэч, мае цёмны ненатуральны колер, напэўна, была апрацавана растворам ці фарбай. Па вызначэнні аўтара раскопак Г. В. Штыхава лыжачка датавана XIII ст. [13, с. 135–136, мал. 2: *4*; 14, рис. 48: *24*]. Аб тым, што гэта рэч адносіцца да царкоўнага начыння, сведчаць маленькая, неглыбокая лапатачка, доўгая ручка і дасканалая арнаментацыя.

Наверша на посах, жэзл, ці іншы прадмет выканана ў выглядзе аб'ёмнай скульптурнай выявы – галавы жывёліны (мал. 3: *8*) (раскопкі С. В. Тарасава). Вышыня рэчы 4 см, дыяметр 2 × 3 см. Ніжняя частка аздоблена геаметрычным арнаментам, верхняя – вочкава-цыркульным, што нагадвае вока. Адносіцца да перыяду XII–XIII стст.

Падводзячы вынік, можна канстатаваць, што вышэйпрыведзеныя мініяцюрныя скульптуркі, аб'ёмныя




Мал. 3. Прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: *1* – накладка калчана (XIII–XIV стст.); *2, 4* – капавушкі (XII ст.); *3* – ігольнік (XII–XIII стст.); *5* – накладка паясная (XII–XIII стст.); *6* – пласціна-накладка з выявай дракона (сабакі?) (XIII ст.); *7* – рытуальная лыжка (XIII ст.); *8* – наверша (XII–XIII стст.)

прадметы, а таксама дэкарыраваныя плоскарэльефныя і разны́я рэчы з'яўляюцца сапраўднымі творамі прыкладнога мастацтва. Прадметы інтэлектуальна-лагічных гульняў і музычныя інструменты адлюстроўваюць высокі інтэлектуальны ўзровень, традыцыі жыхароў горада. Сярод іншых вырабаў з косці дадзеныя рэчы вылучаюцца мастацкім густам майстра і дасканаласцю прапрацоўкі нават у дэталях. Такія вырабы – гэта каштоўны матэрыял па гісторыі старажытнай мастацкай вытворчасці, матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва Полацка сярэдневяковага перыяду.

## Літаратура

1. Дук, Д. У. Побыт і матэрыяльная культура палачан XVI–XVII стст. / Д. У. Дук // Беларус. гіст. часоп. – Мінск, 2004. – № 5. – С. 48–55.

2. Дук, Д. У. Полацкая касцярэзная майстэрня XV – першай паловы XVI ст. / Д. У. Дук // Acta archaeologica Albaruthenica / уклад. М. А. Плавінскі, В. М. Сідаровіч. – Мінск: ІП Логвінаў І. П. – 2007. – Vol. II (вып. 2) – С. 86–101.

3. Дук, Д. У. Выратавальныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка ў 2005 годзе / Д. У. Дук // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. – Сер. А, Гуманитарные науки. – 2007. – № 1. – С. 2–15.

4. Дук, Д. У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.: іл.

5. Дук, Д. У. Справаздача аб археалагічных раскопках на Полацкім гарадзішчы ў 2007 г. / Д. У. Дук // ААНД Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Спр. 2537, 2537а.

6. Дук, Д. У. Справаздача аб археалагічных раскопках на тэрыторыі Запалоцкага пасада г. Полацка ў 2010 г. / Д. У. Дук // ААНД Ін-та гісторыі Нац. акад. навук Беларусі. – Спр. 2736.

7. Дук, Д. У. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.) / Д. У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2010. – 180 с.: [22] арк. іл.

8. Линдер, И. М. Шахматы на Руси / И. М. Линдер. – 2-е изд. – М.: Наука, 1975. – 207 с.

9. Мядзведзева, В. У. Сярэдневяковыя шахматы Беларусі (гіст.-археалаг. даследаванне) / В. У. Мядзведзева. – Мінск: Ін-т гісторыі НАН Беларусі, 2005. – 82 с.

10. Мядзведзева, В. У. Сярэдневяковыя шашкі Беларусі (па матэрыялах археалаг. даследаванняў) / В. У. Мядзведзева // ГАЗ / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2006. – № 22. – С. 187–200.

11. Мядзведзева, В. У. Да пытання аб адной групе рогавых вырабаў / В. У. Мядзведзева // Материалы по археологии Беларуси: науч. сб. / Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. – Минск, 2006. – Вып. 11: Древности Беларуси в системе межкультурных связей. – С. 136–139.

12. Мядзведзева, В. У. Капавушкі X–XV стст. з тэрыторыі Беларусі / В. У. Мядзведзева // ГАЗ / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2007. – Вып. 23. – С. 144–151.

13. Мядзведзева, В. У. Хрысціянскія рэліквіі сярэдневякоўя (па матэрыялах касцярэзнай вытворчасці) // Беларусь: государство, религия, общество: материалы Междунар. науч.-практ. конф. (Минск–Жировичи). – Минск, 2008. – С. 131–137.

14. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – 136 с.: ил.

## Резюме

*О. В. Медведева*

### Культура средневекового населения Полоцка (на основе косторезного производства)

В статье на основе материалов косторезного производства характеризуется аспект материальной и духовной культуры населения Полоцка средневекового периода. Представленные артефакты находили широкое применение в декоративно-прикладном искусстве (высокохудожественно орнаментированных накладках, навершии, ритуальной ложечке, резных копоушках, игольнике), интеллектуально-логических занятиях горожан (шахматах, шашках, фишке-кубике) и музыкальной культуре (дудочках).

## Summary

*O. Medvedeva*

### Culture of the medieval population of Polotsk (on a basis bone carving manufactures)

In the article on the basis of materials bone carving manufactures the aspect of material and spiritual culture of the population of Polotsk of the medieval period is characterized. The presented artifacts found wide application in arts and crafts (highly artistically ornamented overlays, a ritual spoon, carved earcleaners, a needle case), is intellectual-logic employment of townspeople (chess, drafts, a counter-cube) and musical culture (pipe).

*Паступіў 29.04.2011*

***Н. Ю. Шарковская,** УК «Витебский областной краеведческий музей», ведущий научный сотрудник, хранитель археологической коллекции (г. Витебск)*

# Находки с Замковой горы в собраниях витебских музеев

История Витебска тесно связана с Замковой горой (Ломихой)[1], которая долгое время хранила память и ценные свидетельства о древнейшей истории города. Она могла еще многое рассказать, если бы не была срыта в конце 1890-х годов[2], похоронив нераскрытые тайны.

Сегодня каждый исследователь, обращаясь к древней истории Витебска, по крупицам собирает информацию о Замковой горе и найденных на ней предметах.

Цель работы – собрать все сведения, имеющиеся в научном архиве и фондах Витебского областного краеведческого музея (далее – ВОКМ) о находках с Замковой горы, выявить сохранившиеся предметы.

**Историография.** Данные о находках с Замковой горы являются краткими и лакунарными.

В 1895 г. в ряде местных губернских российских изданий (Виленский вестник, 1895, № 176 и др.) были опубликованы заметки о срытии Замковой горы в Витебске, перечислялись найденные там предметы. «При раскопках в южной части под слоем чернозема найдено 14 костяков… Из предметов в черноземном слое найдено: глиняные грузила, точильные камни, ручные жернова… Из оружия – несколько ножей позднего времени, часть сабельной рукоятки, круглые свинцовые пули, железные наконечники стрел, чугунные ядра, железные копья, топоры…» [цит. по.: 3, с. 62].

В 1897 г. в нескольких номерах местной газеты было опубликовано вышедшее позже отдельным изданием исследование Н. Я. Никифоровского о витебской керамике, найденной преимущественно при раскопках на Замковой горе. Автор работы [15, № 135–138] отмечал тождество «гончарной посуды Киева (раскопки А. И. Хойновского) и Витебска» с Замковой горы.

В 1912 г. в изданном Каталоге музея Витебской ученой архивной комиссии перечислялось несколько вещей, поступивших из раскопок на Замковой горе: несколько ключей (№ 192, 303); «сулея» (№ 309), медная пряжка (№ 193); изразцы (№ 313–352); осколки глиняной «вазы» (№ 356) [5, № 192, 193, 303, 309, 313–352, 356].

В 1930 г. А. Н. Лявданский опубликовал фрагменты лепной керамики, найденной им в 1928 г. в остатках культурного слоя Замковой горы (Городище), датируя их домонгольским временем [10, с. 93–94, табл. X]. Керамика из фондов Института истории НАН Беларуси (сборы А. Н. Лявданского, 1928 г.) была опубликована О. Н. Левко в 1988 г. [11] (прилож. 1: *3*). Фактически этим исчерпываются опубликованные сведения о находках с Замковой горы.

Анализ материалов научного архива ВОКМ позволяет сделать вывод, что находки с Замковой горы находились в собраниях нескольких витебских дореволюционных музеев: в частном музее В. П. Федоровича и в музее при ВУАК, преобразованном позднее в музей при Витебском Высшем Педагогическом институте.

В довоенном собрании музея хранился «треножник-подставка к солнечным часам». На экспонате сохранилась надпись: «найдена в Замковой горе при постройке гимназии в 1877 г.» [13, л. 289об.–291, № 321] (прилож. 2: *4*)

Самым массовым материалом раскопок является керамика.

Сведения о керамике с Замковой горы – бытовой и архитектурно-декоративной, прослеживаются в описях предметов музея В. П. Федоровича и музея Пединститута. Как отмечалось выше, ее анализу посвящена работа Н. Я. Никифоровского.

В собрании В. П. Федоровича хранится любопытный комплекс, дошедший до наших дней (ВОКМ КП 525/1-16). Это «коллекция из 15 осколков глазурованной посуды с красочным растительным и геометрическим орнаментом». Тут же стереоскопический снимок раскопок на Замковой горе [13, л. 342об.–343, № 525].

Фотография уже довольно известна – экспонировалась на выставках, опубликована в ряде изданий [16, с. 36] (прилож. 1: *2*). Это пока единственный фотодокумент, запечатлевший момент раскопок на Замковой горе. На снимке хорошо просматриваются своды «арки с подвалом», а «15 осколков посуды»[3] – в основном расписные тарелки и майоликовые сосуды – являются типичными для слоев XVII–XVIII вв. Витебска. Подобные находки имеются в комплексах материалов раскопок Г. В. Штыхова, Л. В. Колединского, М. А. Ткачева, Т. С. Бубенько, О. Н. Левко, исследовавших в XX в. город [4; 9, рис. 28].

В коллекции В. П. Федоровича имелось и 4 фрагмента верхних частей сосудов-баклаг разного раз-

---

[1] Расположена на левом берегу р. Витьбы в 120–200 м от впадения в р. Западную Двину. Высота 15 м (к концу XIX в. – 9,0–10,5 м), площадь 0,7 га. Почти полностью срыта в конце XIX в.

[2] Л. В. Алексеев выявил в архивах Археологической комиссии «Дело о срытии Замковой горы в Витебске» и одним из первых собрал и обобщил сведения об ее истории [1, с. 228; 2, с. 102–105; 3, с. 62–63].

[3] На донце одного из фрагментов на обороте сохранились отверстия для крепления этой декоративной расписной тарелки на стене (ВОКМ КП 525/9).

мера с Замковой горы. Целый экземпляр баклаги[1] в его коллекцию поступил из ямы, заложенной под фундамент дома Ниренштейна на ул. Замковой у подножия горы.

Фрагменты и целая баклага запечатлены на сохранившейся фотографии музея В. П. Федоровича (ВОКМ н/в 7271/6).

На Замковой горе был найден еще один вид посуды – шаровидный, на поддоне с узким горлышком, – называемый в описях «сулея». Целый экземпляр высотой 10 см хранился в музее Пединститута [13, л. 2об.–3]. Запечатлен на фотографии (ВОКМ н/в 7271/8: 16) (прилож. 5: *12а*; прилож. 6: *12*).

В том же музее находились две вазы. Первая «разбитая терракотовая из светло-желтой глины, красиво орнаментированная черной краской (из 9 склеенных кусков нижней, 6 крупных и 16 мелких верхней части)» (прилож. 6: *13*). Вторая (из 14 осколков) большая терракотовая ваза «со следами росписи темно-серой краской (5 кусков от верхнего края 8 от средней части и один от основания)» (прилож. 6: *15*) [12, л. 322об.–323].

Еще один комплекс из собрания музея Пединститута долго остававшийся в тени, но постоянно привлекающий внимание, – это «коллекция и 48 осколков изящной глазированной и орнаментированной посуды» [12, л. 13об.–14, № 123; 13, л. 342об.–343, № 522].

Комплекс[2] сохранился до наших дней (ВОКМ КП 523/1–48) и представлен фрагментами полуфаянсовых кашинных золотоордынских и одного иранского сосудов XIII–XIV вв. с подглазурной и люстровой росписями, а также красноглиняных плиток с подглазурной бирюзовой и черной росписью (прилож. 7: *17–17а, 18–18а*). Аналогичная керамика на территории Беларуси была найдена в Новогрудке, Лукомле, Гродно, Слониме [8, фото 53–66]. Особняком в комплексе представлена византийская красноглиняная керамика, орнаментированная «сграффито», датируемая XII в. (по определению К. А. Лавыш). Это фрагменты центральных частей донцев сосудов на высоком кольцевом поддоне с декором на внутренней поверхности (прилож. 7: *19–19а, 20–20а*).

В комплекс также вошли два фрагмента импортных среднеазиатских сосудов [14, с. 264, рис. 12: *4*] из каменной светло-серой массы со штампованным орнаментом снаружи (прилож. 7: *16–16а*), а также два фрагмента местных изделий красноглиняной полихромной расписной тарелки и тигля.

Фрагменты керамики со штампованным орнаментом имеют близкие аналоги в материалах раскопок Нового Сарая [17, рис. 12.4]. По мнению Федорова-Давыдова это «керамика среднеазиатская или золотоордынская, изготовленная под влиянием среднеазиатских образцов» [17, с. 264].

Скорее всего, этот комплекс происходит с Замковой горы, а что из Витебска, бесспорно.

Можно предположить, что эта посуда принадлежала семье витебских князей. Возможно, золотоордынскую керамику привезла в Витебск тверская княжна Ульяния, ставшая второй супругой Ольгерда, а может быть, это подарок Александра Невского родителям жены. Византийские чаши (если они действительно византийские, а не являются золотоордынским подражанием византийским образцам) привезли с собой полоцкие князья, возвратившиеся из изгнания.

Архитектурно-декоративная керамика с Замковой горы имелась в собраниях музеев Пединститута и В. П. Федоровича.

В музее Пединститута была выделена коллекция изразцов, «найденных в Витебске главным образом на Замковой горе» [12, л. 134об.–14]. Среди них целые формы и фрагменты составляют порядка 79 предметов. К сожалению, описаны немногие из них и то схематично (табл.: {*11–90*}).

Несомненно, в богатой коллекции витебских изразцов В. П. Федоровича (а он в первую очередь коллекционировал геральдические) были экземпляры и с Замковой горы, но пока восстановить их не представляется возможным.

В числе «терракот» с Замковой горы в собрании В. П. Федоровича значились «четыре обломка гончарных полуциркульных оконных или дверных сводов из грубой, непромятой глины с большой примесью гальки размерами 7 × 11 × 16; 7 × 11 × 16; 7 × 11 × 26; 7 × 12 × 30 см» [13, л. 404об.–405, № 310–313]. Вероятно, это какие-то архитектурно-строительные элементы постройки (дворца), подвалы которой были обнаружены при раскопках 1895–1896 гг.

Еще один вид находок составил подколлекцию «замковых» предметов, таких, как: ядра разных размеров, картечные пули и так называемые гранаты (целые и осколки), которые в количестве 79 единиц находились в собрании музея Пединститута [12, л. 15об.–16, № 181–269].

В заметках на полях довоенных коллекционных описей В. Г. Краснянский отмечал, что: «как видно, из черновых заметок В. П. Федоровича и известно с его слов, составлена (подколлекция – *Н. Ш.*)

[1] «Целый, глиняный, в виде круглой коробки глазуров. зеленой поливой на 4 ножках с невысоким горлышком и двумя боковыми в верхней части ушками для ношения на шнурке; орнаментир. зубчатыми насечками на краевом ободке и тремя […] ободками на плоской стенке и внутри их волнообразными линиями. Выс. 15½ см; диам. 11½ см; в. горла 3 см; выс. ножек 1 ½ » [13, л. 334об.–335].

[2] Автор выражает глубокую признательность К. А. Лавыш за помощь в первичном определении материалов данного комплекса и в работе с ними.

